**— Мы хутка будзем з Месяцам на ты, — жартуе выканаўца работ па збудаванню коміна Бярозаўскай ДРЭС вышыннік Уладзімір Нікішын.** (Гл. рэпартаж Рыгора Барадуліна «Тут пішуць камсамольцы кнігу зорную», стар. 14).

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР**

**9 (91)**

**Верасень.**

**1960.**

**Год выдання VIII.**

**У НУМАРЫ:**



Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы мал. Г. Скамарохава.


Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.300 экз. Цана 4 руб.

АТ 10899. Здадзена ў набор 1.VIII.60. Падпісана да друку 31.VIII.60. Зак. 590.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.




# БЕЛАРУСКАЯ КАМСАМОЛЬСКАЯ

**Словы Артура ВОЛЬСКАГА** — **Музыка Генрыха ВАГНЕРА**

У тэмпе марша.

Соля *f*

Лю- та нам бі- ла ў твар на-валь-ні-ца Зло-сна вя-тры гу- лі.

А- ле ні зbo- чыць, ні пры-пы-ні-цца Вы- му-сіцьне ма- глі.

Хор *f*

З кам- са-моль-ска-ю

Ф-но

*mf marcato*




Люта нам біла ў твар навальніца,
Злосна вятры гулі.
Але ні збочыць, ні прыпыніцца
Вымусіць не маглі.

Прыпеў:
З камсамольскаю песняю
Нам наперад ісці.
Смелым і дужым,
Стойкім і мужным
Будзь, будзь у жыцці!

Сёння над намі весняе сонца
Ў ясны плыве прасцяг.
Як эстафету, у краснадонцаў
Слаўны ўзялі мы сцяг.

Прыпеў.

Партыя скажа — зроблена будзе.
Рукі складаць не час.
У Салігорску, на Нафтабудзе
Справы чакаюць нас.

Прыпеў.

Толькі наперад крочым няспынна,
Песні звіняць наўкол.
Гэта юнацтва роднай краіны,
Гэта наш камсамол.

Прыпеў.



# КАЛІ ТАБЕ КАМСАМОЛЕЦ ІМЯ...

Камсамолец! З гэтым словам звярнуліся не да каго-небудзь іншага, а да цябе самога. І ты адчуваеш сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Ты — член шматмільённай камсамольскай сям'і, верны памочнік партыі камуністаў у барацьбе за справу народа.

Табе ўручылі камсамольскі білет. Сакратар райкома павіншаваў цябе з уступленнем у рады Ленінскага камсамола, пажадаў поспехаў у працы і вучобе. Табе паціскаюць руку члены бюро, твае таварышы. У адказ на іх цёплыя словы ты збіраўся сказаць нешта важнае, узнёслае, урачыстае. Але, як гэта часцей за ўсё і бывае, ад разгубленасці толькі прамовіў: «Дзякуй, не падвяду»...

А застаўшыся сам-насам, дакараеш сябе, што так збянтэжыўся і не здолеў урачыста запэўніць таварышаў, што будзеш сапраўдным будаўніком камуністычнага грамадства... Але калі табе камсамолец імя — ты працай сваёй гэта дакажаш. Міжволі ў тваёй памяці ўсплываюць словы прысягі дэлегатаў VI з'езда РКСМ: «...якія б перашкоды на нашым шляху ні стаялі, якіх бы ахвяр ад нас ні патрабавалі, — мы выканаем усе гэтыя задачы, мы не выпусцім сцяга Леніна». Гэтыя словы сёння гучаць такім жа заклікам, як і трыццаць шэсць гадоў назад.

Ты разгортваеш камсамольскі білет і бачыш на ім малюнак пяці ордэнаў. Гэта і твае ўзнагароды. І ты можаш ганарыцца імі. Ты хочаш сказаць, што яшчэ нічога асаблівага ў жыцці не зрабіў, каб лічыць іх сваімі. Але тваё жыццё наперадзе, і ты дакажаш вернасць сцягу з пяццю ордэнамі, ты памножыш слаўныя традыцыі камсамола. Ордэны цябе да многага абавязваюць...

Камсамольскі значок... Разгорнуты Чырвоны Сцяг, на якім напісана «ВЛКСМ», а ў цэнтры — барэльеф правадыра і настаўніка нашай партыі і дзяржавы, таго, каму камсамол абавязан сваім нараджэннем, — вялікага Леніна. Ты будзеш насіць значок на грудзях, як сімвал сваёй прыналежнасці да вялікай гвардыі камсамольцаў.

Самае дарагое з усіх імён — імя Леніна прыняў камсамол для таго, каб юнакі і дзяўчаты краіны Саветаў прасякліся адзінай воляй і цвёрдай рашучасцю навучыцца па-ленінску жыць, працаваць і змагацца, ажыццяўляць запаветы, пакінутыя нам Ільічом.

Маладыя людзі з камсамольскімі значкамі працуюць і вучацца ва ўсіх кутках нашай вялікай краіны. На Полацкім нафтабудзе, на шахтах Салігорска, на кожным заводзе ці новабудоўлі рэспублікі, у калгасе ці саўгасе, на цаліне па камсамольскай пуцёўцы — ты практычна вырашаеш тую ці іншую задачу, няхай самую маленькую, няхай самую простую. І калі табе камсамолец імя — ты павінен працаваць па-камуністычнаму, як Эдуард Кулік з Мінскага трактарнага завода. Вячаслаў Карпаў з завода запасных частак, Марыя Дзегцярова з саўгаса «Зарэчча», Ганна Касач з калгаса «17 верасня» і многія іншыя, пра якіх ведаюць далёка за межамі нашай рэспублікі. Ты павінен памятаць заўсёды, што сёння тваё месца на пярэднім краі сямігодкі, там, дзе ідзе барацьба за камунізм.

Партыя і камсамол выхоўваюць у нас любоў і веру ў жыццё. Мы сапраўдныя гаспадары жыцця, якое ствараем. У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу. Ты павінен вучыцца ў паўсядзённых справах бачыць велічнае і гераічнае. Паветра нашай Радзімы насычана гераізмам.

А побач з гераічным не павінна быць месца дробнаму, коснаму, мяшчанскаму. Ты адказваеш не толькі за сябе, але і за свайго таварыша. Калі ты бачыш, што твой таварыш нядобрасумленна адносіцца да працы, няправільна паводзіць сябе ў быту або праходзіць міма парушальнікаў правіл сацыялістычнага агульнажыцця, ты павінен абудзіць у ім імкненне працаваць і жыць па-камуністычнаму. Калі ты ўцягнеш яго ў грамадскае жыццё, яно зробіць маладога чалавека ініцыятыўным, настойлівым і жыццерадасным.

«Камсамол, — гаварыў М. І. Калінін, — як гарніла велізарнай печы, пераплаўляе і фармуе новага, савецкага чалавека. Камсамол з'яўляецца першай ступенню для моладзі, ступенню, якая вядзе да шырокага грамадскага і палітычнага жыцця, вядзе моладзь у партыю». Калі ты камсамолец, дык, акрамя сваёй асноўнай, будзеш набываць і другую, грамадскую прафесію, вельмі важную і патрэбную: лектара, агітатара, прапагандыста, дружынніка, масавіка — арганізатара забаў, піянерважатага, юнкора... Заўсёды і ўсюды быць побач з камуністамі — такі дэвіз камсамольца!

У сваёй практычнай працы ты, камсамолец, сутыкаешся з шэрагам цяжкасцей, а перш за ўсё з недасканаласцю сваіх ведаў. І калі табе камсамолец імя — ты будзеш імкнуцца да авалодання ведамі, якія выпрацавала чалавецтва. У першую чаргу ты звернешся да геніяльных твораў Уладзіміра Ільіча Леніна, дзе кожны раз знойдзеш новыя думкі, якія асвятляюць нам шлях да камунізма. Камсамолец, які не вывучае тэорыю марксізма-ленінізма, не можа быць свядомым будаўніком камуністычнага грамадства.

Вывучэнне твораў класікаў марксізма-ленінізма, партыйных дакументаў дапаможа табе стаць чалавекам цвёрдых перакананняў, вялікай настойлівасці, высокай патрабавальнасці да сябе і іншых. Словы, якія ты чуў раней, пра тое, што толькі ў агульнай працы разам з рабочымі і сялянамі можна стаць сапраўднымі камуністамі, для цябе набудуць тады асаблівы сэнс, стануць прынцыпам твайго жыцця.

М. С. Хрушчоў сказаў: «Буржуазнаму свету няма чым захапіць моладзь, ён змізарнеў духоўна. У нашай моладзі ясная дарога ў будучыню, ясная і высакародная мэта — будаўніцтва камунізма».

У імя гэтай вялікай мэты можна і трэба добра папрацаваць. І ты, што носіш ля сэрца камсамольскі білет, сваімі справамі праславіш светлае і гордае імя — камсамолец!

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# НАША МАЛАДОСЦЬ



Дзяцінства ў цяжкіх
не па росту ботах,
з грыбамі і брусніцамі бары...
На вуліцах раслі мы
ў крыўдных бойках,
яны, як хлеб, патрэбны нам былі.

А пасталеўшы,
з станцый і вакзалаў
пускаліся мы ў жыццёвы шлях.
Любоў к радзіме
ў сэрцы уразалася,
як уразаўся
у ступні нам шлак.

Не клапаціліся
аб пудры і аб локанах,
далей каб быць,
не ехалі цішэй.
І хоць было нам цяжка,
а не лёгка,
хацелі,
каб было яшчэ цяжэй.

Пыл танцамі ўзнімалі
ў стэпе вечарам,
і моклі мы да ніткі на дажджах.
Не промнямі рэнтгена
мы прасвечаны,
прасвечвалася
працаю
душа.

Усё мы робім:
вучымся і косім,
не для таго, каб толькі жыць, жывём.
Сябе саміх такімі вось
і ў космас
на іншыя планеты панясём.

## РАМАНТЫКА БУДУЧЫНІ КЛІЧА!

*Мы будуем камунізм. А дзе вялікая мэта, там заўсёды і магутная, неадольная энергія людзей, якія імкнуцца да гэтай мэты. Кожны дзень нашага творчага жыцця повен вялікіх здзяйсненняў. На палях і ў цэхах, на рыштаваннях будоўляў і ў навуковых лабараторыях — скрозь ёсць месца для смелага палёту творчай думкі, для самаадданай, гераічнай працы.*

### НЕ ШУКАЙЦЕ ЛЁГКАЙ СЦЕЖКІ



Яшчэ вучнем сямігадовай школы я намеціў сабе цвёрдую мэту ў жыцці: стаць інжынерам, каб бліжэй быць з тэхнікай, з машынамі, якія палюбіў з маленства. Але так здарылася, што вучыцца адразу пасля заканчэння сямігодкі мне не выпадала. Трэба было памагчы маці падгадаваць меншых з нашай сям'і, якая страціла ў вайну бацьку. І я паехаў у горад, на завод.

Паступіў на працу ў электрацэх. Мяне накіравалі да майстра Барсукова. І ён адразу параіў мне не кідаць сваёй мары аб вучобе. Я паслухаў свайго майстра. Працуючы электрыкам, хадзіў на заняткі ў тэхнікум. Было, вядома, цяжка. І ўсё ж я настаяў на сваім, не кінуў вучобы, пакуль не прыйшоў час ісці на вайсковую службу.

Вярнуўшыся з Савецкай Арміі, я прыехаў у Магілёў і пайшоў на будоўлю. Пачаў нядрэнна зарабляць, атрымаў пакой у інтэрнаце. Здавалася, што больш трэба?

Аднак жа чагосьці не ставала. Я адразу зразумеў, чаго. Мая ранейшая мара стаць інжынерам не давала спакою. Але перш трэба было займець сярэднюю адукацыю. Я падаў дакументы ў вячэрнюю школу. Зноў, нягледзячы ні на што, я засеў за кнігі. На дапамогу прыйшлі сябры, настаўнікі.

І вось у мяне ў руках атэстат сталасці. Па большасці прадметаў у ім — «пяцёркі». Адказ на пытанне, куды пайсці далей вучыцца, ужо даўно саспеў. Я стаў студэнтам-завочнікам Ленінградскага політэхнічнага інстытута. Цяпер перайшоў на пяты курс электра-энергетычнага факультэта. Засталося вучыцца год і дзесяць месяцаў. Мае сябры жартуюць: «Глядзі, вось Толя смехам-жартам — і ўжо амаль інжынер...»

Калі з боку глядзець, дык яно можа каму і здасца, што гэта ўсё — «смехам-жартам». На самай жа справе далося яно не так лёгка. Колькі недаспана начэй, колькі дзён праведзена ў бібліятэцы! Той, хто мае ясную мэту ў сваім жыцці, не шкадуе, што працы многа, у яго заўсёды добрае маральнае задавальненне ад зробленага і высакародная трывога за няздзейсненае яшчэ.

У нас, на будаўніцтве трэцяй чаргі завода штучнага валакна — ударнай камсамольскай будоўлі ў Магілёве — створаны ўсе ўмовы для вучобы: ёсць вячэрняя школа, тэхнікум, бібліятэка. Але не ўсе выкарыстоўваюць тое, што дае родная партыя і савецкая дзяржава моладзі. Маладыя людзі ў пачатку навучальнага года з ахвотай ідуць вучыцца, а потым, глядзіш, праз месяц-два ўжо астываюць, не вытрымліваюць першых выпрабаванняў. Калі не захочаш, калі залянуешся, знойдзеш дзесятак прычын, каб апраўдаць сваю бесклапотнасць. А вось узяць верх над сваімі слабасцямі, ісці наперад да жаданай мэты — задача не лёгкая, аднак яе здолее выканаць кожны, хто праявіць цвёрдасць і ўпартасць.

Такой упартасці можна навучыцца, напрыклад, у майго таварыша — маладога камуніста Міколы Курапаткіна, з якім я жыву ў адным пакоі ўжо чацвёрты год. Ён таксама вучыцца — завочна на чацвёртым курсе сельскагаспадарчай акадэміі. Мы абодва паспяваем і вучыцца, і ўдзельнічаць у грамадскай рабоце. Ніколі не бывае таго дня, каб Мікола не пачытаў рабочым газету. Яго — заўзятага агітатара — слухаюць заўсёды ўважліва і прыслухоўваюцца да выказаных ім парад, заўваг.

40-годдзе камсамола Беларусі — наша слаўнае свята! Камсамольцы будоўлі сустракаюць юбілей новымі поспехамі ў працы.

**Анатоль АБРАМЕНКАЎ,**
**электрык УНР-57, член КПСС.**

**г. Магілёў.**

### РАЗГАДАЦЬ ТАЯМНІЦЫ ЗЯМНЫХ НЕТРАЎ



У юнацтве заўсёды захапляе рамантычнае. Мабыць таму і я, скончыўшы дзесяцігодку, абраў сваёй прафесіяй геалогію — адну з цікавейшых навук, якая разгадвае таямніцы зямных нетраў. Аднак пасля заканчэння інстытута мне не адразу прыйшлося заняцца геалогіяй. Ад любімай справы адарвала вайна. Больш пяці год службы ў Савецкай Арміі, змагання на франтах, а потым кіруючая работа ў камсамоле. Нарэшце, я зноў вярнуўся ў даследчы інстытут.

З самага пачатку навуковай работы мне, як і іншым беларускім геолагам, давялося сутыкнуцца з амаль агульнапрызнаным меркаваннем аб тым, што нетры нашай рэспублікі не маюць у сабе каштоўных для народнай гаспадаркі карысных выкапняў. З радасцю хочацца сказаць, што гэтыя меркаванні аказаліся памылковымі. За апошнія 10—12 гадоў беларускія геолагі нямала папрацавалі, каб даказаць, што і ў нетрах нашай рэспублікі схаваны багатыя скарбы. Атрыманы зусім новыя дадзеныя па геалогіі Беларусі. Там, дзе нядаўна адкрыты буйнейшыя месцанараджэнні каменных і калійных солей, будуецца Салігорскі камбінат; прамысловае і лячэбнае прымяненне знайшлі беларускія мінеральныя воды; сотні новых крыніц сыравіны выкарыстоўваюцца для вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.

Прыемна ўсведамляць, што ў адшуканні гэтых багаццяў давялося і мне прымаць удзел. Даследаванні, якія я праводзіў, аблегчылі пошукі розных відаў карысных выкапняў, геалагічнага картавання і высвятлення геалагічнай гісторыі тэрыторыі Беларусі, а таксама памаглі вырашыць шэраг тэарэтычных пытанняў, важных і для іншых раёнаў нашай краіны.

Выконваючы гістарычныя рашэнні XX і XXI з'ездаў партыі, ліпеньскага Пленума ЦК КПСС, беларускія геолагі накіравалі цяпер усе свае сілы на пошукі і разведку нафты. У вырашэнні гэтай важнейшай праблемы я таксама прымаю пэўны ўдзел. Ужо

даказана, што ў нетрах паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі ёсць нафта. Адна з многіх буравых шчылін дала фантанную нафту, у некалькіх — выяўлены ўстойлівыя прыкметы нафтаноснасці. Можна быць упэўненым, што пройдзе некалькі год і на тэрыторыі Беларусі з'явіцца новы прамысловы нафтавы раён. З гэтым цяпер і звязана значная частка маёй даследчай работы.

Акрамя навуковай работы, я займаюся папулярызацыяй геалагічных ведаў сярод насельніцтва рэспублікі. Летась Дзяржвыдат БССР выпусціў у свет навукова-папулярную кнігу, напісаную мной сумесна з Л. Вазнічуком, па геалогіі Беларусі.

Многія гады прабывання ў камсамоле, а затым у партыі прывучылі мяне да актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці калектыву. За час работы ў Акадэміі навук мне даводзілася выконваць абавязкі сакратара камітэта камсамола і старшыні групавога камітэта акадэміі, сакратара партыйнай арганізацыі Інстытута геалагічных навук, прапагандыста. Сёлета я выбран сакратаром партыйнага камітэта Акадэміі навук. Натуральна, што грамадская работа патрабуе вялікай увагі, яна забірае шмат сіл і энергіі. Аднак пры правільнай арганізацыі часу яна не можа адмоўна адбівацца на навуковай працы. За апошнія дзесяць год я падрыхтаваў больш 50 навуковых прац, у тым ліку некалькі буйных манаграфій. На сваім вопыце я пераканаўся, што харошая, светлая мара заўсёды абуджае невычэрпную энергію. Дапамагаць савецкім людзям адкрываць схаваныя скарбы зямлі — гэтаму я прысвяціў сваё жыццё. І мне здаецца, што больш цікавай працы няма ў свеце.

**А. С. МАХНАЧ,**
**член-карэспандэнт АН БССР, доктар геолага-мінералагічных навук.**

## МЭТА, У ІМЯ ЯКОЙ ЖЫВЕШ



Ёсць пытанні, якія рана ці позна ўзнікаюць перад кожным чалавекам, хвалююць яго, прымушаюць задумацца. У імя чаго ты жывеш? Якая галоўная твая дарога ў жыцці? Якой справе ты думаеш прысвяціць свае сілы, здольнасці, жыццё?

Прызнаюся, гадоў пяць-сем назад такія пытанні мяне не кранал. Жыў я тады з бацькамі, вучыўся ў сельскай школе, бестурботна праводзіў час са сваімі аднагодкамі.

Сталасць, а разам з ёй і ўдумлівыя адносіны да жыцця прыйшлі, калі я служыў у Савецкай Арміі.

На многае раскрыў мне вочы мой старэйшы брат Павел. Жыве ён у Гомелі, працуе мулярам, мае ўжо жыццёвы вопыт. Да яго і паехаў я адразу пасля дэмабілізацыі.

— Вось пайсці працаваць хачу,— сказаў я брату.— Мо' параіш, куды?

Ён нахмурыўся і кажа:

— Чалавек сам павінен знайсці сябе ў жыцці, вызначыць свой інтарэс. Але, бадай, і гэта яшчэ не галоўнае. Галоўнае шчыра сказаць самому сабе, чаму выбіраеш тую альбо іншую жыццёвую сцежку. На жаль, ёсць у нас яшчэ такія, што ідуць туды, дзе чысцей ды лягчэй. Бывае, за рублём доўгім цягнуцца. Але сапраўдныя людзі жывуць інакш. Яны кіруюцца іншымі меркаваннямі.

— Якімі?

— Ідэяй. Вось гэта і ёсць тое галоўнае, аб чым я гаварыў.

Мой брат — камуніст. Яшчэ і раней, калі я вучыўся ў школе, брат мне многа расказваў аб партыі, аб камуністах — людзях высокай ідэйнасці, смелых і самаадданых. Ведаў я, што і будаўніком ён стаў таму, што гэтага ад яго патрабавала сумленне камуніста. Адразу пасля вайны, калі яшчэ ляжалі ў руінах гарады і вёскі рэспублікі, камуністы адными з першых ішлі на будаўнічыя пляцоўкі аднаўляць фабрыкі, заводы, школы, жылыя дамы. Так стаў мулярам і мой брат.

Цяпер усё, што я чуў і ведаў раней, і тое, аб чым мне расказаў брат, злілося ў адно — цвёрдае і рашучае. Мне вельмі захацелася стаць будаўніком. Я паступіў вучыцца ў Навабеліцкую школу будаўнікоў-дзесятнікаў, а скончыўшы яе, пайшоў на будоўлю. Вось ужо два гады, як працую ў Віцебску, у будаўнічым трэсце № 9. Ужо асвоіў прафесіі цесляра, муляра і асфальтоўшчыка, і ўсе яны патрэбны мне ў рабоце.

На будоўлю ўвесь час прыходзіць новая, складаная тэхніка. Каб умець з ёю абыходзіцца, трэба вучыцца. Сёлета я перайшоў на трэці курс будаўнічага тэхнікума.

Будоўля стала для мяне цудоўнай школай жыцця. Тут я па-сапраўднаму адчуў, што такое шчырая камсамольская дружба, агульнасць дружных, неспакойных людзей, мэта, якая акрыляе і згуртоўвае калектыў. І хоць многа часу адымае вучоба, я з сапраўднай асалодай выконваю грамадскія даручэнні. А іх у мяне нямала: член камітэта камсамола трэста, старшыня культбытсавета ў інтэрнаце.

Слаўнаму 40-годдзю камсамола рэспублікі маладыя будаўнікі нашага трэста падрыхтавалі выдатныя працоўныя падарункі. Поспехаў у працы дабіўся і я. А нядаўна, напярэдадні юбілею, нарэшце, здзейснілася мая запаветная мара: мяне прынялі кандыдатам у члены вялікай Камуністычнай партыі.

**Андрэй ЖУКАЎ,**
**рабочы будаўнічага трэста № 9.**

**г. Віцебск.**

## СЭНС ЖЫЦЦЯ



Мне дваццаць тры гады. Жыццё маё склалася так, як і ў тысяч савецкіх юнакоў і дзяўчат. Шчаслівае дзяцінства ў сям'і калгасніка вёскі Асавы, што на Клічаўшчыне, затым вучоба ў Бацэвіцкай сярэдняй школе, пасля яе Бабруйскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі — і я стаў механізатарам.

У нашай школе працаваў гурток, якім кіраваў інжынер з МТС Пузік. Гэта ён разгледзеў тады ў вясковым хлапчуку будучага механізатара, прывіў любоў да гэтай цудоўнай прафесіі, дапамог выбраць спецыяльнасць.

Мае першыя працоўныя крокі звязаны з асваеннем цалінных і залежных зямель у Кустанайскай вобласці. У зернесаўгас «Кастрычніцкі» я прыехаў па камсамольскай пуцёўцы разам з іншымі выпускнікамі бабруйскага вучылішча ў 1956 годзе. Працаваў там два гады. Даводзілася трактарам баразніць кустанайскія стэпы і кіраваць камбайнам і займацца электрыфікацыяй саўгаса. Цаліна была для мяне сур'ёзнай школай праверкі ведаў, сіл, камсамольскай вытрымкі. Тут я спазнаў першую радасць працы, сустрэўся з першымі няўдачамі і яшчэ больш палюбіў сваю прафесію, зразумеў, як паважаюць нас, механізатараў, як высока цэняць нашу працу.

Яшчэ ў вучылішчы механізацыі я паставіў перад сабой мэту — атрымаць вышэйшую тэхнічную адукацыю. У студзені 1956 года паступіў завочнікам Беларускага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Поспехі самі ніколі не прыходзяць. Ім увесь час спадарожнічаюць цяжкасці, няўдачы. А ў мяне іх нямала — і падручнікаў, часам, нельга дастаць, і кваліфікаваную кансультацыю не заўсёды атрымаеш, ды і асноўная праца шмат часу забірае. Даводзіцца для вучобы адрываць гадзінамі адпачынку.

Не магу не расказаць аб адной сваёй бядзе. Было гэта ў снежні 1957 года. Па дарозе з Кустаная ў Мінск, калі ехаў на сесію ў інстытут, у Маскве я цяжка захварэў. На чатыры месяцы быў прыкаваны да бальнічнага ложка. Урачы маскоўскай бальніцы імя Боткіна раілі мне пакінуць вучобу ў інстытуце. Тое ж самае гаварылі і мае інстытуцкія выкладчыкі. Але я не згадзіўся з імі і папрасіў толькі акадэмічны водпуск. А калі здароўе палепшылася, зноў узяўся за вучобу. Цяпер я ўжо на чацвёртым курсе інстытута.

Пасля хваробы я вымушан быў папрацаваць некаторы час у сельскім клубе, хоць і сумаваў па тэхніцы. Калі сакратар райкома камсамола Міхаіл Шпартаў сказаў мне, што

ў саўгасе «Красінскі» патрэбен кіраўнік трактарнай брыгады па нарыхтоўцы і вывазцы на палі ўгнаенняў, я, не задумваючыся, даў на гэта сваю згоду.

У нашай брыгадзе высокі працоўны ўздым. Сёлета нам трэба нарыхтаваць і вывезці на палі 90 тысяч тон торфу. Больш палавіны задання саўгасныя механізатары ўжо выканалі. Ёсць усе падставы меркаваць, што свой план мы здзейснім датэрмінова.

Праца ў брыгадзе дапамагае мне вучыцца. Так, на чарговай сесіі ў інстытуце мне трэба трымаць экзамены па гідраўліцы і гідраўлічных машынах. А ў нашай брыгадзе зараз 5 машын абсталяваны гідрапрыводамі. І амаль кожны дзень прыходзіцца з імі мець справу. А гэта ж лепшая вытворчая практыка па гэтаму курсу.

Спалучаць працу з вучобай не лёгка, але затое цікава. Я стараюся так працаваць і вучыцца, каб Радзіма толькі радавалася за мяне. У гэтым сэнс майго жыцця.

**Аляксей ЛЫЗО,**
**брыгадзір-трактарыст.**

**Саўгас «Красінскі» Клічаўскага раёна**
**Магілёўскай вобласці.**

## ДЗЕ МАРА, ТАМ І РАМАНТЫКА



Не ўсміхайцеся, калі я шчыра прызнаюся, што я — рамантык. Так. Майстар па зборцы і ўстаноўцы металічных апор высакавольтнай электраперадачы і — рамантык. Не ўсе будуць згодны са мной, але рамантыка можа прысутнічаць у кожнай справе. Тыя ўчынкі, якія чалавек робіць не па халоднаму разліку, а, як кажуць, па волі сэрца, па натхненню, абавязкова маюць у сабе элемент творчасці. А там, дзе творчасць, дзе прыўзнятая над буднямі мара,— там і рамантыка.

Калі яшчэ вучылася ў тэхнікуме, я марыла пра многае. Пра тое, каб працаваць у вялікім калектыве, абавязкова сярод прыроды, каб убачыць у жыцці як мага больш. Я марыла працаваць там, дзе кожны дзень вымагае новых ведаў.

Прайшло ўсяго некалькі гадоў і... мае мары збыліся. На студэнцкай практыцы і пасля таго, як я ўжо атрымала дыплом тэхніка-будаўніка, мне ўдалося пабыць на многіх вялікіх будоўлях краіны: я на працягу двух год жыла на Далёкім Усходзе. У Камсамольску-на-Амуры я вяла мантаж радыёмачт і ўдзельнічала ў рэканструкцыі мартэнаў. І я адчувала, што кожны дзень узнімаюся ўсё на большую вышыню — у прамым і пераносным сэнсе гэтага выразу. А зверху, як вядома, усё лепш відаць. Кожны раз, акідваючы позіркам легендарны горад, створаны рукамі савецкай моладзі, я замірала ад шчасця. Папрацаваўшы ў Камсамольску, я нібы атрымала сапраўднае камсамольскае хрышчэнне. Незвычайная праца і дружба вялікага калектыву падрыхтавалі мяне на новыя справы.

Цяпер я з невялікім калектывам мантажнікаў заканчваю ўстаноўку апор на лініі, па якой электрычны ток прыйдзе ў Мінск з Васілевіцкай ДРЭС. Лінія гэтая па плану павінна быць закончана недзе ў самым канцы года, але мы на сваім участку справіліся зрабіць усё раней. Прыкладна ў той дзень, калі гэты нумар часопіса трапіць да цябе, дарагі чытач, урадавая камісія будзе прымаць завершаную на нашым участку работу, а мы будзем збірацца ў новую дарогу, каб працаваць недзе паміж Бярозаўскай ДРЭС і Мінскам. Мы зноў будзем імкнуцца апярэдзіць час.

Апярэджваць час! Вось пастаянная вялікая мара не толькі мая, але і ўсёй савецкай моладзі. З ёю звязаны дні і месяцы напружанай працы, пошукі выхаду з цяжкага становішча. Адным словам, шмат цікавага, высакароднага, рамантычнага.

**Зоя ГРЫГОР'ЕВА,**
**майстар трэста «Паўночна-Заходні электрасеткабуд».**



## ЦЯЖКАСЦІ НЕ ПАЛОХАЮЦЬ



Гаварыць пра свае мары прыемна і разам з тым крыху боязна. Прыемна таму, што ў іх, нашых марах, — жаданне, выпеставанае ў сэрцы, тое, да чаго імкнешся. Боязна таму, што, расказваючы пра сваё запаветнае, ты ўжо гэтым самым нібыта бярэш абавязак перад таварышамі і самім сабой дасягнуць яго. А ці хопіць сілы, настойлівасці, працавітасці!?..

Сцэна мяне вабіла яшчэ ў маленстве. У школе, пачынаючы з сёмага класа і да заканчэння дзесяцігодкі, я займаўся ў драматычным гуртку. Не знаходзячы асаблівых прыкметных артыстычных дадзеных, кіраўнікі школьнай самадзейнасці даручалі мне заўсёды тыя ролі, ад якіх адмаўляліся іншыя гурткоўцы: гультаёў, гарэзнікаў, задзір... Гэтыя вобразы мне не вельмі ўдаваліся, але я суцяшаў сябе тым, што паспею яшчэ выканаць і гераічную ролю.

Атрымаўшы атэстат сталасці, я падаў заяву ў тэатральны інстытут. Старанна рыхтаваўся да ўступных экзаменаў і з нецярпеннем чакаў іх. Радаснае і трывожнае хваляванне ахоплівала мяне: набліжаецца час, калі вось-вось здзейсніцца мая мара. Але гэтыя спадзяванні нечакана абарваліся: я атрымаў позву з ваенкамата. А далей — суровыя, неспакойныя будні армейскага жыцця, паходныя маршы, нялёгкая праца салдата, баявое сяброўства аднапалчан... На нейкі час абставіны прымусілі мяне забыцца на сваю мару. Мне гэта нават пачало здавацца наіўным дзіцячым захапленнем, якім «хварэюць» многія ў юным узросце. Дэмабілізаваўшыся, я пайшоў вучыцца ў тэхнічнае вучылішча, дзе атрымаў спецыяльнасць токара-ўніверсала, і пачаў працаваць на Мінскім заводзе запасных частак наладчыкам станкоў. Работа была цікавая і мне падабалася. Аднак усё тое, што я палічыў дзіцячым захапленнем, зноў пачало недзе ў душы абуджацца, заяўляючы пра сябе ўсё больш настойліва.

Калі пры кінастудыі «Беларусьфільм» адкрылася студыя акцёра, я апынуўся сярод тых шматлікіх аматараў мастацтва, якія прыйшлі на ўступныя экзамены, каб заваяваць права вучыцца ў гэтай студыі. А сёлета давялося вытрымаць яшчэ адно «выпрабаванне» — уступныя экзамены ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. І вось я студэнт гэтага інстытута. Я ведаю, што шлях да прафесійнага акцёрскага майстэрства нялёгкі. Але цяжкасці мяне не палохаюць.

**Анатоль ЧАРНОЦКІ,**
**студэнт тэатральна-мастацкага інстытута.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# ТУТ ПІШУЦЬ КАМСАМОЛЬЦЫ КНІГУ ЗОРНУЮ

**Рэпартаж з Бярозаўскай ДРЭС**



Пад хмарай разамлелаю, далёкаю
Старэча-гром бурчыць чагосьці ўслых.
Балацявінай цёплаю цялёпаюць
Цыбатыя буслы.

А жабы, як не лопнуць — гэтак тужацца,
Дудзяць, нібы ў пустыя гарлачы.
І з берагоў, і з купавіння ў лужыну
За дзень усіх загнала гарачынь.

Ахрыпла цішыня.
Свіргочуць кнігаўкі,
Канаюць кані.
Чайкі — ўспырскі хваль.
Раскрытай,
недапісанаю кнігаю
Наўсцяж ляжыць асмужаная даль.

Глядзі — канальнымі радкамі роўнымі
Дапісан экскаватарамі ўступ.
А вечары яшчэ мычаць каровамі
І пахнуць сырадоем за вярсту.

Тут вуліцы працяжнікамі ставяцца,
А клічнік-вежа
хмары закране.
Цягнік,
адбіўшыся ад роднай станцыі,
Самотліва рыкае ў тумане.

Тут уцякае змрок пудлівай пліскаю,
Зрабіўся камарыны дым радзей,
Балотныя старонкі перапісаны
І пра Картузку* выкінут раздзел.

Ціш млечныя шляхі прарэжуць сонную,
Радкам над светам зорамі гарэць.
Тут пішуць камсамольцы кнігу зорную
І назва ёй —
«Бярозаўская ДРЭС».

---

* Картузка — так называлі да 1939 года турму ў Бяроза-Картузскай, дзе фашысцкі ўрад Польшчы марнаваў змагароў за свабоду.



### Паходная вуліца



*Наш паровоз, вперед лети...*
*(З рэвалюцыйнай песні.)*

Ад смеху «эшалоны» ходзяць ходарам
Па вечарах і ў чэрвені, і ў лютым.
Не мае назвы вуліца паходная
І шыльдаў: «У двары сабака люты.»

Білеты тут не трэба кампасціраваць,
Тут кожны забяспечаны плацкартам.
Жывуць усе вясёлыя ды шчырыя,
Ахвочыя да працы і да жарта.

Калі ж вятрыскі ў поўнач разрагочуцца,
І дождж бярэ ў халодныя абдымкі, —
Прысняцца зноўку станцыі вагончыкам,
Прысніцца паравоз чубата-дымны.

І клічуць вокам семафора станцыі,
Іх паравоз густым вітае басам,
І пахне зноў пшаніцай казахстанскаю,
Рудой Урала,
вугалем Данбаса.

З Магніткі,
з Камсамольска,
з-пад Акмолінска,
З-пад Салігорска,
Полацка — кірунак,
Імчацца эшалоны камсамольскія
Да недалёкай станцыі —
Камуна!

### Яшчэ на метр бліжэй да хмар



*Прарабу вышыннікаў Уладзіміру Нікішыну.*

— Мы хутка
будзем з Месяцам на ты.
Я думаю, што ён хлапчына просты, —
Прараб жартуе.
За спіной застыў
Вятрыска,
учапіўшыся за тросы.

Яшчэ,
яшчэ на метр бліжэй да хмар.
І сонца паглядае зверху скоса.
Адкуль узяўся раптам гэты гмах —
Сігарай упіраецца ў нябёсы!

— Ні век, ні бура комін не кране,
А вось калі цыбаты мы закончым,
Павінны верх абмыць за дождж раней,
Канешне, па маленькай —
па закону.

А покуль п'е са шланга верхалаз.
Аж пырскі рассыпаюцца высока.
Здаецца, ён схапіў за рог якраз
Жывую,
дрыгатлівую вясёлку.



**Гарачая прафесія**

Зваршчыку Міколу Кугачу.

Ад арматуры ўпалі цені тонкія.
Стыкаюцца і плавяцца пруты.
Здаецца,
над знямелымі затокамі
Застылі адвячоркам чараты.

Мікола, ўслухайся —
крыжанка кракае.
Ты чуеш?
Цяжка шлёпнуўся вальдшнэп.
... Ішыма хвалі круцяцца каракулем,
Ты помніш —
палыном прапахлы хлеб.

Ноч выла, як шакал,
глядзела кобраю,
Дарога пахла рошчынай, раллёй...
Спаў ураджай у кузаве,
ля Кобрына
З табой сядзела стома за рулём.

І папраўляе ён дзяржак двухзубы свой.
Непаслухмяны, з'ехаў зноў шчыток.
І б'ецца, б'ецца матыльком разгубленым
У хлопцавых руках
блакітны ток.

На пліты села сонца,
промні звесіла.
Сцякае пот гарачым раўчуком.
У зваршчыка
гарачая прафесія —
Заўсёды ён працуе з аганьком.



**Майстар земляны**

Багермайстру Юрыю Савілаву.

Чупрына выцвіла на сонцы,
Застылі хвалькі на ілбе.
І вочы ад вятроў, бяссонніц
Запалі, сінія, глыбей.

Мінгечаура, Волгі хвалі...
Навокал хвалі зноў і зноў.
Заранак колькі вы схавалі
І вечарніц, і тумаиоў.

І сочыць багермайстар * моўчкі,
Як вечар змрок з сабой вядзе.
А земснарад з прыцмокам смокча
Твань,
Шумна фыркае ў вадзе.

Хадою асцярожнай, ціха
Ідуць да хваль азёрных сны.
Чуваць — ірвецца крохка ціна,
Вадзянікоеы каўтуны.

І возера зноў стане белым,
Каб апраўдаць сваё імя.
Хлапец рукою агрубелай
Спяшае якар падымаць,

Каб горы мокрыя насыпаць —
Імчыцца шорсткі іл трубой.
Хлапец стаіць на хвалях зыбкіх,
Ды глебу чуе пад сабой.

А промень неба паласуе,
Кладзецца ў сінія ільны.
І на вадзе
з зямлёю сувязь
Трымае
майстар земляны.



**Землеўпарадчык**

Геадэзісту Міхасю Бацэкіну.

Маўчала ўся прастора навакол.
Сінела неба, сінькаю далітае,
Калі ў зямлю забіўшы першы кол,
Схіліўся над сваім тэадалітам ён.

Глядзеў —
і бачыў новыя дамы.
Глядзеў і чуб адкідваў ускалмачаны.
... І ранак кожным комінам дыміў,
І пахнуў дым блінамі,
скваркай смачнаю...

А там расправяць плечы карпусы,
Ды так — ажно блакіты стануць нізкімі...
Пакінуўшы пахмурыя лясы,
Сарока стракатала машыністкаю,

Нібыта друкавала пратакол
З паседжання пракуранага, позняга,
А хлопец забіваў наступны кол
І далягляд акідваў сінім позіркам.

Землеўпарадчык!
Слаўлю позірк твой,
Бо ён у заўтрашні наш дзень скіраваны.



* Багермайстар — майстар земснарада.

Няхай блакіту чыстага сувой
Табе раскоціць неба сцежкай роўнаю.

Шлях Млечны ў небе — гронкамі рабін.
Смялей манакуляр ты паварачвай.
Патрэбна шмат чаго перарабіць,
Шмат працы на зямлі
землеўпарадчыку.



### Мазаўцы

Шафёрам Бярозаўскай ДРЭС.

*Пачуеш часта пра шафёра:*
— П'яніца,
Калымшчык —
*нават з мёртвага здзярэ.*
А бачылі калі, як рана раніцай
З пуцёўкаю ён крочыць па двары?

А вы калі залелі з гэтым «п'яніцай»,
П'янелі ад бензіну, тытуню,
Вы бачылі, як заяц мчыцца ў паніцы
І вырвацца не можа з-пад агню?

Парою вам траплялася з «калымшчыкам»
Сігналам ціш знямелую пужаць?
Машына ў твані топіцца, калышыцца —
Пад колы ён кладзе з сябе пінжак.

Гаспадары «зуброў» сярдзітых —
мазаўцы,
*На ўсіх дарогах бачу вас заўжды,*
Хоць стомлены вы, мазаны-замазаны,
З сабою ў шлях не берыцё нуды.

І вамі гразь уся, напэўна, месіцца.
Ваш—
пыл увесь
і сівер з вецярком.
Вам бездарожжа —
ўсе дванаццаць месяцаў,
Каб шлях для іншых слаўся ручніком.

Дзяўчаты,
да суровае адказнасці
Вы будзеце прыцягнуты таму —
Што па дарозе напаткаўшы мазаўца,
Няшчыра усміхаліся яму.

* * *

Нібыта крылы распластаў
Вялізны птах — навокал краны.
Кладзецца за плітой пліта.
Будоўляй крочыць рупны ранак.



Канал балота пацясніў.
У промнях зіхатліва грае.
Працуюць шчыра дзень пры дні
*Дзяўчаты, засыпаюць гравій.*

Пакуль паважныя дзядзькі
Падпішуць акты, пратаколы,
Канал прымаюць хлапчукі —
Новабудоўлі навасёлы.

Чыгунка ўжо сюды ідзе,
І пушча напал разарвана,
А бусел здзіўлены штодзень
Вісіць-вісіць над катлаванам.

Ты сумаваць па твані кінь,
Не пазірай, цыбаты, хмура.
Для ДРЭС —
для сонцавай дачкі
*Ужо закладзены падмурак.*

Запырскан вапнаю прараб.
Буслямі ён расчулен.
— А рэпартаж канчаць пара б,
Таварыш Барадулін!



Фота А. Дзітлава.



Алесь АСІПЕНКА

# ПЕРШАЕ ЗАДАННЕ

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага.

## I

У час штурму гарнізона Красыні быў паранены Сярожа Званцоў, камсорг сёмага атрада. У жахлівай неразбярысе боя ніхто не заўважыў нават, як зваліўся ён, падкошаны разрыўной куляй. Толькі калі вярталіся ў лагер, нехта дагледзеў, што камсорга няма. Па нястройных радах змучаных боем партызан прабег устрывожаны шэпт. «Званцова няма... Можа параненага кінулі...» Прыглушаная крокамі гамонка неяк даляцела да галавы калоны, дзе конна ехаў камандзір атрада Пашын. Ён нацягнуў павады. Конь стаў. Спынілася ўся калона. Людзі падалі на зямлю, узрадаваныя нечаканым прывалам. Перашэптваліся, кашлялі.

— Камандзіра першай роты... — загадаў Пашын.

Нехта паўтарыў яго каманду. Настала напружаная цішыня.

Паўз калону, трымаючы ў руцэ карабін, прабег Коля Сахараў. Ён часта спатыкаўся. Бег, схіліўшыся наперад, здавалася, вось-вось упадзе.

— Дзе камсорг? — камандзір моцна напяў павады. Конь прысеў на заднія ногі, стаў на дыбы. Сахараў паспеў ухапіцца за повад.

— Я пытаюся, дзе Званцоў? — голас у камандзіра быў хрыплы. У ранішняй цішы ён здаваўся страшным.

— Не ведаю, таварыш камандзір...

Пашын узмахнуў плёткай, выцяў сябе па халяве бота.

— Ка-а-мандзі-і-р, — працадзіў ён скрозь зубы. — Разява.

Сахараў ускінуў карабін на плячо.



— Званцоў ішоў з другім узводам, а я з першым.

— Гэта праўда, — пацвердзілі з калоны.

— Дзе ўзводны? Чаму людзей не праверыў? — Камандзір быў злосны на сябе, на Красыні, якія не ўдалося ўзяць, на Сахарава, рота якога нарвалася на засаду, і на гэтую цёплую, парную ноч. Яму даўно хацелася спагнаць на кім-небудзь сваю злосць. — Зараз жа Трылісценку сюды.

Людзі маўчалі. Камандзір узвода ляжаў непрытомны на калёсах. Пашын, відаць, уцяміў, чаму маўчаць людзі. Ён саскочыў з каня і цяпер выдаваў маленькім, не такім грозным.

— Чортавы Красыні... — пагразіў ён кулаком у той бок, адкуль толькі што адышлі.

— Шкада Сярожкі, — выдыхнуў нехта.

— Аўтамат немцам дастанецца...

— Ну, вы, можа, хопіць...

Прыглушаны гоман абарваўся. Сахараў ухапіўся рукой за стрэмя, нахіліўся на бок, але на нагах утрымаўся.

— Ты чаго хістаешся? — запытаўся Пашын.

Коля не адказваў. Толькі яшчэ мацней учапіўся рукамі за стрэмя. Пашын падхапіў яго пад рукі, крыкнуў:

— Што ж вы!.. Дапамажыце пасадзіць на каня.

Сахарава паднялі, пасадзілі на сядло. Ён абмяк, нахіліўся наперад Нехта зняў з яго пляча карабін, запытаўся:

— Утрымаешся? Ці, можа, на павозку пакласці?

— Утрымаюся, — хрыпла адказаў Сахараў і ўзяў павады ў рукі. Калона ажыла. Людзі падымаліся неахвотна, бурчэлі. Гулкі шоргат ног заглушаў іх словы.

У лагер прыйшлі перад самым ўзыходам сонца. Партызаны паваліліся спаць, проста на зямлю, дзе хто стаяў. Пашын зайшоў у ёўню, абсталяваную пад штаб.

— Дзяжурны, — паклікаў ён партызана, што стаяў перад уваходам. — Начальніка разведкі сюды. Зараз жа.

Дзяжурны, прыціскаючы рукой вінтоўку, выбег. Камандзір прайшоўся па цеснай ёўні. Скрозь маленькае акно цадзілася ружовае святло. За акном надакучліва кукавала зязюля: «Ку-ку... ку-ку...» Пашын пачаў лічыць: дзесяць, адзінаццаць, пятнаццаць, семнаццаць...

Увайшоў Дагура, начальнік разведкі, маленькі, барадаты чалавек. Выцягнуўся, прыклаў руку да саламянага брыля, абвязанага чырвонай стужкай.

— З'явіўся па вашаму загаду...

— Бачу, — камандзір стаяў побач, жмурыў калючыя вочы. — Правалілі наступленне, — працадзіў ён праз зубы.

Начальнік разведкі маўчаў.

— Эх вы, вочы і вушы камандзіра!.. Абознікі вы... Разгільдзяі.

— Дазвольце, таварыш камандзір...

— Хопіць! — Пашын секануў рукой паветра. — У дванаццаць нольноль я павінен ведаць усё, што здарылася ў Красынях. Абавязкова высветлі, дзе Званцоў. Далажыш сам.

— Ёсць, таварыш камандзір. Але я не змагу выканаць ваш загад. У Красыні няма ніякага доступу.

— Паўтары загад, — Пашын сцяў зубы.

Начальнік разведкі паўтарыў загад. Пашын паправіў маўзер.

— Чаго стаіш? Выконвай!

Дагура выйшаў, нават не аддаўшы чэсці.

## II

Лес звінеў птушынымі галасамі. Недзе ў рове пранізліва крычала сіўка-варонка. Дагура пастаяў крыху, вылаяўся, падыбаў туды, дзе размясцілася разведка.

Пад вялізнай кашлатай елкай спалі разведчыкі: адзінаццаць мужчын і чатыры жанчыны. Мужчыны — на шызым мяккім імху, жанчыны — воддаль, на брызенце. Дагура доўга стаяў над імі, думаў: заданне выканаць немагчыма. Але загад ёсць загад. Ён нагнуўся, пачаў тармасіць аднаго з разведчыкаў за плячо.

— Лёша, Лёша, падымайся. Ёсць заданне.

Лёша мармытаў у сне, адварочваўся, закрываў твар рукой. Нарэшце Дагуру надакучыла церабіць яго.

— Пад'ём! Трывога! — гаркнуў ён.

Людзі падхапіліся. Застаўся ляжаць толькі адзін Мартын Дуля. Нехта выцяў яго наском бота, і ён таксама падняўся. Чухаўся, праціраў вочы.

— Сядайце, таварышы, — Дагура прымасціўся на брызенце, перачакаў, пакуль размесцяцца астатнія. — Камандзір загадаў нам высветліць няўдачу сённяшняй аперацыі. Па нашых звестках у Красынях павінна было быць не больш за паўсотню гітлераўцаў з адным кулямётам. Агонь жа вяло пяць кулямётаў. Што гэта — недакладнасць ці здрада? Каму было карысна зменшаць колькасць ворагаў?

— Ты, начальнік, не кідайся такімі словамі. Звесткі былі правільныя. Ці так я кажу, хлопцы?

— Так, без ашуканства, — падтрымалі разведчыцу мужчыны.

Дагура і сам разумеў, што звесткі былі дакладныя, нават крыху перабольшаныя. Але адкуль узяліся гэтыя чатыры кулямёты? Ужо больш прымірэнча ён пачаў расказваць пра сваю сустрэчу з камандзірам.

— Яму трэба высветліць, дзе яго сябрук Званцоў, — азваўся Мартын Дуля. — Званцова ўсё роўна не выратуеш, а мы на верную смерць ідзём.

На Мартына накінуліся ўсе.

— За скуру дрыжыш...

— Правільна камандзір робіць.

— Такога хлопца страцілі.

— А як туды дабярэшся?

Дагура маўчаў, церабіў бараду, думаў. Што рабіць? Як прабрацца ў Красыні?

— Сахнюк, Мінін, Караба — на коней, — загадаў Дагура.

Хлопцы ўскочылі, сталі навыцяжку.

— Паспрабуйце ўзяць языка. Ясна?

— Ясна, — адгукнуліся разведчыкі.

— Выязджайце.

Хлопцы адвязалі коней, селі. Сахнюк выцяў каня плёткай, і той з месца рвануў галопам.

Разведчыкі моўчкі слухалі глухі тупат падкоў. Узыходзіла сонца. Залаціліся вяршыні елак. Над ровам таяў у сонечных промнях туман. А тут, унізе, яшчэ панаваў паўзмрок. Было халаднавата...

— Трэба неяк прабрацца ў Красыні, — парушыў маўчанне начальнік разведкі. — Добраахвотнікі знойдуцца?

Людзі толькі ніжэй схілілі галовы. Дагура ўскочыў, прабегся па



палянцы. За ім спадылба сачылі два тузіны вачэй. Вось ён спыніўся спіной да іх і, раптам крута павярнуўшыся, спакойна сказаў:

— Антаненка, прымеш камандаванне разведкай. У Красыні пайду я.

— Таварыш начальнік...

— Дазвольце мне, — нечакана прагучаў дзявочы голас. Усе павярнуліся да Наташы. Яна чамусьці засаромелася, пачырванела. Наташа была самая маладая разведчыца. З месяц назад яе прынялі ў камсамол. Раней не маглі, не хапала год.

— Ты што, дзеўка, не выспалася? Куды табе, — накінулася на яе пажылая разведчыца. — Гэткаму горкаму дзіцяці яшчэ толькі за матчыну спадніцу трымацца, а яна ў такую каламуць кідаецца... Я пайду!..

— Чаму вы так кажаце, цётка Агата? Я, чэснае слова, усё зраблю як трэба. І ў вёску прабяруся.

— Ды чаго табе на ражон лезці? Без цябе абыйдземся.

— Мне трэба, трэба... І я ўсё роўна пайду!.. — Наташа раптам закрыла твар рукамі і заплакала. Разведчыкі збянтэжыліся. Агата абняла Наташу за плечы, прытуліла да сябе, гладзіла па валасах. Чорны, гарбаносы разведчык падміргнуў Дагуру, нагнуўшыся, зашаптаў на вуха:

— Не пускай яе. Здаецца мне, нездарма яна заглядалася на Сяргея.

Начальнік разведкі адштурхнуў хлопца.

— Дык чаго ты плачаш? — запытаўся Дагура.

— Бо вы не верыце мне. Думаеце, я не спраўлюся. Раней казалі, што малая, у камсамол не прымалі... А цяпер чаму не давяраеце?

— Добра. Пойдзеш у разведку. Лысоў, сядлай майго «Ветра», падкінеш яе вось сюды, на шашу. — Дагура тыцнуў пальцам у карту. — Адсюль яна прабярэцца на станцыю. А ўжо са станцыі ў Красыні. Ну, астатняе з ёй прарэпетыруем... Значыць, высветліш усю расстаноўку сіл. Завяжаш сувязі...

— А пра Званцова... — Наташа зноў збянтэжылася, але ўжо не схавала вачэй.

— Чакай. Пра Званцова ў першую чаргу... Калі жывы, пастарайся даведацца, дзе ён. Толькі не ўздумай сама выручаць. Сарвеш нам усю аперацыю. Твая справа высветліць і ў атрад вярнуцца. А цяпер пайшлі да камандзіра.

## III

Шаша была мёртвая. Яе пакарабачанае пасля зімы палатно, здавалася, правісала між двух узгоркаў. Сям-там тырчэлі слупы без правадоў, з пабітымі ізалятарамі. Наташа доўга стаяла на грудку ў засені густога ельніку. Было страшна выйсці на роўнае поле. Нарэшце адважылася. Вытыркнулася з-за елак і зноў паспешліва адступіла назад. Роўнядзь поля і шаша палохалі яе. Гэта было першае яе сур'ёзнае і самастойнае заданне. Дасюль яна хадзіла толькі ў нейтральныя вёскі і не адна. Хто-небудзь заўсёды быў побач. Цяпер яна была адна ў гэтым далёкім краі. Таму ўсё выдавала чужым і варожым.

Недзе далёка прагучаў стрэл з нямецкай вінтоўкі: «Пік-пак!» Наташа ўздрыгнула. Потым рашуча пакрочыла ў бок шашы.

Не заўважыўшы як, яна выбралася на ўзгорак. Удалечыні паказаліся вежа і стромкая піка семафора. Наташа намацала ў торбачцы нямецкі пропуск. «...Скажаш, што ідзеш з горада, мяняць», — успомніліся ёй словы Дагуры.



На станцыі было пуста. Блішчэлі на сонцы рэйкі. Прысадзісты станцыйны будынак быў абнесены агарожай з калючага дроту. Але навокал — ні жывой душы. Наташа абышла агарожу, скіравала да вёсачкі, што відаць была за ровам. Адтуль, ведала Наташа, ідзе дарога на Красыні. Сем кіламетраў, як сказаў начальнік разведкі.

Сонца прыпякала ніштавата. Ногі грузлі ў пяску. Наташа зняла жакецік, павесіла цераз руку. Хацелася піць. Смяглі вусны, а ў галаве звінела ад стомы. «Дайду да вёскі і адпачну, — падумала Наташа. — А што там цяпер у атрадзе?»

Ёй здалося, што яна забрыла на край свету. Недзе там на поўначы, за лесам, што ледзь сінее, застаўся партызанскі лагер, яе дом. А яна тут адна. Зусім адна, сярод чужых людзей, якіх трэба асцерагацца. Зрабілася маркотна, сэрца сціснулася, здаецца, перастала біцца. Толькі ў скронях тукалі малаточкі. З задумення яе вывеў чужы голас.

— Куды, маладзічка, ідзеш? — Наташа спалохана азірнулася. — А ты не бойся. От ужо напалоханая... Ды яно ўсе цяпер такія.

Гэта быў сівенькі дзядок, згорблены ад старасці, але жвавы на вочы. Яны так і цікавалі за Наташай.

— А ты зусім і не маладзіца, а дзіцянё яшчэ. І хто цябе ў такую дарогу выправіў?

— Маці хворая, а есці нешта трэба. Ды вы не думайце, у мяне і пропуск ёсць. Гарадская я, — Наташа палезла ў торбачку за пропускам.

— А можа закурыць у цябе ёсць?

— Канешне, дзядуля. Махорка ёсць і соль таксама, больш нічога няма.

Яны спыніліся. Наташа дастала паўпачка махоркі. Дзед выняў пацёрты кавалак паперы, скруціў цыгарку, зацягнуўся.

— Не ў пару ты прыйшла сюды, — паківаў ён галавой. — Тут сягоння такое было, не прывядзі бог. Як ёсць вайна. На адну вёску напад быў.

— А хто ж нападаў? — схітравала Наташа.

Дзядок дапытліва паглядзеў на яе, адказаў:

— Вядома хто, госці лясныя.

— Ну і што? — не сунімалася Наташа, хоць разумела, што распытваць трэба асцярожна, узважваючы кожнае слова.

— І напароліся. Далі ім, — дзядок прыжмурыў вочы, закашляўся ад дыму: — Кажуць, што аднаго раненага нават пакінулі...

У Наташы ёкнула ў грудзях. Халодная кашчавая рука моцна сціснула горла. Перш чым Наташа паспела падумаць, язык вымавіў тое, што нельга было гаварыць:



— Дзе ж ён цяпер?

Але дзед, на шчасце, не заўважыў яе хвалявання. І нават, здаецца, не пачуў, пра што яна пыталася.

— Каб мне трапіў той камандзір, дык я яго прынародна па самым балючым месцы адхвастаў бы крапівой. Я ўсю германскую праваяваў. А як жа — радавы яго вялікасці сто трыццаць чацвёртага палка, георгіеўскі кавалер! Да самых тых дзён, пакуль у арцель не паступіў, — крыж хаваў. Сам генерал Брусілаў крыж уручаў. Не абы хто — генерал. Мы, бывала, як ваявалі? На падыходзе германцаў білі. А гэты што робіць? Немцы, скажам, у Красыні на падмогу ноччу прыходзяць, а ён чакае, пакуль яны абарону зоймуць, і толькі потым лезе. А ты іх на падыходзе!.. Во як!..

Дзядок дакурыў цыгарку да самых пальцаў.

— Слаўная махорачка. Здаецца, душу адвёў. Мы больш нямецкую пацяруху курым.

Наташа выцягнула той паўпачак, з якога адсыпала дзеду на цыгарку.

— Вазьміце, дзеду, — працягнула яна махорку.

Дзед рашуча адвёў яе руку.

— Гэтак ты дулю смажаную выменяеш, калі кожнаму сустрэчнаму будзеш раздаваць махорку паўпачкамі. Мабыць, маці наказвала табе не так рабіць? Калі ты ўжо такая шчодрая, дык адсып яшчэ на адну цыгарку, астатняе схавай. Прыгадзіцца.

Нейкі час яны ішлі моўчкі. Наташа крадком пазірала на дзеда, прыкідвала ў думках, як бы ёй распачаць гаворку пра Красыні. Дзядок, відаць, ахвочы да размоў і, мабыць, сёе-тое ведае пра немцаў, што прыходзяць на падмогу красынскаму гарнізону. Але першы промах насцярожыў яе. Добра яшчэ, што дзед не разабраўся, чаму яна так узгарэлася, калі ён сказаў пра параненага партызана.

Дарога крута збягала ў роў, узбіралася на гару, хавалася ў прысадах той вёскі, што была відаць ад станцыі. З-за крайняй хаты раптам вырвалася парка коней, запрэжаная ў вайсковую павозку. На ёй ехала пяцёра немцаў. Яны сядзелі, звесіўшы ногі. У кожнага на шыі вісеў аўтамат. У Наташы падкасіліся ногі. Мімаволі спынілася. Потым прымусіла сябе ісці. Прыціснулася бліжэй да дзеда, насунула хустку на лоб, каб не дужа кідаўся ў вочы яе негарадскі загар. Дзядок тэпаў па броўцы канавы, відаць, не звяртаючы ніякай увагі на немцаў.

Моцна заляскатаўшы коламі, павозка пераляцела масток цераз невялікі, хоць і глыбакаваты ручай, і ўжо больш павольна пачала ўзбірацца ўгару.

Наташа яшчэ ніколі не сустракала немцаў так блізка, як цяпер. Даўганосы з рыжымі кароткімі вусамі фрыц, закінуўшы галаву, рагатаў, шырока разявіўшы рот. Наташы здалося, што ён ашчэрыў пашчу, каб праглынуць яе.

Коні, выгінаючы шыі, дружна ўзбіраліся на гару. Ля Наташынага твару прамільгнулі коні, павозка з немцамі. Нешта прымушала яе азірнуцца. Але яна стрымалася. Дзядок надзяваў шапку. «Чаго ён? — прамільгнула думка. — Дагодлівы вельмі. Паслугач нейкі. Кулак».

Наташа пачала думаць, як пазбавіцца ад такога спадарожніка.

— Вярнулася б ты, дзяўчынка, — пазіраючы некуды ўбок, прамовіў дзед. — Натрапіш яшчэ на якога злыдня. Памяняй свой тавар вось у гэтай вёсцы ды і кіруй да маці.

Наташа маўчала. Пайсці назад у атрад, нічога не высветліўшы пра

Сяргея, яна не магла. Сорамна вярнуцца з пустымі рукамі. Успомніла, як дакорліва глядзелі партызаны на тых, хто прыходзіў у атрад без пэўных вестак. Не, яна абавязкова трапіць у Красыні.

У вёсачцы яна рассталася з дзедам. Зайшла дзеля прыліку ў трычатыры хаты. Знарок прасіла за свой тавар дорага, каб ніхто нічога не купіў. Ісці ў Красыні без тавару было рызыкоўна.

## IV

Там, у атрадзе, Красыні нагадвалі ёй непрыступны замак, ля байніц якога дзень і ноч не дрэмлюць вартавыя. А перад ёй ляжала не вельмі прыкметная вёска з паўсотняй хат, раскінутых на беразе вялікай сажалкі. На тым баку вёскі стаяў хлеў без дзвярэй. Ля хлева тырчэла чалавечая постаць. Далей, направа, з зямлі ўздымаўся капец, вакол яго жаўцеў на сонцы пясок. «ДОТ»,— падумала Наташа.— Няўжо адзін?» Другі хаваўся ў вішанніку. Наташа прыкінула ў галаве ўсе падыходы. Нялёгка ўзяць гэтыя Красыні!

Па вуліцы пахаджвалі нейкія людзі. Наташа прыгледзелася лепей, убачыла белыя хусткі, павесялела. Хацелася хутчэй дайсці да першай хаты, каб не быць вось так на відавоку.

За невысокім тынам корпалася ў градах жанчына. Наташа прывіталася, прапанавала махорку.

— Што я сама курыць буду? — буркнула жанчына і яшчэ больш увішна пачала рваць лебяду.

У другой хаце Наташу не пусцілі на парог. Друзлая, чырвонашчокая цётка, убачыўшы яе, чамусьці замахала рукамі.

— Не трэба, нічога не трэба.

Наташа перайшла на другі бок вуліцы, адчыніла брамку. Вялізны сабака, ірвучы ланцуг, кінуўся да яе і, не дастаўшы, уздыбіўся, захроп ад злосці. У акно выглянула маладзіца, прыкрыкнула:

— Пайшоў вон, каб ты здох!

— Цётачка, можа соль трэба? На хлеб мяняю.

Маладзіца выбегла на ганак, загнала сабаку ў будку.

— Адкуль ты такая храбрая? Як ты сюды трапіла?

— Са станцыі, цётачка.

Жанчына недаверліва паглядзела на Наташу.

— Дзіву даюся, як ты прабралася. Усе гарадскія даўно абмінаюць нас. Фардыба нікому спуску не дае... Ці многа ў цябе солі?

— Шклянак дзесяць...

— Адсып мне дзве шклянкі, у саміх хлеба не надта. Але ж і без солі не можна. Толькі хутчэй, а то нас за гэта муштруюць.

Наташа развязала торбу. Адмерваючы шклянкай соль, запыталася:

— А хто такі Фардыба?

— Бургамістр, каб ён выдах. Усіх хлапцоў у паліцыю загнаў. Ты дужа не баўся ў вёсцы. Ён, ведаеш, які сёння злосны. Дружка яго Федзьку Капусціна партызаны ранілі. Сам павёз да немцаў лячыць.

— Дык хіба ж тут ёсць партызаны? — здзівілася Наташа.

— Ёсць, — жанчына зашаптала. — Наляталі сёння ўначы, толькі не здолелі ў вёску ўварвацца, адступілі.

— Напэўна, і ў іх былі параненыя? — нібы між іншым запыталася Наташа, а сама стаіла дыханне.



— Хто ж іх ведае. Не чуваць.

Наташа ледзьве стрымалася. Што ж тады ёй наплёў дзед? Чаму ён так упэўнена гаварыў пра параненага партызана?..

— Ну, ідзі, ідзі, — падагнала Наташу жанчына.

Апынуўшыся на вуліцы, Наташа не ведала, што ёй рабіць далей. Было боязна, але страх цяпер не адчуваўся так востра, як тады, калі яна разам з дзедам сустрэла павозку з немцамі. Наадварот, паявілася свавольная ўпэўненасць. Хацелася рабіць наперакор перасцярогам. Усміхнулася: «Напалохаў іх гэты Фардыба. Вось трапіць ён нам у рукі, дык паглядзім тады, чаго ён варты».

Наташа зноў перайшла вуліцу, заглянула на двор. Пуста. Узбегла на ганак, адчыніла дзверы ў хату і аслупянела. На лаўцы сядзеў той самы дзядок, з якім яны нядаўна ішлі. Ля палацяў стаяла дзяўчына, накручвала на руку хустку. Адступаць не было куды. Наташа задзірыста выгукнула:

— Вось бачыце, зноў сустрэліся...

Дзяўчына паглядала на яе спадылба. Дзядок кашляў натужна і доўга.

— Можа, дзеду, махоркі купіце ў мяне?

— А хварасціны не хочаш? Ходзяць тут усялякія... Ты чаго па вёсцы бryndaеш? Чаму ў Паповічах не памяняла сваю махорку?

Дзяўчына вышмыгнула з хаты. Наташа пачула толькі, як грукнулі дзверы. «Папалася», — падумала яна і, як вучыў яе Дагура, пачала хныкаць:

— Ніхто там не купляе. Як жа я дамоў пайду з пустымі рукамі. Маці хворая.

— А маці тваёй лепш будзе, калі цябе Фардыба застрэліць? Гора з вамі... І нас падводзіце. Загад вунь вывешаны, затрымліваць усіх старонніх. Шчасце яшчэ тваё, што Фардыба з'ехаў, а немцы ў хлеве дрыхнуць. Паабтыкаліся вунь дотамі. Адзін у вішанніку, другі на краі вёскі, ды яшчэ адзін за хлевам. Хоць немцаў з паліцаямі — трыццаць шэсць чалавек, а паспрабуй вазьмі голымі рукамі. Хлопцаў во прымусілі ў паліцыю ісці. А каму ахвота нявінных людзей на шыбеніцы адпраўляць? Толькі паспрабуй заступіся — самога ўсцягнуць. Ноччу яны дрыжаць. На дапамогу яшчэ чалавек трыццаць прыходзяць. Вось як яно ў нас. А ты, дурное дзяўчо, лезеш сюды. Ідзі зараз жа...

Наташа дрэнна разумела ўсё тое, што гаварыў дзед, хоць мімаволі запамінала кожнае яго слова. Толькі на вуліцы яна зразумела, што дзед нешта ведае. Нездарма ж ён расказваў ёй пра абарону красынскага гарнізона.

Яна не спяшаючыся ішла ў бок станцыі. Вось ужо хутка і апошняя хата. А там дарога, поле. Хутчэй бы пакінуць гэтую варожую вёску.

— Эй, дзяўчынка, пачакай, — яна спачатку хацела не звярнуць увагі на гэты кліч, хоць і разумела, што клічуць яе. Потым вырашыла, што ўцякаць няма куды. Спынілася.

Дзядок махаў ёй рукой.

— Хадзі сюды. Ліха з табой, няхай па-твойму будзе. Без курыва яшчэ горш. Ну, хадзі, хадзі.

Наташа азірнулася, ці не відаць дзе падману. Нейкая жанчына вытыркнула з-за плоту галаву.

— Каго ты клічаш? — запыталася ў дзеда.

— Гандлярка махорку прыносіла. Паўкілы сала прасіла за пачку. Выгнаў во, ды і зноў вярнуў. Вельмі ўжо махорка добрая.

Жанчына абыякава зірнула на Наташу, зноў схавалася за плотам.



— Кіруй за мной, — загадаў дзед і паспешліва патэпаў на двор. Але ў хату не пайшоў. Павёў Наташу да свірна. Адамкнуў замок, гулка бразнуў чэпель, ці можа так здалося Наташы. Яна была нібы ў сне. Стаяла, як прыкаваная. Дзед узяў яе за плечы, падштурхнуў. У свірне было цёмна. Наташа нічога не бачыла.

— Наташа, гэта я — Сяргей,— пачуўся знаёмы голас аднекуль з кутка.

Яна азірнулася. Дзед усміхаўся.

— Ну, ну, хутчэй. Ліха цябе ведае, адкуль ты. Фардыба на ўсё здатны.

Толькі цяпер Наташа ўбачыла Сяргея. Ён ляжаў у кутку за нейкай скрыняй.

— Чаго ты спалохалася? — чула яна яго голас.

— Не, я не баюся.

— Слухай, Наташа, уважліва. Перадай Пашыну, пакуль на Красыні не наступаць. Можна будзе праз тыдзень. Людзі тут ёсць свае. Падрыхтую і паведамлю. Дуб у пушчы ведаеш? Ля яго сувязны будзе. Я і сам дзён праз тры прыслаў бы вестку. Але добра, што ты прыйшла. А цяпер ідзі. Асцярожней толькі.

— А як жа вы? — запыталася Наташа.

— Пра мяне не турбуйцеся. Я ў надзейным месцы. Наташанька, дзяўчынка мая. Як жа ты на такое адважылася?!

— Ну, ну, годзе,— цыкнуў на іх дзед.— Бяры вось сала і, не аглядаючыся, дадому.

Наташа выцягнула махорку, паклала на вечка дзежкі. Запіхнула сала ў торбу. Дзед замкнуў дзверы.

— Ноччу мы яго далей схаваем, — сказаў ён.

Наташа прыклала рукі да грудзей. Ласкавая цеплыня напаўняла яе грудзі шчырай удзячнасцю да гэтага бурклівага дзеда. Здаецца, кінулася б да яго на шыю, прытулілася б да вострай сівой барады.

— Дзед... — выдыхнула яна.

— Ідзі, ідзі з богам, — і раптам закрычаў. — І каб тваёй нагі не было тут. Гандлярка смаркатая!

Цераз вуліцу насупраць стаяла тая маладзіца, якой Наташа прадала шклянку солі.

— Чаго ты на яе крычыш, Анісім? — азвалася яна.

— Ходзяць тут усялякія, а нам за іх адказвай. Зловяць яшчэ, думаеш, нам радасць ад гэтага вялікая.

— Гора, Анісім, гоніць людзей, а ты крычыш.

— Гора, гора. Вось няхай падмазвае пяткі ды ўцякае, пакуль бяды не здарылася.

Наташа, не аглядаючыся, шпарка крочыла па вуліцы. Раптам яна ўспомніла, што так і не развіталася з Сяргеем і з дзедам.

— Да сустрэчы, Сярожа, — упершыню назвала яна камсорга па імені. Перад вачыма ўзнік нядаўні малюнак. У лесе пад вялікай хвояй



сабраліся камсамольцы. Прымалі яе ў камсамол. Тады Званцоў, паціскаючы ёй руку, сказаў: «Спадзяемся на цябе, Наташа, што ты не падвядзеш нас».

Яна ўзышла на ўзгорак, спынілася. Акінула позіркам вёску. Цяпер вёска не здавалася ёй чужой. Наташа звярнула з дарогі і напрасткі пайшла да лесу.

# НАМ НЕ ТРЭБА ПАДЗЯКА

**Апавяданне**

Мы не лічылі сябе рамантыкамі. Кожны з нас, нават загадчык учоту Ася Храмянкова, чарнявая вастраносая дзяўчынка, зведалі будзённасць тых спраў, пра якія марылі да вайны. Некалі юнацкія мары пра смелыя налёты на варожыя гарнізоны і рызыкоўныя прыгоды з захопам чужых генералаў і ўзброеных да зубоў шпіёнаў прывялі нас у партызанскі атрад. Але два гады баёў, блакад і бясконцых начлегаў пад зорным небам вярнулі нас да няўмольнай і даволі шэраватай рэчаіснасці. Усё аказалася крыху не такім, як некалі нам уяўлялася. Пад канец другога года мы ўжо марылі пра спакойны, бестурботны сон, пра чыстую пасцель і пра тое, як можна будзе прайсціся днём па вуліцах гарадка, які нам так і не ўдалося вызваліць ад акупантаў.



І ўсё ж мы былі рамантыкі. Хіба пра гэта не сведчыла таўстапузая буржуйка, якую мы палілі праз увесь дзень? А вянкі цыбулі і доўгія пляцёнкі часнаку, што ляжалі на нашых сталах уперамешку з рукавіцамі, шкарпэткамі, вышытымі капшукамі і паўтузінам брашур? І нават плакат на сцяне: «Усё для фронта!» — напісаны на кавалку чырвонага абруса, які выпрасілі ў раённага суддзі, сцвярджаў, што мы засталіся рамантыкамі.

Мы сядзелі вакол буржуйкі і пакавалі ў скрынкі падарункі салдатам. Ася Храмянкова, прымасціўшыся на тоўстым палене, пісала лісты. Выходзілі яны ў яе здорава, хоць, шчыра кажучы, былі падобны адзін да аднаго, як блізняты. Інструктар Зоя Сакалова надпісвала адрасы. Кожны адрас пачынаўся са слова: «Лепшаму...» Прозвішчаў мы не ведалі. Можа пасля і напіша хто-

небудзь ліст, але хутчэй за ўсё ніхто нам не напіша. Атрымаюць пасылку, раздзеляць цыбулю, часнок, сала, вып'юць чацвёрку гарэлкі, якую мы кладзём у кожную пятую скрынку, і забудуць. Хіба толькі закурваючы, паглядзіць салдат на капшук і скажа: «Гэта ж мне з Магілёўшчыны камсамольцы прыслалі...» А можа і не скажа. Ці ж толькі мы адны шлём пасылкі на фронт!..

Ад такіх думак нам крыху сумнавата. Яшчэ не так даўно, калі былі ў партызанах, нам скінулі з самалёта вялізную скрыню. У ёй аказаліся падарункі ад дзяўчат Ізмайлаўскай ткацкай фабрыкі і лісты. Тады мы не маглі адказаць дзяўчатам, адклалі гэтую важную справу да дня вызвалення. А вось цяпер навалілася праца і мы забыліся пра ўсё. Не крыўдуйце на нас, ізмайлаўскія дзяўчаты, а мы таксама не будзем крыўдаваць на тых салдат, у якіх і так многа клопатаў.

Густы клубок белай пары ўрываецца ў пакой. Гудзе, падвывае вецер. Буржуйка спалохана ўсхліпвае, дыміць.

— Зачыняйце хутчэй дзверы!.. — крычыць Ася Храмянкова.

На парозе — два вайскоўцы. Абодва ў доўгіх шынялях і цёплых шапках, запарушаных снегам.

— Хто з вас сакратар? — пытаецца адзін з іх, высокі.

Генадзь Залескі кідае на стол малаток, папраўляе шырокі салдацкі рамень, адказвае: «Я — сакратар».

Мы з захапленнем і зайздрасцю пазіраем на Генадзя. Яшчэ нядаўна ён быў проста Генка Залескі, а цяпер — сакратар! Гэтае слова гучыць салідна і крыху непрывычна.

Мы па-ранейшаму называем адзін аднаго — Зойка, Генка, Ася, Лёшка, забываючы на тое, што ў кожнага з нас ёсць пасада, ці, як кажа Зойка Сакалова, чын. Магчыма, гэта таму, што мы жывём у адным доме. Увосень, пасля таго як быў вызвалены раён, мы занялі пусты дом і абсталявалі яго пад інтэрнат. Размясціліся мы ў двух пакоях: у адным дзяўчаты, у другім — хлопцы. Два разы на дзень мы харчуемся ў сталоўцы для партактыву. Есці трэці раз на дні мы лічым непатрэбнай раскошай. Але тады, калі бываем у камандзіроўцы і калі нас запрашаюць вячэраць, мы здраджваем свайму прынцыпу. Усімі рэчамі, якія ў нас ёсць: кнігамі, двума чамаданамі, трыма чыгункáмі, шклянкамі карыстаемся супольна. Можа таму так шчыра сябруем і ніякая субардынацыя на нас асабліва не дзейнічае.

— Мы са шпіталю, — кажа высокі вайсковец. — Палкоўнік медыцынскай службы Анікееў. А гэта мой намеснік па палітчастцы, маёр Такелян.

У палкоўніка быў стомлены, шэры твар. Пад вачыма чорныя кругі, а павекі чырвоныя. Мы ўскочылі з табурэтак, уступілі гасцям месца. Палкоўнік грузна сеў, працягнуў да буржуйкі рукі.

— Завіруха і мароз — носа нельга высунуць, — сказаў ён і ўсміхнуўся.

— Дарагія таварышы, мы да вас з просьбай. На ваш райком камсамола спадзяемся не адны мы. Усе параненыя спадзяюцца. Ад усіх іх просьба. Разумееце, таварышы, на Сажы бой быў. Параненых многа. Мацвей Ільіч дванаццаць гадзін з рук не выпускаў скальпель. Людзей ратаваць трэба было. Правільна я кажу? — Мы заківалі галовамі. — А цяпер што? Пераліванне трэба? Трэба. А дзе кроў узяць? Самалёты не лятаюць. Завіруха мацнее. Людзі памерці могуць.

Зампаліт гаварыў горача і вельмі хутка, смешна крыўляючы словы. Мы нічога не разумелі, чаго ад нас дамагаецца маёр.



— Пачакай, Такелян, не гарачыся. Бачыце, таварышы, справа вельмі сур'ёзная. Сямі цяжка параненым трэба неадкладна зрабіць пераліванне крыві. Кансерваванай у нас няма. Самалёты не могуць падняцца з аэрадрома. Дабрацца сюды на машыне, самі бачыце, немагчыма. Увесь наш персанал аддаў кроў тым, каму яна была патрэбна ў часе аперацыі. Усё, што было можна, зроблена, але сем чалавек могуць памерці ад страты крыві. Вось мы і прыехалі да вас. Думалі, у райздраве донары ёсць, аж іх тут ніколі не было. Тады мы і вырашылі звярнуцца да вас. Я думаю, камсамольцы згодзяцца здаць сваю кроў параненым.

— Мы — першыя, — бадзёра выгукнуў Генадзь.

— Гэта добра, але ж не ў кожнага можна ўзяць кроў для пералівання. Вось хоць бы гэтая дзяўчынка, — палкоўнік глядзеў на Асю, — маладзенькая вельмі.

Ася зірнула на палкоўніка і, адвярнуўшыся, пачала пакаваць скрыню. Палкоўнік паглядзеў на гадзіннік.

— Калі вас можна чакаць у шпіталі? Я яшчэ раз хачу папярэдзіць, што кожная хвіліна можа каштаваць вельмі дорага.

— Будзем у чатыры, — адказаў Генадзь.

— Вельмі добра, — вайскоўцы пацiснулі нам рукі.

Калі яны выйшлі, Ася, злосна фыркнуўшы, адрэзала:

— А я ўсё роўна паеду.

— Ты вось не фыркай, а бяжы ў банк. Няхай дзяўчаты прыходзяць сюды. Па дарозе зойдзеш у пякарню і на прамкамбінат. Скажаш Дукінай і Ляскоўскай, каб разам з камсамольцамі неадкладна ішлі ў райком,— Генадзь уваходзіў у ролю сакратара. У такіх выпадках мы не пярэчылі.

— А мне куды? — запыталася Зоя.

— Ты пойдзеш у райвыканком. Ці не, пачакай. У райвыканком Лёшка пойдзе. А ты бяжы на Маластоўку, у калгас. Ледзь не забыўся. Перадасі Сідарэнку, каб рыхтаваў пяць падвод. Усё хутчэй дабярэмся. Калі Сідарэнка закапрызнічае, пазвоніш мне.

Нам уяўлялася, што ўсё будзе проста. Мы прывядзём людзей. Генка скажа прамову, а потым моладзь сядзе на коней і з песняй паедзе ў шпіталь. Але жыццё не кінафільм. Першай пазваніла ў райком Зоя. Сідарэнка не мог даць коней, бо ўсе яны яшчэ раніцай былі адпраўлены ў лес, вывозіць рудстойку. У лесе знаходзілася і палова маластоўскіх дзяўчат. Потым выявілася, што старшыня райвыканкома Пашвіньчук не можа адпусціць камсамольцаў, бо ў яго і сваіх спраў па самыя вушы. Нарэшце, прыйшлі банкаўскія дзяўчаты. Яны ўжо ведалі, чаго іх выклікаюць у райком. Дзяўчаты жартавалі, смяяліся, але па іх узбуджаных тварах адчувалася, што яны крыху баяцца. Толькі касір-інкасатар Рая Бабачкіна не хавала сваёй баязлівасці. Яна сядзела маўклівая і адзінокая ў кутку.

Нас было семнаццаць. Мы з Генкам ішлі наперадзе, пракладалі ў снезе сцежку. За намі моўчкі крочылі дзяўчаты. Гаварыць было цяжка. Вецер сек па твары сухім, калючым снегам, апякаў шчокі, лоб. Дарогу занясло. У нізінах намяло столькі снегу, што ён насыпаўся ў валёнкі. Мы ледзь цягнулі ногі, але ішлі і ішлі. Генка пагладаў на гадзіннік, бурчэў:

— Дысцыпліна... Дай бог, каб у пяць на месца прыйшлі.

Што мы маглі адказаць яму. І мы маўчалі, толькі прыбаўлялі кроку ды яшчэ ніжэй прыгіналіся да зямлі.



У шпіталь мы прыйшлі ўзбуджаныя ветрам, снегам, завірухай. Нас сустрэў маёр і маладзенькая дзяўчына-лейтэнант. Яна была вельмі прыгожая, гэтая дзяўчына. З-пад пілоткі выбіваўся пук залацістых валос. Маленькі носік з гарбацінкай, жывыя і нейкія праніклівыя вочы, маленькія вушы з чырвонымі ад холаду мочкамі і бровы тонкія, чорныя. На плячах у дзяўчыны накінуты шынель, з-пад яго відаць бялюткі халат. Усё зграбнае, падагнанае па фігуры. Генка не зводзіў з яе вачэй.

— Ой, таварышы дарагія, як добра, што вы прыйшлі. Вялікі дзякуй вам.

— Нам падзяка не трэба. Гэта наш абавязак. Вядзі хутчэй нас,— адрэзала Ася, і дзяўчына збянтэжылася. Мы, вядома, здагадаліся, што Ася сказала так толькі таму, што Генка залюбаваўся лейтэнантам. І нам было няёмка.

У вялікай палатцы пахла ёдам, эфірам і яшчэ нечым густым і цёплым. Палкоўнік, седзячы на тапчане, спаў. Ён не прачнуўся, і мы, прыціхлыя, спыніліся ля ўваходу. У кутку стаяў стол, а на ім мноства прабірак і шклянак. Дзяўчына-лейтэнант зняла шынель, пілотку, прысела на табурэт.

— Хто першы? — запыталася яна. — Не бойцеся. Пакуль я толькі праверу кроў, устанаўлю групу.

Зоя села насупраць яе, працягнула руку з адстаўленым сярэднім пальцам. Лейтэнант пра нешта пыталася ў Зоі, яна адказвала шэптам, і мы нічога не чулі. З-за перагародкі выйшла яшчэ адна жанчына, высокая, чорная, і таксама пачала браць аналізы.

Нарэшце, чарга дайшла да Асі. Храмянкова села і, адвярнуўшыся, выставіла палец.

— Дуся, — сказала маладзенькая сястра, — навошта вы бераце ў гэтай дзяўчынкі кроў на групу. Худзенькая яна вельмі.

Ася ўспыхнула, пачырванела.

— Я ніколі не хварэла і можа больш здаровая, чым вы, — і ўжо больш настойліва тыцнула палец.

— Добра, добра, вазьму. Усё роўна будзем правяраць яшчэ на рэнтгене, — адказала чарнявая.

Пасля нас павялі ў другую палатку, дзе ўсё было, як у звычайнай бальніцы. Нас выклікалі за шырму. Мы лажыліся на высокі стол, падстаўлялі руку, і пажылая жанчына рабіла ўсё, што належала рабіць у такіх выпадках.





Ася сядзела з намі. Палкоўнік Анікееў сказаў ёй: «Дарагая дзяўчынка, вы і сапраўды здаровая, але нам хопіць і тых людзей, больш моцных, што прыйшлі з вамі. Не злуйцеся, але пакуль не будзем у вас браць кроў». Ася злавала.

Чарга паволі меншала. І раптая Рая Бабачкіна заўпарцілася. Збялелая, яна зрабіла крокі два да шырмы і вярнулася назад.

— Баюся, — прашаптала яна.— Ой, як баюся, дзяўчаткі міленькія.

— Ды што ты, Рая, зусім жа не балюча, — спрабавалі ўгаворваць яе дзяўчаты, але яна толькі круціла галавой.

— Што ж вы? — высунула з-за шырмы галаву пажылая жанчына.— Не бойцеся! Я сама донар. Вось бачыце, зусім здаровая, у вас першая група крыві. Гэта так важна. Аднаму параненаму, капітану Мамедаву, якраз патрэбна зрабіць пераліванне толькі першай групы.

Рая ўчапілася за табурэтку, быццам яе хто збіраўся сілком пацягнуць за шырму.

— А ў астатніх хіба не першая група? — запыталася Зоя.

— Не, толькі ў яе, ды яшчэ ў Храмянковай.

Ася ўздрыгнула, потым паднялася з крэсла і рашуча пайшла за шырму.

Назад нас прывезлі на шпітальнай машыне. А назаўтра раніцай да нас заглянула Зоя.

— З Асяй дрэнна, відаць, прастудзілася ўчора. Скажы ёй, Генка, каб не ішла на працу. Цябе яна можа паслухае. Толькі ты строга, як начальнік, прыкрыкні. Ведаеш жа яе!

У той дзень мы сядзелі ля буржуйкі ўтрох. Пакавалі падарункі ў скрыні і думалі пра Асю. Трэба было б яе падтрымаць, бо ў яе запаленне лёгкіх. Але як? Дзе знайсці той дадатковы паёк?.. Так ні да чаго не дадумаўшыся, мы пайшлі ў сталоўку.

Гэта быў радасны дзень. У сталоўцы дадаткова давалі масла, цукар і згушчанае малако. Даўно ўжо мы не бачылі такіх прысмакаў. Мы сядзелі за сталом і чакалі, пакуль усё гэта прынясуць нам. І вось на стале стаіць боршч, а на талерцы чатыры ладных кавалкі масла і па банцы малака. Генка бярэ нож, дастае паперу і перакладае масла на яе. Ён робіць гэта моўчкі, не пазіраючы на нас. Але мы добра разумеем, дзеля каго ён кладзе масла на паперу. Нож забірае Зоя, яна падчэплівае кавалак масла і кладзе яго на тое, што ўжо ляжыць на паперы. Генка загортвае ўсе чатыры кавалкі, пачынае есці паснаваты боршч.

Потым мы ідзём па заснежаных вуліцах горада і думаем, ці хутка кончыцца вайна, ці выжывуць параненыя і што робіць зараз Ася? Мы заходзім у дзявочы пакой. Зоя ставіць перад Асяй каструлю з баршчом, а мы кладзем банкі з малаком, мяшэчкі з цукрам і масла.

— Што вы, што вы, — палохаецца Ася. — Мне ўжо і так маластоўскія дзяўчаты ўсяго пананосілі.

— Бяры, бяры і папраўляйся, — весела кажам мы. — Гэта ўсё табе. А мы сваё ў сталоўцы пакінулі.

— Ой, якія вы добрыя,— усміхаецца Ася.— Дзякуй вам.

— Нам падзяка не трэба, — кажа Генка. — Папраўляйся хутчэй. Без цябе нам у райкоме цяжкавата.

Мы стаім нейкія нялоўкія і чамусьці збянтэжаныя. Але ўсім нам хораша. У акно заглядае сонца. Зіхацяць у яго промнях марозныя ўзоры на шкле. Здаецца, што сонца ўсміхаецца нам.

# ТУТ БУДЗЕ МОЙ ДОМ

### Апавяданне

## I

На шырокай плошчы перад вакзалам ішоў мітынг у гонар будаўнікоў-добраахвотнікаў. Іх, вясковых хлопцаў і дзяўчат, якія першымі адгукнуліся на заклік камсамола, было на многа менш, чым тых, што прыйшлі сустракаць іх. Добраахвотнікі стаялі гуртам з самаробнымі куфэркамі ў руках.

Малады бялявы чалавек у вайсковай гімнасцёрцы сказаў кароткую прамову. Тыя, што прыйшлі на сустрэчу, гучна запляскалі ў далоні. Прыезджыя не апладзіравалі — замінялі ўсё тыя ж нязграбныя куфэркі. Але добраахвотнікі былі ўзрушаны: іх сустракалі, як дарагіх гасцей, падносілі кветкі, пра іх гаварылі прамовы, для іх іграў духавы аркестр. Сонца адлюстроўвалася ў зіхатлівых трубах. На станцыі весела крычалі паравозы. Было ўрачыста і велічна.

Віктар, з тае самай мінуты, як выйшаў з вагона на перон, забыўся на свае панурыя думкі. Звон медзі, бадзёрыя гукі маршу, прыветныя ўсмешкі дзяўчат і гарачыя прамовы паважаных людзей ашаломілі яго. Ён стаяў, шырока расставіўшы ногі, усміхаўся і думаў, што абавязкова калі-небудзь раскажа сваім вясковым хлопцам пра гэтую сустрэчу. А яшчэ некалькі гадзін назад ён сядзеў пануры і нават злосны на сябе за тую паспешлівасць, якую праявіў у райкоме камсамола. Тады яму хацелася паглядзець свет, павандраваць у цягніках, якія ён бачыў толькі на малюнках, пабыць у вялікім горадзе на вялікай будоўлі. Напісаўшы заяву з просьбай паслаць яго добраахвотнікам на будаўніцтва трактарнага завода, Віктар адразу адчуў сябе дарослым і сталым. Яму падабалася ўвага, што праяўлялі да яго і ў райкоме, і дома, у роднай вёсцы Чарняты. Маладзейшыя за яго хлопцы, якім яшчэ не было і шаснаццаці год, галасна зайздросцілі Віктараваму шчасцю, дзяўчаты наперабой загаварвалі з ім, а Цімохава дачка Фруза ўвесь час тулілася да яго, тужліва заглядаючы ў вочы. Але Віктар мала думаў пра Фрузу. Яму было проста прыемна.

У нейкім чадзе мінула тры дні. Толькі ў вагоне, калі чорны, мурзаты паравозік пранізліва крыкнуў і з усяе сілы тузануў састаў, Віктар адчуў, як балюча кальнула нешта ў грудзі. Паволі плылі ля акна станцыйныя збудаванні, слупы, нізкія падслепаватыя баракі, гулка ляскаталі, чокалі на стрэлках колы, і ў лад гэтаму ляскату Віктар думаў, што можа ўжо ніколі больш не ўбачыць ні гэтай станцыі, ні вёскі Чарняты, ні смяшлівай Фрузы. Ад такіх думак смутак усё больш агортваў яго. І недзе ўжо ля самага Мінска Віктарам авалодала неадчэпная думка: абавязкова вярнуцца назад, вярнуцца як можна хутчэй.





А цяпер ён забыўся на сваё рашэнне. Быццам ніколі і не думаў варочацца назад. Блага толькі, што чарняцкія хлопцы і дзяўчаты не бачаць гэтай сустрэчы. Яны тады яшчэ больш пазайздросцілі б яму!..

Пасля мітынгу хлопцы і дзяўчаты размясціліся на дзвюх трафейных аўтамашынах. Пярэдняя была ўпрыгожана маладымі бярозкамі і плакатам: «Гарачае прывітанне камсамольцам-добраахвотнікам!» Віктар першы ўзабраўся на гэтую машыну. Паставіў чамадан, абапёрся рукамі на кузаў. Яго разбірала нецярплівасць. Хацелася хутчэй трапіць на тую невядомую будоўлю, узбегчы па рыштаваннях на самы яе верх і адтуль зірнуць на незнаёмы горад.

Нехта зацягнуў песню пра партызана, што ляжыць у сырой зямлі пад ракітай. Віктар задзірліва крыкнуў на ўсю плошчу: «Паехалі, чаго там валаводзіцьі» Але ніхто не звярнуў увагі на яго крык. Маладыя, загарэлыя шафёры закурылі цыгаркі, паціху пайшлі да машын. Узабраўшыся на падножку, зазірнулі ў кузаў, потым схаваліся ў кабінах. Усё рабілі, як па камандзе.

Маторы стрэлілі дымам. Пусты, недабудаваны вакзал адказаў глухім рэхам, якое пракацілася над плошчай і змоўкла недзе ў залінейным раёне, што самотна драмаў пад гарачымі праменнямі сонца.

Услед ім дружна махалі рукамі. Машыны слізганулі ўніз па вуліцы, абмінулі руіны нейкага дома, выскачылі на брукаваны шлях. Пакрытыя бруднай камуфляжнай фарбай, дамы ашчэрваліся чорнымі праваламі вокан. То там, то тут тырчэлі абгарэлыя коміны, бэлькі і рэшткі сцен. Ад дома на гары засталася груда цэглы і лесвіца, якая паўзла ў пустое неба, быццам нейкая няўклюдная пачвара. Побач тулілася зямлянка з адным падслепаватым акном. Два тэлеграфныя слупы паваліліся на руіны дома. На ўцалелым дроце вісела бялізна, злёгку гойдалася ад ветру. Усё навокал віднелася, як у прарэджаным сякерай лесе.

Раптам за руінамі дома Віктар убачыў невялікую дзялянку жыта. Дзве жанчыны ў белых блузках, нізка прыгнуўшыся да зямлі, увішна працавалі сярпамі, потым спрытна перакідвалі цераз галаву важкія жмені збажыны. Абудзіліся ўспаміны пра родны дом. Зноў стала маркотна.

Песня адстала ад машын яшчэ там, ля вакзала. Відаць, засталася чакаць новых добраахвотнікаў. Там, на вакзале, узбуджаная сустрэчай, моладзь неяк не заўважала руін і спусташэнняў. Цяпер вясёлы настрой апаў. Добраахвотнікі крыху павесялелі толькі тады, калі машыны мінулі

чыгунку з паласатым шлагбаумам і выбіліся на шашу. Па шашы, узяўшыся за рукі, гулялі дзяўчаты. Нехта з іх кінуў у кузаў букет васількоў.

*Хлопцы раздзялілі кветкі, пазатыкалі іх у пятліцы на лацканах.* Сустрэча з дзяўчатамі кожнаму з іх нагадала вечарынкі ў родных вёсках. Але чамусьці ўспамін пра гэта не павялічыў, а разагнаў маркоту.

Наперадзе віднеўся лес, залаціліся на сонцы сосны, зелянелі калматыя яліны, а паўз чыгунку бялела лаза. Машыны скіравалі ў лес. У ім пахла смалой і чаборам. На палянцы добраахвотнікаў чакалі людзі. Машыны крута звярнулі ўбок, спыніліся.

Хлопцы першыя саскочылі на зямлю. Дзяўчаты марудзілі, заціскалі каленямі падалы, нясмела перакульваліся цераз борт. Нарэшце ўсе злезлі. Зноў пачаўся мітынг. Добраахвотнікі слухалі прамовы ўжо не так уважліва, затое гучна пляскалі ў далоні.

На ўскрайку лесу стаяла халупа-развалюха і маленькі хляўчук з плоскім дахам. На ім ляжала дзяўчына ў чырвоным купальніку, загарала. *Хлопцы штурхалі адзін аднаго, усміхаліся: не блага было б схадзіць у разведку.* Прамоўцаў ужо амаль ніхто не слухаў. Але калі на пень ускочыў рухавы маленькі чалавечак, усе несцеражыліся. Было нешта ў ім такое, што вылучала яго сярод астатніх.

— Я — інжынер. Слухай маю каманду. Зараз будзем разбіваць месца пад будучы пасёлак. Пакуль у нас нічога, як бачыце, няма. Лес. Былы Антонаўскі бор. А вы тут пабудуеце горад. Сваімі рукамі. Будаваць умееце? Не? Навучыцеся. Я вам зараз пакажу, як гэта робіцца. А-ну, у дзве шарэнгі ста-а-а-навіся...

Хлопцы і дзяўчаты тыцкаліся туды-сюды, тапталіся на месцы, штурхалі адзін аднаго. Прайшло добрых дзесяць хвілін, пакуль не абазначылася паўкругам крывая шарэнга.

— Вось тут, дзе мы цяпер стаім, — пачаў інжынер, — будзе горад. Тут мы пабудуем дамы, пракладзем вуліцы, зробім фантаны. Вы прыехалі першыя, вам і належыць пракладаць гэтыя вуліцы. Першая вуліца праляжа вось тут.

Інжынер махнуў рукой у бок чыгункі.

— Як мы яе назавём?



— Камсамольская,— выгукнула бялявая дзяўчына.

— Цудоўна! Хто за? Аднагалосна. Пачнём... Ну, вось ты, ты і ты, — ён тыцнуў пальцам у бок Віктара і яшчэ двух хлопцаў. — Бярыце дошкі і прыбівайце іх да сосен. Пішыце: «Камсамольская вуліца». Ясна. Тады за справу.

Гэта спадабалася ўсім. Хлопцы і дзяўчаты хадзілі па лесе, прыбівалі да соснаў дошкі з назвамі вуліц. Тым часам на паляну прывезлі брызентавыя палаткі і штук трыццаць жалезных ложкаў. Ставіць палаткі ніхто не ўмеў. Памагчы ўзяліся камендант, сакратар партбюро і камсорг будоўлі.

...Віктар з двума хлопцамі дайшоў да канца лесу. У іх яшчэ заставалася адна дошка. Каб не несці яе назад, Віктар пачаў прыбіваць дошку да слупа, які невядома для якой патрэбы быў укапаны тут.



— Гэй, што вы там робіце?— пачулі яны голас дзяўчыны, якая загарала на страсе хлеўчука.

— Вуліцу пракладаем, хіба не бачыш, — адказаў Віктар. — Хутка і тваю халупу разбурым, а на яе месцы новы дом збудуем...

Дзяўчына зарагатала:

— Адкуль вы такія ўзяліся?

— Гэта ўжо не твая справа, — буркнуў Сцяпан Лук'янчык, цыбаты, з маленькай галавой хлопец.

Віктар прыглядаўся да дзяўчыны. Яна ўжо накінула рабенькі халацік, сядзела, звесіўшы ногі са страхі.

— Вы хто? Добраахвотнікі? — запыталася дзяўчына і скокнула на зямлю.

— Будаўнікі мы, — адказаў Лявон Катовіч.

— Ой, смяхоцце! Якія вы будаўнікі, землякопы вы...

Яна зноў зарагатала. Хлопцы збянтэжыліся. Дзяўчына, усё яшчэ смеючыся, прапанавала:

— Ну, давайце пазнаёмімся, мурзацікі. Ці не пад вагонамі вас везлі?

Віктар раззлаваўся: нейкая дзяўчынка-беларучка, а яшчэ строіць кпіны... Сказаў, як адсек:

— Не савай свайго носа ў чужое проса. Адцяпаем.

Ён думаў, што дзяўчына пакрыўдзіцца, але яна працягнула руку Віктару.

— Мяне Ядзя завуць, а цябе як?

— Віктар, — неахвотна адказаў хлопец.

— Ой, які ты сур'ёзны, аж страшна. Пажартаваць нельга...

— Трымай свае жарты пры сабе, — сказаў Віктар. — Пойдзем, хлопцы, а то без жылля застанемся.

Яны пайшлі па вуліцы, якую толькі што праклалі.

## II

Раніцай прыйшоў лысаваты з чырвоным носам чалавек, прывёў хлопцаў на ўскраіну лесу, загадаў: «Вось адсюль і да тае сасны будзеце капаць траншэю. Шырыня — два чараны рыдлёўкі, глыбіня... хопіць аднаго. Ды глядзіце мне, не лянуйцеся...» Шморгнуўшы носам, ён падыбаў у бок вёскі.

Рыдлёўкі былі тупыя, а зямля цвёрдая, як камень. Даводзілася арудаваць ломам. Іржавая жалязяка глыбока залазіла ў гліну, глянцавалася да бляску, але памагала не надта. Затое на руках прыбаўлялася мазалёў. Далоні гарэлі, быццам іх апякла крапіва. Мазалі расціраліся аб шурпатыя чараны рыдлёвак, тады далоні прыліпалі да дрэва.

Сцяўшы зубы, Віктар працаваў моўчкі. Адломваў з гулькін нос зямлі, выкідаў з ямы. У яго балелі спіна, ногі, рукі. Цела здрантвела, здавалася цяжкім. У галаве ляніва варушыліся думкі пра дом, пра Фрузу, пра хлопцаў, якія песцяцца цяпер дзе-небудзь на полі, у засені.

Сонца прыпякала ніштавата. Хлопцы паскідалі сарочкі, абкруцілі імі галовы. Хацелася піць, але вады паблізу не было. Аблізвалі патрэсканыя вусны, ды курылі часцей, чым хацелася. Працу не спынялі. Стараліся адзін перад адным. Кожны хацеў бы адпачыць, але было няёмка прызнацца ў гэтым. Яшчэ падымуць на смех.

Абедалі тут жа. Сталоўкі яшчэ не было. З вечара ім выдалі па бляшанцы свіной тушонкі, па кавалку сала і па банцы згушчанага малака. Тады яны ўзрадаваліся такому пайку. Цяпер жа хацелася пасёрбаць чаго-небудзь гарачага. Закончылі абед хутка і зноў палезлі ў яму.

— Гэй, хто тут старшы?.. — пачулі яны чыйсьці голас. Усе, як па камандзе, перасталі капаць. Над катлаванам стаяў маленькі, рухавы інжынер, трымаючы ў руках нейкі скрутак.

— Усе старшыя, — адказалі хлопцы.

— Яно і відаць...— інжынер пхнуў нагой камень, і ў катлаван, глуха зашуршэўшы, пасыпалася зямля. — Які дурань вам загадаў тут капаць?

— Сказалі — вось і капаем, — адгукнуўся за ўсіх Віктар.

Інжынер адбегся крокаў на дзесяць, прытупнуў аб зямлю ботам.

— Вось дзе павінен быць катлаван.

Хлопцы вылазілі з ямы, штурхаліся, лаялі адзін аднаго. Вылезшы, стоўпіліся на ўзгорку свежай бурай зямлі, маўчалі. Інжынер падышоў, прысеў на камень. Сядзеў ён згорбіўшыся, як хлапчук, што нашкодзіў і сам зразумеў сваю памылку.

— Пара-адачкі! — выгукнуў нехта, і тады загаманілі ўсе, бязладна і шумна.

Інжынер прыўзняў галаву, паморшчыўся, быццам у яго ад крыку забалела галава. Хлопцы аднак не сціхлі. Тады ён ускочыў, крыкнуў на ўсю моц:

— Маўчаць!.. Чаго раскрычаліся?..

Настала цішыня. Інжынер прабегся па краі катлавана і зноў спыніўся перад хлопцамі.

— Закурыць дасцё?

Нехта працягнуў яму кісет і акуратна складзеную газету. Інжынер няўмела згортваў цыгарку, а прыкурыўшы, закашляўся. Усе зразумелі, што курыць ён не ўмее. Злосць нейк адлягла.

— Намыляць мне шыю за гэтую яму, — адкашляўшыся, пачаў ён.— Сто аб'ектаў, а я адзін. Прарабы — няўмекі. Хутчэй бы ўжо сапраўдных людзей слалі.

Цяпер хлопцы нават аднувалі сябе вінаватымі. Было шкада чалавека, які будзе мець столькі непрыемнасцей.

— Мы сюды ехалі спецыяльнасць набыць, а нас на катлаван паставілі. Такога ўгавору не было, — Віктар гаварыў, апусціўшы вочы, нібы апраўдваўся: не ён жа вінаваты ў тым, што здарылася.

— А мне будаўнікі трэба: муляры, тынкоўшчыкі, цесляры, зваршчыкі... Сталовай няма. Кантора ў бараку.

— Ды мы нічога. Так сабе...— адказаў Сцяпан Лук'янчык.— Але калі мы тут не патрэбны, дык і няма чаго галаву дурыць.

Інжынер доўга глядзеў на Сцяпана, хацеў нешта сказаць, але толькі махнуў рукой. Ён знік так жа нечакана, як і паявіўся. Хлопцы пабрылі ў палатачны гарадок. Ішлі, спрачаліся, лаялі інжынера, прараба...

— Давай драпаць адсюль, — Сцяпан Лук'янчык пацягнуў Віктара за рукаў. — Не праца, а гора.

Віктар спалохаўся, бо і ў яго толькі што ўзнікла гэтая ж думка. Але яна была не такая рэзкая, як тая, што выказаў Лук'янчык. Каб ён сказаў неяк інакш, мякчэй, Віктар, напэўна, згадзіўся б. Але Лук'янчык, відаць, не ўмеў ці не хацеў прыхарошваць тое, пра што меў намер сказаць.

— Што ты, Сцяпан! Мы ж толькі прыехалі.

— То і добра, не хопяцца адразу. А пасля позна будзе. Ну, дык як?



— Падумаю...

У палатцы стаяла гарачыня. Усё напалілася пад сонцам: брызент, ложкі, пасцель і нават зямля. Духата. Віктар дастаў чамадан, запхнуў у яго боты і чорны суконны пінжак, які перад самым ад'ездам пашыў яму Фрузін бацька. Пінжак быў звужаны ў таліі і нечым нагадваў жаночы жакет. Таму Віктар не рашаўся надзяваць яго. Саромеўся. У апошні раз Віктар надзяваў пінжак, калі хадзіў у райком камсамола па членскі білет. Тады сакратар райкома пацiскаў Віктараву руку і нешта казаў: ад хвалявання Віктар нічога не чуў. Ён толькі паўтараў: «Апраўдаю ваша давер'е. Не падвяду».

Віктар са злосцю ляпнуў крышкай чамадана, сеў на ложак, абапёрся на дужку. Уцякаць цішком было сорамна. Каб хто яшчэ адгаварваў, пераконваў, тады лягчэй было б забраць рэчы, пайсці на вакзал. Уявіў, як будуць усміхацца чарняцкія хлопцы, кпіць:

— Туды ехаў з падгопцам, а адтуль па шпалах бег.

— Хварсісты певень — першы ў хляўчук уцякае.

Віктар з усяе сілы стукнуў кулаком па жалезнай дужцы ложка. Балюча занылі мазалі. «Не паеду. Выцерплю...» — прашаптаў ён. Схапіў чамадан, пхнуў яго пад ложак.

— Ну, ты гатоў? — прасунуў у палатку галаву Лук'янчык.

Віктар вызверыўся:

— Ідзі ты...

— Ашалеў!.. Не хочаш дамоў?.. І без цябе дарогу знайду.

Віктар прамаўчаў.

## III

Працаваць было цяжка. Здрадлівая думка не пакідала Віктара. Можа і дарэмна ён тады прагнаў Сцяпана Лук'янчыка. Сорам не дым, вочы не выесць. Падбадзёрвала толькі тое, што кожны дзень у палатачны гарадок прыязджалі новыя добраахвотнікі. У лесе стала цесна, як на кірмашы. І весела. Кожны вечар наладжваліся танцы, прыязджалі артысты. Ля барака з шыльдачкай «Аддзел кадраў» стаяла чарга. Там, у цесным пакойчыку, засядала камісія. Добраахвотнікаў размяркоўвалі па ўчастках, пасылалі на вучобу ў Сталінград, на Алтай. Віктар выстаяў чаргу, зайшоў у пакой, сцягнуў з галавы шапку.

— Кавалёў? Дзе хочаш працаваць? — запытаўся камсорг будоўлі.

Віктар разгубіўся. Пра гэта ён і не думаў. Нялоўка пераступіў з нагі на нагу.

— Не ведаю. Усюды добра, абы зямлю не капаць.

Члены камісіі засмяяліся. Віктар зусім збянтэжыўся.

— А мы вось і думаем цябе пакінуць на будаўніцтве. Без фундамента, брат, і дома не бывае. А ты кажаш...

— Пішыце яго ў брыгаду да Смаляковай. Згодзен? — запытаўся лысы мужчына.

— Што я там рабіць буду? — натапырыўся Віктар.

— Дамы будаваць, жыллё.

— Ладна, пішыце... Недзе ж тут і мой дом будзе.

— Абавязкова...

Віктар надзеў шапку, пайшоў шукаць брыгаду Смаляковай. У аддзеле кадраў сказалі, што брыгада працуе за лесам. Але дзе? Ён доўга блукаў па лесе. Усюды былі катлаваны, сям-там узвышаліся ўжо сцены

будучых дамоў. Ля адной такой сцяны ў рост чалавека сядзелі дзяўчаты, абедалі.

— Дзе тут брыгада нейкай Смаляковай працуе? — запытаўся ў іх Віктар.

— Ядзя, — гукнула адна з дзяўчат, — да цябе госці.

З-за штабеля цэглы ўзнялася тая самая дзяўчына, што некалі загарала на хлеўчуку. Убачыўшы Віктара, яна ўсміхнулася:

— А-а-а, стары знаёмы. Не збег яшчэ?

Віктар пакрыўдзіўся. Не кажучы ні слова, падаў запіску.

— Да нас? Гэта добра, а то зусім хлопцаў мала, — Ядзя адразу пасур'ёзнела. Затое дзяўчаты загаманілі наперабой.

Маўклівасць Віктара толькі цешыла іх. Яны сакаталі, як тыя сарокі. Віктару хацелася цыкнуць на іх, каб змоўклі, але ён чамусьці не асмельваўся. Можа таму, што побач стаяла Ядзя і неяк прыхільна глядзела на яго.

— Дык што мне рабіць? — запытаўся Віктар.

Дзяўчаты зноў зарагаталі. Нехта прапанаваў сесці і паабедаць. Зноў выбухнуў смех.

— І чаго выскаляецеся? Я магу і ў другую брыгаду пайсці. Падумаеш...

— А ты не крыўдуй на іх. Садзіся вось. Дзяўчаты, частуйце хлопца. — Ядзя ўхапіла Віктара за руку, прымусіла сесці.

Чарнявая, худзенькая дзяўчына працягнула яму лусту хлеба. Другая, стрымліваючы ўсмешку, хутка наліла ў кубак малака, але падала яго спаважна. Віктар саромеўся есці, трымаў кубак у выцягнутай руцэ і адчуваў сябе ніякавата.

— Гэта добра, што цябе да нас прыслалі, — парушыла маўчанне Ядзя.— Я ўжо сварылася сёння ў аддзеле кадраў. Хлопцаў повен лес, а мы тут адны пакутуем. Не ўсюды дзяўчаты могуць справіцца. Асабліва на закладцы дома. Без мужчын цяжкавата. Заўтра новы дом пачынаем будаваць. Вось ранічкай і прыходзь сюды. Ды глядзі, не пазніся. У нас дысцыпліна. Мы камсамольска-маладзёжная брыгада, ясна?

— Ясна, — адказаў Віктар. — Толькі мне ў палатцы няма чаго рабіць. Цяпер ужо тут будзе мой дом.





Паэт Міхась Калачынскі нарадзіўся ў 1917 годзе ў гарадскім пасёлку Крупкі Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Служыў у радах Савецкай Арміі, дзе і застала яго Вялікая Айчынная вайна. Ён прайшоў яе ваенным журналістам.

Цяпер Міхась Іванавіч Калачынскі працуе намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

Неўзабаве выйдзе з друку новая кніга паэзіі Міхася Калачынскага. Некалькі вершаў з гэтай кнігі мы і публікуем тут.

**Міхась КАЛАЧЫНСКІ**

# ЖНІВЕНЬСКІЯ ДАЖДЖЫ



На развітанне са жніўнем  
Па скошаных поймах,  
Па жніўі  
Ідуць танканогія ліўні  
Без грому і граду.  
У водблісках радуг  
Спяшаюцца, цёплыя, знекуль,  
Каб зліцца ў азёры і рэкі  
Перад асенняю скляціцай,  
Долу аддаць,  
Што, як луб, карабаціцца,  
Пад спёкаю горбіцца  
Хмурын-прайдзісветаў вільготную даніну.  
Сказаць чалавеку:  
«Зірні, брат, што робіцца!  
Асеннім усходам вазьмі нас у займіну».  
Не сцерпіцца, мусіць,  
Ім грымнуць пры гэтым:  
«А хораша ўсё ж быць пад ліўнямі летам!»

Падзьмуць халады,  
Загудуць завірухаю.  
Долы засцелюцца снегам і скрухаю.  
Недзе ж віры, што ільдамі прыдушаны,  
Знойдуць у покрыве зімнім прадушыны,  
Глянуць азёры і чыстыя рэкі  
На свет неабсяжны, адкрыўшы павекі,  
Услых загамоняць,  
Яшчэ раз успомняць:  
«Зорны быў жнівень.  
Спорны быў лівень».

# ПОЙДЗЕМ РЭХА ШУКАЦЬ



Падымайся ранюсенька
Да зары, да зары.
Пойдзем сцежкай, Ганусенька,
У бары,
гушчары.
Пахнуць раніцай хораша
Верасы, верасы.
Лезуць плюсы-заморышы
Ля лазы
з дзеразы.
Асыпаюць арэшыны
Арахі, арахі.
Цішынёю завешаны
Бор сухі,
лес глухі.
Мабыць, рэха адбілася
Ад людзей, ад людзей,
Недзе ў пушчы згубілася,
Блудзіць дзесь
без надзей.
Уставай жа ранюсенька —
Кліча шлях, кліча шлях.
Пойдзем разам, Ганусенька,
Па барах,
гушчарах.
Пойдзем рэха шукаць,
Град арэхаў збіраць,
Дні юнацтва гукаць...

# МАТУЛЯ



Прадсвітальную зорку,
што ў акно завітала,
апярэдзіла маці,
да світанку 'шчэ ўстала,
вочы хуценька ўмыла,
падаіла карову
і даёнку павесіла
пад застрэшак дваровы.
Поўны збан сырадою
прынясла яна ў сені,
ды к сынам заглянула:
на стажарышчы ў сене
бестурботна, як дома,
спалі хлопцы —
пад раніцу
сны прыходзяць, вядома.
Блізка раніца.
Золак
косы звонка кляпае,
касьбітоў маладых
будзіць —
зорку праспалі.
Росна. Золка.
Пад поўнач
выпаў дождж насцільны.
Як ісці па траве!
Як у рукі
ўзяць пад стогам касільны?
Падышла яна моўчкі
і стаіць над сынамі,
над іх марамі,
лёсам
і світальнымі снамі,
не трывожыць любімых,
разважае употай:
напрацуюцца,
хопіць
на вяку ім турботаў.
Спяць сыны працавітыя.
Маці
сны і лёс іх вартуе...
Мусіць, сэрца такое
толькі ў роднай матулі?

# ВЕЧАРЫНКА



Добры звычай стары...
Людзі ўсталі,
Сталы
З месца ссунулі.
Цымбаліст малады
Рукі ўскінуў тады
Па-над струнамі.
Ён крадком на дзяўчат
Пaглядзеў, нібы хват,
Гукі кратае.
Выйшлі хлопцы,
Яны
Сталі ў круг не адны,
А з дзяўчатамі.
І пайшло...
Шрот-гарох
Сыпануўся з-пад ног,
Дол калоціцца.
Грае ўслых весялосць,
Скача ўспрыт маладосць —
Тэтар коціцца.
І старэйшы цясляр,
Хоць ён з выгляду стар,
Прыйшоў з вуліцы;
Не спазніўся,
Якраз
Падаспеў; ногі ў пляс
Самі сунуцца.
Расступіўся народ —
Хай ідзе пасярод,
Распаяшыцца.
Хата зноў загула.
Праца ў погул пайшла.
Эх, і пляшыцца!..

Мал. М. Савіцкага.



Іван ПТАШНІКАЎ

# ЧАКАЙ У ДАЛЁКІХ ГРЫНЯХ

**Раман**

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ДЗЕ ЛЕТА Ў ЦІХІМ ТУМАНЕ

Лес маўчаў. Маўчаў, як утопленік, як забіты.

Сонца вярнула да мурзатага небакраю і вісела цяпер там, дзе па цыбатых слупах, паласуючы сінечу, паўзлі ўгору правады. Калі глядзець ад маста туды з-пад рукі,— здасца, яны вось-вось расплавяцца, як у горане, перашчыкнуцца і падуць на пальны і свежы ад вечару дол.

Шаша, ад самага маста прамая, як напяты пас, нібы падразала лес. Удалечы блішчэла ўся: ажно пераліваласся на ёй густое вячэрняе жнівеньскае сонца.

Яна намарылася за дзень, адвірыла, адгрукала па мастах грузам і — спачывала. Здавалася, яна цяпер — а не чароды гадоў назад!— распласталася на няроўнай зямлі і, як той касец-рабачай, што змарнаваўся на сіўцы за дзень, хоча астыць, наліцца сілы.

Мо' і прынікла наваколле, каб не трывожыць таго, чые плечы так натруджаны ад свету? Цішыня вісне над дарогай, над лесам, як марыва, як тая жменька мошкі, што дрыжыць пад альшэвінай, бы пад страхою.

Ціша — ад лета, што ўсталявалася: папарыла, пагрымела навальніцамі, а цяпер утаймавалася і ад таго злагаднела. Уляглісл рвуны-вятры, схіліла на спад гарачыня, пайшлі мяккія летнія дні,

настаў жнівень, бы ў прыроду, як і ў хату, адчыніў дзверы спакойны чалавек-гаспадар.

Ісці выпадае лесам. Не мінеш. Ёсць недзе зімовая дарога цераз Брады на Рудню. Тудою мелі звычку заўжды кіравацца дзяды, калі яшчэ там тартак быў. Бліжай. А цяпер, як узвіразілася і азвярэла пераступленая плацінай рака, Брады заплылі, не пройдзеш. Ды і чаго патыкацца туды, калі бывае на вячэрнім часе і шаша аж кіпіць ад машын...

Бывае. А вось — і гуку не ўловіш. Калі Леанід зноў выбіўся на дарогу, яму насустрач з-за павароту шмыгнулі дзве легкавушкі, вёрткія, прыземістыя, шэрыя, як мышы, зусім неўзаметку, — і ўсё. Шашу нібыта вымелі; бы днём яна і не шпурляла праз свае гарбы тарахлівыя машыны-кузаўкі — туды і назад. Хоць ты вярні зноў на той благі тартак. Але мурзаецца вечар, шчэрыцца з-за абгарэлых пнёў ноч, а там балаціны, месцам трэ' дыбаць кладкамі, ды і, халера яго ведае, хоць і лета, а каб на звяр'ё не налучыць. А шаша ў цемені адсвечвае, як у поўня, бы хто па ёй расплёхаў пабелку, як па тых чалесніках у печы перад святамі.

Леанід пакідаў на абочыне аж сёмы слуп-вярстак.

Шарэла нязвыкла хутка, ведама, у лесе. Сонца — ні звання, кудысь праваліласяся; у лагчынах ля дарогі туман-паўзун лена ўкладаўся на сон на шырокае лісце альшэвін, — значыла, што надоўга, на ўсю ноч.

Туман прынёс адкульсьці гарэлае: недзе блізка курэўся торф ці стухаў пасля пастухоў на вогнішчы корч, а мо' зусім дзе ў бары гарэў лес. У сёлетнюю суш варта толькі іскру здзьмухнуць з папяросы, як шкоды не абярэшся.

Шорхае пад падэшвай жвір; цягнуцца, каб аж у вочы дастаць, халодныя альховыя дубцы, калі сцежка бывае занадта ўжо завальвае ў абочыну. Падстаў твар, — а там пад'яловец або рагач. Так, бывала, траплялася не раз. Прасадзіцца можна.

Далёка ззаду нешта загручэла, як хто кідаў з месца на месца сухое бярвенне. Пасля — завыла, аж застагнала і — зноў змерла. Якраз машына, што бярэ пад гару. Хутка там вылізнуў з-за лесу вастранькі пражэктар і стух. Тут жа.

Леанід стаў рады. Адразу ўявіўся свой двор, сеначкі. Ён адчыне іх — на парозе заклапочаная, спалоханая маці. На стале стыне бульба. Прачакаліся, знебыліся па ім...

Гул нарастаў і плыў здалёку, павольны, цягучы; мо' таму, што доўга не таяў у цішы, а мо' машын ішло шмат.

«Калона...» — першае стукнула ў галаву.

Машыны бліжэлі. Чорныя і грозныя сярод цёмнага лесу і на белай шашы, яны брылі ўсляпую — без святла.

На хвілю адпала ахвота прасіцца. Здратуюць, як выткнешся знянацку. Але ж і ўпускаць... Уперадзе столькі дарогі. На ўсю ноч.

Калону вёў нехта ці не знаёмы добра з шашою ў гэтых мясцінах. А мо' з кабіны — вунь якое харраство пусціцца сярод начы белай дарогай?..

Леаніда ўгледзелі.

Бліснулі ў пярэдняй машыны падфарнікі. Стухлі.

«Саступі з дарогі! Знайшоў з кім у жарты іграць...» — папярэджвала нечая рука.

Ён адступіў. Галасуй — не паслухаюць, бо не збаўляюць ашалелай хады. Крыку не ўчуюць: ад рэву стогне лес.

Пярэдняя абдала яго дымам і холадам. Крокаў за сотню была тарканулася: мігнуў тым месцам вішнёвы агеньчык, хліпнуў раз-другі,



знік. Як хто зацягнуўся цыгаркай і зацінуў яе ў жменю. Астатнія шыпелі, тармозячы: пад перад цямнеўся мост.

Леанід быў разгубіўся. Пасля шалёная думка кінула яго, што было сілы, да маста.

Угледзеў-такі, што ў пярэдняй у кабінцы было дзяўчо. У белым. Высунулася нават, каб пагледзець. Белавалосае, ускудлачанае ад ветру. Прывід.

«Такой, нябойсь, і месца знайшлі...»

Ён не адчуў, як хапянуўся за борт, не запамятаў, бо гэта было імгненне, якое тут жа знікла ў мінулае. Ён усведамляў толькі, што вісіць над бяздоннем, якое віхруе, цягне ў чорную прорву. Дрыжалі рукі, больш у лакцях; кідала з боку на бок, — хтось шалёна намагаўся адарваць і шпурнуць прэч. Чалавек матляўся, як бывае сноп, што выпаўзе з-пад вяроўкі на возе і толькі трымаецца недзе каласамі, а тут з усяе пруць каня калдобістым торам...

Адразу не змог ускочыць у кузаў — высока! — а цяпер трэ' было мець сілу, каб хаця ўтрымацца, не расцяць пальцы. Пачаліся калдобіны за мастом, што звалі нямецкімі: ад танкаў былі 'шчэ тыя на старой шашы. Страшэнная мука, пакута...

Шафёр зноў падналёг на газ: у вочы з кузава шпурлянула патрухай і апілкамі...

Леанід заплюшчыўся і тут жа знік у тое бяздонне, якое раней нарыхтавала свядомасць. Яму раптоўна ўдарылі пад рукі недзе знізу і выбілі з пальцаў халоднае жалеза...

Яго адкінула ўбок, паставіла на брук. Улавіўшы грунт, ён прыпаў аж да зямлі, ступіў колькі крокаў, не стрымаўся, і яго сілаю пацягнула на дол.

Адчуў толькі, як апякліся далоні аб гарачае каменне. Пасля з цёмнай яміны дыхнула ў твар штось знобкае і слізкае...

Зноў раўлі маторы, — на ўвесь лес. Доўга, без сціханага. Далёка ў цемрыве гайдалася цяжкае рэха. Злоснае, назойлівае, да хрыпаты...

Пасля наступіла ціша. Шаша зноў заснула. Гэты раз на ўсю ноч.

З'яўляецца на свет чалавек — у хаце не думаюць у той час, кім ён стане на жыцці. І калі маленькая Верачка прыбегла і прашапялявіла да Дзедзіхі: «У нас касец будзе...», то толькі таму, што дагэтуль слухала не раз такое ад яго самога. Чакаючы гэтага, Дзедзіха не разважаў і рызыкнуў пабегчы дадому.

...Белая столь, прасціна, белыя сцены, белыя — аж блішчаць! — нікеляваныя пруты ў ложку. Знямога ў грудзях, ные спіна, ломіць у крыжы. Уцярпець, не раскрыць рот... Тады б, здаецца, не крыкнула. Але ж трэба дыхаць, дыхаць. Ад гэтага лягчэе...

— Га-а-а!.. — нема, рэзка, на ўсю хату.

Адпусціла; можна папрасіць падаць у кружцы вады, каб змачыць вусны. Яны аж шорсткія, патрэскаліся недзе.

Думкі пра тое, чаго не чакала яшчэ сёння. Мо' толькі праз тыдзень. А тут...

Клятчатыя ўзоры, шэрыя палосы васмерыкоў... «А-а-а... Пасцілкі», — здагадваецца яна. Невыразная тканіна адсунулася ад запечка, напялася, задрыжала, як пад ветрам, знікла. Яе адхінула сівенькая жанчына. Акушэрка, што да вайны была. Яна ўратавала яе пры першых, незнаёмых болях.

Жвакае паясніцу, невыносна, ламотка.

«Ляцець па яе... Па тую старэнькую збавіцельку...»
Дзедзіха падступіўся да ложка, ледзь прамовіў:

— У бальніцу Анэту...

— Сю-юды... — натруджана, ціха. Льга было падумаць, што яна просіць піць. — Га-а-а! — суха, густа, натужна. Аж звініць нешта ў пароэе ад голасу...

Не адразу дзіцянё звыкаецца з новым словам. Гэта як і з чалавекам. Верачка напачатку даўгавата гаварыла — ма-ню-ня, затым — манюна, пасля ўжо — машуна і толькі нарэшце — машына. Цяпер яна захліпала і пралапатала, ціснучыся да Дзедзіхі:

— Каб на машуне па доктара...

— А дзіцятка... З мамкай дрэннага не станецца. А мы і без машыны хуценька прывязём акушэрку тую.

Ён яшчэ ўсміхнуўся і, узяўшыся за клямку, неяк плячом піхнуў дзверы.

Налета Дзедзіху — пяцьдзесят, а ён вясной сабраўся і перайшоў да Анэты, — пара была. Сям'я яго блакадай не вярнулася з Паліка. Жыў адзін. На людзях. І клопат меў за людзей, а не за сябе. Анэта заўдавела вайной, маладою 'шчэ. Была з дачкой; а цяпер ён чакаў ад яе свайго дзіцяці.

З трывогаю ў душы, не гледзячы пад ногі, кінуўся ён гародамі да свайго пляменніка і — дарма: Аркадзь не сядзеў дома.

... Зноў у белыя прасціны ўтулілася печ. Яны валакуцца па шастку, карабацяцца, пухнуць. Шарамі коцяць на падлогу. Гэта — воблакі, разбэрсаныя, раскіданыя. Як авечкі на дзядзінцы.

Поле — у жнеях. Тых процьма.

Трымціць ніткамі нагрэтае за раніцу паветра, бы там, пад лесам, снуюць кросны і нацягнулі кужаль-пражу.

Ад спякоты заходзіцца канюх, просіць піць: сасмяг угары пад сонцам. І чаго гэта там павіс, хай нырне за лес, на віры; там н'ат выкупацца можна.

Ды гэта не канюх, — ліха з ім! — то Андрэй просіць падаць вады са збана. Млосна, млява, ды вунь як мякка на душы, калі Андрэй так аддана глядзіць у вочы, ловіць спакуслівым паглядам шыю, грудзі. Неяк дрыжыш уся, не ўстоіш, не ўтрымаешся, калі прыхінаецца яго цвёрдае, угрэтае плячо. Ці не з таго і пачалося. Яна пайшла была над вечар аж туды, да павароту дарогі, у самы кут поля. Пад Гальдараду...

Але сённяшняе не ад таго дня. Усё надарылася б тады раней... Той дзень — толькі пачатак блізкай любосці.

Зноў ные над вірамі засмяглы канюх, пакрыўджана і ўтрапёна. Ён уратуе, паможа... Анэта цягнецца ўгору, дзе чарнее акравак столі, знемагаецца, апускае руку і намацвае ля сябе нешта надта знаёмае. Гэта Верачка. Яна плача.

Ноч ціхая і зусім светлая. Месяц-поўня застыў над беразнякамі. Даўно выплыў з-за лесу з туману, спаласнуўся ў расе і цяпер зблек, стаў белы. Неба шэрае, рыхлае, бы поле, што наспех узмяшалі, панавальваўшы скібаў і зацярушыўшы сівым сіпаком.

Яно сее блеклыя моракі, мякчыць душу, змушае яе дрыжаць нязвыкла з ранейшым. І дробнае тарахценне калёс, — бы хто ўсохлым дубцом водзіць па частаколе, — і густа змочаны расою кужаль-туман, — апалы на дарогу ён завалок н'ат калдобіны, што іх не відно, — і счарствелыя ад летніх вятроў беразнякі, што здалёку блякла адліваюць святлом,



і сама ноч,— вялая, зморaная, нерухомая,— усё лагодзіць душу... а зусім жа чужое.

Галіна адвалілася да ляжэйкі і ўгледзелася, шукаючы Млечны Шлях. Па ім бачаць дарогу птушкі-пералёткі, па ім не блудзяць і людзі. Ляжыць ён, стары-стары, бясконцы, нерухомы і свіціцца пырскамі з вялікага стухлага вогнішча-неба. Ён вечна зманьвае да сябе думкі. Але яго сёння цяжка распазнаць: хмары зацягваюць зоркі.

Уперадзе чорны каняка; шырокая спіна незразумелага і, відаць, не зусім далікатнага хоць і з розумам хлопца, які ўладкаваўся ўжо дапячы крыўдай; адкінутая на ляжэйку рука з белым пугоўем. Ён нават абрыд, як і ўроскідку без патрэбы хмары, як і бугрыстае сена пад плячыма, што муліць і прымушае падпірацца локцем.

— Паганяй жа, Аркадзь, ці як цябе там... — нарэшце ж нельга стрываць.— На помач спяшым, а не ў вяселле. Хаця некаторым гэта за адно — ці чалавек жэніцца ці ў болях канае.

Маўчыць. Бы не ўчуў. І толькі пасля — адказ:

— Ці не сюды вы на замужжа падаліся, раз так запелі? А я думаў, вы вёску лячыць падахвоціліся...

Яна не ўступіць...

— Ты падумай... І адкуль гэтакі выразаўся? Ашчацініўся, як звярок. Няўжо ў вас усе хлопцы дзікаватыя, як ты? Тады тут і памрэш дзеўкай...

Збянтэжыўся. Каса на камень... Што яму сказаць пасля гэтага?

— Вы рваліся? Вось вам пужка. Кабыле па хвасце, па хвасце... А я паляжу за вас, — ён адвярнуўся, пачаў уставаць. Галіна адкінулася на сена, закрыла даланёю твар, мо' каб не бачыць ні гэтага недарэку, ні блеклы месяц, які пачалі мурзаць рудыя пісягі.

Закрыла вочы, і замітусілася нядаўняе.

...Расхрысталіся дзверы, бразнуўшыся аб вушак. На парозе вырас хлопец. Высокі, русявы. Адна рука на бядры, у другой пугоўе.

— Па вас... Хутчэй. Яна недзе абрадзілася... Добры вечар. Крычыць на ўсю вёску. Барысаўна да вас паслала. З паперкай.

— Дзе гэта? — утаропілася гаспадыня. Яна як след не ўведала яшчэ кватарантку, а ўжо во як да тэй з'яўляюцца. Бяда гэта...

Ён тлумачыць. Блытае і ўдабавак саромеецца.

— Сядзь. У мяне ўсё тут. У бальніцу заязджаць не станем. — Галіна знікла ў пакойчык апранацца.

Паслухаўся. Прыткнуўся на ўслончык. Моршчыўся і закусваў тонкія вусны. Нерваваўся.

— Куды гэта патарабаніш яе ноччу, га? Яна ж нідзе нікога не ведае, дзяўчынка гэта. Учора толькі ў хату ўвалілася. Не агледзелася, — шкадуе гаспадыня. — Адкуль ты? — перапытвае.

— А ноччу яна нічога і не ўведае. З чым паедзе,



з тым і вернецца. Ды ў Закалюжжы і няма надта чаго. Я, гэта, з Закалюжжа, аж з таго канца. Вярсты з чатыры ад вашых Грынёў. Адзін жа калгас. Мы там мігам будзем. Сядзем вось так, упобачкі,— узяў ён пугоўе пад паху, — і да нашай Дзедзіхі. Яе старому шчасце, во, уваліць. Ён мне дзядзька, прыбег з цямном... Памажы, кажа, сын... Нідзе нікога не знойдзе, а сам адну кінуць баіцца. Любосць на старасці і да смерці.

— Ці можна так з хворай... Ну, дык вы ўжо глядзіце, Галіна Фёдараўна, не баўцеся,— не кідала гаспадыня.

— Нічога. Ён мяне і назад адвязе, — махнула яна на яго набітай скуранай сумкай.— Дарэчы, як жа цябе? Каб ведаць, хто першы вязе на хрэсьбіны... — глядзела яна яму ў вочы востра і таемна, бы што надумала.

— У дарозе знаёмства завядзём. Ноч вялікая. Усё адно толькі на самыя хрэсьбіны, на ранейшае не дапнём, — гаварыў ён, прапускаючы яе наперад да дзвярэй.

... Калёсы шпурляюць з боку на бок, тарахцяць; звiніць у вушшу. Ён не маніў, ён сапраўды спяшае, а марудзіў там, бо калдобіны.

Рука спаўзае па шчацэ. Галіна бачыць, як трасуцца ягоныя плечы і думае пра яго.

Самыя тыя гады, каб без гэтага не жыць. Дваццаць жа стукнула. Колькі думалася пра тое, што там за вясковыя хлопцы. Дзікія і дзівакаватыя. Пенцюхі... Ажно на табе. Самаму першаму пальца ў рот не сунь. А іх тут да гібелі, мудрэйшыя недзе ёсць. Зялёны ж ён яшчэ, дык хоць бы больш уважаўся. А сам сімпатычны. Востры з твару. Нешырокі рот. Раздвоены падбародак. Вялікія вочы і доўгія вейкі. Густабровы, хоць і белабрысы. І ўвесь акуратна скроены; відаць, вясёлы. Да такіх дзяўчаты ліпнуць. Бегае недзе паўвёскі за ім.

А яна? Галіна стала прыпамінаць, якая ж сама, і няўзнаку знайшла, што падобна на яго. Такая ж белабрыска... Усміхнулася. Толькі вось недзе перараслая гады на два.

Выехалі на перавор, і хлопец стрымаў каня. Пусціўся паціху і не думаў чапурыцца. Змоўк, аблакаціўся на ляжэйку.

— Паганяй. Прасіла ж...

— А вы цікуйце на зоркі. У горадзе вы іх не бачылі. А Дзедзіхава жонка жыва будзе. Не першы раз. Ды ў нас і свае бабкі не вымерлі. Неяк жа людзі меліся, калі і вас не было.

— Павінен ведаць. Што, у школу не хадзіў?

— Не хадзіў, а ездзіў. Дзесяць год. Во гэтай дарогай. Дык адкуль жа ведаць.

— Ты падумай... Мудрыць яшчэ.

— Не мудру. Гэта з гарадскімі гаварыць цяжка...

— Адкуль ты ўзяў горад?

— Па вачах відно. Нашы такімі вачыма на хлопцаў не зыркаюць.

— А табе нечага саромецца. Маладзён яшчэ...

— Я мог бы абразіцца за малакасоса, калі б год не нафталініў у куфры атэстат сталасці, — паказаў ён зубы, адвярнуўшыся.

У яе такі выгляд, бы нічога не ўцяміла.

— А чаму нікуды не падаваўся? Ці мо' не прайшоў?

— І не думаў. Цяпер жа стаж трэба нажыць. Вось паважу вас, завяду медыцынскага стажу і паступлю на ўрача. Без гэтага цяпер...

— Стойце! Стойце! Зорка пала...— Галіна падхапілася. — Першы раз бачу, каб такая вялікая зорка. Паўнеба зжахнула.

— Гэта спадарожнік пайшоў вакол Зямлі шнураваць.



— Ці бачыў ты яго калі...

Ён гаварыў ёй на зло, каб урэшце дапячы:

— Бачыў... Не толькі я, а і мой прычапны Перац. Так што можаце запытацца... Над гэтай самай дарогай, дзе едзем, бачылі... — тарканўў ён недзе ўгору пугоўем, бы меў намер прапароць неба.

— Ты падумай... Зноў мудрыць.

— Но-о-о!.. — хлестануў ён недзе па абочыне пугаю: ехаць яшчэ было далёка.

— Трактары-ыст... — нарэшце здумелася яна.

Ён маўчаў. Не жадаў больш гаварыць. Пра што?

Ноч не магла спаць у спакоі: яе будзілі ляскатам, доўга, несціхана.

Узняўся вецер. Яны выехалі на поле пад вёску. Туману тут не было. Ён астаўся ў лагчыне, бяліў яе і студзіў.

У хаце згусла духота. Давялося расчыніць вокны і завесіць марляю. Гэта ад мух, якія лезуць цэлай светніцай.

Чыста вымецена падлога. Пахне аерам. Ён прывяў у куце пад лавай. На стале спяшаецца будзільнік. Разбайдаваны, бразгае. На яго абвісла галінка вазона-бальзамінкі. На апырсканым вадою лісці палюе за спажываю-мухай няўклюдны рудаваты павучок-нэндза. А мо' хоча развесіць свае брыдкія сівыя кросны? Няварта тады: вазоны тут маюць догляд.

Моцна, глыбока, на ўсю хату дыхае Анэта. Аж стогне. Стрымлівае сябе, бо дома ж чужы чалавек. З-за стала, дзе Галіна, відаць Анэцін твар, зморany, з рассыпанымі па ім валасамі.

Малое не плача. Галіна добра і не ўчула ягонага крыку. Гэта хлопчык. Ладны, што камлюк. У бацькі аж барада затрэслася ад усмеху, калі ўзяў быў на рукі.

Галіна — не рада. Дзе там. Чаго тады так спяшыла? З калёс бегла ў хату. А што застала? Маленькае ў беленькіх полачках. І хворая ўпарадкавана. Ёсць на вёсках з практыкай бабкі, а гэтая недзе і медыцыну ведае, бо рабіла як след. Галіна не ўпусціла, распытала пра ўсё, бо чалавек можа калі загінуць ад якіх там няўклюдных і нявымытых рук. Прыдзецца 'шчэ наведаць сюды, як жанчына ачуняе. А цяпер дадому.

Вось і канцы турботам. Памагла, што кашы перац. Не трэба быў паратунак — бац і спаць. Бы толькі за гэтым і ехала. А думак... Першыя роды самой пераймаць. Без кансультантаў, без пабочных вачэй, якія, бывае, адным зіркам укажуць, як і што. Страх тады 'шчэ ўперадзе. А тут усё ў даброце. І дзякуй богу.

Яна расхінула пакарабачаны альбом, што трапіў пад руку — ляжаў на стале на газецінe пад скамечаным вышываным абрусікам.

Пачула Анэта:

— Гэта ад пляменніцы прынесла Верачка. Яна цікаўная...

Чужыя твары, напятыя ўсмешкі. Не вабяць.

Цэлая кіпка адкрытак, тых, што на рынках, бывае, пакамі прадаюць усякія лайдакі. Безгустоўныя, расслабленыя паставы з непісьменнымі подпісамі пад сэрцам-рэпкай з чалавечым тварам сярод. Тут і «Поздравляю с днем раждения», і «Целую тибя», і «Помню всигда», і «Не забудь миня». Усе, як адна, і адразу ж губляюцца з памяці.

Галіна перакруціла адну, кінула вачыма. Тое ж чужое сэрца, ветраныя думкі, слізкія словы:

«Дарагая Анічка!!! Пздраўляю
Цібя з Днём раждзенія!!!
Ты прыкрасна, слоўна роза...»

Пісала падруга. Цікава, што ў такія гады змогуць напісаць хлопцы? Як бы наслюнявіў той начны шарсцень?

Яна падняла яшчэ адну, дзе хлопец з дзяўчом, з вясёлымі, падобнымі тварамі, чокаліся вялізнымі адмысловымі келіхамі-вазамі. На адвароце — выпіс:

«Можа быць упірадзі будзе ноч біз зары
І не ўстрэцімся больша з табой
Вот тагда ты вазьмі і на
Фота узгляні знай што сэрцам усігда я з табой!!!»

Нельга далей тасаваць халодную калоду... Агоркла. Няўжо таму дзяўчаці бракуе сваёй душы? Дзе расла яна? Наіўная. У яе ўперадзе — не ноч без зары...

— Слюнявае скавытанне... І нашто, каб дзіця зазірала сюды...

Хлопнула кардонка-вокладка аб стол, замёр, стаіўся ў сполаху на сучку бальзамінкі павучок.

Галіна падышла да ложка і падняла на руках малое.

Яна памятала знаёмства і адразу ўспомніла яго.

Надарылася яно тады нязвыкла. Было ў ім нешта ад таго, калі людзі, не ведаючы адзін другога, шчыраць і прыяюць, бы яны даўно зрадніліся. Але такія знаёмствы хутчэй імгненныя, — вось толькі адчуваў дабрату чалавека, і яго няма: знік у грамадзе, не развітаўшыся, і таму чакаеш сустрэць ’шчэ вельмі доўга. І што перашкаджае пры гутарцы спытаць імя, адрас, — ніхто на такое не ідзе. А шкада вось.

... Горад ажыў ад рання. Паліты на зары асфальт дыхаў свежасцю, бы гэта ён і паіў прахалодаю прысады-ліпы. Мякка шумелі тралейбусы і легкавыя, напорліва бралі вуліцай туды, дзе яна лезла ўгору.

Сонца яшчэ не выблыталася з ліп у гарадскім парку, і ўсюль сеялася шэрая празрыстасць. Калі глядзець уздоўж вуліцы, дзе ўзнімаецца тэлемачта — дрыжыць, снуецца сінеча. Там стайваюць моракі далёкае начы. Неба на тым краі — густое, цяжкае. Смуга ці не ад таго, што стане летні дзень у пагодзе і гарачыні, без ветру. Смуга тчэцца і ўдалечы над рэчкаю нізка-нізка — сцелецца па вадзе, бы хто асцярожна сцягвае, апаласкаўшы, выбеленае палатно; рэдкая: яе з’ядае сонца.

У ценю пад збуялымі ад старадаўнасці клёнамі, што саступаюць аж да стромых берагоў, халадок.

Добра ісці па алеі паўз вуліцу, мінаць свежыя ад начы каменныя будынкі. Яны ’шчэ не нагрэты і мо’ ад таго пастарэлыя, цяжэйшыя.

Галіна адна. Не спяшае. Куды?.. Экзамены сплылі. Сёння будзе на дачы і ці вернецца адтуль праз лета. Мо’ аж да восені прыдзецца пакінуць той горад, дзе вырасла і выўчылася. Хаця... Яшчэ адзін год, а там нехаця расстанешся. Цяпер так.

На плошчы ў цэнтры — нікога. Яна свежая, спаласканая і ад таго



ўтульная. Задумліва, імкліва ўзіраецца ўдалеч да сонца знаёмы ўсім на зямлі чалавек з усмешкай. Вялікага роздуму... Які ён сёння прыгожы.

Знаёмая да кропель, родная плошча штораз выдае інакшаю. Гэта ад людзей і машын.

Ля помніка галубоў — што насыпана. Шызыя, белыя ў гарошак. Валюхаюцца ля кармушак. Кажуць, сама болей галубоў у Варшаве. Вось бы паехаць туды калі! І няўжо ў Маскве іх меней? Няпраўда...

З-за помніка выкаціўся хлопчык. У саламянай з брыльком кепачцы, у белым гарнітурчыку з кароценькімі штонікамі, у сандаліках басаног і — з доўгім носікам. Ад сілы гады два хлапчанятку. Растапырыў пальчыкі, прысеў, узяў ручкамі аднаго галубка, пагладзіў, пасля прыўзняўся і стаў карміць яго з далонькі. Пасля ўжо другога, трэцяга. Неўзабаўцы да яго прыскочыла цэлая гурбачка. Акружыла. Галубы ўзрадаваліся, відаць, даўно знаёмаму: лезлі на рукі, даставалі, каб сесці на плечы,— дурэлі ўжо.

Галіна стаяла і не адрывала воч.

— Нічога дзіўнага...— раптам забубніла ў яе за плячыма. — Дзецям уласціва дзяліцца да апошняга. Шчырая душа гэты хлопчык. Вырасце ў чалавека з добрым і вялікім сэрцам. Так бы ўсё яго пакаленне вырасціць сярод галубоў і такога мірнага дня. Вось вам і камунізм, і свядомасць.

Галіна ўразілася не ад слоў, што ўчула. Ёй напачатку прыдалося, што за плячыма вырас сівы прафесар-філосаф. Такі ўжо чуўся тон. Ажно яна крутнулася і ўгледзела юнака, які быў мо’ маладзей за яе. Пашукала вачыма таго мудраца і, не знайшоўшы, сказала:

— А вы не так на афарызмы, як палохаць здатны.

Хацела тут жа пайсці, але «некультурны тып» не толькі не папрасіў прабачэння, што мо’ сапсаваў ёй увесь ранак, а нават зрабіў выгляд, маўляў, не ўчуў цябе, і прадаўжаў:

— Толькі мірныя дні змогуць узгадаваць мірнага чалавека. А галубы... Пасля таго, як звілі гняздо ў каваным шлеме Марса — бога вайны...

— Не думайце, што я не чытаю газет, — бліснула яна вачыма і, падумаўшы: «Такога не адразу астудзіш», дадала:— І філасофія ваша — з барадой.

— Угадалі. Філасофія старая і для такога хлопчыка, як вунь той. Сапраўды, давайце пра дзяцей, чымся пра філасофію. Я іх вельмі люблю.

«Сам ты дзіця яшчэ, пыжышся толькі,— думала Галіна, гледзячы на незнаёмага «філосафа». — Не такі ўжо ў цябе і высокі лоб, каб абмазгоўваць што вялікае, і, — яно відаць, — не сваё выкладаеш. Позні цытатчык выразаўся...» — назвала яна яго ў думках і ўсё глядзела на яго смуглы не ад загару твар, на ладны кірпаваты нос, на востры падбародак і чорны пушок пад носам; на тое, як рассыпаліся на два бакі цёмныя густыя валасы і адтапырыліся велікаватыя вушы. «А ў яго прыгожыя зубы, шэрыя разумныя вочы і ямка на правай шчацэ»,— падумала яна ўрэшце і ўжо недзе на дне душы мела намер і пагаварыць з гэтым мудрацом,— паслухаць, што ’шчэ скажа гэтакі.

Але не мімалётныя афарызмы ўрэзаліся ёй у памяць, не ягоная хлапечая абыякавасць да сваёй нетактоўнасці, а тое, што ён расказаў ёй пазней, калі яны сядзелі на лаўцы ў глухім кутку парку пад нізкімі лапамі клёнаў, дзе і днём снаваўся мрок. Гэта была хутчэй старонка жыцця, а мо’ навела. Памяць хавала яе: яна запала ў душу, як галасы бразгушак у маленстве, срэбных, мяккіх, ад якіх выдае, бы цябе, па-

крыўджанага, нехта суцяшае і гладзіць па галоўцы. І з усім гэтым яна апавядала пра вялікую дзіцячую душу.

... — Помню, як цяпер было... — ён глядзеў за раку, дзе ўдалечы дыміліся трубы.

Танкі іх адрэзалі ад вёскі. Яны больш не адстрэльваліся. Здаліся. Усе, дваццаць два, прыкончыўшы цыбача-афіцэра, што блага лаяўся і тыкаў тупенькі вальтэрык кожнаму ў грудзі.

Іх, запыленых, прысмірэлых і на дзіва рахманых, вялі: Перапёлка — спаважны мужчына з аўтаматам і Юзік Белановіч — гадоў дваццаці хлопец у нямецкім фрэнчы і з нямецкім карабінам. Гэта ён, Юзік, падскочыў уранні па старшыню сельсавета Перапёлку — лічы ўчарашняга 'шчэ камандзіра брыгаднай разведкі катоўцаў; гэта яго, Юзіка, меліся абраць за калгаснага старшыню. Ужо два тыдні, як з'явіліся нашы танкі, бухала дзесь за самай Віліёй, і людзі нанава ладзілі калгас.

Ён, Юзік, і ўгледзеў іх першы. Праз акно. Яны, тады яшчэ жвавыя і асцярожныя, высыпалі на выганчык з балота. Улягалі за пярэднім — цыбачом, відаць, афіцэрам, што раз-поразу азіраўся, бы баючыся, каб яму не наступілі здубелай шыпаватай падэшвай на змазоленыя ад беганіны пяты. Даскочылі былі да яру, згрувасціліся на хвілю ў кучку і сыпанулі на дарогу да хат. Тады ў вёсцы ўсе сцямілі, што гэта ўзброеныя да зубоў людзі, якія ляскаюць зубамі ад голаду.

Перапёлка рушыў ім напярэймы і аўтаматнай чаргой адагнаў зноў у яр; а Юзік ужо імчаў конна ў Крашчанскі лес.

Як добра, што прыспелі танкі.

Яны, прысмірэлыя і на дзіва рахманыя, сядзелі цяпер на зямлі, усе дваццаць два. Ускудлачаныя, як сабакі пасля валтузні. Саплі. У вачах — страх і голад.

Ім уважыў Перапёлка. Хай адпачнуць, а мо' і падсілкуюцца, калі ў вёсцы знойдзецца лішні акраец хлеба. Да раёна, куды іх загадана адвесці, далёка.

Юзік быў на нагах, хадзіў ля студні, неяк усё пакратваючы плячыма, відаць, прыглядаўся — з кім бы з дваццаці двух памяняцца на фрэнчы, бо ў яго быў зусім ужо нялюдскі: зашмальцаваны, пакамечаны і велікаваты.

Перапёлка сядзеў з аўтаматам цераз плячо. Тут жа, з імі, ля гародчыка старога Тодара, адкуль праз зелень чырванелася размытае дажджамі печышча на пагарэлішчы. Пахла глінай, падгнілай бульбай і яшчэ нечым вострым і летнім — ці не потам ад зморaных людзей.

Яны, цяпер ужо зусім ціхія і абмяклыя, не варушыліся. Думалі, відаць, якая і куды чакае іх дарога, шкадавалі пуцявіны, што вялі няйнакш дадому, і якія, глядзі во, зноў адрэзаны і мо' назаўсёды... І, напэўна, праклiналі тыя, якімі ступалі сюды, у гэты край, чатыры гады раней, у сорак першы...

І толькі адзін, аброслы і ссутулены, але, відаць, яшчэ не стары, бо вочы яго не паказвалі стомы, не мог ні ўлегчыся, ні ўседзець.

Перапёлку ўзяла насцярога. Ён упіўся вачыма ў палоннага; пальцы неяк самі застрэпалі па жалезе аўтамата, там, дзе меўся быць затвор.

Аброслы і ссутулены раптам выпрастаўся, яшчэ больш скінуў з сябе гадоў і спрытна пасунуўся да гародчыка.

Астатнія ад зморы і сонца, што бралася пад паўдня, ляжалі распластаныя на зямлі, зміpыліся з лёсам, паверылі, што наступіў назаўсёды канец вайне, якая, апроч гора, нічога не прынесла, і ніхто не звяртаў увагі на тое, што сярод іх нехта адзін мае неспакой. Затое за ім стаў



сачыць ужо і Юзік, відаць, прыкмеціўшы, што гэты, неспакойны, — самы меншы ў грамадзе і зусім ягонага росту.

Перапёлка ціха шчоўкнуў затворам, — для таго аднаго, калі той пасунуўся 'шчэ раз да гародчыка, і тут жа ўчуў, што нехта за плячыма затупаў, неяк ужо вельмі асцярожна.

Аўтамат з таго, неспакойнага, павярнуў на гародчык — Перапёлка крутнуўся і ўразіўся... Там, за нахіленым, зялёным ад моху частаколам, не звяртаючы аніякай увагі на незнаёмых, зусім жа чужых людзей, тупала босымі ножкамі маленькае, ад сілы чатырохгадовае дзіцянё — дзяўчынка. Белагаловенькая, мурзаценькая, у жоўтай, расшпіленай ззаду сукеначцы.

«У яе гузік вырваўся... вунь толькі нітачка белая тырчыць, як адкусаная...» — чамусьці гэта самае першае прыйшло ў галаву Перапёлку. Ці не пра тое падумаў і палонны, які быў ужо ля самага частаколу; ён дзіўна ўсміхаўся.

Дзяўчынка не спалохалася, калі ён аклікнуў яе зусім па-руску.

«Ведаў жа, нягоднік, мову, а маўчаў. І танкістам, і нам ні ачарніў, ні абяліў пры допыце», — неяк падумаў Перапёлка.

Дзяўчынка адвярнулася, схіліла галоўку, паглядзела на незнаёмага аброслага дзядзьку і, зноў нагнуўшыся над нечым у гародчыку, спыталася, расцягваючы словы:

— Ну ча-а-го та-а-бе трэ-э-ба?..

Ён зноў па-руску загаварыў да яе.

Дзяўчынка падышла аж да частаколу, схіліла галоўку і маўчала, цярэбячы ножку ножкай. У руках у яе былі два прасначкі, тыя, што папалам з лебяды і мукі пяклі ў вайну па вёсках. Яна разламала іх — кожны на дзве долі — і прасунула рукі між частаколін. Спачатку адну, пасля другую.

— Вазьмі ўжо, вазьмі... Калі гэтак хочаш... Яны добрыя...— пасля падумала, сумелася, зірнула спалоханымі вачанятамі на Перапёлку — ён жа быў са стрэльбай! — і сказала, цяпер ужо хутчэй і заклапочана:— Што ж гэта я раблю... Мамка ж накрычыць...— Падумала, сказала яшчэ, трымаючыся маленькімі ручкамі за частаколіны і паказваючы зусім маленечкі носік: — І яму дай, а то ён мамцы скажа, што я ўсё чужым аддала. І ўсім ім дай, дай... А я яшчэ паляту вазьму са стала...

Ён пераняў тыя разламаныя прасначкі сваімі вузлаватымі, нягнуткімі пальцамі; яны дрыжалі, калі сталі выціраць вочы. Ён дзякаваў, ён не быў скупы на словы, гаварыў і гаварыў. Глядзеў на папялішча, на дзяўчынку — ці не праклінаў сябе, што 'шчэ гадзіну назад страляў з аўтамата недзе ў гэты гародчык...

За вёскай пыліла дарога. Іх, дваццаць два, вялі двое: Перапёлка і Юзік Белановіч.

Далёка на захадзе грымела. Над расцягнутымі, што сівая кудзеля, воблакамі, дзе перагнулася вясёлка, віселі чорныя самалёты.

... Яна была тады далёка. За гарамі маленства. Гэта ж колькі год... Ці не пра яе самую гэты сказ? Калі не, — то пра падлетка-аднагодку. Шмат з таго помніцца, — возьме калі ды ўсплыве. Вымыюць яго ўспаміны, як крыніцы-віры выносяць на паверхню ў паводку змытае ў пясок, сцежалелае палена-камень.

Пакідаючы маленства на ўскраіне акупаванага горада, Галіна тады бачыла і ведала немцаў. І ніводнаму яна, каб і канаў, не падала б укусіць хоць раз чаго. А ў таго дзяўчаці мо' мяккае сэрца. А можа яна не ведала, хто ёй учыніў гора?

Галіна наглядзелася і на палонных немцаў, калі тыя, як зялёныя

жукі капашыліся ў глыжах і віслі на рыштаваннях. Але то былі не такія, што бачыла тая дзяўчынка, — а накормленыя і ад таго леныя і валюхастыя. Возьме цагліну і гадзіну трымае ў руках, покуль дзе ўпарадкуе. Абы выгляд, што рукі заняты работай. І тыя людзі ніколі ў яе нічога не прасілі, калі яна бегла ля іх у школу.

І раптам рассмяялася. Ціха і шчыра, як дзяўчына смяецца ад радасці. Ён маўчаў, не ведаючы недзе, што гаварыць, бо маўчала пакуль яна, ні слова; згарнулася была нейк, змізарнела і вось — на табе! Ён не змог згадаць і стаў больш сур'ёзны, стрыманы.

— Вы чакаеце, што я пачну ляпіць філасофію з гэтага маленькага выпадку з дзяўчынкай? І смеяцеся?

— Што вы? Не-е...— здзівілася яна і крышачку адсунулася. — Я казла ўспомніла.

— Каго-каго? Якога казла?

Ён не зразумеў і сам шчыра здзівіўся.

— Ды нашага. Звычайнага... Хаця не, незвычайнага...— сказала і зноў рассмяялася. — Хочаце, раскажу. Я ж вам таксама павінна пра нешта зманіць.

— Паслухаем, што ўмее... смяюха.

Павярнулася, паглядзела, апусціла вочы:

— Не варта заўсёды так многа думаць пра сябе...

Памаўчала.

— Пра тое, як немцаў пагналі з горада, расказаць нічога не ведаю. Цэлы дзень — грукат, лязгат. Пасля выскачылі нашы танкі, людзі з кветкамі сыпанулі да салдат,— і я згубілася. Згубілася ў натоўпе, хоць ты гвалт крычы. Я ж тады была ну з тую дзяўчынку. Знайшлі мяне — казёл наш з дому прапаў. Колькі яго ад немцаў хаваць даводзілася, а тут — прыйшлі нашы, і ён знік. А такі рагаты — на ўсёй вуліцы не знойдзеш. Чую, маці на мяне наракае... Уздумала я і, нікому не кажучы, на пошукі... Як у казцы.

Дайшла да цэнтра, трамваі тады не хадзілі, вось аж сюды дадыбала, да плошчы. А людзей тут... І ўсё ваенныя, са зброяй. Пасталі адзін ля аднаго шчыльненька так, не праткнуцца нідзе. Стаялі доўга, пасля пайшлі, страляць угору надумалі. Помню, калі такое пачалося рабіцца, нейкі дзядзька з вусамі як стаў крычаць, каб я куляй дамоў ляцела, бо мне нечага тут пад нагамі ў партызан шлындацца. Хацела я ў яго пра казла спытацца, але збаялася: сярдзіты быў.

А плошча проста гудзе, «ура» крычаць, ажно стогне наўкол.

І тут я ўгледзела яго і рынулася пад ногі людзям. Мяне адразу ж злавілі і прывялі да таго ж вусатага. Прашуся, а ён трымае мяне за руку і не слухае, каманды нейкія, відно, даваў другім. А я малюся, каб пусціў, бо казла, кажу, свайго ўбачыла.

А казёл дык здурнеў зусім. Зайшоў усім наперад, задзёр галаву і дыбае, ні на кога не зважаючы. Тут такі вэрхал падняўся, а ён хоць бы тое... Ступае і ступае, барадой трасе і рагамі матляе. І толькі гэта я згледзела і аж вылупілася: і на шыі, і на рагах, і на спіне, і на хвасце ў яго бразджалі крыжыкі і ўсякія-ўсякія нямецкія ўзнагароды, — гэтак дзядзька з вусамі тлумачыў. Кажу яму, што гэта наш казёл, а ён гаворыць — гэта Гебельс здаўся партызанам, а тыя сабраліся і прывялі яго людзям паказаць.

З таго дня мы звалі свайго казла «Гебельсам».

...Цяпер ужо смяяўся і ён; нават рагатаў.

— А як жа вы яго вярнулі дамоў тады?



— А ўсё той, вусаты. Узяў яго за раменьчык, ён на раменьчыку быў, падвёў да мяне з усімі рагалькамі і гаворыць: «А цяпер глядзі яго. Гэта казёл герачны, музейны. Усе рагочуць, а казёл пазнаў мяне, заблекатаў, я і павяла яго дадому праз увесь горад.

— Ну і як запавет?

— Ды ўжо ж. Выконвалі, але не здолелі.

— Ну?.. — падняў ён бровы ў насцярозе.

— А тое, што здох наш «Гебельс» якраз на тым тыдні, як сам Гебельс згейдаўся.

— Ты скажы, га? Гістарычнае супадзенне...

Яна ўсміхнулася і зноў стала сур'ёзная:

— Шкада толькі, што не ўсе гебельсы паздыхалі тады...

— Нічога. Цяперашнія не страшны. Яны музейныя. Як ваш казёл пасля параду.

— Ага, ага... Пайду я.... Бывайце... — было відаць, як яна ўзгарэлася нечага тут жа на вачах, захвалявалася і знікла на дарожцы ў парку. Чаго і што...

І калі праз колькі хвілін яна аглянулася на знаёмае месца і нікога там не заўважыла, то падумала: «Ці не пусціўся ён даганяць?» Матнуўшы ад нейкай упартасці галавою, збочыла на людную алею і накінула на бялёсыя валасы касынку.

Успомнілася ўсё ці не ад учарашняга.

Надвечар яна вярталася з Краснага — самай далёкай вёскі ад Грынёў — ад бальніцы. Гэта добрыя чатыры кіламетры за Закалюжжам, куды завезлі яе на фурманцы.

Выпала, што не такі ўжо хворы быў той калгаснік. Летняя прастуда, грыпок, — выпіў гарачага чаю на сон і ўстанеш здаровы.

Брыгадзір, учуўшы, што яго «рабачай» не ад хваробы разнюніўся, не толькі не адпусціў каня — адвозіць доктара, — а і самога хворага хацеў успароць з пасцелі на поле. Галіна была ўзбунтавала, а затым уважыла. Уборка, конь дораг, ды і брыгадзір — стары мужчына, а так просіць; а ёй, маладой, прабегчы якія там сем-восем вёрст у такі час можна за маліну, — і яна рушыла пешкі.

Выйшла з лесу па гэты бок Закалюжжа сюды, пад Грыні, спусцілася з адхону. Невысокая, з блакітам у вачах і ўкладзенымі вакол галавы падкручанымі бялёсымі валасамі. Размахвала рукамі, спявала дзеля сябе: ці не думала пра вясёлае. А мо' была рада багатаму лету, калі гарачым днём жнівень разносіў цяпер падвячэрні водар мурагоў у ваколлі. Яна любіла кветкі і, тут, па дарозе, амаль ля кожнай спыняючыся, нешта варажыла, нагнуўшыся; у руках у яе быў невялікі букет з красак летняга лугу.



Падышла да маста праз шашу, спынілася, бо ўбачыла дзяцей. Хто яна — збоку цяжка згадаць. Настаўніца ці маладая маці — нямаведама; але з дзецьмі размінуцца не магла.

Тых чацвёра. Не. Іх — трое і адзін. Той, адзін, — з доўгай, аж да зямлі, бляшанкай, у якіх на вёсцы трымаюць гаспадыні ў студнях малако. Яна ўспомніла, што бачыла ягоную белую галоўку з-за прыдарожных лоз, калі сыходзіла ў лагчыну; ён ступаў ёй насустрач.

Ля маста яго затрымалі. Што рабілі тут тыя трое — невядома. Можа былі і з гэтай вёскі, а мо' і наадварот — з Грынёў быў той, белагаловы, — толькі тут сышліся не дружбакі.

— Глядзі!.. Белы... У смятану з галавой уваліўся... Белы-белы, белы-белы!.. — крычалі трое, штурхаючы з усіх бакоў спалоханае хлапчо.

Яны выгуквалі яшчэ, не дай бог чуць што, і ўжо адзін з тройкі, што быў кірпаты, шыракаплечы і ў саколцы-цяльняшцы, меў намер яшчэ больш пабяліць белагаловага: памыць яго малаком з бляшанкі. Было таму завадатаю ад сілы год сем, астатнім — і яшчэ меней.

— Не будзеш больш швэндаць тут!.. Не будзеш выглядаць нашы акопы! У разведку ходзіш, шпіёнскі род? Накруцім яму хвост! — шыракаплечы ў паласатай саколцы пісклявіў больш за ўсіх, відаць, уявіўшы, што перад ім на самай справе разведчык, і пачаў быў валтузіць белаголовага.

Галіна пераскочыла канаву:

— Ану, хто смелы? Адзін на адзін! Ну?! А то трое на аднаго... Ваякі!

Тройка ад нечападзёўкі адскочыла, як вераб'і ад парога, калі ляпнуць дзверы, пасля шмыгнула ў лазняк, бы яе карова языком злізала.

Шлях белагаловаму быў адкрыты, і Галіна зноў спусцілася дарогай туды, дзе раслі вербы. Ірвала з прыдарожжа васількі і рамонкі. Стала чамусьці неспакойная. Яе цягнула азірнуцца, бы хтосьці нагінаўся над ёю. Усё ж аглянулася: здалося, што між кустоў мільганула белая галоўка. Ці не той гэта цікуе?

А мо' ён усё баіцца тых? Калі ёй па дарозе, — правядзе яго.

Яна цяпер не бачыла, а неяк адчувала, што ён тут, і выйшла з ракітніку.

Белавалосы не мог сказаць ні слова. Стаяў, што вінаваты, і глядзеў ёй у вочы. У адной руцэ была бляшанка, у другой жменька званочкаў — кветак — блакітных-блакітных...

— Наце... важміце сабе... Спасіба...— нарэшце прашапялявіў ён.

— А як жа цябе зваць?— прысела яна, беручы кветкі.

— Сярожка...

У яго былі такія ж блакітныя вочы, што і палявыя званочкі.

Калі заходзіла сонца, хлапчо было на самым пагор'і, там, адкуль яна сышла, і яго добра было відаць ад шашы.

Ён абудзіў успаміны, устрывожыў душу...

... І чаму тады ў горадзе яны не спыталіся адзін пра аднаго... Адкуль ён? Сам вінават, не мог, хлопец... А што б яшчэ падумаў, каб я памкнулася... Сама не ведаючы чаму, яна стала думаць і думаць пра яго, пра сустрэчу, якая адбылася вось ужо больш як год, і пра тое, што гаварыў ён.

На дзіва, памяць добра хавала ўсё на свеце.

Шаша адгалінілася ад тракту Ілья — Барысаў за раскіданай па полі вёскай Дзераўно і вяла то камяніцай, то голым выбоістым грунтам паўз узлессе сюды, у лагчыну, каб ад маста зноў узяць крута ўгору, схінуцца ўправа і, выпрастаўшыся, легчы на самым пагор'і. Адгэтуль яна рэзала поле — пасевы — і відаць была далёка-далёка за будынкамі і хмызамі на бясконцай роўнядзі.

Шаша вяла ў Крашчанскія лясы, пад Камена — да былой пагранзаставы ў трыццаць дзевяты год, — а цяпер — у суседнюю вобласць, туды, на Ілью і Краснае. Адгэтуль, з пагор'я, скрозь відаць поле, усё ў жнівеньскай жаўцізне, з мэдлікамі, растырканымі па ржонні, і запыленымі, аж сівымі камбайнамі, што варушыліся ў ветраным бязмежжы ад рання да ночы. Адсюль льга ўгледзець, як тырчыць далёка на захадзе дзіда касцёла, — ён па той бок былой мяжы. Яго блытаеш з вострымі вярхамі елак, якія нерухома стылі бліжэй і правей яго над сінім лесам. Толькі дзіда касцёла была вострая і калючая, як шпілька, яна парола неба, а елкі лашчылі вока, адвольныя і не строгія ад прыроды.

Дарога з пагор'я кліча ў бязмежжа, нараджае думы пра веліч і нескончонасць жыцця. Вымытая на вяку буйнымі дажджамі, утрамбаваная фурманкамі і машынамі, яна адлівае адпаліраваным каменнем на сонцы; па ёй не боязна ступаць і босаму: буйны жвір і галька перамолаты даўнасцю і выдзьмуты вятрамі. Воды намылі сабе крыніц-разораў ад самага камення аж у лагчыны, папсавалі абочыны, далі турбот дзяўчатам-дарожніцам, якія мільгаюць тут сваімі ўборамі, латаючы дзірваном пясчаныя адхоны.

Прырода адарыла бальшак прысадамі.

Бярозы, разгалістыя, з дробным і мяккім лісцем, абышлі яе з лагчыны аж далёка на пагор'е.

Прыгажэй за ўсё шаша пад вечар у пагоду, калі канае дзень, нікне ў рэдкай смузе. Надвячорак патыхае свежым тарфяным вогнішчам, — гэта далёка на балотах вугліцца высахлае за лета карэнне дзікай травы і дымяцца тыднямі выветраныя стагоднія пласты лёсу. Едкі дым вісне днём у лесе між куп'я на багунах і імхах, а бліжка захад, і свежасць кранецца на поле пад вёскі,— паплыве і ён, снуючыся рэдзенькімі пісягамі. Водар яго пабівае мяккія ад блізкай начы пахі выспелай каляндры і медуніцы.

Лёгка ісці ад лесу, спускаючыся з гары, услед за сонцам аж да самых Грынёў.

Не за гарамі восень, і на рудым ілляніщчы гарцуюць шпакі; вяртлявыя, яны не маюць седні ад прадчування, калі спрадвечны інстынкт возьме ды пацягне адгэтуль у край, багаты цяпла.

Яшчэ ля імшар дастойваюць позні ячмяні. Хай толькі пабурэюць, іх адразу ж можна схіліць над сярпом.

Шаша жыве цалюткі дзень, не хоча мерці і нанач. Яе доўга мітрэнжуць машыны і жаночыя галасы. Пасля яна нікне ў спакоі аж пакуль не зрываецца вецер, каб шаптаць на сон прысадам. А тыя схінаюцца адна перад другой, каб адшумець-адвітацца нанач, а тады замруць, — іх сцінае густая жнівеньская цемень.

Ныюць, аж звіняць, тэлефонныя правады: яны вечна гамоняць з сабою. Тахкае і прарэзліва шуміць за Грынямі на рацэ калгасная лесапілка. Ды і яна аціхне к начы. Грыні заснуць, каб спачыць пасля дня ў турботах; толькі адны трактары, як жабы вясною, будуць турчэць праз усю ноч, — але гэта далёка, пад Закалюжжам.

Грыні ў яміне між пагор'яў. Злева ад шашы, за калгаснымі садамі. Невядома, хто першы з грынёўцаў прыляпіўся ў гэтым сцішным кутку

на беразе рачулкі, якая дагэтуль колькі во перасыхала і нарэшце-такі высахла зусім у гэта лета...

Калі ў вясновыя паводкі стаяць і глядзець на Грыні з шашы, — то выдае, што рэчка возьме ды разліецца, стане тут адно возера, а Грыні апынуцца спадыспаду, на дне. І праўда, магло б надарыцца так, каб рачулку не кармілі грунтовыя воды, а яна раптам прарвалася-забруіла з-пад зямлі, ды там, пад канец Грынёў, дзе могілкі і лесапілка, падвысіць плаціну.

Будынкі ў Грынях драўляныя. Новыя, зграбныя, крытыя гонтамі і траской. Гаспадары адбудаваліся пасля вайны, калі іх жыллё ў апошнюю блакаду спяклі гітлераўцы.

І калгас перагледзеў збудовы. Старшынь тут ацёрлася немнагавата, ды і цяпер грынёўцы напаткалі добрага гаспадара.

Любяць у Грынях песні і гармонік.

Эх, гармонік!.. І сам таго не ведаеш, які ты вялікі чарадзей!

Ты нават старыя ногі змушаеш вырабляць чортведама што...

Чамусьці сёння, калі чуецца гармонік, усё — і праявы лета, і рэдкія блікі зары на сконе дня, і неспадзяванкі, якія можа зычыць вечарам клуб, — патанаюць у лёгкім, незразумелым суме.

Бывае, з'явіцца спакуслівая думка, падхопіць, закруціць і панясе цябе, як вецер жменю снегу, а потым знікне. І ты прыціх, улёгся, як і той вецер. Яго як і не было, і мрой тваіх не стала.

Сумна тады, як на самоце, кепска, калі так не выйшла адразу сказаць пра сваё.

Усё адно падмывае, і не можаш змоўчаць:

— Ёсць розны сум. Ды самы недарэчны, відаць, сум па дзяўчыне...

— Што вы, Васіль Міронавіч? Сум па дзяўчыне — гэта ж каханне...— Галіна здзівілася.— Ды чаго сумаваць, калі пакахаў?

Апошнія словы бы ні да яго:

— Вось сустрэўся з вамі, колькі тут... і я засумаваў...— ён шмат чаго не дамовіў.

Іх двое. Ён — высокі, танклявы, нагінаецца, ідучы, уперад, і ад гэтага няскладны. Русагаловы, стрыжаны пад вожык, якога зачасаць уверх не ўдаецца, і ён спрабуе завярнуць валасы на правы бок. Твар круглы, нос з акулярамі і шышкай на канцы, як бульбінкай. Вочы — шэрыя, бліскучыя ад слёз. Разумныя, глыбока захаваныя пад ілбом, яны глядзяць пранікліва, з даверам. Чалавек зусім мяккай душы.

У Галіны на плячах яго пінжак, шэранькі, лёгенькі. Сама яна гарэзлівая, вяртлявая, толькі тое і вытварае, што падскоквае, сасморгвае вусікі спелай прыдарожнай мятліцы і лапоча безупынку.

Удваіх яны першы раз. Што так надарылася, віна не аднае Галіны.

Яна зайшла была з бальніцы праз вуліцу да іх на двор халоднай вады выпіць і ўбачыла гэтага доўгага, перагнутага і голага да пояса хлопца ля студні. Доўга не думаючы, узялася за яго:

— Добры дзень, гаспадар! Мыцца ля студні забараняю. Культура... Мыла расклаў з парашкамі. Нагнуўся над самай вадой. Вось дзе людскі край, які медыцына абышла...

— А гэта затое, што бальніца праз вуліцу. Ніякая хвароба да нас праз плот не пералезе. Жывём, як у бога за пазухай, каторы ўжо год. Ды і з Барысаўнай у нас ладзіцца. Скажаш — і ўжо ніводная там сястра хлоркі на двор і не пакажа.

— Значыць, калі вам Барысаўна ні разу не насыпала ў зялёны калодзеж хлоркі, дык вы зубны парашок туды? А як Барысаўна на гэта паглядзіць, калі напомніць, што яна ўрач?

— Мы ж суседзі... Знаёмы. Як вы гэтага не можаце зразумець...— ён шчыра пашкадаваў яе і амаль шапнуў: — А знаёмства на шмат што вочы зажмурвае...

— Ці не хочаце вы і са мной пазнаёміцца, каб і я зажмурылася? — яна смяялася, ён не глядзеў на яе, але адчуваў.

Ён не хацеў?.. Ды ён галаву адурыў Барысаўне. Хваліў Галіну, сарамеўся, чырванеў, спачатку намякаючы, а пасля просячы пазнаёміць іх.

А гэта і выгляду не падасць. Лапоча на чым свет стаіць. Голас звініць, нібыта струменьчыкі вадзяныя.

Мроі сталі явай. Ён быў ад радасці на сёмым небе. Ён рашыўся сказаць, каб пайсці разам у кіно, яна згадзілася і паабяцала, што зойдзе. Сама...

Ён узгарэўся. Адразу ж. Ён чуў, што для смеласці п'юць, і выпіў. Ні многа, ні мала — шкляначку. Чакаў канца дня, як стары чорт скančэння свету. Пагаліўся занадта рана, і праклятая рыжая шчацінка адскочыла за дзень. Ён зноў узяўся за брытву. Намыленага, яго і засталі дзяўчаты.

Пастукалі. Прывіталіся. Селі самі, не чакалі, пакуль запросіць, бо ён доўга яшчэ слова не сказаў. У яго затрэсліся рукі, і ён ужо не галіўся, а толькі стукаў аб стол цяжкай брытвай. Разгубіўся, бо ніяк не мог уцяміць, чаму яна не адна.

З Галінай прыйшла Нінка. Чарнявая, вастратварая. Валасы на галаве залізаны, ззаду каса ў вузле. Нінка не любіць гутаркі. Маўчыць усё, быццам выслухоўвае да макулінкі, потым засмяецца. А пачне гаварыць што, — выдае, у яе повен рот зубоў і яны не даюць ёй варочаць язык. Нінцы — пайшоў дзевятнаццаты. Яна тутэйшая. Жыве ў канцы вёскі, з маці. Пасля грынёўскай дзесяцігодкі прайшла школу медсясцёр у Ашмянах і ўжо два месяцы як стала ў бальніцу. Сёння ў яе дзень без дзяжурства, і яна вунь як рада, што Галіна Фёдараўна клікнула ў кіно. Пасябраваць яны не паспелі, нават добра не пазнаёміліся.

«Знюхаліся ўжо... — нерваваўся Васіль Міронавіч. — І чаго тая прыцяглася? Пры ёй слова не аброніш. Разявіцца і ловіць усё, а пасля плявузгаць пачне. І гэтая...— падумаў ён пра Галіну, — сведку нямую захапіла. Ці не ў страху, каб не накінуўся адразу вясковы на гарадскую...»

Настрой апаў: усё тое, чым ён жыў днём, раптам асела глыбока на спод душы. Бывае гэтак у пагодлівы дзень разгуляецца рыба, сігане з вады, бліснe ў радасці на сонцы і зноў нырне ў цёмны вір, каб супакоіцца і спачыць у звыклай чорнай глыбіні.

Кінакарціна старая, даваенная, цікавая; раней яе гналі без гуку, цяпер агучылі, — і людзей панаціскалася.

Васіль Міронавіч ачомаўся, злагаднеў, бо неяк быў заўважыў, што «бялянка», як ён зваў Галіну, прыяе яму.

Яна села поруч, з правага боку; Нінка прымасцілася за ёй. Значыць, гутарыць можна будзе толькі з «бялянкай»! І ўсё яна сама. Інакш бы...

Гукавыя апараты стаялі аж два, і яны адразу ж заглушылі людскі вэрхал, што ўзняўся быў, калі на экране закасмацілася папаха белагвардзейца. На вясковую грамаду, бывае, і двух гукавых апаратаў мала: гаманкі народ. Як пачнуць там недзе жанчыны, прымасціўшыся ззаду, перапытваць з самага пачатку: «А божачкі, чаму ж ён так?», «А куды

ён цэліў?», «А яна ж яго пацалавала...», «А чаму?». Выдае, што яны і заўтра дзе на рабоце праз увесь дзень 'шчэ будуць гаманіць «пра такую хвацкую карціну»...

На экран Васіль Міронавіч не глядзеў. Яго зноў узварушыла і нагнула да Галіны. Ён бачыў яе скронь з пасмачкай кароценькіх кудзерак, нос, што задзёрся ўгору, як у капрызнай дзяўчынкі, і вока, якое блішчэла ў цемнаце. І ён пачаў гаварыць-шаптаць. Шаптаць без спачыну. Неўзабаве ўбачыў два цьмяныя вугалькі вачэй: яна паварочвалася да яго. Ён аж млеў і ўсё шаптаў без аддухі ёй аж на самае вуха. Пра тое, што кахання зусім няма, што яно толькі вунь на экране, і калі б быў такі прыбор, то ён паказаў бы, што ў гэтым, біткам набітым клубе, ні ў кога не гарыць каханнем душа...

— Вядома, што не...— успыхнулі так блізка вугольчыкі-вочы, — бо людзі ж тут другім павінны быць заняты.

Ён не ўлавіў, што адказ быў яму, бо праг пачуць толькі тое, чаго жадаў. Ён зноў шаптаў, што каханне — здумка, бо, во, яму ўжо дваццаць чатыры, а ніхто яшчэ і не заікнуўся, што любіць яго; ён спавядаўся, што яшчэ і сам такога нікому не гаварыў, але так жадае сказаць...

Яна зноў усміхнулася.

І тады ён рашыўся. Ён жа чуў і чытаў, што спачатку адваёўваюць руку. І пачаў. Нагнуўся бліжай, паклаў левую руку ёй спачатку на плячо. Яна не варухнулася. Ён апусціў руку ніжай, патрымаў ля локця, нясмела пажмакаў яго. Яна глядзела на экран і была сур'ёзная. Ён апускаўся ніжай. Да пальчыкаў. О-о... Каб гэта можна было гэтак смела адразу ўзяць за гэтыя пальчыкі, што недзе мяккія і кволыя, сціснуць іх, стаць перабіраць

Думкі кідалі ў дрыготку.

Галіна была спакойная; пасур'ёзнела і Нінка. Ці не ўгледзела? Ліха з ёй, не страх.

Ён узяў яе ўжо за палец, указальны палец на левай руцэ. Галіна і цяпер была спакойная. Бы застыла. І бровы, і нос, і вочы, — усё нежывое. Толькі валасы на скронях ледзь прыкметна дрыжалі: яна часта дыхала.

Патрымаўшы першы раз у дваццаць чатыры гады гэтак удала дзявочы палец, ён парашыў, што ўсё вельмі проста, што можна было пачаць і з большага, — і цiснуў ёй палец мацней і не адпускаючы.

Раптам Галіна тузанула руку, выпрасталася і яшчэ больш стала сур'ёзная. У зале зарагаталі. Васіль Міронавіч аж прыгнуў доўґую шыю; але смяяліся не з яго: на экране таксама выскалялі зубы. Затое яго папрасілі «сядзець так», бо ягоная «круглая галава круціцца, як гарбуз на калку...» Ён назаляў бадай не аднаму.

Асекся? Мо' і так. Ну і дурань. Не тут трэ' было. Ды і гэта залізаная тырчыць збоку...

Шыя яго раптам выпрасталася, круглая галава зноў крутнулася, як гарбуз на калу, — ён заўважыў руку. Яе руку на ранейшым месцы! І пачалося спачатку.

Нарэшце ён зноў дабраўся да пальца. Рабіў з ім ужо, што хацеў, — рука аставалася на месцы.

Яго ахапіла радасць. Ён пачаў лавіць адзін палец, другі... Уся рука ў ягонай далоні. Ён уздыхнуў моцна і доўга, як намарыўшыся. І тады зноў хлынуў смех. Але смяяўся не зал, а толькі двое ў яго над самым вухам. Ён не ведаў чаму і разгубіўся. Апамятаўся, калі ўбачыў, што



Галіна абедзвума рукамі папраўляе кудзеркі на скронях, а ён з усяе сілы ўхапіўся за Нінчыну руку.

Ён падскочыў, як на іголках, выпрастаўся, адвярнуўся і ўставіўся на экран. Дзяўчаты доўга хіхікалі, і на іх пачалі шыкаць. Ён хацеў быў пайсці з клуба, але яго не выпусцілі.

... Так было ўчора, а сёння ён зноў з ёй. Дараваў усё, бо яна прыйшла і, нават, брывом не павяла, што ўчора такое магло адбыцца. Папрасіла паказаць дубы, што вунь з'ехалі з узгорку, вербы, што блішчалі лісцем здаля, з-пад Лавацкага саду. Ён будзе за гіда, а яна дае слова ўсё-ўсё слухаць.

Ноч зычыла холад, бо па зжатых палях за туманам ужо блізка да вёскі кралася восень. Яна 'шчэ нясмела ступала на спалавелыя летнія сцежкі, але жнівеньскія росы былі густыя, цяжкія і золкія, у паветры пахла спелымі каноплямі з гародаў.

Васіль Міронавіч быў поруч і ніяк не мог узяць Галіну пад руку. Памкнецца і назад. У горадзе, на людзях, гэта недзе звычайная рэч. А вечарам, амаль сярод лесу?.. Ды і Галіна, відаць, думала пра гэта: іх ужо былі ўгледзелі разам. А калі яшчэ і тут, то што падумаюць? Але бяды такой... Хіба яна ехала сюды, каб падладжвацца пад вясковыя норавы, дзе за ўсякай праявай дзявочага клопату ці спагады шукаюць адразу нямаведама чаго. Нават моладзь і тая шушукаецца пра такое.

Старыя дык уголас плявузгаюць. А як жа тады быць вясковым дзяўчатам і хлопцам самім? Хаця, самі робяць, самі сябе і судзяцьперасуджваюць, не вельмі разбіраючыся, хто можа быць за суддзю ў такім разе. Судзіць можа кожны, няважна, што ў яго за душой.

У Грынях шмат яшчэ чаго ў законе, і яно непакоіць дзяўчо:

— А чаму пры ўездзе ў вёску на дзядзінцы, што свінні ўспаролі, крыж новы выразаўся? І фартухоў да гібелі, вянкі з дзеразы? Куды ж тады ходзяць камсамольцы? У царкву? Чаму Сабольскі да вайны быў, як усе, а па вайне адразу ў папы падаўся? Так гаспадыня расказвала. О! Яна яшчэ многа чаго гаварыла... — Галіна настойлівая, прыдзірлівая, не адступаецца.

— А як вам адказаць? — пытае ён. — Калі ж без тлумачэння — вы не зразумееце. Тут усё зблілося-пераплялося...

— Нічога не пераплялося. Не мудрыце! Усё наверсе. Носам упрэшся.

Ён змоўк, пакрыўдзіўся.

— А я і сама ўсё скажу. І не толькі вам, Васіль Міронавіч, а, калі хочаце, і ў райкоме. Крыж новы нядаўна змудраваў нейкі Платон Джвучка, а яму за гэта зносілі бабкі грошы. І не з адной вашай вёскі. А вы, камсамольцы, што рабілі? Настаўнікі. Прапагандысты... Папоў за пазухай гадуеце.

Яго гэта збіла з панталыку. Ён спыніўся, расставіў ногі, раскрыў рот. З тыдзень як прыехала, а ўжо ўсё вясковае загінае на пальцах. І ўспела ж. Для чаго ёй?..

— Папоў у семінарыі гадуюць. А яны не забаронены. Трэба знаць.

— Не ў дзетсадзе ж... І без вас ведаю...

— Вось што значыць стаць да Пракурорыхі на кватэру...— толькі і змог ён яшчэ адказаць. — Але ж і яна сама грошы ўсундычыла...

— Гэта што мяне не было. А вы, вы што зрабілі? Добра ведаю, калі б Пракурорыху настроіў супроць Джвучкі, не ўпрыгожвала б вёску афарбаванае палена.

— Давайце пойдзем ды вывернем, калі так... Гм? — У голасе Васіля Міронавіча было запытанне — што ж на самай справе зрабіць — і з'едлівасць — знайшлася дзяячка, падумаеш...

— Не цяпер такое вытвараць. Вывернуць крыж — для некаторых нутро крануць. А я чужы чалавек у вас, куды мне такое. Ды і паставяць новы. Разумная рада...

— Галіна Фёдараўна, я сам б'юся, як рыбка аб лёд, кожны раз перад людзьмі. Пра гэта ж, пра гэта талкую...

— І яны рагочуць, як учора ў кіно, ці маўчаць? Хутчэй недзе зусім не слухаюць. Так?

— А што б вы запелі? — ён зноў пакрыўдзіўся.

— А ці прыйшло вам калі ў галаву агітаваць папоў? Што гледзіцё? Папоў, кажу. Каб яны самі рызы здзіралі. Многа ўжо і такіх было. Ад царквы тады пасыплюцца...

— Гм... Але не ўсякі адмовіцца. Бо дзе знойдзеш такі дурны заработак? Ну добра, няхай... Затым жа... на месца аднаго прышлюць другога. У нас былі хатавецкага папка разбілі ў газеце... Вы не ведаеце? Ну, што ён п'е, да баб ходзіць. Не па пісанню жыве. Факты — во! І што? Сінод праверыў, не гэта яшчэ наверх усплыло, і вышкурыў таго п'яніцу з царквы... — Васіль Міронавіч думаў, што Галіна ўхопіцца за гэта і дасць волю языку, але яна чакала, і ён прадаўжаў:— А на яго месца новага прыслаў. Попік — во! Пальчыкі абліжаш, як у нас тут адзін гаворыць. Малады такі попік, у камсамоле б яшчэ быў, каб рызу не надзеў. Не п'е. Прыгожы. Вытрыманы. Голас добры. Ад таго адхлынуў быў народ, а да гэтага зноў гужам...

— Ты падумай... Вось каб іменна гэты адрокся. Такога распрапагандаваць вунь як трэба. Малады ён? Мо' і нежанаты?

— Папы ж жэняцца. Ёсць у яго матухна. З сабою прывёз. Спявае ў царкве і хорам кіруе. Рэгентша.

— Ты падумай... Да гэтага, відаць, не падступішся. А вось да вашага Сабольскага можна.

— У Сабольскага таксама матухна, і сам ён стары ўжо. Ды і зарабляе нягорш. Моліцца ж на два прыходы. У грынёўскім і краснянскім. Капліца там, крыж, фэсты бываюць. І матухна ў яго за псаломшчыцу. Заўсёды ўдваіх. На веласіпедах з царквы ў царкву. Абое.

— Затое ў Сабольскага «гераічнае» мінулае. На яго націснуць...— Галіна ўсміхнулася. — Ён жа ў вайну, гаспадыня расказвала, на аперацыі выходзіў. Карове абуе лапці на заднія ногі і марш з хлева. А ты шукай яе... — Галіна засмяялася, паказаў зубы і Васіль Міронавіч.

— Ён яшчэ не гэта вытвараў.. Толькі некаторыя нашы забыліся пра тое, за выдумку лічаць. І царкву яму адрамантавалі. Сваімі траячкамі. Вы не бачылі яго?

— Адкуль? Але ўбачу. І пагавару. Моцна пагавару. Ніколі мне яшчэ не трапляліся папы...

Гутарка абарвалася. Галіна схапіла Васіля Міронавіча пад руку і пацягла недзе ўніз з дарогі. Па гліне, па камені... Ён ад знячэўку паляцеў бы потырч, каб не падтрымала яна.

Унізе быў халадок, бо туман снаваў у зеляніне свае сівыя кросны.

Яны спыніліся. Стала ціха. Шуршэў угары жвір, ён сыпаўся ўслед.

— Чулі? Тут недзе...

Ён нічога не чуў і вінавата глядзеў ёй у вочы.

— Сю-ю-ды-ы!.. Г-а-а... Во табе, во! Сю...— голас дзявочы, спалоханы, рэзкі.



Нехта валтузіўся і задыхаўся. Недалёка, праз кусты, пад вёску.

Галіна знянацку скінула з сабе пінжак і знікла ў альшэўніку. Мякка зашамацела мокрае лісце, і зноў усё сціхла. Сагнуўшыся паднімаць пінжак, Васіль Міронавіч учуў яшчэ, што булькоча па камені рачулка. Потым уперадзе прарэзаліся злосныя галасы, але ён нічога не разабраў. Толькі ж там была Галіна, і ён, згорбіўшыся, падыбаў у росны альшэўнік.

Выскачыўшы на палянку, ён заўважыў, што Галіна стаіць на самай беражніцы, а да яе падступаецца ўскудлачаны Раман Пэрац. Угледзеўшы Васіля Міронавіча, ён крутнуўся ад Галіны і падаўся яму насустрач. Параўняўшыся з ім, падмігнуў:

— Мне не ўдалося. Абсалютна. Паспрабуй, мо' ў цябе выгарыць на гэтай бугрыне... Хаця тут не вельмі і суха... — ён аблапіў, мусіць, мокрыя штаны і нехаця паклыпаў беражніцай недзе пад гароды.

Васіль Міронавіч не ведаў, што казаць. Маўчала і Галіна. Яны былі насупраць адзін аднаго, крокаў за пяць. Пасярод іх на прытаптанай траве ляжала беленькая касынка з завязанымі ражкамі. Галіна нагнулася і падняла яе:

— Правядзіце мяне дамоў. Гэта чорт ведама што...

Вароты цяжка было адчыніць. Прыйшлося падняць іх нагой, каб кручок выскачыў з прабою. Скрып абудзіў двор, рэзкі, з ляскатам, разлёгся па вуліцы. Было чуваць праз акно, як нехта ў хаце павярнуўся на ложку, відаць, маці злезла долкі і паглядзела ў шыбіну: яна чакала яго. Але добра, што ніхто не выйшаў.

Месяц, вышчарблены тупым нажом спелы гарбуз, хаваўся ў лісці маладога дубка ля вуліцы. Ад яго святла быў рабы частакол, у жоўтых латках; двор, выдавала, усыпаны аўсянай мякінай.

Леанід перачакаў, стоячы ля вушака, і прашмыгнуў паўз акно. Пастаяў ля ганка, услухаўся ў заціш на вёсцы і апусціўся на парог.

У канцы двара шарэўся хлеў. Запёрты на клямку. Светла, — і яна, чорная, добра відна здалёку. Можна ўгледзець і шчыліны ад патрэсканых у дзвярах дошак — цёмныя палосы.

Плоту ад поля не відаць. Схаваўся ў дзядах і шчавук. За імі буяла бульбоўнікам позняя калгасная бульба-сібірка.

Ціха, без ветру. Неба на ўсходзе цёмнае, зліваецца з лесам. Там толькі ў адным месцы ўсталі два белыя шырокія слупы; пазней хлыне зара.

Уверсе, над дваром, неба празрыстае. Паблекла ад месяца Вялікая Мядзведзіца. Яе цяжка было б знайсці, каб не помнілася, што такой парою яна паказвае рогам якраз на тын ля хлева ад вуліцы.

На месяц наплываюць доўгія белыя палосы. Іх нехта цягне з захаду на ўвесь край неба. Над хатай яны кудзеляцца, расплываюцца, як белыя гусі на віры, а туды, на гумны і сад, яны — доўгія і роўныя, як расцягнутае палатно.

На двары раса. Свежа. Пахнуць з гародчыка агуркі і спелая каляндра. Зацвіла позняя сёлета вяргіня, і яе галоўкі-кветкі чарнеюцца над частаколам.

За плечы лезе холад. Цягне на сон. Ные рука, бярэ сверб, выдае, нехта круціць яе свердлам ля локця. Шчыміць барада, дзе ссадзіў скуру. Памацаць пальцамі — здаецца, прыгаілася. Але ж не паказвацца з такім гузаком ноччу ў хату.

Дзверы ў хлеў адчыніліся яшчэ цяжэй. Яны, як прыстылі, і іх трэ' было аддзерці. Добра, што да сена была прыстаўлена хоць пакалечаная драбінка ад калёс. Леанід падняўся па ёй — зашумела і затрашчала падыспадам іржышча, якім быў закіданы мурог з аселіцы. Услухаўся. Нешта ў сене запішчала, манатонна, праціўна, просячыся на свет і волю. Памроілася — равуць машыны. Страсянула. Ён апусціўся ніжай. Зноў зашуршала салома і аж застагнала ні то кузурка, ні то прыбітая мыш. Ісці ў хату? Не. Ніякай халеры тут няма. Леанід падтрымаў хворую руку, узлез на сена і пачаў, сагнуўшыся, вобмацкам выбіраць, дзе зручней прымасціцца.

Сена стаяла ворахам. Ля сцяны ён праваліўся ў яміну аж па пояс; там і застаўся, прылёг, адсунуўшы ад вачэй калючую салому, суцішыўся. Унізе, пад плячмі, трашчала, злягаючыся, іржышча. Лускалася, доўга і насцярожана, як бывае лускае ўвосень струкамі на полі пераспелы, сухі лубін.

Сціхла салома — заныла муха. Гэта яна пішчала, просячыся, бо трапіла ў павуцінне-пастку і не пад саломай, а пад самай страхой, угары. Чула сваю блізкую гібель.

Закудахталі за тынком куры, рэдзенька, спалохана. Заціўкалі, збедніўшыся, вераб'і: ім не давалі спаць у леташнім ластаўчыным гняздзе.

Пахла дурнап'янам, васількамі, усякай гавылой, што расце на гумнішчах. Праз шчыліны ў драніцы цадзілася блеклае святло, шукала твар; прыйшлося абараніцца жменяй сена.

Заплюшчыліся на хвілю вочы, — і зноў зараўлі машыны. Заляпалі жалезам па камені і выбоях. Леанід ускочыў, адкінуў ад сябе сена. З фермы некуды памчаў калгасны газік. З вуліцы прынесла густы бензінавы гар з пылам. Запяршыла ў горле.

Леанід зашыўся глыбей. Доўга яшчэ ў вушшу нылі і раўлі матоpы. Пасля на ўсю моц зверашчала муха, рванула недзе ліпкую і брыдкую павуціну, зазумела, шаснула ў сена ля самай галавы, — і ўсё сціхла...

Леанід не паказваўся нікому на вочы ў вёсцы. Заклейваў паперай бараду, змочваў у настойцы мяккую анучку і перавязваў локаць, — аж да касці аб брук счасаў яго, і цяпер той аніяк не хацеў гаіцца. Загніўся і пачаў цячы. А Леанід упарта не ішоў у амбулаторыю: ён жа супакоіў тады ўранні маці, вылезшы з хлева, як рыштант які, што сур'ёзнага нічога няма.

Але ўчора надвячоркам, калі на двары на агні гатавалася ў гаршчочку маладая бульба на вячэру, Леанід узабраўся ля студні на плот і стаў пагойдвацца, гледзячы ў агонь і думаючы, што хутка канец канікулам-практыцы, бо вунь якія ўжо ладныя жалуды на дубе. Якраз як летась перад ад'ездам.

— Лёня!.. Ганяй коз. Цяпер і козы грамаце навучыліся. Газеты рвуць... Вунь пошта ў варотах тырчыць. — Гэта ішла з гароду маці з ахапкам кропу: гуркі збіралася сёння пасаліць.

Леанід гушкануўся, каб саскочыць, і апамятаўся на зямлі. Нехта як тапаром сакануў па лакці; падаючы, Леанід абапёрся на яго. Стала горача і млосна. Па пальцах цякла кроў. Ён падняўся і, сцяўшы зубы, разагнуў руку. Стаяў, як укапаны, не ведаў, што рабіць; кроў капала на жвір. Пасля пачаў сцягваць з сябе кашулю. За гэтым яго застала маці і пачала гнаць у бальніцу. Ён абмыўся, апрануў чыстую сарочку, пайшоў да варот, узяў пад паху газеты, адлучыў «раёнку» і пачаў разглядаць. Маці накінулася зноў. Ён сказаў тады, што нікуды сёння не кранецца людзей трывожыць, позна ўжо: вось газеты прынеслі, у «раёнцы» ёсць яго фельетон пра Рамана Пэрца, а рука ўсё адно не загоіцца за ноч, заўтра сходзіцца ў бальніцу.



— Які гэта такі твой філітон у газеце выйшаў?— здрыганулася маці, і Леанід, прыткнуўшыся на калодачку ля агню, прачытаў ёй усё — спачатку да канца.

— І падпісалі, як прасіў, і загаловак такі ж...

— А як падпісалі?

— Гэ Леанідаў. Псеўданім, значыць. Гэта я, Леанід Гаўрылаў. А перакручана, каб не кожны дайшоў. Не трэба гэта.

Яна лавіла толькі пятае праз дзесятае. Так вось, сёе-тое:

...«Пляснівы грыб — Раманька...

— Раманька, сыночак... Ідзі есцікі, астыніць жа, — прасіла Ганнулька, калі сын што меў сілы крычаў на ложку.

— Не пайду і ўсё!.. Ідзі к чорту, старая!

— Чаму ж не пойдзеш... Я ж смачна старалася. Яечка... — падступалася Ганнулька да ложка.

— У школу, сказаў, не пайду і ўсё! Крышка!

— Раманька, сыночак... Я цябе дзеды-бабы аж за мост занясу. Ідзі, сынок. Усе ж ходзяць.

І яна несла яго за мост да школы. Ён скавытаў і брыкаў за плячыма.

Такім макарам ён хадзіў тры гады ў трэці клас і не перайшоў.

Мінаюць гады — сталеюць капрызы. Хлопец падрос, вяртаўся дадому з вечарынак п'янюсенькі і вёў да сябе паіць усю вёску.

...А было, як ён бушаваў на вяселлі. За маршалка ж сядзеў. Уміг быў перавярнуў сталы і пагнаў людзей на вуліцу. Вырваўся і сам, што раз'юшаны бугай. Азірнуўся — старэйшыя схінуліся. Заскрыгатаў зубамі, ухапіў з дрывотні палена і ўлёг за дзяўчатамі, разганяючы тых па задворках. Убачыў, што ніхто ілба не падстаўляе, — і пайшоў на хітрасць. Кінуў палена вобземлю, жыўцом распалацаваў на грудзях сарочку і пусціўся на чым свет стаіць да ракі.

Стаяла восень. На дварэ браўся мароз.

— А-вай... Ратуйце!.. Утопіцца... Захлынецца...

Скруцілі яго, калі ён змогся і скрываві ў не аднаго.

Здаўна запомнілі такога Раманьку. Які быў, такі і застаўся. Ды не. Шмат пасталеў. Зусім мужчына. І гарэлкі бярэ больш.





— Напляваць мне на ўсіх! Я цяпер не той. Пабачыў, нагледзеўся (на торф быў завербаваўся на шэсць месяцаў!), — выхваляўся ён, калі адбірала галаву. — У мяне мо' тры жонкі былі: у Смалявічах, у Мінску і яшчэ... Я знаю дзе, а тут халасты... Самагонкі!

У тую нядзелю ён уваліўся на калгасную вечарынку. Набраўся, як курыца вады: кумам быў на хрэсьбінах (важная асоба!).

— Бар-р-рыню! Мне!— загарлапаніў на ўсё хату.— Музыка калгасны — дармовы!

— Сядзь! Пятнаццаць сутак захацеў? — пераступіў яму хату Аркадзь Дышлевіч.

— А-а... ты, кера, так!.. — ён лапнуў Аркадзя загрудкі і замахнуўся.

Яго скруцілі і выцяглі на двор.

— Мне гразяць такія... С-сукі! — і ён у абедзве рукі рвануў частаколіну.

Як на агонь, усе кінуліся на яго.

— Шчаняты! Пешкі! Адпомшчу!

Цяпер Раманьку пераваліла за дваццаць. Працуе ён за прычапнога і хоча, каб яго звалі Аляксандравічам. Але яго клічуць «Раманька — пляснівы грыб».

— І ты гэта сам саставіў такую стацейку на Пэрцавага хлопца? Дай сюды газету! — перабіла яго маці і падступілася бліжай.

— Сам. А што? Такое ж было, — прыціх Леанід.

«І нашто чытаў. Хай бы маці ад людзей пачула».

— Што ж гэта будзе, Лёнька? — у яе вачах ажыў страх і клопат.— Ён жа цяпер заб'е цябе, падзямельнік той...

— Нічога не будзе. Ніхто нікога не заб'е...— падняўся ён з калодачкі.

Маці скамечыла газету і шпурнула ў агонь:

— Каб і вочы не відзілі і вушы не чулі.

Каму даводзілася бачыць, як вылазіць з зямлі пчала? Спачатку яе не відно, толькі чуецца ціхенька: «Мц... мц... мц...» Пасля з'явіцца галоўка, і вось пчолка раптам запішчыць-заіграе, закружыцца, затрымціць ля выгладжанай норкі і, як тая страла, чыркне ў паветра. Здаецца, канцы ёй, прапала... А міне час, яна зноў заплача над норкай, хуценька і асцярожна хаваючыся з воч. І адразу пазнаеш — гэта тая! Тая пчолка, што сіганула была ў белы свет.

Так і Леанід пазнаў яе, калі раніцай, роўна ў дзевяць, адчыніў дзверы ў амбулаторыю. Пазнаў і паверыў. Ці не ўспомніла і яна яго, бо прывіталася спалохана, вочы яе пасталі, зрабіліся вялікія, пасля перавялі яго з ног да галавы і заміргалі хутка-хутка. Ён не адыходзіў ад парога, а яна тапталася нечага ля двух маленькіх столікаў, уся ў белым, пачырванелая з твару, і нічога не гаварыла.

Нарэшце яны зразумелі, што хоць і адны ў пакоі, але тут не месца для другіх размоў, і самі пайшлі насустрач адно другому. Ён адышоўся ад парога, паказаў здаровай рукой на твар, пакратаў за бараду і закасаў рукаво на хворай руцэ. Яна зацягнула тужэй на галаве кавалак марлі, перанесла з аднаго століка на другі, бліжэй да Леаніда, бінт, жмуток ваты, маленькую бутэлечку ці не з ёдам, падсунула на край шчыпчыкі, пераставіла з акна спіртоўку. Разняла шпрыц, пачакала, потым стала мыць спіртам рукі.

Адчыніліся дзверы, зайшла ўрач Барысаўна, як яе ўсе клікалі па вёсках, высокая і тонкая, 'шчэ дзяўчына год за трыццаць, цёмнавалосая, цямнейшая з твару за Галіну. Прывіталася сур'ёзна, сказала нешта палатыні, Леанід не зразумеў што, забрала сваю тоўстую сумку-партфель і выйшла. Леанід зірнуў услед ёй у акно. На вуліцы ўнурыўся бальнічны конь. Значыць, выезд з самай раніцы. Барысаўна любіла раз'езды.

Галіна 'шчэ больш збянтэжылася, быццам урач магла ведаць, што гэта за пабіты хлопец тырчыць тут.

Леанід апусціў галаву і маўчаў. Чаго ён не чакаў, дык не чакаў. Чуў, што новая акушэрка прыехала і швэндаецца ўжо з настаўнікам, але ж не ведаў хто.

Яна сказала сесці, наблізілася да яго, асцярожна ўзяла за галаву, падняла. Ён рашыўся быў зірнуць ёй у вочы, але яна глядзела яму на бараду, і ён убачыў толькі вейкі і радзімку на правай шчацэ ля вока, якой раней мо' і не было. Твар яе пакруглеў, памажнела шыя,— дзяўчына пасталела.

Пачала з барады. Атрымалася ў яе спрытна і хутка. Спачатку прамыла струп, пасля прысыпала і паклала пластыр. З локцем валаводзілася даўжэй, моршчылася і жмурылася. Два разы паварочвала яго да акна на святло. Рука ўспухла і пасінела. Галіна зрабіла ўкол вышэй локця, — Леанід не ўчуў болю, — убінтавала. І ўсё моўчкі, не гледзячы на яго. Пасля адышлася і стала ля акна, — маўляў, можаш ісці сабе памаленьку. Думала толькі так, а сказаць не магла. Ушылася ў падваконне і ўсё.

Ён падняўся і ступіў да парога. Узяўся за клямку. Тут яны сустрэліся вачыма другі раз. У яе позірку — недаўменне, цікавасць і прага ведаць пра ўсё, але гэта хаваецца недзе за насцярогай, баязлівасцю. Вочы стараюцца хутчэй схавацца.

— Дзякуй. Цяпер веру, што застануся жыць...— ён памаўчаў і дадаў: — Вечарам у дзевяць ля мосціка ля вас я вас убачу?.. Яшчэ не цёмна будзе, не бойцеся...— Пасля асцярожна заскрыпеў дзвярыма. Выйшаў і, каб не паказацца ў акно, падаўся на гароды, праз гумны. Тут бліжэй да дому.

«Ён. Але як змяніўся голас. Хаця даўно было. І чаго я атарапела? І што з ім? Як гэта ён? Дзе? Значыць, ён тады пра Грыні расказваў. І як яго завуць не спытала. Каго ж у кнігу запісаць? І рука ў яго такая хворая. Валасы ўсё тыя ж. Густыя і чорныя. Ускудлачыліся, няма як, відаць, расчэсваць. І што ён сказаў напасля? І ці меў права?»

Колькі думак можа абудзіць часам адно толькі з'яўленне чалавека...

Галіна не магла спакойна аглядаць бабулек, якія «з пасцілкамі ішлі на ферму на работу — лубін сушыць з камбайна — і зайшлі да дакторкі падлячыцца». І не хутка яны пойдуць. Мала памазаць «масцямі», а і з сабой трэба выпісаць, ды расталкаваць, якія «масці» і парашкі ад якой халеры, а ці «добрая» гэта хвароба, каб хаця не «дрэнная», а «калі, божачка, на яе канцы прыйдуць»,— і так з кожнай. А хацелася застацца адной.

— Добры вечар...

— А я вас адразу пазнала. Добры вечар.

— Вы здзіўлены, што я калека стаў. Зрабіце вывады: у атамны век асцерагайся і качаргі, бо яна ў любы час жадае апусціцца табе на лоб. Ноччу з тыдзень назад я з ёй не размінуўся. Давайце сыйдзем куды з маста, калі вы нічога не маеце...

— Пабудзем на вуліцы. Я 'шчэ не ўсё ведаю.

— Калі з такім калекам зручна...
— Плеціцё пустое... Я ж доктар, хто вас лечыць. А па-другое, каго апасаецеся? Маці? Злоснай Гаўрыліхі?
— Вы знаёмы?
— Не. Вы пазнаёмілі мяне, Леанід Іванавіч... — у голасе дакор.
— Ці не тады, як вы былі збеглі? Я думаў, назаўсёды прапалі.
Яны ішлі вуліцай, і Галіна аж спынілася, відаць, ёй закарцела сказаць злоснае, ды ўсюды людзі, павыходзілі, во, на лавачкі і зыркаюць: кожнае слова ловяць, вушы развесіўшы.
— А я тады ўзлаваўся на вас.
— А чаго? Добра ведаю, праветрыцца выйшлі пасля канспектаў і парашылі з першай жа...
— Угадалі. Толькі не ад канспектаў. Тэзісы лекцыі рыхтаваў. Супроць бога і алкаголю. Сёлета практыка апроч канікул, часу шмат, а лекцыі...
— Супроць Джвучкі і Выжлятніка, выходзіць, ваюеце. Яны ў вас багі! І гоняць і пераганяюць. Чаго не робяць! І не адны.
— Джвучку лекцыяй перавыхаваеш? Той хоць бы хны. Чакай, пакуль прыйдзе. Ды многія так.
— А як жа?.. — яна не дагаварыла, задумалася.
— А я хоць і пяці чалавекам чытаць буду. Ад «а» да «я». Затое на каханні душу адвяду. Гэта слухаюць! Нават дзетвара і тая лезе, што мухі ў банку.
— А-а-а... Значыць, на каханні душу адводзіце? А супроць перажыткаў між іншым чытаеце? Для ідэйнасці?
— Чакайце. Не загаварвайцеся. А калі на тое пайшло, то і каханне бывае ідэйнае і безідэйнае.
— Цікава-а... Што гэта за ідэйнае каханне і што гэта за безідэйнае? — яна аж засмяялася.
— А спытайце ў Васіля Міронавіча...
Яе як варам абліло. Але змоўчала і цяпер маўчала. Зазлавала. Бо не ступала, а падскоквала, гатовая вось-вось шмыгнуць на любы падворак.
— Я выйшла да вас, шаноўны філосаф, таму што дурасць упарола, а не для таго, каб цярпець абразы...— яна не ўтрывала нарэшце. У голасе было столькі смутку і крыўды, што Леанід тут жа ўзяў яе пад руку:
— Я не хацеў пакрыўдзіць. Гэта, калі хочаце ведаць...
— Не трэба. Сама захацела. Першая пачала. А прабачэнні пакіньце для Васіля Міронавіча.
— Не пакрыўдзіцца... Мы разам у сямігодцы на адной парце штаны рвалі. Ён добры сябра і вялікі цяльпук.
— А вам не хапае культуры. Дзе вы займаецеся, я так і не зразумею. На філасофскім?
— Скажу-скажу... О-о-о... Вы і не ведаеце? Філасофскага аддзялення ў нашым універсітэце няма. Закрылі. Філосафаў шмат расплодзілася. Пераводзіліся ў нас куды хто. У асноўным на гістарычны падаваліся.
— Вы гісторык? Не падобна.
— Ні ў якім разе. Журналіст.
— Я-ткі тое... Пісьменнік, значыць. Падобна.
— Ні ў якім разе. Не блытайце. Вялікая розніца. І падаўся я на журналістыку, каб перашарсціць профіль. І выпадак зручны.
Яна паглядзела на яго.



— Сціпласць і ў наш век упрыгожвае чалавека... Ну вось і дазналася нарэшце.
Яны доўга маўчалі. Яму выпадала вітацца з кожным сустрэчным. Яна не стрывала:
— Дрэнна, калі шмат знаёмых. Яны адбіраюць субяседніка. Усе так раскланьваюцца, што...
— Гэта, што вы побач. У нашай вёсцы здароўкаюцца толькі з чужымі.
— Тады мо' мне і не радніцца тут?
— Дарэчы, як вы ўладкаваліся? Не сумуеце?
— Галіна Фёдараўна не сумуе ніколі. А вы і не ведаеце, што мяне так завуць?
— Новы чалавек у вёсцы — белая птушка. Назаўтра ж яе ўсе пагля-дзяць, да аднаго. А Пракурорыха расплявузгае кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму пра ўсё на свеце. Вас яна хваліць. З яе лёгкай рукі вас усе на вёсцы завуць толькі Галінай Фёдараўнай.
— Гэта не цікава. І для філосафа — дробязь.
Маўчалі зноў доўга.
Цямнелася. Моракі клаліся на пыльны брук, на гароды, ахутвалі і хавалі далёкія гумны. Хаты зырка міргалі агнямі, бы знарок гаспадары павешалі лямпачкі бліжэй да акон ад вуліцы. На святло пырхалі матылькі, іх безліч, нібы хто з рукава сыпаў. Ляпалі вароты, бразджэлі вёдры ля студні, гаманілі без аддухі жанчыны. Кашлялі на прызбах дзяды, ганяючы камароў дымам.
Людзям хацелася спачыць пасля дня, яны пацягваліся, седзячы, не хавалі пазяхоты, але спаць не ішлі: цёплы і ціхі вечар, густы водар гародаў і гумнаў быў свежы можа больш, як калі, цешыў душу чалавека прыдбалым за ўсё лета багаццем. І калі хто пацепваўся ад начной свежасці, то не спяшаўся ў хату пад коўдру, а расчыняў са скрыпам дзверы ў пуню насцеж, доўга таптаўся яшчэ па двары, пасля зашчапляўся ў пуні на кручок, залазіў аж на самы верх ды зарываўся ў пахнючае сена.
— Ну, цяпер бабам гутаркі на цэлы дзень... Я ж тут ні з кім не звязваўся. Ніколі. Лічыце, што ў Гаўрыліхі ўжо ёсць нявестка...
— Значыць, дзеля мяне вы рызыкнулі абясцэніцца?
Ён не адказаў, і далей гутарка зусім не клеілася. Пайшлі павольней. Думалі пра сваё.
Паказалася бальніца. Цёмная ад вуліцы. Толькі ў акне ад гародаў жаўцела з-за фіранкі святло.
Тут, у завуллі, вісела густая ціша. Насупраць бальніцы, дзе жыў Васіль Міронавіч, на двары было цёмна і пуста. Хутка яны ўгледзелі самога Васіля Міронавіча. Ён тырчэў, абапёршыся на частакол, там, дзе збуяла дзікая ружа. Сагнуты, прыціхлы. Не заўважыў бы іх, каб не загаманіў Леанід.
— Добры вечар... — ён адвярнуўся і дадаў: — Галіна Фёдараўна.
Леаніда ён нібыта не заўважыў, і той даўся ў знакі адразу ж.
— Што, Васіль, занядужаў? І лечышся, гледзячы на светлае акенца? Зайшоў бы з гароду. Але ад гэтага не паправішся. Трымаўся б бліжай мяне. Я з медыцынай заўсёды і хаджу, і езджу... — паказаў ён на хворую руку.
— Хто скалечыўся, той без медыцыны жыць не можа...
— Яшчэ невядома, каму без медыцыны дыхаць цяжка...
— Я думаю, што я вам, абоім, аднолькава ў патрэбе... — Галіне рап-



там здаліся зусім недарэчнымі ўсе іхнія жарты. — Леанід, мы, здаецца, жывём побач...

— Ну, гэта, як Васіль Міронавіч дазволіць пайсці. Ён жа захоча паразважаць, бо сумна вось так стыць-склець вясковаму інтэлекту. Марыш, спрачаешся з сабою, абапершыся на плот, а не на філасофскую думку сябра, скажам...

Зноў пачыналася філасофія і кпіны і, відаць, пайшлі б далёка, але затрашчала раптам недзе частаколіна, зусім жа ўперадзе. У цемені нікога не было відаць. Тут якраз быў прагон, пясчаная выдма. За ім, ад магазіна, пачынаўся другі канец Грынёў. Тут недалёка і масток. На ім загрукала, відаць, нехта прабег. Пасля бліснула папяроса і данеслася:

— Вунь ён, пісака няшчасны!.. Яго ўжо абязвечыў нехта... Зануда негабляваная!.. — зароў раптам нехта сіпаты. Вёска вялікая, дзе ты знянацку разбярэш, хто.

— Заходзь гародамі... Я сам з ім...

— Ды ну іх... Тут яны нідзе не дзенуцца... іх маць...

Насустрач нехта бег.

— Пэрац... П'янюсенькі. Нарабіў фельетон... — Васіль Міронавіч выцягнуўся, бы хацеў угледзець, дзе тут за платамі цямнейшае месца. — Сюды нясе нялёгкая. Ён не адзін...

— Няхай. Палуча восем год... — Леанід хацеў быць спакойны, ды не мог. Балючая рука нервавала яго. З такою нічога не зробіш...

— Які фельетон? — Галіна нічога не ведала, але здагадалася, што нехта з іх двух дабраўся да Пэрца. Хто? Яна ўспомніла ўчарашні вечар.

— А-а-а... Малакасос! — рванулася з месца ў цемру і нос у нос сутыкнулася з Пэрцам якраз на мастку. Пэрац соп, часта-часта; круціў бяльматымі вачыма і ледзь трымаўся на нагах. — Што, не астыў яшчэ пал ад учарашняга? А ну, давай сюды нож, чуеш? Давай нож!

Пэрац такога не чакаў. Стаяў, нічога не могучы ўцяміць, пасля крутнуўся і знік у тым баку, дзе расплываўся ў чарнаце будынак магазіна. Там затрашчалі платы.

— Цікава, яму ж ніхто не выйшаў на помач? Ён жа не адзін быў?..— Галіна не разумела.

— А многа хто з нас ірвануўся вам памагчы...— пакасіўся Леанід на Васіля Міронавіча.

Яны рассмяяліся. Усе трое.

— Быў бы яго нож, — аднесла б разам з той хусцінкай участковаму. Заўтра ж...

— Нож, як сабе хацелі б, а хусцінку не раіў бы.

— Чаму? — Галіна зноў не разумела.

— Нінчына, — прашаптаў Леанід.

— Нінчына? Ты падумай... Не паверыла б. Спытаю...

— Не варта.

Яны зноў пакінулі Васіля Міронавіча аднаго там, дзе і засталі.

Ён абапёрся на частакол і доўга думаў пра Галіну, як і дагэтуль, як і многа ўжо дзён запар.

Ён не мог заўважыць, што непадалёку ад яго, узлёгшыся на плот, віселі Выжлятнік і Джвучка.

Аркадзь глядзеў за акно. Там, у крапіве і канаторжніку, дзеці збіраліся гуляць у хованкі. Пастала ў круг пяцёрка хлапчукоў, а дзяўчынка з жоўтым банцікам у валасах, Выжлятнікава мо' дачка, стоячы аж па каленькі ў траве, спявала-пісклявіла:

— Она-двона, трымчу-лымчу, пяту-лату, кормар-ёрмар, дыван-дычык!

Каму даводзіўся «дычык!» — настаўлены пальчык у грудзі, — той пакідаў круг — выходзіў.

«Бесклапотны занятак... Як далёка ад тых гуляў...» — Аркадзь задумаўся.

— Я, мілы, паклікаў цябе, каб абмазгаваць разам. Памажы, брат, абладзіць. Я, мілы, ад душы гавару... — чуе ён, а думае пра сваё.

Нарэшце адрываецца ад акна. Вуліца ўцякае з воч, бы хто тузануў да сябе доўгі і шырокі шарачык, каб скруціць у трубку. У нос б'е едкі, аж кіслы, тытунь: дыму поўна хата, як зачыніць. У ім цяжка разгледзець, хто тырчыць за другім краем стала — Джвучка ці бярозавы пень. У куце, над самай галавой, — абраз. Даўганосы аскетычны святы ў кучаравым парыку, з крыламі за плячыма, з мечам у руках. У старой, самаробнай сасновай рамцы з лучыны. Твар заседжаны мухамі праз шмат год, усё адно што ў рабацінні. На акне вазоны, пажухлыя, абламаныя, адны дубцы, хто ведае, калі паліваліся. Тут жа на лаве курнявіць кот, мурласты, ангорскі, раздзімае на грудзях поўсць: сапе.

На стале стары, скамечаны абрус, абліты самагонкай і сырымі яйкамі, мокры. На сподку масла, валяецца ўкачаная ў соль крышаная цыбуля. Джвучка боўтаецца з лыжкай у халадніку — ловіць агуркі; сёрбае праз зубы жыжку. Апаражнілі дзве бутэлькі гáры, больш у Выжлятніка няма.

— Хаця ты нешта не залюбіў чарчыну. Не зачапіў, во. Я, мілы, прама скажу, дарма. Перакулілі б смела, га? За кумпанію... Ну, як сабе маеш. Не змушаю. Толькі ж, як з табою вось гаварыць-марыгуліць?

— А вы кажыце, чаго клікалі. Калі дзеля... — Аркадзь ткнуў у бутэльку, — то трэ' было б пець адразу. Не крануўся б. Гаварыце, няма калі валаводы вадзіць.

— Ну куды так маеш вупіцца? Сёння ж нядзеля... — разявіўся і Джвучка. Ён быў бадай нямы сведка і сваёй абслімачанай барадой і пазяхотай без дай прычыны выклікаў агіду. Аркадзь не мог трываць.

— Я, мілы, прама скажу... Ведаеш, Аркаша, — Выжлятнік рэдка каго ў вёсцы нават са старэйшых далікаціў, — чаму ў мяне гаспадыні сёння няма? Не ведаеш. Лечыцца. З рукой. Мо' тая з Краснага і паможа. Едуць жа да яе па ваду аж з-за светніцы. Дае рады, кажуць...

— Ага... Ага... — выціснуў Джвучка, абціраючы бараду. Аркадзь адсунуўся ад яго.

— А гэтай я, мілы, прама скажу... Не дарую. Крыжам хай ляжа. Сучка! З-за свету прыпёрлася шчаня і паскудзіць. Я цябе, як свайго чалавека, прашу памагчы. І ты паможаш, ведаю. Я б да цябе сам з'явіўся ў Закалюжжа, але так яно больш у цугі. І ты ж не спецыяльна дзеля мяне прыехаў. Хаця, цяпер маладым што? У іх лісафеты з маторчыкамі. Нагамі ўжо круціць лянуюцца, ты скажы.

— Ага... Ага.. — выціраўся Джвучка, лапаючы сваёй бурай парэпанай рукой і за абвіслую губу, і за няголеную бараду, і за гарбатую пераносіцу.

Выжлятнік мо' ніяк не рашаўся адкрыцца, усё ёрзаў па лаве, гладзіў, камячыў, перабіраў кароткія валосікі на пасівелай круглай галаве, прыплюшчваўся, моршчыў доўгі нос і варушыў здаравеннымі плячыма.

— Я, мілы, прама скажу. Я, мілы, не цярплю гэтых усякіх...— ён падняў руку і пакруціў пальцамі. — Я чалавек адкрыты. Скажы, мілы, ці годна гэта? — Ён хуценька адшпіліў на грудзях жоўценькі гузічак у кішэні і дастаў адтуль складзены ліст паперы ў лінейку са школьнага



сшытка. — Мы тут з Платонам змарыгулілі. Але ж цяпер свет граматны, а мы не абы куды думаем.

— Ага... Ага... — пазяхнуў Джвучка і засунуў свой валасаты кулак аж у рот.— Н-не аб-бы куды...

— На, мілы, чытай! Хаця, дай сам. А ты запамінай, дзе нелады. Ты ж такія пісаў, чыталі. Нават у «Калгаснай праўдзе» пра кукурузу тваё было. Таксама ж туды, — паказаў ён на паперыну. — Я тую газеціну выпісваю. Там паверадь мне. Дык слухай, мілы.

Джвучка, відаць, ведаў напамяць, што мелася быць чытацца, і напоўз з рукамі па стале. Як будзе на ўсё глядзець хлопец, яго не цікавіла: ён верыў, тое, што «марыгуліў» ён, а Выжлятнік толькі спраўляўся запісваць, пройдзе ўсюды, і нават добра не мог уцяміць, для чаго тут гэты хлопец, але такіх думак не рашыўся выказаць. Аркадзю мала ўвагі было да таго, чаго там ззаду сапе і шнырыць па стале Джвучка. Ён адсунуўся ад яго яшчэ і стаў слухаць Выжлятніка, які заліваўся потам, чытаючы «сваю паперыну».

«В радакцыю «Калгаснай праўды».

За калецтва рукі пад сут.

Дваццаць восьмага гэтага года к-ца к-са «Шлях Леніна» Выжлятнік Вольга мая жонка калі я касіў мыючы акно увагнала ў ладонь правай рукі іголку і ў гэтую ш мінуту звярнулася за метдапамогай к фельшару нашай бальніцы ў Грынях Радзько Гэ. Фамілія праверана што прыехала нядаўна і была тады заместа нашай Барысаўны. Дык гэта што прыехала ў гародзе са сваёй гаспадыняй Пракурорыхай палола грады, і па первай просьбі хворай і яе дачкі Тані не аказала ніякай помачы і толькі пасля трэцяй просьбы няхочучы пайшла у бальніцу, але нічога не зрабіла а толькі параіла не спяшацца а назаўтра ш паехаць к хірургу у раён на папутнай машыне. К гэтаму сір'ёзнаму дзелу Радзько Гэ не прыдала ніякай увагі таксама ні прыдала яе хворай і ў раённай райбальніцы дзяжурная сястра. Заместа абяцанага вызваць врача Чыжыкава раніцай вызвала к двум часам дня які чатыры разы хадзіў сам на рэнтгенаўскі прасвет с Вольчынай рукой, і пасля як узяв іголку на прасвеці у абцужкі дык і прывёв за яе хворую у свой пакой, дзе яму удалося дастаць іголку а что сталась з рукой хворай то Чыжыкав раскавырав усю ладонь і абарвав нерф. Пасля такой аперацыі ладонь сшыв, на дзевяты дзень дома гэта самая Радзько Гэ зняла швы але і сёння тоісь дзесятага дзевятага Выжлятнік Вольга мая жонка прама скажу рукой не владзеіць. Даіць карову просіць к-цу Дышлевіч Улляну і пальцы атрафіраваны. Ці ж гэта не самае падсуднае дзела? Якія ж адносіны былі Чыжыкава з хворай раскавыраўшы ладонь і парваўшы нерф? Калі ён лічыць гэта хвароба лёгкая дык чаму жонка не владзеіць рукой. А калі б гэта было зроблена у час то іголка была б блізка, дык Чыжыкав не дастав яе после палтара сутак скора, а аж тры гадзіны рэзав руку якую замарозіў на сонны наркоз каб хворая не чула. І калі ён стаіць гарой за Радзько Гэ якая ўжо некалькі разов бесчалавечна адносіцца, напрыклад дрэнна аказала метпомач к-цы «Шлях Леніна» Зялёнцы Раіне якая звярнулася з хворай шыяй, раз адказалася пайсці ў Закалюжжа а была з хлопцамі і тэ дэ. То ён сам тады бяздушны бюракратны тып. Прашу радакцыю напічатаць мой мацер'ял в газеце і ніхай абшчэсцвіннасць вырашыць па закону хто мае віну в калецтве рукі хворай к-цы Выжлятнік Вольгі, якая цяпер мусіць бегаць і плаціць шаптусе і ўсё праз тую. За напісаныя словы адказ нясу галавой мужык Выжлятнік Вольгі ляснік Выжлятнік Мэ Мэ. І не шкадуйце аддайце яе за калецтва рукі пад сут. А пальцы атрафіраваны можна прыслаць праверку».

Выжлятнік скончыў, і стала ціха. Аркадзь убачыў, што дрэмле Джвучка і стол усыпалі мухі. Лезуць у міску, поўзаюць па мокрым абрусе, а то звіняць, ліпнуць да твару.

— Калі ўсё складна, дык падпішыся і ты...— Выжлятнік разявіўся, уставіўся вачыма і чакаў. — Вунь ручка, на вазонах.

Аркадзь ні ачарніў, ні абяліў. Устаў з-за стала, узяў у Выжлятніка з рук спісаную паперыну, склаў учэцвера і... жах! жах!.. паскубаў на дробныя палоскі. Не спяшаючы выйшаў з хаты, завёў веласіпед, асядлаў памаленьку і толькі тады рвануў з месца што было сілы.

— Во човт, заразы кавалак... — Джвучка зусім і не спаў. Нагнуўшыся, ён пачаў збіраць акрамэскі паперы. — А што? Я табе гаварыў... Пазваў шчаня на сваю галаву.

— Маўчы, Джвук, бо... Ён гаварыў, гаварыў... Маўчаў, як...— Выжлятнік пад злосную руку гатовы быў накінуцца на Джвучку. — Ты і Нэрцу тады гаварыў...

У бясхмар'і дня плыла восень.

Празрыстая, свежая, у срэбным павуцінні, якое напята на голлі беразняку так туга, што, здаецца, аж трашчаць яго ніткі — яна прыйшла ў лясы пасля млявага лета, атабарылася халоднымі начнымі туманамі і росамі на скошаных лугах ды забурэлася выпетраным і збітым капытамі ржэўнікам па заціхлым полі.

Ледзяныя росы прыбіваюць разасланы вылежацца лён на лугах у атавах, яго сцялі і заблыталі маладыя травы; яны, росы, мыюць белыя верасы, каб тыя ірдзелі бурштынам і выбеленым палатном адлівалі з узгоркаў узлесся; бадзёраць пастарэлы бульбоўнік, і ён, выдае, бярэцца 'шчэ расці, дрыжыць прыжоўклай лісцвянкай, але куды ўжо яму — гэта ён пацепваецца ад холаду, корчыцца на вачах ды хінецца да баразён, якія за лета заплылі пяском, зраўняліся з зямлёю.

Росы бадзёраць нязвыклым яшчэ халадком. Ён здаровы, ад яго крамянееш і адчуваеш, як падужэў ад працы і загару за лета.

Аркадзь не адзін. Яго не пакідае Галіна з той згрызотнай ночы. Яна сёння — дапытлівае дзяўчо, якое без разбору мкнецца ўсюль разам з ім, даходзіць да ўсяго на свеце. Яна — гарэза; яна — прывід, што носіцца верх лесу. Хораша думаць пра яе, думаць многа, нескانчона.

Восень перайначыла лес. Ён ціхі — анямеў, самлеў у стоме, якая настала пасля лета, што агалошвала яго нядаўна рокатам з урадлівай пожні. Ён — цяпер рэдкі і неяк падалеў ад вёскі. Ці не ад гэтай цішы і пустэчы?

Ад Закалюжжа да Асіпаўскага — пушчы. Некароткі шлях. Ногі цягнуць з месца, ступаеш, а яны аж дрыжаць — яшчэ просяць кроку. Мо' і сапраўды толькі хуткая хада, калі неўпрыкмет пакідаеш ззаду лясныя вёрсты, зможа ўтаймаваць ад хвалявання, ад узрушаных мрояў. Аркадзь зышоў з дому, адзін, туды, дзе яму блізка ўсё душы, дзе ўсё імкнецца стаць суладным з ягонай марай — Галінай. Яна змусіла рабіць гэта — дарэмна супакойваць сэрца. Як цяжка стаць кахаць, калі ведаеш і мо' верыш, што ўперадзе толькі мука мо' праз год ці два, а можа і праз добрую палову жыцця. Ці не сáма вартней цяпер адмовіць сабе імкнуцца да такога?..

Аркадзь пачынаў кахаць. Дзень-адодня не выходзіў у яго з галавы той недарэчны лад любові, які наканоўвае адным шчасце, радасць, другім —мукі душы, штохвілінна, без скону. Ці не ад усяго гэтага



ў душы — агонь, страсць, якія раслі, узвышаліся, гарэлі. Аркадзь яшчэ не кахаў, душа маўчала дагэтуль, як некранутая струна, а цяпер здрыганулася, наплыла нечым невядомым, гарачым і балючым, якое не загоіш.

Першае каханне — заўсёды моцнае і чыстае, і душа забірае яго з сабой на ўсё жыццё...

Лясныя сцяжыны ў пыле, бо лета выпекла ўсё на свеце, у жытнёвай, збялелай саломе; тут узлессем звозілі былі снапы. Долках набухлі ад росаў каласы, але сонца зноў сушыць іх, мучае толькі. Яны ўзбуйнелі ўдвая, набрынялі, ступі — пырснуць крухмалам.

Аркадзь падаецца краем Асіпаўскага, ад Масткоў. Тут выразаны лес, пасека, свежыя пні, сляды машын і калёс. Тут абжыў леспрамгас. Лаўжы, раней зялёныя і свежыя, як ссечаныя і скіданыя ў кучы качаны капусты, цяпер пабурэлі, пажоўклі, бы хто іх пасыпаў баравым пяском, раскапаўшы сухі гэтым месцам, сыпучы лясны дол. Іх нельга спаліць цяпер, калі такая суш, — ад пажару не адкараскаешся за тыдзень: выкаціць усю паляну, не пакінуўшы нічога жывога, уклюнецца ў маладнякі, а — згінь ты, благое, прападзі! — калі пераскочыць ля Масткоў у асіпаўскія смалістыя хвоі... не абярэшся ўрону. Затое тут крукам сядзіць ляснік — малады хлопец у вайсковай гімнасцёрцы. Гэта яго можна бачыць і ранкам і вечарам, калі ён імчыць з Закалюжжа на Грыні ўвесь выпацканы ў гар і сажу. Адзін ён ведае, чаго б нарабіў штодня той агонь, які ўдалося ў час збіць пяском...

Сонца мінула раніцу — выйшла з-за бору і вісне над палянай. Ад зямлі ідуць густыя пахі ляснога рэдкатраўя, мокрага ад расы і сырасці ляжалага лісця, падгнілых старасвецкіх смаляных карчоў сасны, якіх колькі панавыкідвалі з зямлі грынёўскія хімгасцы, што са смалакурні. Ну і ўмеюць яны з аманалам!.. Во, не сваёй жа сілай... Насыплюць гэтага парашку-смуроду ў скручаны з паперы мяшэчак, прыладзяць да яго шнур і капсуль і — пад корч, у ямку. Такіх зарадаў можна нарабіць без ліку, а тады — толькі спраўляйся падпальваць шнуры і даваць драла. Спаленыя, раскручаныя, шэра-чорныя, яны ляжаць цяпер на сіўцы ля сцежкі, як тыя змеі, што расцягнуцца бывае на сонцы. Ад цяпла шнуры пахнуць карболкай. Нязвыкла. У лесе раней такога не было як учуць.

Над пасекай разліты водар нагрэтай жывіцы. Яна — на свежых, нядаўна з-пад пілы, пнях вісне цяпер каляровымі пёркамі, спаўзае ў мудрых завітушках, якія бываюць на маладой папараці, сыплецца белай фасолькай па замшэлай наздраватай кары і па выгнутым карэнні-палоззі адкочваецца далёка на ўсыпаны збялелымі апілкамі, як дробнай кастрыцай з-пад мяліцы, стары, узрыхлены ботамі дрывасекаў буры мох.

Зацвілі верасы, прыхавалі ад воч белабокія брусніцы, — і запелі нанава пчолы, занылі ў знямозе ад працы, з якою ім, вунь, відаць, не змагчы да халадоў.

Пад Асіпаўскім — цень. Ніколі не данімала спякота гэты край пушчы, які акружаюць Бярэзавіцкія балоты з падземнымі крыніцамі. Балоты — пашы дзікоў, якія адгэтуль маюць хады пад самую Вілію, а то і далей на ўсход, дзе нетры Паліка.

Пушча млее ў цішы. Спяць асіны. У дрымоце елкі. Іх спавіла павуціна восені. Восень даецца ў знакі. Паглядзі на бярозы. На тыя, што абклалі пасеку за лініяй-расцярэбам, дзе абгароджаны пад берасклет абчэсаным сасновым жэрдзем куток... Бярозы векавыя, збуялыя ў моц, строй-

ныя, падцыглястыя, з пышнымі шатамі. Яны 'шчэ ў зелені, але восень паначэплівала на іх жоўтыя парашуты. Выдае так, калі глядзіш верх лесу здаля. Дзе-небудзь багатая лісцем галіна бліснула мо' раніцы са дзве жаўцізной, а цяпер — уся белая. Падумаць толькі... Заўчасная старасць... Ад чаго? І шмат дзе. Шкада, калі гэта хвароба выбірае месцы, каб асесці і звесці не ў пару са свету багацце дрэва. Адмірае памаленьку стары лес... І гэты непадуладны чалавеку закон прыроды дае сябе адчуць больш чым калі — увосень.

У Асіпаўскім па лясных дарогах — раса і днём. Летам яе дык хоць збівалі ягадніцы і вясковыя гарэзы-дзеці, — шнырачы па ляшчэўніку за арэхамі. Толькі туды, пад балота, яе абмалочваюць цяпер на ўсеяны шыллем дол гаспадары багнішчаў і муравейнікаў — ікластыя вяпры.

Яны са сваімі вывадкамі здрабяжылі тут сцяжыну, вось сляды і слядкі; вынесены з балота пажваканы і прывялы бабок: карміліся, а іх падрушыў гвалтоўны і ласы звяруга Асіпаўскага — худы і галодны нават улетку паджары ваўкарэзіна.

Выспела ажына. Пачарнела ад ягад, панікла долу. Ягады абляпілі лісце, што жучкі. Ці не яны гэта зводзяць курапатак? Па ажынніку ступіць нельга за імі. Хлопаюць крыллем, як пеўні на варотах, палохаюць знянацку, а ўзарвуцца з зямлі — чуць перавальваюцца праз імшанае куп'е, леныя, нахохленыя, сытыя. Ім і зіма не ў страх. Толькі вось паскубліся некаторыя недарэкі аб калючкі, на ягадніку вісяць пёркі, сіненькія, свежанькія, пакратваюцца разам з лісцем, калі адшчыкнеш ягаду. А яна — салодкая. Пераспелая, налітая, ад гэтага нават вадзяністая. Але такая — найлепшае зелле ад грудзей, як кажуць у Закалюжжы старыя.

Аркадзь у самай пушчы, якая ў любы час — бальзам душы ад нязвыклых пакут і болю. Тут льга забыцца, што кахаеш некага аднаго; тут душа адгукаецца на кожны рух ляснога жыцця, тут люба ўсё — і дымка над пасекай, і курганістыя балоты, і халодны мрок лесу, і маладзенькі берасклет у загарадцы, і бярозы, якія кранула старасць, і... увесь край, што ўстае ў вачах! А мо' такое ад таго, што ў кожным руху, у кожнай праяве прыроды жыве той, хто змушае закаханымі вачыма глядзець на ўсё на свеце?..

Добра думаць у цішы восені, калі думкі — другі свет, дзе каханне, і радасць, і шчасце. Пра яго трэба гаварыць, пець... Інакш яго няма, яно нежывое. Ён скажа, не змусіць сябе жыць у нявер'і. Так цягне сказаць ёй. Дзіва... Адкуль такое бярэцца? Во... Сэрца моцнае на памяць. Яго здрыганулі ў тую ноч свавольна, н'ат неасцярожна, і яно затрымцела, як бывае былінка... Крані яе толькі...

Скажа! Пойдзе ў клуб, стане танцаваць з ёю, правядзе дадому і скажа. Па дарозе. Няважна дзе... Само вырашыцца.

Ён думаў пра яе, быў смелы, уцякаючы ад яе ў глыбіню Асіпаўскай пушчы і думаючы, што яна выгляне вось з-за асіны і пачне дражніцца, як і тады ноччу... Гарэзлівая, смелая, далёкая.

У Асіпаўскім — Пагурак. Гэта асінавы гай. Шэрыя дрэвы, якім няма супачынку нават калі памірае вецер. Яны дрыжаць, шэпчуць, шумяць, бы ад густога дажджу. Ім ніколі не пераказаць сум і журботу ляснога жыцця. І чаму ім хочацца гэтага і цяпер, калі апечаныя першымі подыхамі халоднай асенняй ночы, яны заружавеліся, разрумяніліся, як тыя здаровыя малодкі-ўдовы ў любы час чакаючы сватоў? Яны, асіны, аж звіняць медным лісцем, гулка, на ўвесь лес. Але той звон у цішы, яго не ўчуць. А ціша — гэта багацце няўлоўных гукаў, звону і спеву.



Яна — патаемнае, незлічоных праяў жыццё лесу... Яго ловяць струны душы, яна жыве разам з ім, замірае і зноў ажывае ў радасці.

Ціша лесу — яго нячутная, непадуладная вуху сімфонія жыцця.

Раптам стрэл... Раптоўны, недарэчны... Працяжны, бясконцы... Рэха даўжынёю з вяроўку. Яно дражніцца, назаляецца, замірае і зноў звініць адтуль, ад вёскі, коціцца праз Пагурак і вяртаецца праз усё Асіпаўскае назад, пад Закалюжжа.

І няма больш цішы. Зазлавалі асіны, аж ударылі ў званы; зашумелі-застагналі сосны; узмахнулі чорным груганнім крыллем-голлем старасвецкія дрымотныя яліны; загаласілі-заплакалі дробналістыя бярозы... Лес ловіць рэха, ды не дае яму прытулку — гоніць прэч. Нішто не жадае ў цішы жыцця чуць стрэл...

Яна прынеслася ледзь жывая. Была з малым. Спынілася недалёка, там, дзе чарнеўся нешматгадовы ельнік пад аглухлымі да ўсяго на свеце старажытнымі бярозамі-чачоткамі.

Бурая, з чорнымі ад поту пісягамі-латамі, яна, ласіха, нахілялася над малым, бязрогім, як і сама, цялём, усё падграбала пад сябе, падкочвала галавою, як тая кошка недалугае і дурное зусім яшчэ да ўсяго на свеце кацяня.

Яна была блізка, кійком дастаць; прысядала на заднія ногі, хутка зусім раскапусцілася: хацела легчы, але змагла сябе ад гэтага, хістаючыся і дрыжучы. Стаяла галавой да Аркадзя; глытала растапыранымі храпамі паветра, біла капытамі мох, глыбока, да пяску; форскала, стагнала. Вочы былі цёмныя, аж чорныя; яны гарэлі, рабіліся вяртлявыя і зноў мізарнелі, стухалі. Толькі вушы стаялі, натапыраныя туды, на Закалюжжа, адкуль яна валакла сябе.

«Перабітая...» — падскочыла яму думка.

Грудзі яе, шырокія і мокрыя, хадзілі ходарам. Яна змаглася, але мацавалася; затое цяля валілася з ног. Бедная жывёла... Не закінеш жа таго за плечы. Відаць, колькі прыйшлося скалясіць Асіпаўскага за рань, каб ля ціхага Пагурка зблытаць след настырнай бядзе — чалавеку-ворагу.

Адпачынак — паратунак...

Знікнуць у пушчы, растварыцца... Зноў жа дзеля малога. Яно легла. За яго рухамі сачылі такія насцярожаныя і балючыя вочы, што гатовы былі вось-вось заплакаць, каб толькі суцішыць боль і пакуту па свайму сысунку, што ляжаў цяпер — радасць і гора маці! — нерухома, у клубочку, відаць, зусім без ног ад шалёнай беганіны.

Зноў аціхла ў лесе, былі чуваць рэдкія, працяжныя і балючыя ўздыхі ласіхі-маці і гусценькае дыханне цяляці. Маці стагнала: яна мела рану, відаць, вялікую і балючую, але ні разу не павярнулася назад, не варухнула збалелымі нагамі: цярпела і сачыла, сачыла за малым.

Над елачкамі з'явілася сарока, — нядобры вястун, — села на лапкі і тут жа ўзляцела, засакатала, захлопала крыллем, перакулілася на другі бок ельнічка, знікла.

Аркадзь не змог здагадацца, ад чаго ўзарвалася з зямлі малое, ткнулася раз-другі, не ведаючы, куды і чаго, і, нырнуўшы пад матку, знікла з воч. Маці ўзнялася павольна, мацаючы зямлю, закульгала заднімі нагамі, затрэслася ўся і раптам ірванула з месца і адным скачком была ўжо недзе аж за ельнічкам. З долу ўзляцела камкаватая зямля і чорнае лісце, бы тут у ярасці каршун чэпнуў кіпцямі птушаня, надаўшы пер'я. У тым баку затрашчала штосьці сухое і моцнае і доўга таўклося, як у ступе. Пасля сціхла.

І толькі цяпер Аркадзь учуў брэх. Далёкі, рэзкі, кароценькі. Так можа брахаць ганчак, збіты з тропу, які, нарэшце, налучыў на свежы след. Ён падаваў голас гаспадару. Гэты голас, хрыпаваты і звонкі, улавіў зусім чужы чалавек — Аркадзь. Ён пазнаў адразу — з Грынёў сабака. Выжлятнікаў Жульбас. што з белай паласой на спіне. Каб упэўніцца ў тым — не прыйшлося чакаць. Сабака з белай паласой на спіне выскачыў з-за камля асіны тут жа. Спыніўся, каўзануўся на пярэдніх лапах і стаў грэбсці зямлю там, дзе толькі што былі знайшлі паратунак і супачын дзве ахвяры раструўленага здабычай прагавітага чалавека. Сабака лізаў языком зямлю, сліна камкамі спадала на імшанне, быццам з рота ў яго пёрся ўспенены ручай. Аркадзь цюкнуў, моцна, нема... Раз, другі. Сабака бы не ўчуў; зрабіўшы круг па вытаптаным месцы, ён зноў лёг на след, скупа адазваўшыся гаспадару хрыпатым брэхам. Мо' льга было б тут дачакацца і гаспадара. Ды не: той быў не з дурных. Недзе ўчуў цюканне, — а гэта небяспека. Ды бадай ці будзе ён калдыбаць след у след за ганчаком. Выжлятнік вопытны, ведае куды падацца, каб выйсці напярэймы жывёле...

... Туман быў цёплы, гэта таму, што на горцы. Патыхала смаленым — цяжкім і рэзкім. Бы дзе курэлася падмерзлая атава тытунькі. Гарэў торф за Пагуркам на Доўгіх балотах, што між Закалюжжа і Грынямі. Скверся ад самага пачатку лета.

Сонца ўвязла ў хмары, чырвонае і халоднае. Яму за далёкі лес шмыгнуць вунь мігам льга, але спрабуй, вылезь ты з гэтых згуслых бурых барханаў. Адвячорак яшчэ доўгі — летні.

Лес драмаў у ціхім мроку вечара, хаваючы і сябе і свае думы-шэпты. Спачыць і яму ахвота. Вунь старая, пахіленая вятрамі бяроза-каржак, што на развілку дарогі, з вечарам аж прынікла да зямлі. Ёй бы абаперціся на што моцнае і мяккае — чалавеку на плячо — і збыць гэтую ноч у бесклапотным сне.

Не з лёгкім одумам выйшаў з лесу чалавек. Ішоў паволі, пад дом. У дарогах-вілах злякнуўся. З той сцяжыны, што вяла на масткі, выплылі двое. Яны кацілі ў руках веласіпеды: тут было пясчана і пад гару. На багажніках тырчэлі кошыкі, здалёк — худыя, падбітыя курапаткі.

— Грынёўцы... Студэнт і Галіна... — прашаптаў Аркадзь. — Не звярнуў бы пад Пагурак — сустрэўся б...

Аркадзь спыніўся. Выдала, што ён учуў тупат іхніх ног. Гэта стукала сэрца. Ён абапёрся; прынік да пахілай чачоткі. Маўчаў. Нічога не думаў. Недзе недалёка прапіскляваіла начніца — вылецела на жыр. Сонца зусім глынулі рудыя барханы-пісягі, яго не відаць. Недзе далёка-далёка, мо' за Пагуркам, а можа і зусім дзе па той бок пушчы, прашумеў рэхам стрэл.

«Усё прапала... Яны былі ў грыбах. А ласіхі шкада. Выжлятнік бандзюк, яму ніхто не даруе...» — Аркадзю моцна-моцна захацелася застацца тут, у вілах. Балючыя думкі гналі, не пускаючы ў вёску.

Ён і не начаваў дома тую ноч.

Яшчэ не ўзышоў месяц, а трактар надрыўна ракатаў за тарфяным балотцам пад Грынямі. Ён глушыў унутры тое балючае і не мог адолець яго.

— Усё пр-р-рапала...

Роў уначы матор, ядрана, моцна, на ўсю волю.

З Краснага, дзе ўчора адмаліў фэст, Сабольскі, ойча грынёўскай царквы, падаўся на Закалюжжа: хоць і праз лес, ды бліжэй, чым шашой



на Гальдараду. І сцежачка лясная — цвердзенькая, убітая пешакамі, — вунь якая лёгкая для веласіпеда і недалугай нагі.

Ён — на дамскім, — так і рызу не ўкруціш у спіцы, ды і зграбней: фара, тормаз ручны... Палюбіўся ойчу Сабольскаму гэты тормаз! Не жартачкі... Імчыш з гары, як тая ластавіца на крылах, і — шась! На месцы! І ўсё ручны тормаз. Без яго — такога не ўтворыш аднымі педалямі. А, божа барані, на ўсёй хадзе спадзе ланцуг... Магіла! А ойча Сабольскі не думаў яшчэ паміраць.

Парою яму мроілася, — ручным тормазам льга спыніць усё, што ўздумаеш. Аднойчы, налёгшы на сваю філасофію, ён узяў ды знянацку хапіў на ўсім хаду за гэты такі любы і такі пракляты вусік тормаза... І паляцеў быў... к чорту матары!.. потырч. Добра, што ўпрыцемкі, ды ніхто не заўважыў. Нідзе ж пра гэта не плявузгаюць. А такое не ўлежала б спакойна, ойча Сабольскі ведаў...

Матушка Сабольская — Каця (так толькі ён яе клікаў) учора нанач пакаціла дахаты: на такім жа дамскім веласіпедзе. Там жа гаспадарка. Матушка рухавейшая. Маладзей за яго. На людзях ойча Сабольскі пра гэта маўчаў... Але калі з матушкай даводзілася ехаць пясчаным грунтам, — вёў веласіпед за руль, шкадуючы:

— Саслабеў нешта, дзеткі, пасля ночы...

Ён менш верыў у бога, як у тое, што жыццю ёсць канцы. І старасць — гэта канец малітвы, за якой амінь — смерць. Прэч яе! Да д'ябла рай!.. Пры людзях ён скідваў з сябе гады, са скуры лез, каб слыць за маладога.

Ойча Сабольскі ўчора заначаваў. Падбіўся, тупаючы цэлы дзень у Краснянскай капліцы, дзе «міжы Спож» служыў «фэст-малебен». Не дарма. Можна было. Без двух сот — тры круглыя. Муляцца ў кішэні, лезуць пад паху. Ад іх пацееш 'шчэ больш.

Ойча Сабольскі лёгенька ступае на педалі, сочыць за мокрай ад начы дарожкай — раса была — ды слухае, як шыпяць колы, што тыя скваркі на патэльні ў набожнага Яначкі, дзе прыйшлося згараваць ноч.

Брынчаць па спіцах дубчыкі: абочыны ў бярозках. Яны зблізку, ад дарогі. Далей — елкі, маладыя, а густыя і цёмныя, што і днём тут ноч. Гэта Чар-чаг... Ён ідзе імшарамі аж туды, пад Асіпаўскія пушчы. Адгэтуль да Пагурка блізенька — крылом махнуць.

Чар-чаг — дзікі кут пушчы. Тут заўжды навіслыя прыцемкі, ціша. Тут і сыравата: лагчыны, ямы, імшары. Ці не тут і чэрці пладзіліся,— думае ойча. Бывала, апоўначы пад каляды ў Чар-чагу ажываў скрып. Шмат каму і стуку наслухацца давялося. Чар — пілой, чах — тапаром, — так тады і прынёс у вёску нехта пачутае.

Мо' ад вечнага скрыпу і стуку пала сёлета, загарадзіўшы дарогу, і каструбаватая асіна з дуплом, дзе былі восы? Бог ведае...

Раніца ў Чар-чагу не свеціць. Сонца за лесам, як па той бок зямлі. Хутчэй бы з нямога ўцемрышча...

Нясмела разявіўся груган, з'еўшы картавае крумканне: у Чар-чагу рэха не жыло. Вось ён — чорны, сыты ад лета, як камяк. Над самай дарогай з яловай лапкі звіс, аж зыбае яе. Б-р-р... Выдае, ён павеў халодным з начы крылом каля лапатак...

Ойча Сабольскі сагнуўся ў дугу і насеў на педалі. Аж ногі ў каленях знемагліся, занылі.

Асіну трэба мінаць ельнічкам, што ад дарогі заступіў лясную лінію-расцяроб. Можна было рызыкнуць і аб'ехаць ля камля-карча, ды ойча збаяўся, зруліў на аб'езд, дзе палёг на запыленую траву і суровыя імхі,

абмалочаны калясьмі верас, — адны дудкі. Злезці і ўзяць веласіпед у рукі ойча не змог: ногі так прыкарэлі да педаляў, не адарвеш.

Ад цішы млосна. Хай бы хоць груган гаманіў, а то ўдавіўся, пачуўшы ездака. Сцежка ўвачавідкі вузела, зыходзіла з расцярэбу; выдавала, елкі сваімі сухімі дзідамі праткнуць навылёт. Ойча спацеў.

І надта не рванеш. Дрыжаць рукі, не трымаюць руль, колы скачуць па чурбанах-гніляках. Тут, пад дарогу, яшчэ да вайны звозілі ў шліхты шпалы і рудстойку. Круглякі доўга ляжалі на грунце без легараў, набраклі ад вады, і людзі не забралі іх на дровы, маючы пад бокам лес на выбар. Вось і гніюць яны гадамі. Ужо ельнік паспеў насеяцца і вырасці.

Пракляты расцяроб... Так трасе. Ужо свіціцца ельнік, там недзе палянка, дарога. Ойча Сабольскі ўздыхнуў і знямеў... Яму спачатку выдала, што ён упёрся ў яловы сук, які перагарадзіў дарогу. О, каб толькі гэта...

Перад вачыма цьмяна бліснула жалеза. За плечы пасыпаўся халодны калючы шыльнік, бы хто ўгары страсануў елкі. Ойча нават не затармазіў, і тупая руля двухстволкі адпіхнула яго назад. Ён ссунуўся з сядла набок, на мох і верас...

Нейчая рука, цяжкая, бы тая намоклая, з зямлі калода, легла спачатку на плечы, пасля сцяла, як клюшнямі, шыю, не даючы пакруціць галавы, і пацягла ў ельнік, туды, дзе расцяроб выводзіў на балота.

— Толькі пікні... — голас гаспадара алавянай рукі хрыплы.

У ойчы Сабольскага і думкі не было адвярнуцца: ведаў, чым пахне такое.

«Двое... — мігнулася думка. — Хана...» — у ваччу закруцілася зямля.

— Жывей, сука!.. Цэлыя суткі з-за цябе!.. А ну, жывей!.. Канчай жагнацца, бо пераҗагнаю... — зноў хрыпла і злосна.

Ойча Сабольскі не прасіўся: адняло, адкусіла язык, богведама, быў на галаве мяшок ці не, толькі ойча нікога не бачыў. Але ён запомніў голас аднаго, хто быў ззаду — сіпаты, прастуджаны. І яшчэ неяк зарылася ў памяць: адзін ці не малады? Як бацька з сынам... І ўсё...

Веласіпеда не зачапілі, ды і на воўка ён ім, павыдзіралі толькі ніпелі. Гэта, каб не хутка раструбіў пра такое, калі раптам не ўздумае заткнуць рот.

Ойча Сабольскі падняў веласіпед з дарогі і пакаціў яго ў руках, чапляючыся нагамі за пні. Са скуры рваўся, каб бегчы, але нельга было: маглі ўпярыць ззаду. Паабяцалі. І ён цягнуў адзеравянелыя ногі; яны дрыжалі, дрыжала барада, што стала раптам калючая, як дрот. Ойча Сабольскі выцер з ілба халодны пот, што цёк у вочы...

І толькі ля самага Закалюжжа, на ўзлессі, якое слыло Ваўкаўнёй, дзе ўсё перакапана вяскоўцамі, — тут бугрыліся сховішчы бульбы, ямы, — у ойча Сабольскага заныла, забалела душа: падпашша было пустое.

— Ляснулі грошыкі... — і ён заплакаў ад злосці і жалю. Не ўтрываў.

Званы аж раўлі, не даючы спакою Грыням. Галёкалі ў такую рань, вылі, дробненька танцавалі, пасля заходзіліся ў нейкім згрызотным лязгаце, бы хто пусціў па бруку на вуліцы наўздагон адну за другой усе патэльні з падпрыпечка. Вось яны імчаць, падскокваюць, падаюць, узрываюцца з зямлі і зноў, як чорныя ашалелыя сабакі, куляюцца ўздоўж вуліцы.



Ойча нерваваўся, — злавалі і званы. Нельга было даць нават веры, што яны могуць так заходзіцца ў знямоглай, падгнілай і выцвілай драўлянай вежы на грынёўскай цэркаўцы, што пад канец могліц за вёскай.

Да амбона ойча Сабольскі выйшаў, спазніўшыся на гадзіну. Быў як утрапёны. Нядоўга жагнаў натоўп, абарваў на малітве матушку-псаломшчыцу і заікасты клірас з вясковых старэнькіх-адпявалаў за нябожчыкамі — і пачаў... Пачаў казань.

Яго прыжмураныя вочы сталі, як у мышы; круціліся, як бывае гузік на іголцы, калі яму даць пстрычку; бровы скакалі, што жывая рыбка на гарачай патэльні. Ойча шыпеў у злосці; выдавала, ён не крычыць, трасучы рукамі, а хапае вялізнымі клешчамі чырвонае каменне і шпурляе ў кадзь з вадою. Упрэў увесь і сквярэцца, як уператопленай цеснай лазні.

Ён кляў і зычыў пекла ўсім на свеце, хто адрокся царквы, хто плюе яму ў бараду, хто асмеліўся занесці ў тую нядзелю руку на каго... Святога айца...

Не доўга мучыў ён людзей праклёнамі, бо ад гневу мучыўся сам; распусціў раней, чымся другія разы, паслаўшы на дарогу яшчэ раз чорнае пекла, якое ўявіў сам, як грынёўскую смалакурню, і, зусім зблытаўшы зямное з магільным, зазлаваў і вылаяўся.

— Прыехалі з Закалюжжа. Да Хрыста. Дзедзіха са сваёй...

Голас матушкі. Які лагодны. Як яна шкадуе яго, мужа... Ойча Сабольскі расчуліўся, адпусціў яе хутчэй дадому, да гаспадаркі.

Не мог ён сёння хрысціць, калі на душы агіда. Але ж як вярнуць вялікую ўтрату?.. — ойча ўхапіўся за галаву:

«Падумаць, падумаць... Каб ведаў, хто... А мо' сказаць пайсці ў міліцыю? Не. Тых не зловяць, а людзі — гэтыя скнары, чаго добрага пасмяюцца. Павыскаляюцца. Такога чакай! Не верацъ, не вераць яны ў бога! О людзі, людзі... О беды, беды... Не мінуць іх...»

— Кума Зіна і кум Алёша... — аж хрып ён у рызніцы, дзе наспех сам распрануў дзіця-недавярка і ледзь не ўсяго ўсадзіў у бляшанае карыта з вадой. Раве шчаня, вырываецца, — д'ябал пакідае душу яго.

«Святым расці стане гэты цяльпук, божы сын Міхаіл набожных бацькоў з вёскі Закалюжжа. Святым... — усміхнуўся ойча Сабольскі. — Падняцца толькі яму дай. Больш нічога. А там падасца ў Чар-чаг і пачне... О грэшныя людзі... О беды, беды... Не мінуць іх...»

Усё сціхла. Нарэшце-ткі. Ойча Сабольскі стаў выціраць рукі аб некім ахвяраваны вышыты палатняны ручнік.

«З клопатам матушка. Цаны ёй не сышчыш... Вымыла чысценька. Аж два павесіла».

Замілаванасць і закаханасць да маладой матушкі размякчылі душу. Прыйшла жаласць да сябе і да людзей. У ойчы дробненька задрыжаў падбародак:

— О людзі, людзі... О мутныя душы... О-ха-ха...

У дзверы пастукалі. Ціха і далікатна.

Ойча падняўся; маўчаў і не кратаўся з месца.

«Хто? Матушка ніколі так не мудрыла...»

Думкі — і такія і гэтакія. Нарэшце здагадка: «тыя!» І тут ратунку няма. Звядуць са свету, бо ўчулі, што не змоўчаў. І крык не паможа. Могліцы. Да хат далёка. А дзе Саўчык? Дзе той стараста? Куды кінуцца? Ойча Сабольскі не жагнаўся і не шаптаў малітвы: дрыжыка тармасіла, круціла яго. Памяць высахла.

Пастукалі яшчэ. Цішэй і мякчэй, чымся першы раз.



Ойча Сабольскі пацыпаў да дзвярэй, як стаяў: у расхрыстанай рызе, з крыжыкам у руцэ. Паслухаў колькі і тады асмеліўся:

— Хто, дзеткі, так позніцца?

— Я... Мы... — жаночы голас.

«Зусім дзяўчынка...» — падумалася ойчу Сабольскаму. Крыху адлегла.

— Заходзьце, дзеткі...

Дзверы расчыніла дзяўчына. Белавалосая, белая з твару.

— Добры дзень... — прывіталася і ўсміхнулася.

У ойча як гара з плеч спаўзла; ён уздыхнуў працяжна і натужна, што кавальскі мех.

— Просім прабачыць, ойча Сабольскі, за такі візіт, мажліва і зусім не ў час. Але мы мусім зрабіць гэта. Душа так падказала.

Ойча Сабольскі не верыў сабе. Перад ім стаяў сын Гаўрыліхі, студэнт, той, што вунь разоў з семнаццаць за лета тарабаніў па вёсках проці бога і яго ж, ойчы. Ніколі не чакаў сустрэць блюзнера тут. Бы Хрыстос з-за пазухі таго вытрас.

Што надумалі гэтыя?.. Мо' каб абвянчаў іх?.. Ён абвянчае! Тады будзе яго верх! Калі лучыў сюды недавярак, у таго недзе засвярбела душа...

Папрасіўшы 'шчэ раз прабачэння, «недаверак» змоўк і маўчаў, прыставіўшыся плячыма да вушака і заклаўшы назад рукі. Ойча Сабольскі намагаўся згадаць, што на ўме ў такога, але колькі ні прыглядаўся, мог бажыцца, што той проста нічога не думае. Абыяк глядзіць на яго, ойчу, і ўсё. Горда нават сваю ладную нюхаўку задзёр. Не, не змірыцца з ім прыцягся сюды малойчык... Ці не ён учора быў у Чар-чагу? — аж страсянула ойчу. — Не. Гэты на такое не пойдзе...

Ён запрасіў прысесці. Тыя падзякавалі. Дзяўчына ўголас, хлопец кіўнуўшы з парога.

Гаварыць пачала яна. Ойча Сабольскі яе не ведаў, ніколі не бачыў. Пачала з пагоды, з вёскі, спытала пра здароўе. Ойча Сабольскі падзякаваў і чакаў. Не дзеля гэтага прысунуліся людзі. Ён пакінуў на стале крыжык, што цёр яшчэ ў пальцах, і пачаў папраўляць рызу.

— Мы слухалі вас сёння... — гаварыла яна. Ойча Сабольскі зазначыў, што яна называе яго толькі «вы». Хто яна? Але спытаць не рашаўся, чакаў. — Мы ведаем...

Ойча падаўся да яе:



— Вы ведаеце? Вы іх ведаеце?..

Яна зірнула на Леаніда — той і вокам не павёў. Усё гладка — значыла гэта.

— Мы ведаем, што вам крыўдна і цяжка, — шпарчэй загаварыла яна. — А ўявіце, калі б вы не былі айцом, такога б ніколі не здарылася...

— Вось як?! Што вы надумалі сказаць? Вы апраўдваеце бандытаў? — ён быў спалохаўся свайго голасу.

«Чаго прыцягліся, д'ябал бы заліў смалой вашы глытаўкі!..» — гарэлі вочкі ў ойчы Сабольскага. Яны зноў пачалі круціцца, як на казані.

— Не-не... — залапатала яна і замахала рукамі. — Не-е... Зразумейце нас. Мы прыйшлі пагаварыць толькі... Вось...

Ён абарваў:

— Мне, дзеткі, няма пра што гаварыць з вамі! Я сёння сваё закончыў. Адпачыць дайце...

Ён хацеў скіравацць да дзвярэй, але сустрэўся вачыма з абыякавым да ўсяго «недавяркам», што прыкарэў да вушака, як Хрыстос да крыжа, і не варушыўся. Мумія! Ойчу зноў цюкнула, што такі быў у Чарчагу, і ён падаўся назад, да акна.

Маўчалі. Ойча Сабольскі спацеў і памякчэў.

— Дзе ж вы, дзеткі, маеце шчасце працаваць?

— Я акушэрка. У вас у Грынях. Даўно.

— Такая маладзенькая, а ўжо прымае на свет божы дзяцей божых... Іх да Хрыста трэба... Адразу ж...

— Блытаеце, ойча Сабольскі, прабачце. Не дзяцей божых, а людзей, якія пры камунізме жыць будуць... — перабіў яго гэты «недаверак-мумія» ля дзвярэй. — Разумееце вы, камуністаў будучых яна самая першая на рукі бярэ, свет ім паказвае... Вы разумееце?

— Я разумею нарэшце, чаго вы наведалі мяне, дзеткі... — ён схіліў галаву.

— Скажыце... — спытала раптам яна, — вы самі верыце ў бога?

Такое проста раз'ятрыла яго. Але ён змоўчаў. Відаць было, раздумваў — пайсці ці не. Можна было расчыніць дзверы і пазбыцца напасці, якая не розніцца ад учарашняй. Але яму, ойчу, важна і тое, з чым жа пойдуць гэтыя душы, пакідаючы храм. Вырваць, уратаваць усякага з твані блюзнярства, — ці не яго гэта клопат і абавязак? Перад богам...

Ён няшчыра ўсміхнуўся і паківаў галавою. Пасля матнуў ёю, бы стаў рагаты, як стары чорт, і камусьці сунуў рогам пад пахвіну, і з ухмылачкай, разявіўшы рот, спытаў, раптоўна і хутка, зашчабятаў, бы той верабей, скочыўшы з раллі ў баразну на чарвяка:

— А вы ў свой камсамол верыце? Камсамолка ж, па ўсім відно...

— Не блытайце, ойча Сабольскі, дзве рэчы — жыццё і смерць. Вы разумны чалавек і ў гэтым нядрэнна разбіраецеся... — гэта зноў «разявіўся» чорнагаловы «недаверак-мумія» ля дзвярэй, спакойна, вяла, бы проста так, дзеля сябе.

З ім ойча Сабольскі яшчэ не загаварыў і чакаў, што адкажа дзяўчына.

Яна толькі кіўнула галавой.

— Дык што можа быць за пытанне да мяне?— дагаварыў ён уголас, відаць, канец сваёй доўгай думкі і пазяхнуў ні з таго ні з сяго, адвярнуўшыся да акна. Ён не жадаў больш размаўляць і не хаваў гэта.

Але ёй, Галіне, трэ' было нарэшце сказаць тое ойчу Сабольскаму, дзеля чаго яна ішла сюды і колькі ўгаварвала Леаніда. І яна парашыла:

— Ойча Сабольскі... А ці змаглі б вы пакінуць царкву? — яна памаўчала. — Ну... пакінуць, як адзін з вашых зрабіў у Брэсце?

Ойча Сабольскі не адварочваўся. Не выходзілі і госці, чакалі. Ойча не рашаўся іх пагнаць: такія разнясуць-разбрэшуць усё, да макулінкі, з такімі трэба па-людску.

Ён падышоў да яе і паклаў руку на плячо:

— А вы б змаглі адрачыся ад камсамола? — ён павярнуў цяпер галаву і ў бок «недавяркамуміі», што ні разу не варухнуўся ля дзвярэй; ён ужо гаварыў з ім, калюча, ашчэрыўшыся: — А вы б змаглі камсамольскія білеты выкінуць вон?

«Мумія» ля дзвярэй сачыла за кожным ягоным рухам і думкай, — ойча Сабольскі ведаў, яе не правядзеш, — усміхнулася і загаварыла:

— Вы, ойча Сабольскі, на тым свеце ці на гэтым?

— А мы будзем мірна існаваць... Два светы. Вы разумееце? Хаця дзе... Малако не выветрыла з губ. Нам дазволена не вамі. Разумееце цяпер вы? У міры існаваць. Вы і мы... — ойча Сабольскі гатовы быў пачаць сваю новую і, відаць, доўгую казань аб «мірным суіснаванні», але «мумія» ля дзвярэй дастала рукі з-за спіны і перапыніла яго:

— Ойча Сабольскі! Вы можа скажаце, што некалі былі 'шчэ больш разумнейшыя? Я нават не ведаю, ці будуць годны такія айцы іх праасвяшчэнству мітрапаліту мінскаму? Прыдзецца пры гутарцы ўставіць слова пра вас. Пойдзем, Галіна Фёдараўна, сама бачыш, што ойча Сабольскі сёння не ладзіць з сабою, — павярнулася ажылая «мумія» да дзяўчыны. — А шкада, ойча Сабольскі, — гаварыла яна ўжо сама сабе, — што вы не схацелі паслухацца дзяўчаці. Яна ж першы раз у царкве. Чыстая, бязгрэшная душа хацела з вамі справу мець. Дзякуй за гасціннасць. Прыходзьце да нас у клуб.

Ціха-ціха зачыняліся дзверы. Зачыняла дзявочая рука.

— Гарох-х з-зялёны!.. Разбойнікі з Чар-чага!.. Кату пад х-хвост вашу анцімонію!.. — шыпеў ойча Сабольскі на ўсю рызніцу. — Аграбілі... Тыя — грошы лупянулі, гэтыя — па душу прыйшлі... — ён асунуўся на крэсла.

Праз гадзіну яго вывела з рызніцы матушка, — змізарнелага, хворага.

Прыйшло каханне — прыйшлі і слёзы. Куды знік спакой... Скрыпнуць дзверы — ён; бразне клямка ці весніцы — уздрыгнеш, падасіся да акна, шукаеш яго вачыма і баішся нечага. Бо чакаеш... А не дачакаешся, не ўгледзіш — гарачыня сціскае грудзі.

Не ведала Галіна, што каханне — слёзы. А ведала б — ніколі не пакахала б. Але слёзы — раса. Блісне дзень-сонца, хлыне жыццё-вецер, — іх няма, высахлі, абмыўшы, асвяжыўшы душу.

Ад слёз лягчэй. Мякчэеш. Аднекуль пасля нахлыне шчырасць, а то і радасць, — хочацца тады гаманіць без скону, жадаецца круціцца ў неспакоі, несціся на край свету, як узвей-вецер.

Былі і раней у яе хлопцы, ды не было радасці, не падступаўся боль, не ажывала душа...

А ён? Ды не такі, як усе. Але ж кожны думае так заўжды пра чалавека, без якога няма спакою... Яна ўсміхнулася.

«Няўжо яшчэ хто так можа пакахаць, як я, недарэка?»

Яна пакінула брамку, падалася вуліцай да ракі, дзе тады першы раз тут, у вёсцы, выйшла яму насустрач. Быў вечар, маркотны, заціхлы, — вераснёвы. Пуні пахлі сенам, яшчэ не злежаным, свежым ад лета. Выдавала, што ідзеш шашою да гэтых далёкіх Грынёў з раёна. Трэба дыбаць, бо няма машын, а начаваць не выпадае. Заўтра раніцай прыём. А медыкаменты ў яе, у студэнцкім яшчэ чамаданчыку.

Ідзеш, дзе паабапал дарогі пахнуць канюшынай скошаныя лагі. Гэта ля эртэасаўскай сядзібы. Там такія густыя і бліскучыя вербалозы ў абочынах, там на горцы малады сквер. А за ім — цыстэрны, пафарбаваныя ў белае. Раскіданыя без толку, — што выпражаныя валы распаўзліся на папаску.

Пахне краскамі з поля. За логам — невысокія ячмяні, туды далей пад альшэўнік, дзе рака, — грэчка. Яна ў цвеце.

Ціша. Сонца не зайшло. Яно разлілося пераспелай малінай за хмарамі. Там пажар на ўвесь далёкі лес.

У паветры трымцяць-мітусяцца матылькі — будзе цёпла і стане на пагодзе. Ды пахнуць, пахнуць травы... Гэта недзе ад мёду. Галіна ніколі б не дала веры, што самыя пахнючыя лугавыя кветкі тады, калі яны змерлі,— ляжаць у прывялых пакосах.

Доўгая дарога пакідае ў памяці такія вечары назаўсёды...

Сённяшні вечар не той — халодны, з дымамі з комінаў. Яны сцелюцца, зносяць усе пахі, збіваюць іх. Ля маста паветра цёплае, згусцелае. Ці не таму, што туман і дымы валакуцца ў гэта сырое, нізкае месца?

Месяц-поўня. Зусім белы. Лянівы. Выкаціў нехта яго з-за горкі, з-за бальшака, і ён вісне цяпер над ліпамі, што ля калгаснага саду, і ніяк не можа ўзняцца вышай, угору. Цяжка яму, хоць памажы вазьмі.

Ні знай, ні ведай чаму, Галіна не дбае цяпер пра таго, праз каго мусіла сёння ісці сюды, пад Лавацкія сады. Мо' думы пра яго забірае надзея, радасць? А яна ад таго, што ён прыйдзе? Прыйдзе... Першы раз яны сустрэнуцца па-новаму, сустрэнуцца, каб...

Галіна далей баіцца прызнавацца.

Разлёгшыся на платы, спяць натапыраныя вішнякі і яблыні. Краны — прачнуцца, зашапочуць. Лісце на іх ад цемнаты дробнае, мізэрнае. Яно ў расе, бо блішчыць ад месяца, і выдае халодным. Прыкласці б яго да шчакі, што гарыць, бы хто варам абліў. Твар недзе ў агні-чырвані. Добра, што вечар, ноч...

На небе рэдзенькія воблачкі; плывуць хутка-хутка ў бок месяца, бы хто там, уверсе, раскалашмаціў лебедзя, і вецер зганяе лёгкае, белае, што снег, пер'е. Зоркі цьмяныя, іх мала, — бо светла. Брэшуць сабакі па ўсёй вёсцы, не разбярэш у каго. Стогне рэчка, дзе застаўкі. Тарахціць падвода на ферме. За дарогай, пад Закалюжжа, сакоча трактар. Яго добра чуваць, хоць і далёка. Ціхая ноч.

Галіна паднялася на горку. Гэта за вёскай. Тут гудуць-ныюць правады.

Пастаяла, паслухала, прычасала валасы; зашпіліла, а пасля зноў адпусціла верхні гузік у кофтачцы, каб той не здушваў. Дастала з кішэнькі хустачку, пакамячыла ў руках і зноў схавала — засунула ў рукаў, ды слухала, слухала...

Крокаў не было, а яна чакала іх.

Запахла ляжалымі яблыкамі, сырой зямлёй, скапаным бульбянішчам. Ноч дыхала.

Можна колькі хадзіць паўз мяжу, можна стаяць, прытуліўшыся да тыну, можна прагледзець вочы ў шэрай начы, — ды хіба гэтым супынішся? Душа суладная з думкамі; прагнеш увесь таго, хто можа ўгаіць яе, каб не балела...



Стыне сад на холадзе; стынуць дзявочыя плечы пад кофтачкай, а шчокі гараць. І не скажаш каму, не выплачаш крыўду...

Яго няма. Не прыйшоў. Ты падумай... І хутка зусім паедзе. Прыкра. Не хочацца думаць пра такое, ахвота збегчы, не трапіцца цяпер на вочы яму, ды і нікому. Хочацца быць дзяўчом год чатырнаццаці, калі для цябе ўсё-ўсё наперадзе, калі такое чакаецца з дня на дзень, з года ў год. І вось прыходзіць, прывальвае яно нязвана-нягадана, зусім не тое, што чакалася, і разбівае звыклыя мроі.

Пачуццё — насланнё. Ад яго не хутка вылечышся. А ці варта? Цяжка адказаць на гэта дзяўчыне, якая пакахала. Цяжка параіць самой сабе.

У грудзях горача, ад крыўды, мусіць. Цяжка яе стрымаць. Не прыйшоў... Каб можна было яго цяпер, адразу ж, выкінуць, вырваць з душы...

Ноч жыве. Буяе сад ад паху ападкаў. Абабітыя ветрам, зляжалыя ў сапрэлай ад начных рос атаве, яны цяпер — мёд, малінавы чай, варэнне з ягад, — што хочаш... А плады, зусім познія, асеннія, што бялеюць за платамі на дрэвах, — недзе крамяныя і халодныя, іх не ўгрызеш. Яны там цвёрдыя і кіслыя, іх толькі на зіму хаваць. Познія антоны... Такіх шмат у грынёўскіх садах.

Вартаўнік не спіць, кашляе. Недзе мо' курыць. Але ў чыстым і густым паветры не чуваць тытуню, — відаць, свежасць цягне яго адгэтуль пад раку, за сады.

Брахаў быў сабака. Гэта ўчуў яе. Але змоўк, бо гаспадар яго спачываў у спакоі.

Галіна прысела на камень. Толькі крышачку, каб мо' супакоіцца, ненадоўга, — прастынуць жа можна. Камень шэры і зусім цёплы. Пад нейкім высокім дрэвам, што па той бок плоту. Мусіць пад грушай. Бялее пад нагамі дарога, што спускаецца з гары да маста і недзе нікне там, дзе шваргоча па каменні рака. Там зыркаюць агнямі вокны хат. Грыні вячэраюць пасля поля; не спяшаюць познія гаспадары. Вёска маўчыць: моладзь у клубе. Там жа і ён, яго прычакаць трэба, бо даў слова.

Яна мае віну перад сабою — сама сказала яму, што будзе чакаць, сама загаварыла пра спатканне і дабілася яго.

Месяц, папаўнелы і паблеклы, выплыў з-за саду. Павіс над дарогай. Сарвіся ён цяпер адтуль, з вышыні,— якраз бы паў на жвіраватую дарогу і пакаціўся б у Грыні аж на самую вуліцу.

Заныла сэрца, зашумела ў галаве. Мо' ад таго, што за садам на шашы загулі матory. Угледзеўшыся, льга было заўважыць, — ідуць прычэпы. Тут дарога не мерла на ноч.

Успомнілася першае спатканне ў гэтым краі з Леанідам, там, на шашы, у лесе. Тады ён быў як вялізны чорны матыль, выхаплены з цемрыва фарамі які раз-другі. Хто б мог думаць тады, што гэта ён... А мог тады і загінуць. Такі неасцярожны... Смелы...

Сад засынаў. Не кашляў вартавы, не шасцелі яго лёгкія ногі па апалым і высахлым за пагодай лісці, — улёгся спаць. Ды і надакучыла яму недзе тырчаць на варце ля якой там жменькі позніх дрэў. Хто іх зачэпіць...

Шамацелі зрэд пад плотам па лісці мышы. Асцярожна... Ці не норы набівалі дабром на зіму? Крактаў-енчыў у канцы вёскі журавель; нехта з грынёўцаў запасіўся, каб халоднай раніцай не бегчы да студні. Так рабіла і яе гаспадыня, налiваючы ўранку гаршкі ўчарашняй вадою з вядзёр, што поўныя начавалі ў сенячках.

Стала холадна. Перасохлі вусны. Кідала ў дрыжыкі. А мо' гэта месяц мітусіўся ў вачах? Не, ён спакойны, ленаваты і да ўсяго цікаўны.

На сэрцы цяпер зусім лёгка, што пасля слёз. Занылі ногі і плечы,— то падкрадаўся сон. Галіна ўстала, прайшлася паўз гароды і зноў прыхінулася да плоту. Пасля аж адскочыла, нехта ішоў, бо шасцеў на мяжы. Не, не ён. Бег сабака вартаўніка. Недзе быў сцюпаў у вёску, не адно чужое карыта вылізаў і цяпер лена трухаў у будку да гаспадара. Надзейны памагаты... Дачакаўся, пакуль гаспадар вочы звёў, і шукай яго — ветра ў полі.

Ля Галіны спыніўся, пастаяў, памахаў хвастом і праціснуўся між жэрдзя ў сад. Мо' не рашаўся брахаць, каб не разбудзіць на сваю галаву чалавека, а можа Галіна здалася яму сваёй. Яна ж колькі во блукае тут, мо' памагае гаспадару... Так думалася ёй.

Ад ракі прыблукаў туман, аж да саду. Выдалася, што пацяплела. Галіна зноў апусцілася на камень.

(Працяг будзе.)

Міхась МАШАРА

# ПАШТАЛЬЁН



З поштай у торбе вялізнай, скуранай
вуліцай нашай міма акон,
кожны дзень ходзіць раніцай рана
госцем жаданым наш паштальён.

У зялёнай сукенцы ў палоску,
постаць гнуткая... вечна ў хадзе:
нібы вецер імклівы бярозку
ўсцяж наперад за косы вядзе.

Носіць пісьмы, паштоўкі, газеты
уручае заўсёды у час.
Позірк вочаў гарэзліва-ветлы
хоць на міг, але ўскіне на вас.

Прывітанняў, цалункаў, паклонаў
і пачуццяў гарачых людскіх
кожны дзень шмат разносіць нястомна.
І ніколі не зблытае іх.

У нас дом ёсць адзін — там, за скверам,
сталявар жыве ў ім малады.
Ёсць там скрынка для пісьмаў на дзверах, —
пісьмы ўсё ж не трапляюць туды.

Як прыходзіць да гэтага дома,
чырванее, як зорка, дзяўчо,
і касынка чамусь невядома
ападае сама на плячо.

...Усміхнуўшыся вельмі прыгожа,
яна стукае хлопцу ў акно.
А хлапец здагадацца не можа,
што кахаюць яго ўжо даўно.

* * *



Вераснёвы вецер песціцца,
скалыхнуў начную ціш.
Адзінота ў вочах свеціцца,
ты сумуеш і не спіш.

За акном бярозы лісцямі
абнялі пахілы тын.
Як сустрэліся калісьці мы
мне набегла на ўспамін.

Як ішлі мы ў луг някошаны,
як здружыла нас вясна,
як шумела ціхім пошумам
на уцеху нам яна.

Не тужы...
хай вецер песціцца,
хай сумуе ціха ноч.
У маім сэрцы промень свеціцца
сініх-сініх тваіх воч.





*Дарогамі сямігодкі*

Вера ПАЛТАРАН

# НАСУСТРАЧ СОНЦУ

**Нарыс**

Мал. П. Лысенкі.

Між высокіх, рэдкіх сосен, між ліпавых прысад, афарбаваных асенняю пазалотай, пралеглі шырокія асфальтавыя дарожкі. Узбоч іх вытаптаны сцяжынкі, цвёрдыя і гулкія, як асфальт.

Кожную раніцу, як толькі стрэлкі гадзінніка пакажуць пачатак восьмай, з усіх канцоў да прызаводскай плошчы пачынае плыць бясконцы людскі паток. Ён паўнее, шырыцца і, як рэчка, што ў паўнаводдзе выйшла з берагоў, шырока разліваецца па плошчы. Праз момант, завіраваўшы ўсімі сваімі плынямі ля прахадной, ён павольна знікае ў ліпавых і таполевых прысадах.

За гусцечаю дрэў не відаць заводскіх карпусоў. З-за блізкага бору ўзыходзіць сонца. Па-асенняму нізкае, яно, здаецца, зусім блізка — вось за гэтым борам — і гэта насустрач яму плыве і плыве няспынная людская рака.

Нідзе не чуваць ні грукату, ні

моцнага гулу. Толькі па прыглушанаму шуму адчуваецца, што недзе тут, *за густымі прысадамі*, дыхае сваім натруджаным дыханнем вялікі завод.

Калі вецер павее з усходу, ён даносіць сюды, на прызаводскую плошчу, *водар чабору і жывіцы*. І здаецца, што спрадвеку жывуць тут у блізкім суседстве прырода і працаўнік-завод.

Ды не... Яшчэ і цяпер, калі добра ўслухаешся ў шматгалосы шум бору, можна пачуць далёкае рэха людскіх галасоў. Гэта памятлівыя сосны захавалі на доўгі ўспамін звонкія воклічы тых, хто першы парушыў спакой лясной ускраіны.

Было тое не так даўно. Пакаленне, юнацкія крылы якога апаліла сваім пякельным полымем вайна, па закліку партыі і камсамола рушыла на будаўніцтва першынца пасляваеннай пяцігодкі — Мінскага трактарнага завода. Беларусь парашыла сваімі трактарамі на *сваіх палях навек заараць праклятыя сляды вайны*.

З таго часу прайшло чатырнаццаць год. Сёння індустрыяльную славу нашай рэспублікі разносяць па ўсім свеце магутныя працавітыя машыны з гордай назвай «Беларусь».

Пакаленне, якому выпала шчасце закладваць падмуркі гэтай славы, ужо ступіла ў сваю сталасць. На змену яму прыйшла новая маладосць, якая сваёю шчыраю працай пракладвае дарогу далей, у светлы заўтрашні дзень.

* * *

«Яны нейкія асаблівыя... Цяжка сказаць — чым, але кожны з іх запамінаецца адразу...»

Так падумаў сабе мастак Пятро Лысенка пасля першага знаёмства з брыгадай токараў восьмага ўчастка маторнага цэха, якую ўзначальвае Віктар Пятрашка.

За першым знаёмствам адбылося другое. Пакуль вялася гаворка, пакуль мастак не браўся за аловак, усё ішло як след. Людзі былі *самімі сабою: яны рабілі сваю звычайную справу*, і можна было паспрабаваць зблізку разгледзець тую асаблівасць кожнага з іх, якая з першага разу кінулася ў вочы.

Позірк спыніўся на дзяўчыне, што завіхалася ля свідравальных



станкоў. «Інюшына... Алена Мікалаеўна», — назвала яна сябе, знаёмячыся. Бач ты... «Алена Мікалаеўна»! А гэтай Алене Мікалаеўне наўрад ці ёсць дваццаць. То*ненькая, спрытная, рухавая, яна* не дае чатыром сваім станкам ні хвіліны перадышкі. Раз — жалезныя лапы моцна заціскаюць дэталь; два — па-мужчынску спрытна і дакладна падведзена да *дэталі* свярло; тры — уключана ахаладжальная эмульсія, — і завіхрылася бліскучая стружка.

Гэткім жа парадкам задаецца работа астатнім станкам, і пакуль яны спраўляюцца з ёю, Лена ўхопіць венік, каб з усёй дзявочаю шчырасцю прайсціся ля станкоў. *Мяце, а сама раз-поразу кідае во*кам на станкі: трэба дапільнаваць кожную дэталь, бо калі яе ў час не здымеш, яна наніжацца на свярло. А тады — збівай яе... Гэта лішняя трата сілы, часу, а *галоўнае* — свярло ж псуецца.

Лена паспявае сачыць за кожным станком. Вось толькі што яна мільганула з венікам, а тут ужо тоўстым жалезным кручком здымае стружку, што наматалася на свярло. Яшчэ імгненне — і прасвідраваная дэталь, бліснуўшы зі*хатлівай сярэдзінаю, лёгка, як* абаранак, ляціць у скрыню, а спрытныя Ленiны рукі ў той жа момант замацоўваюць на станку новую. У кожным руху дзяўчыны столькі спрыту, энергіі, смаку да работы і столькі дзявочай зграбнасці, што рука мастака сама пацягнулася да алоўка... Як шкада, што чалавек не бачыць сябе тады, калі ён бывае асабліва прыгожы.

Адзін... другі... трэці размашысты штрышок. Мастак кінуў на дзяўчыну быстры позірк, і ў яго апусціліся рукі. Перад ім была не рухавая, як жывое срэбра, Леначка, а нейкі яе скамянелы двайнік: твар застылы, вочы шкляныя, вусны моцна сцяты. І рухі нейкія *ненатуральныя, нібы яе хто звя*заў.

Гэта яна заўважыла, што яе малююць.

— А вы працуйце, не звяртайце на мяне ўвагі... — паспрабаваў угаварваць яе мастак.

Лена толькі ўсміхнулася ні то вінаватай, ні то збянтэжанай усмешкай, і гэтая збянтэжанасць так і не сыходзіла з яе твару.

«Нічога не зробіш... Прыйдзецца, відаць, адкласці гэты малюнак да другога разу... От жа далікатныя гэтыя дзяўчаты! З хлопцамі прасцей! Што ж, пачнем хіба з брыгадзіра», — і мастак накіраваўся да Віктара Пятрашкі.

Віктар *ахвотна* загаварыў пра сваю работу, пра брыгаду. Але як толькі справа ў мастака дайшла да алоўка, і Віктара нібы хто падмяніў: у вачах яго неяк адразу пагаслі смяшлівыя іскрынкі, а на твары застыла разгубленасць...

...У той раз мастак прывёз з завода толькі прыблізныя накіды сваіх будучых малюнкаў ды яшчэ незразумелую загадку: «І чаму яны так бянтэжацца?»

Разгадана гэтая загадка была крыху пазней, калі мастак бліжэй пазнаёміўся з брыгадай.

* * *

У Маскве ішла Усесаюзная нарада ўдарнікаў камуністычнай працы. Хоць ва ўсіх газетах друкаваліся справаздачы аб яе рабоце, але члены брыгады Эдуарда Куліка з нецярпеннем чакалі свайго брыгадзіра, каб пачуць ад яго больш падрабязна пра ўсё, што гаварылася на нарадзе. Газеты — газетамі, і зусім іншая справа, калі табе пра ўсё гэта раскажа з усімі падрабязнасцямі твой таварыш.

Ды і ў іх было пра што расказаць. Пакуль ішла нарада, жыццё вялікага заводскага калектыву таксама не стаяла на месцы. Кіраўніцтва завода, інжынерна-тэхнічныя работнікі, перадавыя рабочыя вытворчасці прадаўжалі нястомна шукаць шляхі павелічэння выпуску прадукцыі. Разам з далейшым удасканаленнем вытворчага працэсу адбывалася ўшчыльненне вытворчых плошчаў.

Не абышлося без змен і ў цэху задніх мастоў. Трэці ўчастак гэтага цэха, на якім працавала брыгада Куліка, было вырашана перавесці ў маторны цэх.

Пачалося і закончылася «перасяленне». Брыгада працавала на новым месцы, і яшчэ з большым нецярпеннем чакала свайго брыгадзіра, каб падзяліцца з ім сваімі навінамі.

Ішоў дзень за днём. Ужо закончыла сваю работу нарада і раз'ехаліся з Масквы яе ўдзельнікі, а іхняга *брыгадзіра ўсё не было*. Потым пайшлі чуткі, што ён не вернецца ў брыгаду.

Хлопцы разгубіліся. Як жа так? Яны ж разам з ім бралі высокія абавязацельствы вучыцца жыць і працаваць па-камуністычнаму, яны пайшлі разам з ім у вялікую жыццёвую дарогу. І, раптам, на палавіне дарогі апынуліся адны... Чаму ён іх пакінуў, не давёўшы да мэты?

Думалі ўсяляк. Калі ўспаміналася ўсё перажытае разам з ім, калі перад вачамі ўзнікаў яго воблік, тады неяк адразу знаходзілася апраўданне: «Мусіць жа так трэба было... Не мог ён так, без дай прычыны, узяць ды пакінуць брыгаду».

Хлопцы любілі свайго брыгадзіра.

Але ў жыцці бывае так, што са*мая пякучая крыўда ўзнікае ў ду*шы на таго, каго моцна любіш.

І хлопцаў апаліла гэтая крыўда. Не, яны не даруюць брыгадзіру яго адступніцтва. Яны напішуць у партком заяву і папросяць, каб яго вярнулі назад у брыгаду. А там, калі вернецца... Што будзе, калі ён вернецца, яны і самі не ведалі. Няхай бы ён толькі вярнуўся!..

Заява ў партком ад імя брыгады — справа не жартоўная. Трэба спачатку параіцца з кім-небудзь старэйшым, як яе напісаць.

У гэтую цяжкую хвіліну да хлопцаў падышоў начальнік участка Павел Юр'евіч Левенштэйн. У Паўла Юр'евіча з брыгадай Куліка даўняя дружба. Ён — старшым майстрам, а Эдуард Кулік — брыгадзірам прыйшлі працаваць на трэці ўчастак цэха задніх мастоў па закліку Валянціны Гаганавай.

Выслухаўшы хлопцаў, Павел Юр'евіч задумаўся. Тое, што Кулік не вярнуўся ў брыгаду, закранала інтарэсы не толькі гэтага маленькага калектыву, але і ўсяго ўчастка. Разумны, энергічны брыгадзір — першы памочнік і старшага майстра, і начальніка ўчастка. Бывае, здарыцца недахоп, або, як тут кажуць, «дэфіцыт», якой дэталі, старшы майстар — адразу да брыгадзіра: «Выручай, браток». І браток, перамовіўшыся з брыгадай, са скуры вылезе, а патрэбную колькасць дэталей дасць у самы кароткі тэрмін.

Гэта, як кажуць, у «ліхую гадзіну». А ў добрую такіх «дэфіцытаў» у вопытнага брыгадзіра не бывае, бо ён сочыць, каб кожны член яго брыгады апрацаваў запланаваную колькасць дэталей.

Так што Паўлу Юр'евічу не было ніякага інтарэсу застацца без такога брыгадзіра. Але ён бачыў і другое: працавітая, дружная брыгада пачала траціць веру ў свае сілы. Трэба было падтрымаць яе жыццёвы тонус.

Нездарма Павел Юр'евіч пражыў на свеце свае чатыры з добрым гакам дзесяткі гадоў. Ён ведаў, што калі маладыя людзі пачынаюць траціць веру ў свае сілы, трэба балюча закрануць іх гонар.

І таму ён сказаў:

— Дык што ж гэта ў нас выходзіць, хлопцы?.. Гэтак дружна працавалі, брыгадай камуністычнай працы звацца хацелі, а тут без аднаго чалавека абысціся не можам. Чаго ж мы пасля гэтага вартыя? Я думаю, што трэба выбраць новага брыгадзіра і працаваць так, як працавалі дагэтуль. Можа,



# САЛІГОРСКІЯ СУСТРЭЧЫ

*Калі прыязджаеш на вялікую будоўлю,* дык адразу неяк губляешся ад разнастайнасці ўражанняў, ад вялікай унутранай узрушанасці і не ведаеш, з чаго пачынаць.

1. «Валянцін Любімаў, начальнік будаўніцтва другой шахты Салігорскага калійнага камбіната — лепшы на будоўлі інжынер», — так рэкамендаваў мне парторг таго чалавека, партрэт якога я павінен быў напісаць. І вось пачаліся пошукі, даволі складаныя, бо Любімаў быў скрозь і ўсюды, толькі не там, дзе я яго шукаў.

Як жа я здзівіўся, калі перада мной з'явіўся малады, віхрасты, у клятчастай *тэнісцы хлопец і мне сказалі,* што гэта і ёсць Валянцін Любімаў.

«Лепшы інжынер, начальнік шахты і такі просты, сціплы знешні выгляд», — падумаў я і ўсе ранейшыя задумы пачалі неяк адразу бурыцца.

Але выхад быў знойдзен. Я папрасіў Валянціна Генадзевіча надзець гарняцкую форму. Сустрэч станавілася ўсё больш і знаёмства рабілася ўсё больш блізкім. На палатне ўсё выразней выступаў твар гэтага чалавека. Калі ж, спусціўшыся ў ствол шахты, я ўбачыў начальніка «за дзелам», адчуў, з якой павагай адносяцца да яго шахцёры, мне стала ясна адно: зробленае мной пакуль толькі эцюд. Яшчэ шмат трэба назіраць Валянціна Любімава, каб перадаць самае характэрнае для вобраза горнага інжынера — маладога камандзіра вытворчасці: цікаўнасць яго да ўсяго новага, шчырасць у калектыве, практычную сталасць розуму і неўтаймаваную бадзёрасць, жыццерадаснасць.

2. «Агні Салігорска» — так умоўна можна назваць гэты эцюд. Надвячоркавы пейзаж будоўлі не быў задуман загадзя. *Ён знайшоўся раптоўна,* у час работы. Матыў з надшахтнымі капрамі так усхваляваў, што я, захапіўшыся работай, не заўважыў, як пачало шарэць. Адзін за адным запальваліся агні. Апошнія праменні сонца, якое хавалася за далягляд і чырванню асвятляла капры з прыбудовамі, так кантраставалі з першымі агнямі вечара, што вельмі ўзрушылі мяне складанасцю асвятлення, хуткай зменай колеру, і я хуценька пачаў рабіць накід. Цяжка перадаць словамі той унутраны творчы стан, калі літаральна за некалькі хвілін паспяваеш зрабіць больш, чым за марудныя гадзіны спакойнага назірання.

Эцюд «схоплен» з натуры. Але яшчэ шмат працы наперадзе, каб перадаць непаўторную веліч і сапраўднае хараство таго новага, што здзяйсняецца цяпер салігорскімі будаўнікамі і гарнякамі, каб уславіць па-новаму індустрыяльную моц роднай рэспублікі.

**Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК.**

Эдуард яшчэ пашкадуе, што пакінуў такую брыгаду...

Хлопцы з палёгкай уздыхнулі. Як гэта яны самі да гэтага не дадумаліся?.. Сапраўды, трэба ўзяцца за работу так, каб Эдуард не раз пашкадаваў, што пакінуў іх. А што датычыць новага брыгадзіра, то чым не брыгадзір Віктар Пятрашка! Хлопец ён сумленны, сяброўскі, шчыры, працуе добра і з людзьмі ўмее ладзіць. А што ў яго няма вопыту кіравання брыгадай — не бяда. Навучыцца. Яшчэ ніхто не нарадзіўся на свет брыгадзірам: усе здабываюць гэтую навуку на практыцы.

І яшчэ аб адным дамовіліся ў той раз члены брыгады ўжо Віктара Пятрашкі: абавязацельствы, узятыя ў спаборніцтве за званне калектыву камуністычнай працы, застаюцца ў сіле. Цяпер трэба яшчэ з большай стараннасцю ўзяцца за іх выкананне.

Віктар Пятрашка згадзіўся на брыгадзірства не без унутраных ваганняў. Ён адчуваў, што яму, чалавеку новаму ў кіраўніцкай справе, нялёгка будзе працаваць пасля такога вопытнага брыгадзіра, як Эдуард Кулік. Акрамя таго, у Віктара ёсць яшчэ адзін немалы клопат. Разам з рабочымі свайго завода на калектыўных пачатках ён узяўся будаваць дом, каб атрымаць у ім кватэру. Віктар — чалавек сямейны. Хоць яго сямейка і невялікая — жонка і маленькая дачка, але цеснавата ў бацькавай хаце, і хлопец адчуў, што трэба клапаціцца пра свой куток.

І вось кожны дзень пасля першай змены ці да пачатку другой Віктар муруе сцены свайго будучага дома. Хлопцу і тут хочацца падагнаць работу, пакуль стаяць цёплыя дні, і на завод трэба прыбегчы загадзя да пачатку змены. Гэта раней можна было прыйсці да станка мінута ў мінуту, а цяпер — не тое. Ты — брыгадзір, і будзь ласкавы паспець да пачатку работы агледзець свой участак, праверыць, ці не паламаныя дзе разцы і ці ёсць яны ў запасе, ці забяспечана людзям работа. Гэта найпершы абавязак брыгадзіра — думаць і клапаціцца пра ўсю сваю брыгаду.



Па рабоце ацэньваюць у брыгадзе, чаго варты іх кіраўнік. Віктар і раней працаваў добра. А цяпер, стаўшы на відавоку ўсёй брыгады, хлопец адчуў, што трэба працаваць яшчэ лепш, так, каб і другіх ахвота брала.

Віктаравы тры такарныя станкі стаяць літарай «П», і яго рабочае месца — якраз у сярэдзіне гэтага «П». Трэці станок паставілі не так даўно. Да гэтага дэталі, якія апрацоўваў Віктар, абточваліся на двух станках. Але кавальскі цэх выпускае гэтыя дэталі з вялікім прыпускам і пры абточцы часта ламаюцца разцы, дык Павел Юр'евіч Левенштэйн падаў думку паставіць трэці станок, каб ён «абдзіраў» лішнюю таўшчыню дэталі. Тады двум другім станкам застаецца здымаць танчэйшы слой стружкі і разцы там служаць даўжэй. Раней, бывала, за змену ламалася да трох — пяці разцоў. Кожны разец каштуе 15 рублёў. Гэта — немалая нацэнка на сабекошт кожнай дэталі.

Працаваць на трох станках, вядома, цяжэй, чым на двух. Раней дэталь трэба было замацоўваць і здымаць два разы, а цяпер — тры. Ды і сачыць за работай што двух станкоў, а што — трох, — розніца.

Але для Віктара не існуе, здаецца, гэтай розніцы. Вось першы станок, зрабіўшы сваё, спыніўся. Трэба зняць дэталь і ачысціць яе ад стружкі. Некаторыя гэта робяць проста: бяруць тоўсты драцяны кручок, — без яго да гэтай стружкі не падступішся, яна вострая і рэжа рукі, — і пачынаюць здымаць з дэталі стружку тут жа, на станку. Віктар ніколі не ачышчае дэталь ад стружкі на станку. Ён здымае дэталь, ставіць на яе месца новую, і тут жа запускае станок, каб ён не стаяў без работы. А тады ўжо бярэцца за стружку... Для токара гэта — самая непрыемная работа. Ён ірве, здзірае праклятую стружку, а яна, бывае, наматаецца так шчыльна, што хоць ты яе зубамі грызі. Марнуецца каштоўны рабочы час... Чалавек дарэмна траціць сілы... Ды і глядзець на ўсё гэта смешна: цяжкая дэталь, якую ў руках не

роўства. Таіса Скрэбель. абавязаўшыся надаіць ад кожнай каровы па 4.000 літраў малака, дапамагае і сяброўкам дабіцца гэткіх жа вынікаў. Гледзячы на яе, неяк не верыцца, што з чатырох гадзін раніцы яна ўжо працуе на ферме: столькі свежасці на яе твары і жвавасці ў рухах.

Прыемна мне было ўбачыць і сваю даўнюю знаёмую — Таісу Палавец, тую самую, якой захапіўся я яшчэ ў першы прыезд. Яна ішла сустракаць статак, які гналі з поля на другую дойку. Нешта змянілася ў яе паходцы: стала яна больш павольнай і ўпэўненай. Калі каровы заходзілі ў памяшканне, яна стаяла збоку, уважліва аглядаючы іх. Сонечныя прамені падалі на яе твар, і таму ён здаваўся залаціста-ружовым. Рысы твару — простыя, строгія, натхнёныя. Мяне, як мастака, усё гэта вельмі ўсхвалявала. Захацелася зрабіць партрэт гэтай дзяўчыны, каб паказаць чалавека, якога ўпрыгожвае праца. А праца яе адказная.

Не лёгка было Таісе Палавец, калі ёй даручылі даглядаць купленых у Латвіі кароў. Рукі апускаліся ў першы час. І не дзіўна. Каровы не былі прызвычаены да нашых умоў. Цяжкія, яны грузлі ў балоце, некаторыя пачалі хварэць. Колькі спатрэбілася намаганняў і ўпартасці, каб паставіць іх на ногі і дамагчыся высокіх надояў.

Таіса скончыла дзесяцігодку і марыць паступіць у політэхнічны інстытут.

Над партрэтам трэцяй Таісы папрацаваць прыйшлося, на жаль, мала. Вельмі ўжо заняты яна чалавек. Нягледзячы на малады ўзрост, працоўныя аказалі Таісе Крышчук вялікае давер'е — выбралі яе дэпутатам у раённы Савет. Таіса сваёй працай імкнецца апраўдаць гэта давер'е. Рухавая і дапытлівая, яна ўсюды паспявае. Яе можна ўбачыць і ў гутарцы з калгаснікамі, якія цікавяцца пытаннямі міжнароднага становішча, і на клубнай сцэне, дзе яна разам з сяброўкамі спявае аб шчаслівым жыцці.

Нскалькі дзён, якія давялося правесці ў далёкім палескім калгасе, надоўга застануцца ў маіх думках. Прадухоўнае харатво трох Таіс — маладых сельскіх працаўніц мне і захацелася расказаць у гэтых акварэлях.

**Ільл НЕМАГАЙ.**

Таіса Крышчук.



У вольны ад работы час.





Уладзімір Стальмашонак. Партрэт начальніка будаўніцтва другой шахты ў Салігорску Валянціна Любімава.



Уладзімір Стальмашонак. Агні Салігорска.

# З ПАЕЗДАК НА ПАЛЕССЕ

Гэта было тры гады назад. Тады яшчэ студэнт, я надумаў зрабіць шэраг ілюстрацый да трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Каб здзейсніць гэтую задуму, мне трэба было наведаць мясціны Палесся, дзе некалі жыў і працаваў пісьменнік.

Прыехаў я ў вёску Пінкавічы, якая размешчана за тры кіламетры ад Пінска. Удзень рабіў замалёўкі для сваёй асноўнай тэмы, а кожную раніцу на досвітку пісаў эцюды. У гэты ранішні час недалёка ад дому, каля якога я працаваў, кожны дзень праходзіла невысокая чарнявая дзяўчына з прыгожымі карымі вачыма. Задумлівая і засяроджаная, яна шпарка крочыла ў напрамку да малочнай фермы. Пазней я даведаўся, што гэта адна з найбольш старанных і працавітых даярак калгаса. У мяне тады нават узнікла думка напісаць партрэт маладой калгасніцы на фоне ранішняй зары... Але здзейсніць гэтую задуму не ўдалося: справы прымусілі мяне тэрмінова выехаць у Мінск.

Гэтым летам я зноў пабываў у палескай вёсцы — у адной з брыгад калгаса імя Сталіна. Даведаўшыся, хто я і чаго прыехаў, калгаснікі з задавальненнем правялі мяне на ферму.

Толькі што скончылася даенне кароў. Даяркі падносілі малако да невялікага памоста. Я хутка расклаў эцюднік і пачаў рабіць накіды, стараючыся ўлавіць цудоўныя суадносіны колераў. Дзяўчаты ўжо добра загарэлі, іх твары і рукі па кантрасту з зялёнай травой здаваліся чырвонымі.

Адарваўшыся на хвіліну ад работы, я ўбачыў некалькі дзяўчат, якія стаялі побач, крытычна пазіраючы на мае замалёўкі. Калі прайшла першая няёмкасць, адна з іх, як відаць, смялейшая, сказала: «Нас бы намалявалі».

Мяне ўразіла гэтая непасрэднасць. Простыя дзяўчаты, звычайныя працаўніцы... Але колькі ў іх шчырасці, сардэчнасці, цеплыні! Як зараз бачу Таісу Скрэбель. Высокая, бялявая і вельмі рухавая дзяўчына з моцнымі рукамі... Яна кіруе брыгадай, якая змагаецца за званне камуністычнай. Усяго ў брыгадзе іх трынаццаць... Розныя яны з выгляду, але ва ўсіх адна справа, адно імкненне — вучыцца працаваць і жыць па-камуністычнаму. Іх parадніла сапраўднае сяб-

Таіса Скрэбель.



Таіса Палавец.





даць, што работа яго — не лёгкая.

Дэталь за дэталлю здымаецца са станка, даўжэюць нізкі цёплых жалезных абаранкаў, але хлопца, здаецца, зусім не цікавіць, колькі іх ужо там нанізалася, — ён проста зганяе ахвоту, ссумаваўшыся па рабоце.

Няма чаго грахі таіць, ёсць у нас яшчэ рабочыя, якія разважаюць так: няма, маўляў, сэнсу працаваць на ўсю сілу. Сёння перавыканаеш норму, заўтра, паслязаўтра, а там возьмуць ды табе яе павысяць. Дык ці не лепш памалу тупаць сабе ля станка, абы час ішоў...

ўтрымаеш, кінута на падлогу. Абматаная калючай стружкай, яна здаецца нейкім вялікім жалезным вожыкам, з якім токар пацвельваецца: ірване кручком за калючы бок — і адскочыць, ірване — і адскочыць...

Кажуць, ёсць такія разцы, якія ламаюць стружку на дробныя кавалачкі і яна пацярухай абсыпаецца пад станок. Добрая гэта справа — такі разец, але бяда ў тым, што ён і сам крышыцца, як тая стружка. Токары яго не хваляць. Мусіць, у заводскай лабараторыі трэба далей павесці ўдасканаленне гэтага разца, каб усё ж зарабіць пахвалу токараў.

Ачышчаная ад стружкі дэталь ставіцца на сярэдні станок — прамежкавы паміж «абдзірачным» і «чыставым», а тая, якую абтачыў сярэдні, ачышчаецца ад стружкі і ставіцца на трэці. Тут і заканчваецца яе апрацоўка такарным спосабам. Бліскучая і цёплая, яна нанізваецца на металічныя шпянькі, што стаяць тут жа, пры станках.

Калі на шпяньках набярэцца многа дэталей, тады з кутка, дзе яны стаяць, пачынае праменіцца зіхатлівы бляск. Гэта ззяе, свеціцца сваім яркім святлом чалавечая шчырая праца.

Хораша працуе Віктар. Усё ў яго выходзіць неяк спрытна, лёгка. І толькі па расінках поту на ілбе і над вуснамі ды па туга напятых мускулах на дужых руках ві-

Якія ж дробныя гэта разважанні! Павышэнне норм выпрацоўкі на прадпрыемстве з'яўляецца заканамерным вынікам удасканалення вытворчага працэсу. Ды і павышаюцца яны не настолькі, каб іх нельга было выканаць. Нам жа няможна раўняцца на тых, хто хацеў бы пражыць усё жыццё, не ведаючы, што такое салёны рабочы пот. Да той велічнай мэты, да якой ідзе наш народ, вядзе адна дарога — дарога сумленнай, самаадданай працы. Чалавека камуністычнага грамадства стварае і створыць толькі камуністычная праца.

Энтузіясты камуністычнай працы нястомна змагаюцца з усімі аматарамі «спакойнага» жыцця. Былі такія сутычкі і ў Віктара Пятрашкі. Спачатку яго спрабавалі адгаварваць, каб ён гэтак не шчыраваў на рабоце: не падводзь, казалі, другіх, не ўсе ж такія, як ты... Адгаворы не памаглі. Тады пачалася атака з другога боку. Бывала, прыйдзе Віктар на работу, а ў яго станках — разцы паламаныя. Пакуль ён падбярэ разцы, пакуль станкі наладзіць — глядзіш, ледзь не паўзмены прайшло. Тады хлопец збярэ ўсю сілу, усю волю і да канца змены ўсё роўна зробіць сваю звычайную норму з гакам — 110 дэталей.

— Норму павысяць? — з усмешкай гаворыць Віктар, —



Дык я ж і тую прыбаўленую перавыканаю!..

Вось яно, тое рабочае сумленне, тая высокая свядомасць, на трывалым фундаменце якой і вырастае новае, камуністычнае.

Хлопцы ў Віктаравай брыгадзе падабраліся такія ж працавітыя і настойлівыя, як і брыгадзір. Узяць хоць бы Валерыя Корнева. Не глядзіце, што ён такі малады, — у гэтага хлопца ўжо ёсць свае вучні. І вучыў ён не каго іншага, як свайго былога брыгадзіра Эдуарда Куліка, калі той толькі прыйшоў у брыгаду. Таварышы любяць Валерыя не толькі за яго спрыт у рабоце, але і за тое, што хлопец ён справядлівы, прынцыповы, сяброўскі. За гэта і камсоргам яго выбралі.

І яшчэ Валеры — заўзяты футбаліст, варатар цэхавай каманды. Футболам захапілася амаль уся Пятрашкава брыгада. У час абедзеннага перапынку толькі і гаворкі бывае, што пра трэніроўкі, сустрэчы, ды пра тое, як перамагчы ў чарговым матчы інструментальшчыкаў — мацнейшую з цэхавых каманд. Дзёрзкія ў хлопцаў планы! Але перамога любіць дзёрзкіх: яна заўсёды ідзе ім насустрач.

Лена Інюшына, Міша Баярын, Міша Малахоўскі — ды ўсіх і не пералічыш, добрых работнікаў Пятрашкавай брыгады. А наладчык Леанід Свянціцкі!.. Ён жа табе па гуку пазнае кожны станок. І няхай «сфальшывіць» каторы! Леанід Свянціцкі адразу яму паправіць голас.

Ідуць дні за днямі. Выстаяўшы ў першым выпрабаванні, брыгада Віктара Пятрашкі пачынае набіраць тэмп у рабоце. Уперадзе ў хлопцаў шмат вялікіх і сур'ёзных спраў. Па імені Эдуарда Куліка была вядома раней іх брыгада. Цяпер ёй трэба як бы нанава заваёўваць свой аўтарытэт. І яна толькі-толькі пачынае яго заваёўваць.

...Вось гэта і бянтэжыла Віктара Пятрашку і Лену Інюшыну, калі да іх у цэх прыйшоў мастак. Сумленныя і працавітыя, яны не хацелі славы ў крэдыт.

* * *

Прыехаўшы з Масквы, Эдуард Кулік зайшоў да камсорга свайго



цэха даведацца пра навіны. Чалавеку заўсёды здаецца, што калі ён не пабыў на рабоце дзень-другі, то там без яго нямаведама што нарабілася.

На гэты раз яно так і было. Не паспеў Эдуард расказаць пра маскоўскія навіны, як Васіль Галавачык адразу выламжыў яму сваю:

— А твая брыгада ўжо ў маторным цэху працуе. Так што — з наваселлем...

Чуткі пра тое, што трэці ўчастак цэха задніх мастоў перавядуць у маторны цэх, даходзілі да Эдуарда раней. Але то была проста гаворка, а тут ужо ўсё зроблена. І трэба ж было здарыцца так, што якраз без яго адбылося гэтае «перасяленне»...

Не паспеў Эдуард падумаць, як яму будзе на новым месцы, а Васіль Галавачык здзівіў яго зноў:

— Слухай, Эдуард, як ты думаеш... Там у цябе ў брыгадзе ёсць добры хлопец, якога можна паставіць брыгадзірам?

— Ёсць. Віктар Пятрашка. Як па рабоце, то ён яшчэ лепш за мяне ўсё робіць...

— Ну, а ён заменіць цябе?

Эдуард насцярожыўся. Невядомасць імгненным халадком абдала яго сэрца: што яны тут задумалі? Каб схаваць збянтэжанасць, жартам запытаў:

— А я чым правініўся?

— Нічым ты не правініўся. Тут вось якая справа...

І Васіль расказаў, пра што ён думаў і раіўся з камсамольцамі цэха, пакуль Эдуард быў у Маскве.

У маторным цэху, куды перавялі брыгаду Куліка, ужо працуюць дзве брыгады камуністычнай працы. Так што задаваць тон у рабоце там ёсць каму. У цэху ж задніх мастоў яшчэ ніводнай брыгадзе не прысвоілі гэтае званне. Трэба ж і тут разгортваць барацьбу за ўкараненне камуністычных метадаў працы. Ёсць сэнс стварыць брыгаду на ўчастку валікаў. Хлопцы з гэтага ўчастка прыходзілі да Васіля Галавачыка і да Куліка. А калі людзі самі просяць, значыць, ахвота працаваць у іх ёсць і справа пойдзе найлепшым чынам.

— Хлопцы на ўчастку валікаў добрыя, працавітыя, — даводзіў Васіль Галавачык. — Шкадаваць не будзеш...

— Для мяне хлопцы ўсюды добрыя.

— Ты падумай, Эдуард. Гэта вельмі трэба...

...Трэба... Якое гэта жорсткае на першы погляд слова. Ты здружыўся з таварышамі, ты перажыў разам з імі шмат радасных і цяжкіх хвілін, ты сваёю шчыраю працай заслужыў павагу і славу. Дык чаго ж табе яшчэ трэба! Спакойна плыві сабе па пракладзенаму рэчышчу ды радуйся свайму шчасліваму лёсу.

Але ж не... У тых, хто пракладвае новыя рэчышчы, вельмі неспакойныя сэрцы. Дасягнутая мэта для іх — новая вышыня, з якой відаць далёка ўперад. І як толькі перад іх позіркам адкрываюцца новыя далягляды, усё зробленае здаецца маленькаю кропляй у акіяне вялікіх чалавечых спраў, якія чакаюць свайго здзяйснення.

Тады і ўзнікае ў душы тое неспакойнае пачуццё, якое можна выказаць адзіным, самым уладным на свеце словам — «трэба!»

Трэба — і ты развітваешся з сябрамі, з якімі моцна здружыўся, з работай, якую палюбіў, са сваім спакоем і ідзеш насустрач новым цяжкасцям, новым трывогам і няўдачам; трэба — і ты ідзеш на подзвіг; ніводная вялікая чалавечая справа на зямлі не здзейснена без глыбокага адчування яе неабходнасці.

Васіль Галавачык ведаў, што сказаць Куліку. «Трэба» — гэта той прынцып, якім кіруецца ў жыцці Эдуард Кулік.

Эдуард не ведаў, што адказаць свайму камсоргу на яго прапанову.

«Стварыць новую брыгаду»... Дык яна ж і гэтая ў яго не «старая». Толькі чатыры месяцы таму назад прыйшоў ён на трэці ўчастак цэха задніх мастоў, пакінуўшы ў першым трактарным цэху сваіх харошых сяброў і таварышаў, сваю брыгаду, якая адна з першых на заводзе заваявала пачэснае званне калектыву камуністычнай працы. Хлопцы з першага трактарнага і цяпер не забылі свайго ранейшага брыгадзіра. Не паспеў ён прыехаць з Масквы, як яны адразу завіталі да яго з віншаваннямі і роспытамі...

Крыху раней за Эдуарда на той жа трэці ўчастак, які лічыўся тады адстаючым, па закліку Валянціны Гаганавай прыйшоў працаваць з бюро тэхнічнага кантролю старшы майстар Павел Юр'евіч Левенштэйн. І неяк адразу прыйшліся адзін аднаму «пад густ» энергічны, ініцыятыўны брыгадзір і паюнацку нястомны пасівелы майстар, які працуе на вытворчасці больш трох дзесяткаў гадоў.

Пачалі наводзіць парадак: Павел Юр'евіч па сваёй лініі, Эдуард — па сваёй.

Трэці ўчастак працаваў тады з вялікімі перабоямі: месяц выканае план, два — не выканае. Ды і браку ішло вельмі многа.

У чым жа тут прычына?

Прычын гэтых было многа. І першая з іх — вельмі простая: майстар участка не заўсёды клапаціўся аб тым, каб у рабочых быў запас дэталей для апрацоўкі. «Няма тваёй дэталі — бяры другую», — звычайна гаварыў ён. А каб апрацоўваць гэтую другую, трэба пераналаджваць станок. Ну, добра, пераналадзіш, апрацуеш некалькі штук, глядзіш, і гэтыя ўжо ўсе. А там — «тваю» дэталь прывезлі. Зноў пераналадка...

Нішто не шкодзіць так станку, як частыя пераналадкі. Здаецца, што б яму адыходзіла! Працаваў бы, як загадваюць... Ды не!.. У яго свой нораў: ён любіць рабіць толькі адну работу: «набіўшы на ёй руку», ён працуе амаль без браку. Пры частых жа пераналадках — «пора» брак.

За адну гэтую прычыну чапляліся і другія. Мала зроблена, ідзе брак — заработкі ў. людзей зніжаюцца; знізіліся заработкі — адпадае ахвота працаваць. Усё разам гэта вядзе да зніжэння працоўнай дысцыпліны, а там, дзе няма працоўнай дысцыпліны, чакаць поспехаў у рабоце ўсё роўна, што ад нямога — слова.

Калі ў ліку абавязкаў старшага майстра было разабрацца ў тэхналогіі, станках і наогул ва ўсім працэсе работы ўчастка, дык брыгадзір палічыў сваім найпершым абавязкам пазнаёміцца і пасябраваць з людзьмі, якія ўваходзілі ў яго брыгаду.

Калі Паўла Юр'евіча на ўчастку прызналі неяк адразу, то Эдуарду на першым часе прыйшлося трымаць экзамен. Цяпер у яго была новая работа, зусім іншая, чым тая, якую ён выконваў у трактарным цэху: і станок другі, і дэталі зусім іншыя. І Эдуард без аніякага там гонару пайшоў на вывучку да Валерыя Корнева. Кемлівы вучань і добры настаўнік засталіся задаволеныя адзін адным, між імі завязалася дружба.

Эдуард хутка зразумеў сакрэты сваёй новай работы, і ў яго ўсё пайшло як след. Але вось аднойчы прыходзіць ён на змену, запускае станок, і — што за ліха! — станок, як анямеў. Хлопец да яго і з аднаго боку падступіцца, і з другога, — маўчыць! Што рабіць? Бегчы за дапамогаю? Не, трэба самому навучыцца разбірацца ў ім. І Эдуард амаль усю змену праваждаўся са станком. Пагледзець, ці ў парадку электраабсталяванне, хлопцу спачатку і ў галаву не прыйшло, бо корпацца ў электраправодцы рабочым не дазваляецца: на гэта ёсць спецыялісты-электрыкі. Але Эдуардаў зменшчык не паглядзеў на гэтую забарону і падстроіў Эдуарду «штуку». А потым прызнаўся: «Ну, і цярпенне, брат, у цябе! А я думаў: што ты будзеш рабіць?..»

Настойлівасць і волю свайго брыгадзіра хлопцы адчулі перш за ўсё ў працы, і самі пачалі цягнуцца за ім.

Ішоў час. Справы на ўчастку пачалі наладжвацца. Паступова зменшыўся брак, пачаў выконвацца месячны план. У брыгадзе Куліка таксама ўсё ішло як след. Знікала абыякавасць, пасіўнасць, пачаў браць верх Эдуардаў тэмп работы. А самае галоўнае — брыгада станавілася дружным, згуртаваным калектывам.

І вось цяпер трэба расставацца і з гэтай брыгадай...

— Ну, дык як ты? — перапыніў Эдуардавы думкі камсорг.

— А як жа мая брыгада?

— Яна цяпер і без цябе абыдзецца. Там Пятрашка будзе. А тут, разумееш, як трэба...

— Ну, што ж... Калі трэба — дык трэба...

Назаўтра Эдуард выйшаў на работу ў цэх задніх мастоў.

Параіўшыся між сабою, хлопцы зусім неяк забыліся пра тое, што трэба было б параіцца і з брыгадай, інтарэсы якой у першую чаргу закранала гэтае рашэнне. Ім бы ўзяць ды пайсці ў брыгаду і расказаць там усё, як ёсць: «Так, маўляў, і так, хлопчыкі... Вы ўжо сталі на ногі і можаце далей ісці самі, а нам трэба ў другім месцы падварушыць справу. А калі ў вас будзе што не ладзіцца — то мы ж тут, побач»...

Але ні Васіль, ні Эдуард неяк не падумалі аб гэтым. Васіль быў рад, што вырашылася пытанне, якое яго трывожыла даўно, і ў думках ужо бачыў брыгаду камуністычнай працы на ўчастку валікаў, а Эдуард... Ён таксама прыкідваў і разважаў, як яму лепш прыступіцца да новай работы.

...Маладосць... Ты глядзіш толькі ўперад. Для цябе не існуе ўчарашняга дня, — цябе трывожыць і вабіць толькі дзень заўтрашні. Ты імкнешся насустрач гэтаму дню і, разгадаўшы яго таямніцу, без жалю развітваешся з ім, — цябе зноў кліча сваёй загадкавасцю новы дзень. Толькі разважлівая сталасць прыпыніць потым твой імклівы лёт. Прыпыніць, прымусіць азірнуцца назад і шмат аб чым пашкадаваць. І ты, уражаная сваёй безразважнасцю, састу-



піш месца ёй — сур'ёзнай, абачлівай сталасці, у якой будзе менш памылак і менш страт.

...Сфармаваць брыгаду на ўчастку валікаў Эдуарду адразу не прыйшлося. Старшы майстар пятага ўчастка Леанід Патапенка палічыў так: на валіках хлопцы працуюць пакуль што здавальняюча, а з паўвосямі задняга кола — бяда. Гэта — самы цяжкі ўчастак работы. А калі так, то куды ж і пасляць вядомага на заводзе перадавіка, як не на цяжкі ўчастак.

Эдуард задумаўся над гэтай прапановай старшага майстра. Тое, што ўчастак цяжкі, яго менш за ўсё трывожыла: ён не шукае лёгкай работы. Але ж тут — тры змены, а ён у гэтым годзе паступае ў машынабудаўнічы тэхнікум, які працуе вечарамі пры заводзе. Акрамя таго, яны з жонкай чакаюць сынка ці дачушку, дык давядзецца калі і пакалыхаць ноччу малое, а то які ж з яго бацька будзе...

Довады, як кажуць, важкія, і старшы майстар пайшоў насустрач Эдуарду: няхай ён пакуль што папрацуе на ўчастку паўвосей у дзве змены, а там можна будзе прыдумаць што-небудзь іншае.

Зноў новая работа... І справа не толькі ў тым, што новая, — яна часовая! Дык ці варта на яе так ужо траціць сілы, дакопвацца да ўсіх тонкасцей... Можа, больш ніколі ў жыцці яе рабіць не давядзецца... Не! Камсамольскае сумленне ніколі не дазволіць Эдуарду працаваць абы-як. Часовая яна ці пастаянная, — у кожную работу ён прывык укладваць усю душу.

Прызвычаіўшыся да новага месца, Эдуард пачаў прыглядацца да ўсёй лініі. Чаму яна лічыцца слабым месцам? Хто ў гэтым вінават: людзі?.. станкі? Не, людзі ўсюды добрыя, гэта цвёрдае Эдуардава перакананне. А станкі?.. І станкі добрыя. Толькі хіба вось гэтыя тры — шырокія, прысадзістыя, з кляймом старой нямецкай фірмы на станіне. Стаяць гэтыя станкі ў пачатку лініі. З іх пачынае свой ход кожная дэталь. І вось выходзіць, што яна затрымліваецца на самым старце! Малапрадукцыйныя станкі задаюць рабочы тэмп усёй лініі. Ці не ў гэтым і ўся прычына?..

Эдуард яшчэ і яшчэ раз акінуў позіркам лінію і пачаў перабіраць у памяці свае назіранні. Ад хвалявання на ілбе выступілі расінкі поту; прыпальваючы папяросу, дрыжалі рукі...

З папяросай думаць — спакайней... Дык што, калі б вось гэтыя маруды-станкі замяніць нашымі, савецкімі, і перавесці ўсю лінію на гаспадарчы разлік?.. Вось дзе быў бы разгон!.. Толькі не трэба спяшацца з вывадамі, і пра сваю гэтую думку пакуль не гаварыць нікому-нікому!.. Абдумаць усё сто разоў... Параіцца ў бюро тэхнічнага кантролю... Можа гэта справа яшчэ не сённяшняга, а заўтрашняга дня, і да яе трэба як след падрыхтавацца. А можа — проста дзёрзкая мара... Ну і што ж, няхай... За дзёрзкай марай заўсёды ідуць смелыя справы.

Нейкім новым, больш вострым позіркам Эдуард зноў агледзеў усю лінію. Яго сэрца поўнілася вялікай, ні з чым непараўнанай радасцю, якую адчувае чалавек у смелым, высокім палёце сваіх думак.

Не ўдалося Эдуарду Куліку ажыццявіць гэтую сваю задуму. Настойлівыя хлопцы з участка валікаў такі дабіліся свайго: Эдуард пайшоў да іх брыгадзірам. Нарэшце, закончылася яго «вандроўніцтва». Цяпер можна абжывацца на сталым месцы.

Уперадзе — шмат клопатаў, цяжкасцей. Да гэтага часу толькі асобныя брыгады спаборнічалі за званне калектываў камуністычнай працы. Цяпер у гэтае спаборніцтва ўключаюцца цэхі. Недалёка і той час, калі ўсе беларускія трактарабудаўнікі заявяць аб сваім жаданні самаадданаю працай здабыць свайму прадпрыемству ганаровае званне завода камуністычнай працы. Гэта — будзе, бо ў трактаразаводскіх камуністаў — цвёрдая, непахісная воля; гэта — будзе, бо ў іх ёсць нястомныя памочнікі-камсамольцы.

І ў першых радах спаборніцтва, як і дагэтуль, будзе ісці побач са сваімі працавітымі таварышамі чалавек з багатай рабочай душою, са смелай думкай і ўмелымі рукамі, просты хлопец з трактарнага — Эдуард Кулік.

* * *

Працуе і марыць, памыляецца і вучыцца на сваіх памылках пакаленне маладых разведчыкаў будучыні. І ні на момант не спыняе яно свайго імклівага поступу насустрач сонцу камунізма, што ўстае над нашай зямлёю.

# ПОЛАЦК — САЛІГОРСК

### Рэпартаж

Аўтобус ідзе на поўдзень. За акном плывуць знаёмыя пейзажы: даліна Заходняй Дзвіны, зараснікі алешыны, засеяныя ільном палі...

— Да вечара даедзем? — пытаецца нехта.

— Хутчэй бы... Не церпіцца паглядзець, пагаварыць аб усім.

— Ты раней у шахтах бываў?

— Не. А ты?

— І мне не даводзілася... А мо' пабочным спускацца не дазволяць?

Пачуўся выбух смеху.

— Якія ж мы пабочныя? Мы ім свае!

Хударлявы хлопец, што сядзіць спераду, паварочваецца і спакойным голасам пацвярджае:

— Камсамолец камсамольцу наогул ніколі не чужы. А тым больш мы, будаўнікі...

Гэта дэлегацыя будаўнікоў Полацкага нафтаперапрацоўчага завода адправілася амаль праз усю рэспубліку ў госці да сваіх сяброў з другой ударнай будоўлі сямігодкі. Аўтобус ідзе на шахты Салігорска.

Нафтабудаўцы і салігорцы спаборнічаюць паміж сабой. Полацкі завод і Салігорскі камбінат павінны быць уведзены ў строй датэрмінова.

Першымі ўступілі ў спаборніцтва брыгада славутага будаўніка Івана Чабатара з Салігорска і брыгада палачан, якую ўзначальвае Уладзімір Стральцоў.

— Імкнучыся ўнесці свой уклад у датэрміновае выкананне плана другога года сямігодкі, наша брыгада абавязваецца выканаць сваё гадавое заданне да Дня будаўніка, — пісалі ў сваім дагаворы палачане. — Для гэтага мы будзем штодзень выконваць нормы не менш чым на 150 працэтаў, усе будаўнічыя работы здаваць толькі на добра і выдатна, сэканомім 30 тысяч штук цэглы. Усе члены брыгады павысяць сваю кваліфікацыю.



**Брыгадзір будаўнікоў «Нафтабуда» камсамолец Уладзімір Стральцоў.**



**Полацкі «Нафтабуд». Члены брыгады камуністычнай працы, якой кіруе Іван Бахір (сядзіць у цэнтры), абмяркоўваюць вынікі спаборніцтва з салігорскімі будаўнікамі.**

— Даб'емся значнай эканоміі раствору. Будзем сістэматычна абменьвацца вопытам, кантраляваць адзін другога... — дадавалі да гэтага салігорцы.

І вось, праз некаторы час «сапернікі» спаткаліся. Шахтабудаўнікі гасцінна сустракалі палачан. Паказвалі ім горад, які вырас у чыстым полі, падрабязна знаёмілі з ходам будаўніцтва шахт.

Не абышлося і без таварыскіх заўваг. Убачыўшы, як маладыя работніцы падносяць да рабочага месца раствор на насілках, палачане заўважылі:

— У нас, на Нафтабудзе, насілкі — музейная рэдкасць!

Гаспадары адразу ж згадзіліся з тым, што дзедавы метады ўстарэлі. На гэту і на іншыя заўвагі яны адказалі:

— Правільна гаворыце. Улічым.

А палачане ў сваю чаргу:

— І ў нас, вядома, ёсць недахопы. Дапамажыце і вы нам. Прыязджайце, паглядзіце ўсё на свае вочы...

Салігорцы рыхтуюцца цяпер да візіту ў адказ.

Тэкст **А. ГАНЬКОВА.**
Фота **М. МІНКОВІЧА.**

Іван **ГРАМОВІЧ**

# ІДЗЕ ВЯЛІКІ ГАЗ

## Нарыс

Мал. Г. Лойкі.

Як глянеш з узгорка ў Калядзічах на Мінск, убачыш клубкі шэрага, рудога, чорнага дыму, якія застылі ў паветры над горадам. Здаецца, нібыта ўсе прадпрыемствы, што кураць у неба, пільна і насцярожана прыслухоўваюцца, чакаюць перамены.

А перамена блізка ўжо.

Доўгае рукаво газаправоднай трасы, што ідзе з паўднёвага захаду, пралегла цераз лясы і балоты, перасекла калгасныя палеткі і паплавы, сям-там нырнула на дно рэчкі ці пракалола шашу або насып чыгункі, сям-там збочыла, агінаючы горад ці буйны пасёлак.

Гэта — брацкая рука дружбы, працягнутая з Украіны. Недалёка той час, калі мінскія, брэсцкія, гомельскія заводы і фабрыкі скажуць: «Наша Дашава... Шчырае дзякуй табе, сястра Украіна, за шчодрыя багацці тваёй зямлі!»

І якія прывабныя і цудоўныя перспектывы адкрываюцца перад нашай рэспублікай! Як зменіцца воблік яе сталіцы, ды і іншых гарадоў!

Часта можна пачуць адну круглую і даволі пераканаўчую лічбу: 6 000 000! Што гэта за лічба? А вось што. Калі вызваліць на іншыя гаспадарчыя патрэбы тую колькасць цвёрдага і вадкага паліва, якім сілкуецца горад, калі вызваліць тысячы платформ, вагонаў і цыстэрн на чыгунцы і тысячы грузавых аўтамашын гарадскога транспарту ад перавозак нафты, вугалю, торфу, то ўсё гэта зберажэ нашай дзяржаве шэсць мільёнаў рублёў у год. Немалая лічба! Рацыянальная прапанова!

М. С. Хрушчоў на XXI з'ездзе КПСС гаварыў: «У галіне паліўнай прамысловасці ўзяты рашучы курс на пераважнае развіццё здабычы і перапрацоўкі нафты і газу... Здабыча і вытворчасць газу ўзрасце прыкладна ў пяць разоў і дасягне 150 мільёнаў кубічных метраў у год... Такі напрамак у развіцці паліўнай прамысловасці дасць вялікую эканамічную выгаду. Агульная эканоміка ад замены вугалю прыродным газам і нафтавым палівам складзе за сямігоддзе больш 125 мільярдаў рублёў, г. зн. столькі, колькі выдзяляецца на будаўніцтва ўсіх электрастанцый, электрычных і цеплавых сетак».

Працоўныя Савецкай Беларусі паспяхова ажыццяўляюць сямігадовы план. Усё ідзе так, як вызначыла і распланавала наша родная камуністычная партыя. Газаправод, запраектаваны вялікім планам, цяпер на подступах да Мінска. Кожны жыхар горада, прымаючы такую вестку глыбока да сэрца, разумее гэта і з хваляваннем чакае новага паліва і на працы, і дома. Тысячы кватэр мінчан забяспечаны пакуль што звадкаваным газам. Аднак неўзабаве спажыўцамі прыроднага газу разам з жыхарамі стануць і буйныя прадпрыемствы сталіцы. У першую чаргу газ атрымае 80 прамысловых адзінак горада Мінска і 20 — Гомеля. На газе запрацуе Бярозаўская ДРЭС, Гарадзейскі цукровы завод. А потым таннае паліва атрымаюць Брэст, Баранавічы, Івацэвічы, Кобрын...

Гэты час ужо набліжаецца. Той момант, калі засвеціцца блакітны факел на адной з плошчаў Мінска, будзе не толькі знакам: «Ёсць газ!», а і знакам урачыстасці, перамогі волі партыі і думкі народа.

Кожны з радасцю разумее, што працоўныя горада не толькі будуць мець гігіенічнае паліва, ад якога стануць чыстымі гарадскія вуліцы і сады, зімой і ўлетку, што нашы прадпрыемствы атрымаюць велізарныя выгады ад спальвання газу, — умовы жыцця і працы рабочых, безумоўна, палепшацца ў дзесяткі разоў. Акрамя таго, у рэспубліцы вырастуць новыя галіны гаспадаркі. Беларусь цяпер будзе мець сваю ўласную хімічную прамысловасць, якой не мела да гэтага часу. Вырастуць хімічныя фабрыкі па перапрацоўцы газу.

Сілаю і воляю савецкага чалавека пераўтвараецца, змяняецца, робіцца квітнеючым кожны куток нашай зямлі. Калісьці ў далёкую мінуўшчыну, ды і не ў такім далёкім часе, яна, шматпакутная, палітая крывёю, была здратавана акопамі войн, была гарбатая ад курганоў-магіл. Хацелася б і цяпер заморскім цемрашалам бачыць яе такой. Аж не!

Ад горада да горада па высокіх вышках працягнуліся драты электрычных перадач. З паўднёвага захаду падыходзіць газаправод Дашава — Мінск. Па поўначы Беларусі да старажытнага Полацка імкнецца нафтапровод з-пад Волгі. Усюды кіпіць работа. Землякопы-экскаватары на гусенічным ходу рухаюцца на ўсход, пракладаючы траншэю.

Работы на ўчастку газапровода,



што ідзе да Мінска, адначасова вядуцца ў некалькіх месцах. Вось каля траншэі ляжаць доўгія, звараныя ў «пляцёнку» сталёвыя трубы. Іх выроўніваюць і цэнтруюць мантажнікі. На стыках трымціць блакітны агеньчык электразваркі. Там, дзе спрытныя і разумныя механізмы — ачышчальныя і ізаляваль ныя машыны — ачышчаюць і саскрабаюць гэтую іржу, нагар пасля электразваркі, — труба ўжо свеціцца металёвым бляскам. Дзве машыны, павольна пасоўваючыся ўздоўж трубы, ідуць, шліфуюць паверхню, старанна працуючы драцянымі шчоткамі і сталёвымі скрабкамі. Другая з іх, акрамя таго што чысціць, яшчэ і загрунтоўвае трубу, накладвае слой бітуму. Якая прыгожая, варанёна-чорная, бліскучая труба пад сонцам перад самай ізаляцыяй! Яна ўся зіхаціць! Як глянеш на яе, здаецца, з ціхаводнай Шчары выпаўз велізарны, доўгі ўюн і, зіхочучы, выпрастаўся, выцягнуўся да небасхілу.

Такое ўражанне кароткае. Хутка ідуць, спяшаюцца ізаліроўшчыкі. Па трубе паўзе ізаляваль ны агрэгат, які, здаецца, з уменнем самай спрытнай медсястры шырокімі бінтамі-лентамі спецыяльнай паперы абгортвае змочанае гарачым клейкім бітумам цела трубы. Потым яе апускаюць асцярожна на дно траншэі і засыпаюць... Няма ўюна. Яго схавалі пад зямлю і засыпалі зверху. Толькі ўзвышаецца валком невялічкі бугорчык, ледзь прыкметны там, дзе завершана ўся работа.

Можна дзівіцца на гэту магутную, складаную, дасканалую тэхніку, якой узброены газаправодчыкі. Яна паслухмяна дапамагае чалавеку, беражэ яго сілы і здароўе. Яна робіць тое, што рукамі чалавек ніколі не зрабіў бы. Дваццаць год таму назад немагчыма было і падумаць пра такі велізарны размах работы. Пры будаўніцтве газаправода Дашава — Кіеў яшчэ пацелі людзі, працуючы ўручную. Цяпер зусім іншая справа. Хіба можна было пакарыць дрыгвяністыя балоты Палесся без такой дасканалай тэхнікі? Ніколі. Газаправодчыкі на трасе выкарыстоўваюць усё — ад верталётаў, якія дапамагаюць укладваць трубы на рэках, да дакладнейшых прыбораў, якія прасвечваюць зварку стыкоў і вызначаюць іх якасць.

Наша Радзіма ўсю гэтую тэхніку — цяжкія машыны і экскаватары, аўтакраны і трубаўкладчыкі, трактары і бульдозеры, складаныя прыборы зваркі — накіравала на рашаючы ўчастак сямігодкі. І, узброеныя ёю, на трасе працуюць нястомныя, дужыя, напорыстыя людзі, яны дасканала валодаюць гэтымі механізмамі. Іх шмат.

На ўчастку, дзе вядзе работы сёмае будаўніча-мантажнае ўпраўленне пад кіраўніцтвам Аляксандра Маркавіча Комскага, ёсць некалькі стэндаў. Стэнд — пляцоўка ў полі. Там чырвоныя і зялёныя вагончыкі, у якіх жывуць будаўнікі трасы. Адсюль штодзень ідуць у паход на газаправод машыны і людзі. Тут штаб кожнай калоны. Тут табар людзей, якія жывуць незвычайным жыццём. Газаправодчыкі шмат павандравалі па зямлі. Яны будавалі многія трасы ў нашай краіне і цяпер прыехалі ў Беларусь. На грудзях у многіх красуецца значок за пабудову газаправода Серпухаў — Ленінград.

Сапраўдныя «качэўнікі». Твары іх загарэлыя, чорныя ад курадыму бітуму, але ўсміхаюцца людзі прыветліва. Бадзёрыя і вясёлыя. Яны любяць сваё вандроўнае жыццё, але яшчэ мацней кожную пядзю роднай зямлі. Яна іх нагамі сходжана, іх рукамі перасыпана на кожным метры трасы.





Жыццё вандроўнікаў асвятляе вялікая мэта. Кожнага, і бязвусага юнака, і пасівелага мужчыну, захапляе рамантыка працы.

Начальніку будаўніцтва Аляксандру Маркавічу Комскаму за сорак год. У яго загарэлы лоб з вялікімі залысінамі. Ён невысокага росту, хударлявы, і на першы погляд страшэнна стомлены вандроўным жыццём. Вядома, умовы жыцця нялёгкія. Яго вёрткі «газік» заўсёды ў дарозе. Але колькі ж энергіі ў Комскага, якім агнём гараць вочы гэтага сціплага чалавека!.. Ён увесь гарыць, хоць знешне спакойны. Аляксандр Маркавіч любіць паўтараць фразу: «Гэта ўжо пройдзены этап».

Часамі гэтую фразу ён выказвае ў задуменні, але таксама важка і спакойна. Яе паўтарыў ён, калі расказваў, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны ваяваў у Беларусі і мае за гэта ўзнагароды. Комскі змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў злучэнні Героя Савецкага Саюза З. Царука. А потым у першыя гады аднаўлення інжынер працаваў загадчыкам абласнога аддзела сельскагаспадарчага будаўніцтва ў Баранавічах.

— Я ў Беларусі, як у родным краі, — кажа Аляксандр Маркавіч. — З ахвотай і радасцю атрымаў заданне будаваць тут газаправод. Калектыў наш дружны. Ён мае добрую загартоўку. Большасць з нас да гэтага працавалі на трасе Серпухаў — Ленінград. Я, як усе мае таварышы, увесь свой вопыт, усе свае намаганні прыкладваю да таго, каб даць газ Мінску да Кастрычніцкага свята.

Незвычайныя сустрэчы праз шаснаццаць год на тых мясцінах, дзе былі баі. «Газік» Комскага амаль штодня імчыцца праз адноўленыя Баранавічы, а побач — Налібоцкая пушча. Газаправод пралёг па тых дарогах, па якіх Аляксандр Маркавіч у вайну хадзіў з аўтаматам.

На трасе сярод газаправодчыкаў спаткаеш і рускага, і беларуса, і ўкраінца, і татарына... Яны згуртаваны адзіным імкненнем у тэрмін закончыць ударную будоўлю, з'яднаны ў адно вязьмо вялікай непарушнай дружбай. А дружнай сям'і — усё па плячу.



**Электразваршчык Д. І. Гарэлаў.**

З Беларусі траса пойдзе на Вільнюс. Потым далей — на Рыгу. У недалёкім будучым цераз газаправод моцна злучацца рукі дружбы чатырох рэспублік: Украіны, Беларусі, Літвы і Латвіі. Траса газаправода, як нітка дружбы, звяжа рэспублікі. Яна яшчэ мацней з'яднае і сэрцы людзей.

Мы пазнаёміліся з электразваршчыкам-«паталочнікам» Дзмітрыем Іванавічам Гарэлавым. Ён нарадзіўся ў Расіі, сям'я жыве ў Эстоніі, сам працуе ў Беларусі. Гэты «качэўнік» і вялікі майстар сваёй справы працуе з года заканчэння вайны, якую ён праваяваў дэсантнікам. Па абветраным і загарэлым твары відно, што жыццё яго не песціла. У рабочым брызентавым касцюме, у зялёным, вязаным берэце, які ён носіць для зручнасці ў рабоце, — Дзмітры Іванавіч кладзецца часта на зямлю, зварвае «паталочнае» шво на трубе. Магчыма ў каго-небудзь з моладзі і атрымаецца паспешлівая, буйная

луска, наплаўленая электродам пры зварцы труб, але толькі не ў Гарэлава. У яго шво суцэльнае, дробненькае, раўнамернай і аднолькавай шырыні, нібыта вясельны пярсцёнак па трубе. А побач з пярсцёнкам — «5». Гэта — асабістае кляймо «паталочніка» Гарэлава і сапраўдная ацэнка яго работы.

— Трубы, хоць і калібровыя, — шчыра ўсміхаючыся дабрадушнай усмешкай, гаворыць Дзмітры Іванавіч, — але падагнаць, каб не атрымалася «губы», цяжка... І час трэба.

Ён расказвае пра «губу», пра «захлёст» і весела рагоча. Ён не ўмее марудзіць, хоць гэтыя выпадкі пры зварцы перашкаджаюць у рабоце. Гарэлаў можа зварыць у дзень восем стыкоў. Акрамя ўсяго, ён яшчэ валодае аўтагенам. А здарыцца, што няма вадзіцеля на трубапад'ёмніку, ён сам, сеўшы за руль, сцэнтруе трубу. Былі такія выпадкі ўзаемадапамогі. Ён валодае сумежнымі спецыяльнасцямі. Вось таму яго пасылаюць на самыя адказныя месцы. Пасылаюць туды, дзе павароты, дзе калена, дзе трыбала і тонка трэба зварыць, каб труба была не пераламанай, а плаўна выгнутай.

Шмат працавітых, умелых людзей на будоўлі. Імі ганарыцца ўвесь калектыў. Ёсць вопытныя кіраўнікі, арганізатары, такія, як начальнікі ізаляцыйна-ўкладачных калон Вадзім Аляксеевіч Анісімаў. Іван Мікітавіч Карнілін, Георгі Кірылавіч Філіпаў.

Асабліва хочацца адзначыць ветэрана айчыннага газабудавання і наогул будаўніцтва падземна-інжынерных збудаванняў — Міхаіла Іванавіча Грыгор'ева. Яго ўсе паважаюць, любяць, таму што да ўсіх ён адносіцца па-бацькоўску. На тое ён мае пэўнае права.

Працоўная дзейнасць Міхаіла Іванавіча пачалася яшчэ ў кастрычніку 1917 года. Яго рукі будавалі першыя вадаправоды. Ён быў ударнікам першых сямігодак, пра што сведчыць мноства ганаровых грамат. Пачалася вайна. Грыгор'еў пайшоў на фронт кулямётчыкам; там у баі ён страціў правае вока. Але Грыгор'еў — камуніст, ён — непакароны і нястомны чалавек. Вярнуўшыся да свае любімае работы, ён працаваў на ўсіх вялікіх трасах і выхаваў многа маладых газаправодчыкаў.

Міхаіл Іванавіч атрымлівае шмат пісем, дзе яму дзякуюць былыя студэнты, а цяперашнія інжынеры, якія праходзілі ў яго практыку. Ён прывіў любоў да газаправоднай справы многім, у тым ліку і членам сваёй сям'і. Міхаіл Іванавіч амаль усю сям'ю, калі не лічыць гаспадыню, «сагітаваў» на вандроўны спосаб жыцця. Адзін яго сын — машыніст на бітумаплавільцы, другі — на ізаляльнай машыне, а дачка, — учотчыца на трасе. Сам Міхаіл Іванавіч — начальнік стэнда. Да першай паловы мая ён быў начальнікам на другім стэндзе. Пабудаваў там жылыя памяшканні, падабраў і ўкамплектаваў кадры, разгарнуў, як кажуць, фронт работы, а тут — раз! —



Начальнік стэнда М. І. Грыгор'еў.



і перавялі яго на новы стэнд. Пачынай усё спачатку. Здараецца так з камуністамі. Міхаілу Іванавічу не ўпершыню. Тым больш што ён парторг участка, камуністы якога ўзначалілі сацыялістычнае спаборніцтва паміж калонамі і брыгадамі.

Камсамол Беларусі, як вядома, аб'явіў газаправод Дашава — Мінск сваёй ударнай будоўляй.

Сакратар камітэта камсамола Іван Гуткоўскі сказаў:

— Мы павінны падаць газ у Мінск абавязкова да Кастрычніка. Гэта будзе прысвечана юбілейнай даце, 40-годдзю Ленінскага камсамола Беларусі.



Сакратар камітэта камсамола электрык Іван Гуткоўскі.

Іван Гуткоўскі — не толькі важак моладзі, ён яшчэ выдатны электрык, нясе адказнасць за ўсю электратэхніку, за ўсю электрычную гаспадарку на ўчастку. А яна працавала і працуе без перабояў.

Траса ўжо зацікавіла многіх мясцовых жыхароў і запаланіла іх сэрцы. Юнакі і дзяўчаты, бачачы, як каля іх бацькоўскага дома ідзе газаправод, загарэліся энтузіязмам будняў, натхніліся перспектывай будоўлі. Шмат хто з калгаснікаў, дэмабілізаваных воінаў прыйшлі на трасу. Яны працуюць, і ўжо многія пераянялі вопыт лепшых майстроў гэтай справы.

Вось дужы і загарэлы хлопец Іван Жызнеўскі, які працуе на трубапад'ёмніку разам з Гарэлавым. Нітка газаправода звязала яго лёс, як і лёс іншых беларускіх юнакоў і дзяўчат, з лёсам газаправодчыкаў-вандроўнікаў, якія выконваюць цяжкую, але гераічную справу.

— Закончым тут — пойдзем далей. Куды таварышы, туды і мы, — гаворыць Іван Жызнеўскі.

На трасе і яго жонка Ліда. Яна працуе ізаліроўшчыцай у адной калоне. Ім па 28 год. Цікавае жыццё захапіла маладажонаў, і яны пакінулі родны куток. А родны куток непадалёку ад трасы, у вёсцы. Там жыве Іванава маці і сястра. Там бацькі Ліды. У нядзелю, як выхадны, Іван з Лідаю наведваюць сваіх. Але і тут, па трасе, у іх таксама ўсе свае.

За рулём Жызнеўскі лёгка кіруе трубапад'ёмнікам. Гусенічны трактар нібы танцуе пад ім, а сталёвую трубу, вагой каля чатырох тон, Іван бярэ і ўзнімае над траншэяй, нібы папяросу.

Працуюць на трасе і беларусы Лойкі — сын і бацька. Сын, Мікалай, як і бацька, член КПСС. Бацька, Іван Лойка, даўні, спрактыкаваны газаправодчык. Ён першы ўпадабаў гэтую спецыяльнасць і яшчэ ў 1953 годзе перацягнуў да сябе сына пад Нарву на будаўніцтва газаправода. З тае пары яны неразлучныя, калі не лічыць службы Мікалая ў Савецкай Арміі. Вярнуўшыся з арміі, Мікалай зноў прыйшоў да бацькі. Ён цяпер вадзіцель аўтагудранатара. Растоплены бітум з гумавымі крошкамі пры тэмпературы 200 градусаў у велізарнай цыстэрне ён падвозіць да ізаляльных машын на трасе. Мікалай расказвае, як аднойчы, прывёзшы ад печы кіпеўшую масу, ён падаваў напоўненае вядро і незнарок лінуў гэтай пякельнай смалы сабе ў рукавіцу... Не, ён не



Электразваршчык камсамолец Іван Чулкевіч.

пакінуў сваё месца. Тры тыдні Мікалай кіраваў рулём аўтагудранатара левай рукой.

— Спадабалася мне работа, — кажа Мікалай. — Усюды свежыя людзі, усё новае... Цяжка, але цікава.

Вось гэта і ёсць рамантыка працоўных будняў. Сёння цяжка і заўтра — мо' не лягчэй, але далячынь кліча...

Дзяўчына — лабарантка палявой лабараторыі, камсамолка Зоя Марозава расказвала, як даводзілася ім з кіпячых катлоў вёдрамі цягаць і насіць бітум па багне. Дзе не прайшла тэхніка, чалавек дабіраўся да трасы. Ён мог прайсці, але мог і праваліцца з вядром у багну... Гэта не так проста. І ўсё ж, сёння ўсё — за плячыма, адны ўспаміны, даўно пройдзены этап.

Вандроўнікі жывуць будучыняй. Як далей? Што наперадзе? Чалавек ідзе, пракладаючы за сабою след на зямлі — нітку газаправода ад небасхілу да небасхілу. З кожным крокам — новае, незнаёмае, цікавае. Да гэтага імкнецца сэрца. Няхай сабе дождж і вецер!.. Усё цікава, як жыццё. Вось дзе рамантыка!

Цудоўныя і мужныя, настойлівыя і смелыя людзі на будаўніцтве газаправода. Залатыя ў іх рукі.

Дзень і ноч нястомна працуюць яны на трасе. Падыдзіце да яе бліжэй. Прыкладзіце вуха да зямлі. Гудзе труба... Цокаюць зубілы на стыках. Раве полымя зыркага электрода, нібыта бушуе буран у Налібоках. І гэты пошчак нясецца па трасе. Грыміць труба. Гудзе зямля. Ідзе вялікі газ Дашава — Мінск!

## ДАЖДЖЫ

Хмары вялізнай коўдрай зацягнулі стэп і стаяць ужо тыдзень. Бясконца сыплюць халодныя дажджы. Хоць бы на гадзіну выглянула сонца! На душы павесялела б...

У вагончыку таксама неяк няўтульна і непрыветна. Алена Хількевіч маўкліва стаілася ў бакоўцы. Яна некаторы час услухоўвалася ў далёкі гул трактараў, а потым чамусьці раптам успомніла насмешлівы твар Гошкі Карнавухіна, прыгадала яго словы: «Кухарка, ядроны корань!» Больш нічога ён тады не сказаў, але ўсе зразумелі яго: другі дзень, як на стане няма хлеба. Трактарысты злаваліся. Толькі Аскар Арстанбекаў не сумаваў.

— Ты, Гоша, маўчы, — Аскар паляпаў сябра па плячы. — Вучыся вытрымцы. Заўтра к вечару закончым — дома будзем. Семнаццаць кіламетраў — тры гадзіны.

«Харошы ён, Аскар, душэўны», — падумала Алена. Ёй чамусьці ўспомніліся шумныя вуліцы роднага Віцебска, вакзал...

Алену ніхто не праводзіў у далёкую дарогу. Яе бацька, як расказвалі, не вярнуўся з вайны, а маці і старэйшага брата Віцьку немцы замучылі ў гестапа. Яна гадавалася ў чужой сям'і. Аднойчы ў газеце Алене трапіла на вочы заметка пра Казахстан, і яна цвёрда наважыла паехаць туды, дзе маладыя энтузіясты выйшлі на барацьбу за вялікі хлеб.

...Раптоўны грукат вывеў дзяўчыну з задумення. Праз фанерную сценку данесліся злосныя галасы Гошкі і Аскара.

— Хто дазволіў табе ламаць балалайку?! — крычаў Гошка. — Я яе, ядроны корань, з-пад самай Разані прывёз!

— Цябе трэба было б гэтай балалайкай па галаве... Чаму не ідзеш да трактара? Дождж сціх — працаваць можна!..

Астатнія маўчалі, бо ведалі, што Аскар адзін заткне за пояс гарэзнага разанскага хлопца.

— Не хочаш — не трэба. Айда!

Трактарысты падаліся ўслед за старшым. І калі яны адышліся ад вагончыка, Гошка злосна сплюнуў, падабраў з падлогі рэшткі балалайкі, шпурнуў да «буржуйкі» і гучна ляпнуў дзвярыма.

Алена паглядзела яму ўслед, а потым дастала гумавыя боты, завязала хусцінку і паволі падалася ў стэп.

...Першы прыпыніў свой трактар Аскар. Ён стомлена ступіў на гусеніцу і саскочыў на мяккую раллю. Чорная, як дзёгаць, зямля ўмомант наліпла на боты; з кожным крокам ісці станавілася цяжэй.

Аскар бачыў, як трактарысты адзін за адным заглушылі свае машыны і гуртам накіраваліся да яго. Гошка нешта сказаў Івану Байцову, а той схапіў яго жылістай рукой за каўнер. Хлопцы засмяяліся. Гошка выцягнуў з нагруднай кішэні папяросу і хацеў быў, як гэта часта рабіў, артыстычна паднесці Івану, але яна разлезлася ў пальцах.

— Размокла, — казаў ён. — Апошняя...

— Зноў дождж, спаць пойдзем... Заўтра, Гоша, пад вечар дома будзем, — гаварыў Аскар, дастаючы папяросу. — Таксама апошняя. Разам пакурым!..

Пад Аскаравым плашчом схаваліся ўсе ўчатырох і курылі са смакам, узацяжку. Калі дайшла чарга да Гошкі, той пацягнуў адзін раз, перадаў недакурак па кругу і прыкрыў Аскара крысом плашча.

— Шкадую начальства, — шапнуў ён, усміхаючыся, на вуха. — А балалаечку ты мне, браце, усё-такі адкупіш...

Калі вярнуліся ў вагончык, каб напіцца чаю, Алены не было. Гошка свіснуў у пусты алюмініевы чайнік і пацiснуў вузкімі плячыма:

— Спра-авы-ы... Зматала вудачкі наша кухарачка!..

Праз некаторы час усе спалі моцна, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго.

...Алена паклала клуначак ля парога і, ціха адчыніўшы дзверы, нырнула на сваю палавіну. Там зашчапілася і пачала пераапранацца. Яна надзела выцвілую лёгкую сукенку. Адразу ж зрабілася цёпла і прыемна. Сукенка была цеснаватая і на грудзях не зашпільвалася. Дзяўчына хутчэй зняла з цвіка ватоўку і накінула на сябе. Пасля асцярожна падхапіла клуначак і ўзялася за справу.

Карасі і ліні былі дробныя, выкоўзваліся з рук, шлёпаліся на падлогу.

Сыраватыя бярозавыя дровы не хацелі гарэць. Мокрыя, яны доўга смылелі. Алена нагіналася і з усяе сілы дзьмухала. Яе твар чырванеў, а вакол кірпатага носа вызараліся вяснушкі. Нарэшце бяроста ўспыхнула — памаглі шчэпкі ад Гошкавай балалайкі.

Алена перавярнула дагары вядро і прысела на яго. Шчаслівая ўсмешка кранула яе вусны. На душы павесялела, нават пройдзеныя да возера і назад дванаццаць кіламетраў здаліся дробяззю. У гэты момант яна даравала Гошку ўсе яго зласлівыя кепікі.

За акном палыхала вячэрняя зара. Заўтра будзе добрае надвор'е.

**А. КЕЙЗЕРАЎ,**
**Я. КУРАЛІКАЎ.**

**Сяло Баравое**
**Кустанайскай вобласці.**

## „Маладосць" вядзе рэпартаж...

# Прамыя магістралі

Два магутныя трактары С-80, пыхнуўшы дымком, кранулі з месца. Заблішчэлі на сонцы гусеніцы, і вялізны плуг адваліў першыя волкія глыбы зямлі. Раўнюткі канал застаўся ззаду. Узнікла прамая магістраль. Міжволі задумваешся: колькі соцень землякопаў замяніць гэты адзін канавакапальнік «КМ-1400М»!..

Канавакапальнікі, як і іншую тэхніку па асушцы і асваенню балот, выпускае Мазырскі завод меліярацыйных машын. Паблізу Мазыра на левым беразе Прыпяці раскінуліся гмахі яго карпусоў, а побач — рабочы пасёлак. Сярод нізкарослых сосен бялеюць прыгожыя катэджы. Над дахамі тэлевізійныя антэны.

Акрамя канавакапальнікаў завод асвоіў выпуск скрэпераў «Д-357-Г». Прыкладна 8—9 аўтамашын «ГАЗ-51» замяняе адзін такі скрэпер. Сёлета выпусцяць звыш ста такіх магутных машын для перамяшчэння грунту.





Хоць Мазырскі завод меліярацыйных машын — параўнальна маладое прадпрыемства, але прадукцыю яго добра ведаюць у многіх краінах свету. Зробленыя тут канавакапальнікі і скрэперы працуюць у Кітаі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Польшчы, Інданезіі, Індыі.

— Машыны нашага завода пракладваюць прамыя магістралі не толькі на палях, — гаворыць сакратар камсамольскай арганізацыі механічнага цэха Барыс Зарэцкі, — але і ў свядомасці людзей...

Барыс Зарэцкі (здымак злева) працуе токарам трэці год. Гэты спрытны юнак з вясёлымі шэрымі вачыма — заўзяты шахматыст. Па яго ініцыятыве (і, вядома ж, пры яго ўдзеле) праводзілася заводская спартакіяда па шахматах. Праводзіліся таксама спаборніцтвы па стральбе з дробнакаліберная вінтоўкі, настольнаму тэнісу. І гэта дапамагло выявіць новых чэмпіёнаў сярод юнакоў і дзяўчат.

А на заводзе іх шмат. Вось ударніцы камуністычнай працы Зіна Сакавец (справа.) і Марыя Каско. Марыя вельмі любіць спорт. Разам з сяброўкамі яна выходзіла пасля работы на будаўніцтва заводскага стадыёна. Яна ж першай на гэтым стадыёне перасекла і чырвоную стужку фінішу ў бегу на сто метраў.

Той, хто толькі ўліваецца ў гэты дружны рабочы калектыў, адразу знаходзіць тут сяброўскую падтрымку. Ахвотна навучае Мікалай Капач (унізе злева) працы на такарным станку свайго цёзку. Мікалай Конаш нядаўна дэмабілізаваўся з арміі. Пакуль яшчэ яго рукі не такія спрытныя: тут для яго ўсё нязвыклае, усё новае. Ды міне не так многа часу, і імя Мікалая Конаша будзе на заводскай Дошцы гонару.





Яшчэ больш магутным стане завод меліярацыйных машын пад канец сямігодкі. Яго вытворчая плошча складзе каля пятнаццаці тысяч квадратных метраў. Завод будзе спецыялізавацца на выпуску дарожных машын. Новая магутная тэхніка рушыць з яго варот, каб пракладаць новыя дарогі на зямлі.

**М. ПЯТРОЎ.**

**Фота І. Ламановіча.**



## Следапыты

Тэкст **А. Шчарбакова.**
Фота **А. Дзітлава.**

Іх працу не параўнаеш з працай будаўніка, які ў любы дзень пакажа, колькі ён паклаў цаглін, або друкара, які ведае, што і заўтра, і паслязаўтра ён адрукуе «свой» тыраж, або агранома, які ўпэўнены, што добрае поле заўсёды парадуе ўсходамі. Затое ў іх працы спалучаецца і разлік будаўніка, і акуратнасць друкара, і цярплівасць агранома. А яшчэ ў ёй, у гэтай працы, — рамантыка шукальніка, мужнасць сапраўднага воіна і рызыка даследчыка. Такая праца сапраўднага вучонага, які змагаецца сёння на пярэднім краі сямігодкі.

Пра такіх працаўнікоў навукі, што нядаўна сталі ў строй, — наш расказ.

### Трываласць, эканомія, час...

Попыт на шасцерні прад'яўляюць людзь не ўсе галіны прамысловасці. А чым далей, тым больш трэба машын, і яшчэ больш узрастае попыт на гэтыя незаменныя дэталі. Значыць, трэба думаць над тым, як рабіць шасцерні хутчэй, больш трывалыя і танныя. Вырашыць гэтую праблему і ўзялася група супрацоўнікаў фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук БССР.

Цяпер шасцерні робяць шляхам фрэзеравання. Вучоныя падлічылі, што калі перайсці на штампоўку, дык якасць шасцерняў значна палепшыцца, яны стануць больш трывалымі, а тэрмін службы павялічыцца прыкладна ўдвая. А прадукцыйнасць працы пры штампоўцы? Напэўна, будзе вышэйшая?

— Вядома, — адказаў на наша пытанне Анатоль Таміла, адзін з супрацоўнікаў інстытута, нядаўні выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытута.— Фрэзераванне займае прыкладна тры мінуты, штампоўка, паводле нашых падлікаў, патрабуе максімум адзінаццаць секунд. Значыць, шукаць варта.



І вучоныя шукаюць. Анатолю даручана распрацоўваць канструкцыю штампаў. Гэта, бадай, адна з самых складаных задач. Штамп павінен быць універсальны, каб даць шасцярню любога памеру. У гэтым цяжкасць, а значыць, і прывабнасць пошуку. Іншы раз, праседзеўшы за чарцёжнай дошкай, за разлікамі цэлы дзень, Анатоль з расчараваннем гаворыць загадчыку лабараторыі:

— Вось, Леанід Іванавіч, сёння зноў нічога не знайшоў.

А той у адказ:

— Што ж, заўтра паспрабуй яшчэ адзін варыянт.

І заўтра зноў разлікі, зноў пачэрчаныя аркушы ватмана, эксперыменты ў майстэрні інстытута, паездкі да практыкаў на трактарны завод. І так з дня ў дзень вядзе Анатоль Таміла вялікі пошук. Вядзе паспяхова. Праведзена ўжо доследная штампоўка шасцярні ў свінцы, алюмініі. Хутка справа дойдзе і да сталі. Група мяркуе завяршыць працу да канца 1960 года. Трэба спадзявацца, што так і будзе.

### Ключ да металу

А ў суседняй лабараторыі металазнаўства вырашаецца другая праблема. Пошук ідзе, можна сказаць, у адваротным напрамку — ад штампоўкі. Сутнасць праблемы такая. Стальныя каленчатыя валы для трактараў цяпер выкоўваюцца ў штампах. Вучоныя і практыкі прыйшлі да пераканання, што каленчаты вал можна адліваць з чыгуну — будзе дзешавей, спросціцца тэхналогія. Але для гэтага патрэбен асаблівы, высокатрывалы чыгун.

Можа здацца, што гэта — «ураўненне з адным невядомым»: усе ж ключы да чыгуну падабраны быццам даўным-даўно. Аказваецца, не ўсе. Чыгун усё яшчэ капрызнічае і не жадае раскрываць да канца таямніцу сваёй прыроды. Але ключ да яго шукаюць. І знойдуць.



Малады супрацоўнік фізіка-тэхнічнага інстытута Леў Шаўчук, яго таварышы па лабараторыі і сябры з трактарнага завода зрабілі ўжо шмат. Маленькая «ліцейка» ў майстэрні інстытута выдала за гэтыя месяцы дзесяткі, сотні плавак. Шаўчук бярэ пробу, другую, трэцюю. Падымаецца наверх, у лабараторыю. Там наступная стадыя працы — аналізы, вывучэнне структуры металу, падрабязная рэгістрацыя яго «паводзін» у самых розных умовах.

*Але адным вучоным нялёгка пранікнуць ва ўсе таямніцы металу. У цесным кантакце з імі ключ да чыгуну падбірае базавая лабараторыя апрацоўкі металу ціскам на Мінскім трактарным заводзе. Тут інжынер лабараторыі Мікалай Багдановіч і лабарантка Маргарыта Баландзіна* вядуць разведку ўжо на наступнай ступені (здымак уверсе). Вучоныя заняты распрацоўкай тэхналогіі адліўкі каленчатых валоў з чыгуну. *Так з трох напрамкаў сыходзяцца да аднаго полюса практыкі, інжынеры і вучоныя.* Перад такім саюзам адступіць нават самы трывалы *метал. А чыгун? Яшчэ нямнога часу*, і ён раскрые свой сакрэт.

### Утаймаванне гарэзлівай стружкі

Відаць, не ўсе токары яшчэ ведаюць, што такое «метад асцылюючага тачэння». Затое кожны, хто працаваў на такарным станку, ведае, колькі часу ў токара адбірае стружка. Доўгай змяёй яна ўецца з-пад разца, перашкаджае, а адкінуць яе не так проста. У станках аўтаматычных ліній гэта зрабіць яшчэ больш складана. Адкінуць, вядома, можна, але патрэбен час. А ў такой лініі дарагая кожная секунда.

«*Метад асцылюючага тачэння*» якраз і накіраваны на ўтаймаванне гарэзлівай стружкі, на скарачэнне дадатковага часу пры такарнай апрацоўцы металу.

Аляксандр Барысенка знайшоў асноўны прынцып стружказдрабнення. Трэба, каб стружка выходзіла з-пад разца рознай па таўшчыні, тады ў найбольш тонкім месцы яна лопне. Але як такую стружку атрымаць? Дзесяткі схем распрацаваў Барысенка, пакуль спыніўся на адной: трэба прымусіць разец рабіць пераменныя рухі. Чысціня апрацоўкі ад гэтага не пагоршыцца, а стружка...

І зноў схемы. Цяпер трэба знайсці спосаб замацавання разца і сілу, якая надасць яму пераменны рух. Аляксандр Барысенка зрабіў і гэта...

...Ён уключае такарны станок. Разец датыкаецца да металу. Стружка пайшла. Але цяпер ёй не доўга віцца. Нейкая ўнутраная сіла ламае стружку і адкідвае ў бок. Дапаможны час на апрацоўку дэталей, такім чынам, намнога скарачаецца. Праўда, пакуль што гэта ў асноўным доследы. Але тэарэтычна і канструкцыйна праблема ўжо вырашана. Цяпер справа за масавым укараненнем метада ў вытворчасць.

«Метад асцылюючага тачэння» — тэма кандыдацкай дысертацыі Аляксандра Барысенкі, малодшага навуковага супрацоўніка лабараторыі новых метадаў апрацоўкі металаў фізіка-тэхнічнага інстытута. Можна не сумнявацца, што за гэтую дысертацыю прагаласуе вельмі многа людзей, і перш за ўсё тыя, хто працуе ў нашай металаапрацоўчай прамысловасці.



## Поле кліча

Мы сустрэліся на прасёлкавай дарозе. У Яўгені Горынай адразу можна было пазнаць чалавека, жыццё якога праходзіць у асноўным на полі. Абветраныя рукі, выцвілы на сонцы сарафан, загарэлы твар, белы толькі там, дзе надзеты акуляры. Малады кандыдат навук Горына — сапраўдны энтузіяст сельскай гаспадаркі. Цяпер ад яе нават дзіўна чуць прызнанне ў тым, што некалі яна збіралася стаць юрыстам.

— Хацела, але передумала, — расказвае Горына. — Пайшла ў сельскагаспадарчы інстытут. Ён прыцягнуў мяне перш за ўсё шырынёй гарызонтаў. Сапраўды, тут, бадай, як нідзе, вы можаце выбраць сабе працу па душы. Хочаце арганізацыйную — ідзіце ў сельгасінспекцыю або ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі, хочаце практычную — ідзіце аграномам у саўгас або калгас, да спадобы быць даследчыкам — калі ласка.

Сама Горына выбрала шлях даследчыка. І тут яна знайшла сябе. Чаму ўзялася за грэчку? Захапіла яе гэтая культура сваімі магчымасцямі. А яшчэ вырашыла Яўгеня Горына, што час аднавіць славу беларускай грэчкі, цвёрда паставіць яе на ногі.



Вучоная занялася селекцыяй. Прайшло некалькі год, і на дзяржаўнае выпрабаванне пайшоў выведзены Горынай гатунак грэчкі «Юбілейны». Вось ужо два гады ён знаходзіцца ў кантрольным выпрабаванні гатункаў, дае ўраджай у сярэднім па 20—22 цэнтнеры з гектара і неўзабаве, відаць, будзе раяніраваны.

Пакуль «Юбілейны» здае экзамен, на эксперыментальнай базе Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР «Зазер'е» з'явіліся яшчэ два новыя гібрыдныя гатункі грэчкі, выведзеныя Горынай. У «нованароджаных» пакуль яшчэ няма імя, яны значацца пад нумарамі 61 і 62. Але хутка і яны будуць праходзіць выпрабаванне. А потым Яўгеня Горына возьмецца за іншыя доследы. Спраў многа. У яе планах, акрамя грэчкі, паявілася яшчэ проса. І яно таксама вабіць сваімі перспектывамі.

Яўгеня Горына належыць да катэгорыі вучоных, у якіх сувязь з вытворчасцю не абмяжоўваецца доследным участкам. Яе запрашаюць на семінар спецыялістаў сельскай гаспадаркі ў Нясвіж. Яна едзе і выступае там палымяным прапагандыстам грэчкі. Потым адпраўляецца ў саўгас «Бабруйскі», каб пераканаць яго кіраўнікоў неадкладна пачаць аднаўляць былую славу бабруйскай грэчкі. Калгасам Пухавіцкага раёна Яўгеня Горына памагае абмяняць іхняе насенне грэчкі на гатунковае. Яна чытае лекцыі, перапісваецца з вучонымі іншых рэспублік, памагае работніцы базы Надзі Рыжыкавай закончыць вячэрнюю школу, вядзе гуртох палітасветы.

Калі мы спыталіся ў Горынай пра яе планы, яна на хвіліну задумалася:

— Планы. Вы іх бачылі ў полі. А яшчэ... Думаю падрыхтаваць доктарскую дысертацыю. Толькі гэта будзе не хутка, год праз дзесяць. Многае яшчэ трэба зрабіць, праверыць, знайсці. Вялікі тэрмін? А навука ж патрабуе ад чалавека ўсяго яго жыцця.

## Фронт праходзіць пад мікраскопам

У Нінэлі Лаўровай і Ады Бірг (здымак уверсе) дзень праходзіць у полі або ў лабараторыі. Прыслаў іх у Зазер'е аддзел заалогіі Акадэміі навук БССР. У малодшага навуковага супрацоўніка і старшага лабаранта вельмі адказнае заданне: знайсці сродкі барацьбы са шкоднікамі бабовых культур, у прыватнасці, з даўганосікам.



Фронт праходзіць зараз у асноўным пад акулярам мікраскопа. Трэба ўстанавіць, чым адрозніваецца адзін від шкоднікаў ад другога, знайсці, дзе даўганосік адкладвае яечкі, у якой стадыі лягчэй за ўсё знішчыць шкодных насякомых. Заолагі старанна наглядаюць, фіксуюць літаральна «кожны крок» даўганосіка. Папаўняецца каштоўнымі запісамі сшытак. Увосень дзяўчаты прывязуць у акадэмію багаты матэрыял.

## Таямніцы шклянога шарыка

Няма цяпер у свеце навукі, якая дарыла б чалавецтву столькі цудаў, колькі хімія. Зрэшты, дарыць—гэта не тое слова. Цуды здабываюцца карпатлівай працай вучоных, велізарнымі намаганнямі інжынераў, рабочых, канструктараў. «Здабычай цудаў» заняты цяпер многія маладыя вучоныя Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі Акадэміі навук БССР. Вось адна з самых актуальных і цікавых праблем, якую распрацоўваюць у лабараторыі фізічнай хіміі і тэхналогіі сілікатаў.

Хімія ўжо адкрыла спосаб атрымання шкляного валакна. Такое валакно наша прамысловасць дае не першы год. Яно — добры ізалятар цяпла, гуку, электрычнасці. Але разгадка таямніц шкляных шарыкаў, з якіх «цягнуць» валакно, яшчэ не закончана. У састаў валакна ўваходзіць вокіс бору, а бор — вельмі дэфіцытная сыравіна. Ці можна чым-небудзь замяніць яго ў валакне? Хімікі гавораць: можна. Стронцыем ці магніем. Цяпер задача — ажыццявіць гэта на практыцы і зрабіць так, каб валакно не страціла пры гэтым сваіх якасцей — трываласці, хімічнай устойлівасці, колеру і г. д.

Праблема вялікая. І вучоныя ўзяліся за яе разам. Старшы інжынер Аляксандр Ваўкадатаў — аналізуе крышталізацыйную здольнасць шкла, малодшы навуковы супрацоўнік Валянціна Арлова шукае аптымальны састаў валакна, а малодшы навуковы супрацоўнік Марксіса Мельнік (злева) вывучае шляхі абяско-



лервання шкла пасля таго, калі ў яго ўведзен марганец.

Рамкі лабараторыі цесныя для вялікай



работы. Да таго ж вучоныя пераканаліся ўжо, што без падтрымкі вытворчых рабочых ім далёка не пайсці. Вось чаму Полацкі завод шкловалакна, шклозавод «Нёман» сталі нібы велізарнай лабараторыяй вялікай хіміі сённяшняга дня.

### Клопаты аб скарбах зямлі

Салігорскі калійны камбінат. Шахцёры вядуць тут праходку ствалоў. Для Салігорска працуюць зараз тысячы людзей — транспартнікі, энергетыкі, машынабудаўнікі, архітэктары. І вучоныя. Малады супрацоўнік Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі Акадэміі навук БССР Фама Мажэйка заняты распрацоўкай метадаў узбагачэння калійных солей. Знойдзены два метады — фізічны і хімічны. Малады вучоны даследуе цяпер другі, а разам з тым робіць мадэль машыны, якой і будзе «даручана» ўзбагачэнне солі.

* * *

У які б інстытут ці аддзел двух беларускіх акадэмій вы ні заглянулі, якую з эксперыментальных баз і лабараторый ні наведалі, першае, што вы заўважыце, гэта тое, што тут працуюць маладыя вучоныя. А гэта — залог смелых узлётаў, дзярзанняў, якія звычайна спадарожнічаюць маладосці.

## З гісторыі камсамола Беларусі



**Мінск. У гэтым доме на рагу вуліц Маркса і Энгельса ў верасні 1920 года працаваў Першы з'езд камсамола Беларусі.** (Дом разбураны ў часе вайны.)

# ЭТАПЫ ВЯЛІКАГА ШЛЯХУ

У гэтым нарысе мы даём слова жывым фактам. Няхай яны, як могуць, раскажуць самі аб этапах вялікага шляху, які мужна, з горда ўзнятай галавой, наперакор злым стыхіям і цяжкасцям, прайшлі радавыя байцы камсамола.

Мы імкнуліся пакінуць у іх усё так, як было. Магчыма, некаторыя факты з нашай дальняй і патрабавальнай перспектывы здадуцца не такімі ўжо важнымі і нават спрэчнымі. Але менавіта такія яны і змогуць лепш данесці подых таго непаўторнага часу.

* * *

Адгрымелі ваеннымі навальніцамі, адышлі і сплылі парахавым дымам баявыя неспакойныя гады грамадзянскай вайны. Камсамол поплеч з партыяй вынеслі самыя жорсткія выпрабаванні. Ахвяры былі незлічоныя.

«Сотні і тысячы лепшых з нас выбылі са строю. Сотні і тысячы выйдуць яшчэ. Барацьба гэтага патрабуе. Але мы будзем заўсёды цесна стаяць на варце нашай рэспублікі».

Уся краіна ляжала ў руінах. Прамысловасць — мёртвая... Людзі галадалі. Рабочым часта замест сутачнай нормы хлеба выдавалі па жменьцы аўса. Ад налётаў і засад бандыцкіх шаек трывожныя сталі ночы, небяспечныя дарогі...

І не тое, каб адпачыць, нават перадыхнуць не было калі камсамольцу, які вярнуўся з фронта. Многія, не зняўшы баявых шынялёў, адразу ўліліся ў часці асобага назначэння, каб ісці на разгром банд Савенкава, Бу-

лак-Балаховіча, Кісяля, Караткевіча і іншых, якія чынілі свае нечуваныя здзекі з насельніцтва.

Па ўказанню ЦК КПБ камсамольскія арганізацыі ў раёнах, дзе арудавалі банды, былі пераведзены зноў, як і ў вайну, на казарменнае становішча. Ельскія, уздзенскія, бабруйскія камсамольцы, як многія іншыя арганізацыі, усім складам выязджаюць на ліквідацыю банд.

Але палохала нават не гэта. Лягчэй было з рэвальверам у руцэ змагацца супраць белагвардзейскіх і кулацкіх банд, чым з мяшчанскай стыхіяй, з гэтай змовай халоднай абыякавасці.

«У гомане буднічнай працы, загружаныя шматлікімі абавязкамі, на кожным кроку сустракаючы цяжкасці, мы іншы раз забываем, у імя чаго ідзе барацьба, часта не бачым нашых дасягненняў, нашага няўхільнага набліжэння да мэты.

І бываюць моманты, калі мы аглядваемся назад і раптам заўважаем, як моцна мы выраслі, якіх буйных перамог дасягнулі. Тады мы ўсміхаемся, спяваем родныя забытыя песні, радасна распытваем таварышаў аб праведзенай працы і адчуваем у сабе новы прыліў бадзёрасці і сілы».

Гэта пісаў мінскі камсамолец Міхась Гольберг у дні 8-й гадавіны камсамола Беларусі.

Камсамольцы, пераносячы ўсё, у выключна цяжкіх умовах дапамагалі партыі накіроўваць бурлівую стыхію ў рэчышча новага, сацыялістычнага жыцця.

«Нашы веды, нашы мускулы і наша жыццё належаць уладзе рабочых і сялян. Мы не шкадавалі іх у вогненныя гады грамадзянскай вайны, мы, не шкадуючы, аддадзім іх і ў дні новых выпрабаванняў і перамог...»

«...Мы перамаглі на франтах грамадзянскай вайны — мы пераможам і на гаспадарчым фронце».

* * *

У змаганні з цяжкасцямі аднаўленчага перыяду камсамол Беларусі вырас у магутную сілу. Там, дзе раней былі адзінкі, сталі ў строй сотні і тысячы маладых змагароў. Барысаўская арганізацыя, напрыклад, з 6 чалавек вырасла ў 1925 годзе да 3 тысяч.

Юнак ці дзяўчына тых гадоў не ўяўлялі свайго існавання без камсамола. Многія не бывалі тыднямі дома. Ледзь выдасца свабодная мінута — камсамолец бяжыць у ячэйку, у камсамольскі клуб.

«Камсамольскі клуб! Што б ні здарылася, забяжыш у свой клуб, а там вакол свае хлопцы, родныя, вясёлыя, дзеляцца кавалкам хлеба, радаснымі навінамі і — адразу павесялее на сэрцы».



**Нова-Барысаўскі райком ЛКСМБ. 1925 год.**

Магчыма, бабруйская арганізацыя КСМ была самая звычайная, але калі чытаеш хвалюючыя ўспаміны аднаго з яе членаў Давыдовіча, ярка паўстае той непаўторны час:

«З нараджэннем камсамола пачалося бурлівае жыццё камсамольскага клуба, які назвалі імем Карла Лібкнехта. Распыленыя групы працоўнай моладзі, адзіночак, саматужнікаў, вучняў сабраў клуб, аб'яднаў і выхаваў. У памяшканні цэлыя суткі кіпіць жыццё. Працуе камітэт, паседжанні камісій.

...Удзень да цямна вялікая арганізацыйная праца, а ўвечары харавыя гурткі, адукацыйная школа пад кіраўніцтвам актывістаў... Вячэра, доўгая чарга з кубкам за гарбатаю і вясёлыя размовы ў кожным кутку.

Ніхто не ўяўляе сабе, што можна пражыць хоць адзін дзень, не заходзячы ў клуб. Там кожны забывае свае асабістыя цяжкасці. Там выхоўваліся пачуцці калектыўнай адданасці саюзу. Кожны лічыў патрэбным штонебудзь зрабіць дзеля клуба. Арганізоўваліся суботнікі, каб зрабіць рамонт, паправіць мэблю, прыбраць памяшканне, упрыгожыць залу.

...1922 год. Першыя гады нэпа. Эканамічнае становішча працоўнай моладзі пагоршылася... У гэты цяжкі перыяд клуб быў цэнтрам, душою камсамола. Задача стаяла нялёгкая. Трэба было вырваць моладзь з мяшчанскага балота, з-пад уплыву нэпманаў.



**Былыя беспрытульныя працуюць у шавецкай майстэрні дзіцячага дома. 1922 год.**

Быў момант, калі моладзь пачала адыходзіць ад камсамола. У клубе ў гэты час ішлі дыскусіі і арганізацыйныя спрэчкі. У кожным кутку групка хлопцаў, якія шэпчуцца або горача спрачаюцца паміж сабою.

Толькі дзякуючы вялікай выхаваўчай рабоце, якую павяла камуністычная партыя, нашы арганізацыі КСМ выйшлі з крызісу, сталі моцна на ногі...»

А наступныя радкі з успамінаў Давыдовіча, напісаных яшчэ ў 1926 годзе, гучаць асабліва надзённа ў наш час і, здаецца, прызначаны спецыяльна для тых нашых камсамольскіх масавікоў, якія страцілі надзею змястоўна, весела, прыгожа арганізаваць адпачынак моладзі.

«Мне здаецца, што цяпер нашы клубы не займаюць таго месца ў арганізацыі, якое яны займалі ў мінулым.

А між іншым, менавіта цяпер значэнне клубаў велізарнае, бо няўменне задаволіць растучыя запросы моладзі ідзе перш за ўсё па лініі культмасавай работы. Клубы былі і раней, а цяпер асабліва павінны стаць асноўным цэнтрам масавай працы камсамола».

Здаецца, нядаўна гэта было, а сёння, калі па-новаму звоніць час, новаму пакаленню іншы раз цяжка зразумець трывогі, роздум і паводзіны сваіх папярэднікаў. Шмат што ўспрымаецца ўжо не сэрцам, а толькі розумам.



**Кабінет электратэхнікі пры Магілёўскім павятовым камітэце камсамола. 1923 год.**




**Камсамольцы Магілёва — члены гуртка электрыфікацыі. 1921 год.**

* * *

Камсамол узнімаўся на вялікія справы. Трэба было так многа зрабіць — нават дух займала, гэтак размахнуліся. Трэба перабудаваць свет, перарабіць зямлю і людзей. І шаснаццацігадовыя браліся за сур'ёзныя справы.

«Пачалося гэта ў вёсцы Задуб'е ў 1925 годзе.

Нехта ўнёс прапанову пабудаваць крухмала-патачны завод.

Прыйшоў неяк на сход стары паважаны задубскі камуніст Цімох Купрэеў, сядзеў ён, апчаперыўшы ў задуменні галаву, уважліва слухаў прамоўцаў, зрэдку ўсміхаючыся сам сабе і гэтым бянтэжачы малавопытных аратараў. Аб'ездзіў Цімох палавіну Расіі, усю грамадзянскую праскакаў у сядле. Расказвалі, што ён быў нават арганізатарам чырвонагвардзейскага атрада. Калі зайшла размова пра стварэнне завода, Цімох папрасіў слова.

— Значыць, зноў завод! А сыравіну дзе будзем браць?

— Як дзе, — усхапіўся папярэдні прамоўца. — Вось пад бокам кулацкія сады. Трэба як след з гаспадарамі пагаварыць, каб здалі іх у арэнду.

— Не, дарагія мае хлопчыкі. Арандаваць сады — гэта значыць, жыўцом ў кабалу да кулака лезці. У нас жа ніводнай грамадскай капейкі ў кішэні няма. Ды і збыту вашай патацы ці там крухмалу аніякага не будзе. Хто сюды ў глуш прыедзе купляць?..

— Я таксама ламаў галаву над гэтым з самай зімы, — ціхім голасам




**Адзін з нумароў камсамольскай газеты «Чырвоная змена», якая выходзіла на рускай мове.**

таварыў Цімох. — Іншы раз усю ноч да раніцы воч не заплюшчу. Думы, думкі адна другую перабіваюць... Бачу я, галовы ў вас гарачыя і настрой ёсць, але пачынаць, хлопчыкі, трэба з малога. А ўбачаць сяляне, што мы разумную справу робім, пойдуць за намі — лічыце з той пары, што настаў час размахнуцца і на вялікае!

Зараз першая ваша задача — дабіцца, каб ніводзін двор не сеяў неачышчаным насеннем. Прайдзіце па хатах і, як бы цяжка не было, пастарайцеся пераканаць людзей. Самі не сляпыя, бачыце, што пасевы перарадзіліся, аўсюг ды галаўня адна. Запамятайце яшчэ, хлопцы, без навукі нам нечага і думаць, каб узняць гаспадарку. Аграномы раяць сеяць лён і канюшыну, садзіць карняплоды — ураз гаспадарка стане на ногі. І неадкладна на шматполле пераходзіць трэба, — закончыў сваю прамову камуніст.

Сяляне ўважліва слухалі пасля гэтага камсамольцаў, якія прыйшлі агітаваць за канюшыну, нават падтаквалі, але як дайшло да справы, замахалі рукамі. І толькі бацька сакратара камсамольскай ячэйкі ды яшчэ некалькі гаспадароў з'ездзілі ў Карму па насенне і засеялі невялічкія кавалачкі канюшынай. А ўлетку, як забуяла канюшына, глядзець на яе хадзілі ўсёй вёскай.

Камсамольцы стаялі за беднату. Дабіліся праз зямельны аддзел РВК рашэння аб ільготах бедным гаспадаркам пры страхаванні і размеркаванні лесу, канфіскацыі лішкаў зямлі ў кулака Навіцкага і перадачы яе беднаце. Адначасова камсамольцы размеркавалі запасны фонд паміж беднякамі.

Цяжкая справа — пачатак. Ужо на лета, падтрыманыя беднатою, камсамольцы купілі пасы, адбудавалі і пусцілі стараградскі млын, завялі палепшаныя пароды жывёлы і арганізавалі сельскагаспадарчае таварыства. А быў гэта яшчэ толькі 1926 год. Падкалоднымі гадзюкамі віліся і сіпелі задубскія кулакі, з смяротнай злосцю пазіралі, як увачавідкі ішла ў рост грамадская гаспадарка. Пад восень, калі камсамольцы стварылі ў вёсцы спажывецкі кааператыў, які адкрыў шырокую дарогу збыту сыравіны і завозу ў дастатковай колькасці неабходных тавараў, не толькі бедната, а ўся вёска ўступіла ў таварыства.

Людзі паверылі камсамольцам, бо яны неслі ў вёску новае, заможнае жыццё, і на выбарах у мясцовыя Саветы, якія праходзілі ў той год, яны аднагалосна выбралі старшынёю і сакратаром задубскага сельсавета камсамольцаў».

Такія акрыляючыя весткі аб баявых справах камсамольцаў, як добрыя вятры, ішлі з многіх камсамольскіх ячэек.

Пры сустрэчах камсамольцы з суседніх ячэек адзін аднаго падрабязна распытвалі аб справах у іх арганізацыі, хваляваліся, радаваліся кожнаму поспеху. Ад кожнай такой добрай весткі ўздымаўся настрой, забываліся цяжкасці і няўдачы ў сваёй ячэйцы.

Неспакойныя, бурлівыя гады калектывізацыі. Грозна шумела і пляскалася жыццёвае мора. Гады, як шторм. Усё было: вастрылі сякеры і даставалі абрэзы кулакі, узнімаўся брат уласнік на брата-актывіста і бацька-кулак на сына-камсамольца. Прыходзяць трывожныя весткі: кулацтва аб'явіла тэрор селькорам. Нявіннай дзіцячай крывёю заплаціў герой-піянер Паўлік Марозаў за новае жыццё. Чым далей адыходзіць час, тым больш значны сэнс атрымліваюць вогненныя падзеі тых дзён, становячыся амаль легендамі.

У памяшканнях ячэек, у камсамольскіх клубах вісеў лозунг «Кожная ячэйка — арганізатар калгаса, кожны камсамолец — калгаснік».

«Доўга не разыходзіліся ў тую ноч камсамольцы вёскі Навасёлкі Барысаўскага раёна пасля сходу, на якім стаяла пытанне аб арганізацыі калгаса. Колькі было радасці. Гэта толькі падумаць, — у іх родных Навасёлках калгас! З сельсавета выйшлі на золаку і тут іх з сякерамі сустрэлі вясковыя багацеі, патрабавалі распусціць калгас».

«Не думаў, не ведаў сакратар Тураўскага райкома ЛКСМБ Завалкаў, што яго вось ля таго раз'езда, недалёка ад вёскі, дзе ён праводзіў сход сялян, напаткае смерць. Ехаў чалавек і ад адчування таго, што яшчэ ў адной вёсцы дапамог людзям выбраць шлях да заможнага жыцця, твар свяціўся радасцю, на вуснах блукала песня.

І раптам насустрач трое з ашчэранымі па-звярынаму вачамі.

— Пачакай, не спяшайся. На той свет паспееш заўсёды. Нашага поля захацелася, ну дык атрымлівай!..

Ударыў стрэл, і цёплая чалавечая кроў, якая так горача білася за агульную справу, пырснула і пацякла па траве... Адкінулася ў бок бездапаможна ўжо рука, якая так палымяна клікала людзей да лепшай долі, апошні раз зглянулі сіняе-сіняе неба даверлівыя, добрыя, шчырыя вочы і заплюшчыліся...»

«Да алешніку, што на дарозе да вёскі Выселкі, у раённы цэнтр Пухавічы ішлі двое. Часта спыняліся, аб нечым спрачаліся. Адзін усё ўпрошваў:

— Слухай, Рыгор, што табе лепей стане ад таго, што я ў турму сяду? Што здарылася, таго не мінеш. Не пішы ў газету. Хочаш, я табе мех мукі-вальцоўкі дам!..

— Не, дзядзька, я не змоўчу. Інакш выходзіць, што праўды на свеце няма. Ты забыў, пры якой уладзе жывеш. Ды я ўжо адаслаў ліст у рэдакцыю, — стаяў на сваім камсамолец-селькор Жлобіч.

— Эх, гад, праўду кажаш, адаслаў. Ну, дык і табе не жыць.

З-пад світкі бліснуў смяротным вочкам варанёны рэвальвер.

Вяскоўцы чулі, як за алешнікам узапар грымнулі два стрэлы... Назаўтра там знайшлі забітага з рэвальвера селькора-камсамольца Рыгора Жлобіча».

У 1929 годзе на Беларусі сіламі камсамольцаў арганізаваны 191 калгас.

Па ініцыятыве Лазовіцкай камсамольскай ячэйкі арганізаваны калгас «Камінтэрн», які аб'яднаў 50 гаспадарак. Кулацтва аб'явіла сапраўдную вайну калгасным актывістам. Праз акно са стрэльбы быў забіты старшыня. Землямер, які прыбыў на ўпарадкаванне зямель, ля дзвярэй знайшоў запіску: «Выбірайся з вёскі, пакуль яшчэ цэлы. Захацеў намераць сабе тры метры зямлі».

Па вёсцы паўзлі трывожныя чуткі. Кулакі лавілі на вуліцы кожнага сустрэчнага і палохалі калгасам: «Ты, Ігнат, таксама з імі? Ты ж спраўны гаспадар. У калгас ідуць адны дармаеды і галота. Забяры заяву, пакуль не позна. Мы табе па-добраму раім».

Шмат нашкодзілі кулацкія агенты маладой калгаснай гаспадарцы, пакуль камсамольцы іх не выкрылі.

«У калгас «Авангард» Лепельскага раёна ўступіла 137 гаспадарак. Але кулацтва напалохала сялян і яны пачалі забіраць заявы назад. Камсамольцы прымаюць баявое рашэнне: «Не паддавацца кулацкаму ўплыву і не дапусціць выхаду з калгаса сваіх сем'яў і сваякоў». Ячэйка стварыла шэсць камсамольска-маладзёжных брыгад, якія атрымалі заданне — вырасціць рэкордны ўраджай на калгасным полі, каб фактычна даказаць сялянам-малаверам, што калгас — гэта адзіны шлях да заможнай долі».

Першыя крокі калгаса. Калектыўныя выезды на працу з песнямі. Гэта не забудзецца. І першая баразна, якая адразу зруйнавала адвечнае зло вёскі — межы, агарожы, палосачкі і мяжавыя капцы.

«На свята першай калгаснай баразны ў вёсцы Леднікі Койданаўскага (цяпер Дзяржынскага. — **А. Я.**) раёна сышлася ўся акруга. Пасля кароткага мітынгу пятнаццаць пажылых сялян, не зважаючы на тое, што быў першы дзень вялікадня, разам з камсамольцамі пачалі араць калектыўны палетак.

— Каб вас у магілу заарала, чырвоная погань, — клялі калгаснікаў старыя гаспадары. — Папомніце наша слова, пашле ўсявышні, што ні расінкі за ўсё лета не выпадзе. На пагібель усё гэта, нехрысці!..

Аднак камсамольцы, не звяртаючы ўвагі, рабілі сваю справу. Затое ўвечары, многія хлопцы, атрымаўшы штурхалёў ад бацькоў, сабіраліся з панылымі галовамі ў праўленні. Начаваць прыйдзецца тут — бацькі з дому выгналі».

Нялёгкая задача стаяла перад партыяй. Трэба было ў першы калгасны год з першага калектыўнага ўраджаю даказаць селяніну, які цяжка і марудна рваў з уласнасцю, перавагі калгаснага ладу, а гэта немагчыма было без буйнай машыннай тэхнікі. Патрэбны трактары, шмат трактараў, цэлыя калоны.

Камсамол Беларусі кінуў кліч: «Даёш трактарныя калоны!»

Аб трактарных калонах, аб тым, што зрабіў кожны камсамолец для іх, гаварылі на кожным сходзе. Пры сустрэчах размова абавязкова захо-



**Першы трактар рушыў на калгасныя палі Беларусі. 1930 год.**

дзіла аб гэтым, з думкамі аб трактарнай калоне прачынаўся і пачынаў новы дзень кожны камсамолец.

Усебеларускі суботнік па арганізацыі трактарных калон.

Дзе знайсці сродкі?

Але камсамольцы на выдумкі хітрыя — знайшлі «трактары на смецці». Збіралі косці, капыты, анучы, паперу... І пасыпаліся ў камсамольскую скарбонку сродкі чыстым золатам. Быў час, калі ўвесь камсамол рэспублікі з мяшкамі выйшаў на збор утыльсыравіны.

Паступаюць усё новыя і новыя паведамленні.

«17 тысяч камсамольцаў Мінска і вобласці будуюць трактарную калону імя Мінскага камсамола. Праводзіцца двухтыднёвік трактарызацыі. Кожны камсамолец павінен адпрацаваць на трактарную калону».

І неўзабаве сталёвыя коні абудзілі вясковыя ваколіцы пераможнай музыкай матораў, склікаючы за сабою натоўпы сялян. Вясковыя прасторы адразу адчулі подых сацыялізма.

Мірны ўпэўнены рокат трактара стаў калыханкай калгаснага ладу.

Трактар адразу ўвайшоў у вясковы пейзаж неабходнай і абавязковай дэталлю.

Першыя трактарысты ў вачах вяскоўцаў былі людзьмі незвычайнымі. Запаветнай марай кожнага вясковага падлетка было навучыцца вадзіць трактар. Лепшай прафесіі на свеце для іх не існавала.

У 1930 годзе па ўсёй Беларусі дванаццаць камсамольцаў умелі вадзіць трактар — гэта здавалася дасягненнем. Праз чатыры гады трактарыстаў-камсамольцаў у рэспубліцы было каля тысячы.

На ўсіх этапах вялікага напружанага і нялёгкага шляху, які прайшла краіна Саветаў, камсамольцы былі малодшымі байцамі партыі. Кожны раз, калі патрабаваў час, звярталася да камсамольцаў Камуністычная партыя, і яны адказвалі: «Ёсць!»

На калгасным фронце, асабліва ў першыя гады калектывізацыі, камсамольцы поплеч з партыяй неслі асноўны цяжар.

У 1939 годзе старшынямі калгасаў у Беларусі працуе 526 камсамольцаў, брыгадзірамі — 1 832, звеннявымі — 3 666, загадчыкамі ферм — 720, механікамі МТС — 110, трактарыстамі — 3 817. У рэспубліцы было шмат калгасаў і сельскіх саветаў, дзе на чале кіраўніцтва стаялі выключна камсамольцы.

Новы час прынёс новыя песні. І, магчыма, за ўсю гісторыю нашага народа над беларускім краем упершыню на ўсю моц загучала песня радасці.

«Хто не ведае ціхіх вясковых вечароў, каго не паланіла сваімі чарамі, трывожачы і непакоячы, дзявочая галасістая песня.

— Эх, калі б гэтыя галасы адабраць у хор. Давайце, рабяты, свой ансамбль песні і танцаў пры МТС створым, — прапанаваў камсамольцам Хойніцкай МТС Якаў Лявіцкі.

Быў Якаў вясёлы і галасісты хлапчына, неўтаймавальны танцор і жартаўнік. Ва ўсёй акрузе ніхто не змог яшчэ яго ніколі перамагчы ў танцах альбо ў жартах.

— Ого, куды хапіў. Адразу ансамбль. Безнадзейная гэта справа...

— А вы даручыце мне. Усяго сябе ўкладу, а ансамбль будзе».

І сапраўды, створаны пад кіраўніцтвам Лявіцкага ансамбль песні і танца ў Хойніцкай МТС прагрымеў на ўсю вобласць. Ён неаднаразова выступаў на алімпіядах і аглядах мастацкай самадзейнасці ў вобласці, Мінску, Маскве. Перад вайной кіраўніка ансамбля Якава Лявіцкага ўрад узнагародзіў медалем «За працоўную адзнаку».



**Камсамольска-маладзёжнае ільнаводчае звяно. 1939 год.**



* * *

Зноў, як і ў грамадзянскую вайну, камсамольцы збіраліся ў дарогу і з пуцёўкамі райкомаў ехалі насустрач вятрам у неабжытыя мясцы, да новых берагоў, а там грэліся ля кастроў, жылі ў палатках і будавалі гарады, заводы, шахты, часта нават не ведаючы, што гэта называецца подзвігам.

Гэтак жа, як і ў грамадзянскую, адыходзілі з ціхіх беларускіх вакзалаў эшалоны з новымі і новымі партыямі дабраволыцаў: больш двух тысяч у данецкі стэп будаваць шахты, тысячы на Амур і Магнітку, 8 тысяч на працу ў лесе, некалькі соцень на будоўлю завода штучнага шоўку ў Магілёве...

Смілавіцкія камсамольцы ўсёй арганізацыяй выехалі ў Данбас на будоўлі шахт.

Спытайце ў камсамольца тых год, і ён скажа, што для яго самымі маляўнічымі пейзажамі былі заводскія коміны і рыштаванні новабудоўляў, самым жаданым водарам быў пах металу і дымок матора.

Будаўніцтва электрастанцыі на Асінаўскіх балотах было падобна на грандыёзнае поле бітвы.

«У глушы Аршаншчыны, бударажачы паветра гудкамі, шумам будоўлі і гулам трох тысяч рабочых, вырастаюць дамы, лініі дарогі, штабялі торфу...

Старэнькі селянін кожную раніцу прыходзіў на будоўлю, садзіўся ў цяньку і здзіўлена глядзеў на людзей, якія ўпарта працавалі. Стары аніяк не мог зразумець, чаму іменна тут, у яго Арэхах, на гіблым балоце, людзі з горада штосьці хочуць пабудаваць? Ён абыходзіў абгароджаныя будаўнічыя пляцоўкі, загаварваў з рабочымі, імкнуўся пакутліва зразумець тлумачэнні аб святле, энергіі, электрычнасці, хваляваўся і адмоўна ківаў галавой: «Нічога не выйдзе! Ды яшчэ такія маладыя. Ну і што з таго, што камсамольцы. Тым больш нічога не выйдзе!»

А яны працавалі ўдарна, да поту, без падмены і без выхадных дзён па 10 гадзін, але станцыю пусцілі датэрмінова.

На гэтай будоўлі моладзь узняла ўдарныя тэмпы, аб'явіла штурм, паслаўшы на цяжкія ўчасткі лепшых камсамольцаў.

«Да першага катла паветраправод мантажнікі браліся ўстанавіць за 400 рабочых дзён пры кошце 2 200 рублёў.

Камсамольцы Асінбуда сабралі камсамольскі сход і ў адзін голас заявілі: «Марудна і дорага. Што з таго, што іншакраінныя спецы кажуць? Вы, таварышы, забылі, што не ў тым часе жывяцё».

Рашэнне камсамольцаў здзівіла спецыялістаў: другі паветраправод бяруцца весці 17 камсамольцаў і скончыць за 150 дзён, пры гэтым скарацішы яго кошт удвая.

Камітэт прыняў яшчэ адно баявое рашэнне: у самы бліжэйшы час дабіцца ўсеагульнай ліквідацыі тэхнічнай непісьменнасці.

Якое ж было здзіўленне грамадскасці будоўлі, калі паветраправод быў усталяваны значна раней узятага тэрміну».

Гераізмам, як азонам, было насычана паветра; ім дыхалі, у ім выраслалі, і таму не маглі не быць героямі.

Кожная раніца, кожны новы дзень нёс сотні рэкордаў, выяўляў дзесяткі герояў працы. Сёння газета паведамляла аб працоўным подзвігу камсамолкі Семянідавай, работніцы Віцеб-



**Камсамольцы на будаўніцтве Магнітагорскага металургічнага камбіната. 1931 год.**



**Камсамольская брыгада механічнага цэха Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава. 1940 год.**

скай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», якая выканала шэсць дзённых заданняў, а назаўтра малады электразваршчык Сакаленка даў ужо 750 працэнтаў нормы.

З кожным днём нарастаў працоўны энтузіязм, разгаралася полымя сацыялістычнага спаборніцтва. У хуткім часе ў рэспубліцы не было ніводнага прадпрыемства, арцелі, калгаса, дзе б не ішла барацьба за павышэнне норм выпрацоўкі.

Ільнотрапальшчыца Антаніна Кірмашук з калгаса «Звязда» Заслаўскага раёна вытрапала за дзень 150 кілаграмаў ільну, устанавіўшы сусветны рэкорд.

Паведамленнямі аб працоўных подзвігах камсамольцаў-ордэнаносцаў — работніцы віцебскай фабрыкі «КІМ» Падскочай, калгасніцы Белай, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, майстра высокіх ураджаяў брыгадзіра калгаса «Чырвоны пуцілавец» Блоцкага, токара Віцебскага дэпо Казлова, рабочага запалкавай прамысловасці Лучкоўскага, камбайнера Гараўцова, калгасніцы Масюк і соцень іншых адкрываліся газеты, пачынала свае перадачы радыё.

Гэта крочылі па зямлі, каб абнавіць і перарабіць яе, маладыя гаспадары, будаўнікі новага жыцця. Толькі ў 1939—1940 гг. 66 беларускіх камсамольцаў за самаадданую працу былі ўзнагароджаны вышэйшымі ўрадавымі ўзнагародамі. Іх імёны вымаўляліся разам з адважнымі пакарыцелямі Арктыкі, чалюскінцамі, героямі-лётчыкамі, якія зрабілі ў выключна цяжкіх умовах небывалы ў гісторыі беспасадачны пералёт.

Мала хто ведае цяпер, што другім пілотам гераічнага жаночага экіпажа, які ўзначальвала Марына Раскова, была беларуская камсамолка Вера Ламака.

«У нашай краіне быць героем святы абавязак. Хто не гарыць, той тлее. Гэта закон. Няхай жыве полымя жыцця!» — клікаў сваім жыццём-подзвігам, магчыма, самы мужны і самаадданы радавы баец гэтага гераічнага пакалення пісьменнік Мікалай Астроўскі.

Праславілася на ўсю рэспубліку вытворчая камуна гомельскага завода «Пралетарый», якая ўпершыню з месяца ў месяц пачала значна перавыконваць план, знізіўшы кошт зборкі растворамяшалак у тры разы.

Маладыя рабочыя мінскай швейнай фабрыкі «Кастрычнік» зрабілі ваенізаваны пераход па маршруту Мінск—Масква ў супрацьгазах і супрацьіпрытных накідках. Нягледзячы на суровыя ўмовы пераходу, яны прайшлі гэтую адлегласць на пяць дзён раней тэрміну. Усе ўдзельнікі пераходу ўзнагароджаны ордэнамі «Знак пашаны».

* * *

Поспехі краіны Саветаў у будаўніцтве сацыялізма прыводзілі ў шаленства імперыялістаў, і тыя ішлі на розныя правакацыі.

«Насцярожаная цішыня на граніцы. Бясшумна крадзецца парушальнік. Яму ўжо здаецца, што ён мінуў небяспечныя месцы, як раптам перад ім, нібыта з зямлі, вырастаюць школьнікі.

— Дзядзечка, вы куды ідзеце?

— Мне ў праўленне калгаса трэба.

— А мы з гэтага калгаса якраз. Але той сцяжынкай, якой было вы пайшлі, можна выйсці на заставу. Мы зараз вам пакажам дарогу.

І толькі тады зразумеў парушальнік, што дзеці яго ашукалі, прывёўшы не ў калгас, а на заставу, калі пачуў суровы голас пагранічніка: «Стой, хто ідзе? Рукі ўверх!»

Такіх выпадкаў было дзесяткі. 20 жніўня 1939 года за затрыманне небяспечнага парушальніка граніцы ўрад узнагародзіў вучня Чырвонаслабодскай школы камсамольца Мікалая Баня ордэнам «Знак пашаны».

А з-за пагранічных слупоў усё чутней далятала кананада вялікай вайны. Грымоты яе ўсё часцей і часцей дакатваліся да нашых граніц. Японцы ля возера Хасан і ў раёне Хал-Хінгола папрабавалі моц нашых рубяжоў.

У гэтай атмасферы штодзённага гераізму і працоўных подзвігаў падрастала, вучылася і набіралася сіл новае пакаленне, не прадчуваючы, якія жорсткія, нечалавечыя выпрабаванні рыхтавала для іх вайна, што насоўвалася на нашу краіну.

У бітвах Вялікай Айчыннай вайны гартавалася новае пакаленне, арлінае племя герояў: Смалячкова, Купрыянава, Талаліхіна, Казея, Шаршнёвай, Сільніцкага, маладагвардзейцаў Краснадона і Жлобіна, падпольшчыкаў Адэсы і Мінска, якія смела ўступалі ў барацьбу з ворагам, пакуль не здабылі перамогу над фашызмам.

**А. ЯСКЕВІЧ.**



# БАЯВАЯ ЗБРОЯ МАЛАДЫХ

***(Першыя крокі маладзёжнага друку Беларусі)***

Сорак год маладзёжны друк рэспублікі верна служыць справе камуністычнага выхавання, актыўна дапамагае партыі накіроўваць сілы моладзі на барацьбу за пабудову камунізма. Ён з'яўляецца калектыўным прапагандыстам, агітатарам і арганізатарам мас, баявой зброяй партыі і камсамола.

Пачатак прэсы маладых на Беларусі ідзе ад газеты «Звезда молодёжи», першы нумар якой выйшаў у канцы сакавіка 1920 года ў Смаленску. Газета праіснавала нядоўга. Было выпушчана ўсяго 4 нумары. Набраны пяты нумар не паспелі надрукаваць з-за пераезду ў вызвалены ад белапалякаў Мінск.

«Звезда молодёжи», што выдавалася ў Смаленску, прызначалася для падпольных маладзёжных арганізацый. Гэтым і вызначаюцца матэрыялы, што змяшчаліся ў газеце. Яны горача заклікалі юнакоў і дзяўчат да барацьбы з акупантамі, расказвалі аб мужнасці і стойкасці камсамольцаў Беларусі, знаёмілі з жыццём і працай моладзі Савецкай Расіі. «Многія таварышы, якія працавалі ў падполлі, — пісала газета ў дзень гадавіны свайго існавання, — расказваюць, з якой любоўю і цікавасцю яны чыталі гэтую «Звезду», дастаўленую ім на акупіраваную тэрыторыю».

Пасля вяртання ў Мінск «Звезда молодёжи» спыніла выхад. Замест яе пачала выдавацца газета «Молодёжь Белоруссии», — орган Цэнтральнага бюро і Мінскага павятовага і гарадскога камітэтаў КСМ Літвы і Беларусі. Але неўзабаве пачынаецца новае наступленне белапалякаў, і рэдакцыя «Молодёжи Белоруссии» спыняе сваю працу.

5 верасня 1920 года партыйная газета «Звезда» выпусціла асобным лістком аднадзённы орган ЦБ КСМ Літвы і Беларусі «Международный юношеский день». Увесь нумар быў прысвечаны маладзёжнаму святу. 19 верасня «Звезда» выпусціла «Страничку юного пролетария» № 1. У ёй была надрукавана пастанова ЦБ КСМ Літвы і Беларусі аб скліканні 24 верасня 1920 года ў Мінску першага з'езда КСМБ. Другі нумар, які выйшаў 28 верасня, цалкам прысвячаўся першаму Усебеларускаму з'езду камсамола. У перадавым артыкуле «Наш з'езд» гаварылася аб велізарным значэнні першага з'езда камсамола Беларусі для далейшага развіцця маладзёжнай арганізацыі рэспублікі, для згуртавання юнакоў і дзяўчат вакол камуністычнай партыі.

«Страничка юного пролетария» выходзіла не рэгулярна, яна прысвячалася якім-небудзь датам або падзеям. Задачы ж арганізацыйнага ўмацавання саюза моладзі Беларусі, мабілізацыі мас на барацьбу з разрухай, голадам, холадам патрабавалі выхаду перыядычнай газеты для моладзі. ЦБ КСМБ і прымае меры да стварэння спецыяльнай рэдакцыі пры «Звезде» для выпуску штотыднёвага маладзёжнага лістка. Такая рэдакцыя была створана, і ў кастрычніку 1920 года «Звезда» пачала выпускаць рэгулярна раз у тыдзень асобнай старонкай «Звезду молодёжи». У звароце да моладзі Беларусі яна пісала: «Задачай нашай старонкі з'яўляецца

адлюстраванне вашага жыцця, ахова вашых інтарэсаў. Без вашага шырокага ўдзелу старонка ператворыцца ў сухую, нецікавую, безыніцыятыўную газету, выданне яе стане немагчымым. Няхай жыццё моладзі кожнага прадпрыемства, кожнага калектыву сялянскай моладзі знойдзе сваё адлюстраванне ў старонцы. Матэрыялы ў старонку прымаюцца на ўсіх мовах. Не бойцеся таго, што вы не можаце, не прабавалі пісаць. Пішыце, як умееце. Усё будзе прагледжана, выпраўлена, змешчана. Пішыце нам у газету».

На заклік «Звезды молодёжи» адгукнуліся сотні юнакоў і дзяўчат Беларусі. За год і тры месяцы было надрукавана многа матэрыялаў, у якіх асвятлялася жыццё і праца камсамольскіх арганізацый рэспублікі. 19 лістапада 1920 года ў перадавым артыкуле «Задачы дня» газета пісала: «Мы пачынаем будаваць і ўмацоўваць сваю рэспубліку. Моладзі тут прадстаіць велізарная работа. Калі ў час разгрому інтэрвентаў яна ўлівалася ў рады Чырвонай Арміі, грамілa ворагаў, то цяпер яна павінна накіраваць свае сілы на наладжванне гаспадарчага жыцця краіны».

Газета не абмяжоўваецца заклікам. Яна шырока асвятляе ўдзел моладзі ў аднаўленні фабрык, заводаў, транспарту і сельскай гаспадаркі.

Адбудове маладой савецкай рэспублікі перашкаджалі банды Савенкава і Булак-Булаховіча, сфармаваныя пры дапамозе імперыялістаў Амерыкі і Англіі. Гэтыя банды рабілі набегі з Польшчы на тэрыторыю Беларусі. На сваіх старонках газета паказвала гераізм і адвагу камсамольцаў у барацьбе з бандытамі, заклікала моладзь уліваццa ў рады актыўных змагароў з булахоўцамі. 2 чэрвеня 1921 года «Звезда молодёжи» паведамляла аб тым, што ўсе члены ячэйкі Ігуменскага павету (цяпер Чэрвеньскі раён) прымаюць актыўны ўдзел у барацьбе з бандытызмам. Аб актыўных выступленнях камсамольцаў Бабруйскага павету і мястэчка Койданава (цяпер г. Дзяржынск) расказвалася ў газеце 2 жніўня 1921 года.

Значную ўвагу «Звезда молодёжи» ўдзяляла рабоце адзінай працоўнай школы, вытворчаму выхаванню моладзі. Яна крытыкавала недахопы ў рабоце асобных працоўных школ. У артыкуле «Аб сацыялістычнай адукацыі рабочых» газета пісала, што некаторыя школы па сутнасці не адрозніваюцца ад гімназій, бо яшчэ не змяніліся метады выкладання. Растлумачваючы значэнне школ рабочай моладзі, газета пісала: «Цяпер ствараюцца новыя тыпы школ рабочай моладзі. У гэтых школах працоўныя працэсы навучання вытворчасці стаяць на першым месцы. У іх малады рабочы атрымае не толькі вузкую прафесіянальна-тэхнічную адукацыю, але і агульную асвету, камуністычнае выхаванне». Гэтыя выказванні газеты пераклікаюцца з патрабаваннямі сённяшняга дня, якія запісаны ў законе «Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай асветы ў Беларусі».

У 1921 годзе Паволжжа ахапіў голад. Партыя і савецкі ўрад рабілі ўсё, каб дапамагчы насельніцтву галадаючых раёнаў. На арганізацыю дапамогі быў мабілізаваны ўвесь друк, у тым ліку маладзёжны. «Звезда молодёжи» на ўвесь голас клікала юнакоў і дзяўчат Беларусі адлічваць у фонд галадаючых частку свайго заработку, збіраць збожжа, муку і іншыя прадукты харчавання.

Значную ролю адыграла «Звезда молодёжи» ў выкрыцці розных нацыяналістычных арганізацый у Беларусі. Асаблівы агонь крытыкі газеты быў накіраван супраць «Югендбунда» і «Яўкамола» (Яўрэйскага камсамола). Што сабою ўяўлялі гэтыя арганізацыі? «Югендбунд» — яўрэйская нацыяналістычная арганізацыя, якая ўзнікла ў 1905 годзе пад непасрэдным кіраўніцтвам «Бунда». У кастрычніцкія дні 1917 года «Югендбунд» вёў актыўную барацьбу супраць нашай партыі. 5 студзеня 1918 года члены «Югендбунда» разам з усім «Бундам» рабілі спробу арганізаваць дэманстрацыю пад лозунгам: «Далоў Савецкую ўладу!», «Няхай жыве Устаноўчы сход!» Югендбундаўцы прымалі актыўны ўдзел у напісанні і расклейванні антысавецкіх лістовак. Яны ўсялякімі сродкамі імкнуліся адарваць яўрэйскую моладзь ад юнакоў і дзяўчат другіх нацыянальнасцей. «Яўкамол» — таксама яўрэйская нацыяналістычная арганізацыя, створаная ў 1919 годзе пад кіраўніцтвам паалей-сіяністаў. «Яўрэйскі камуністычны саюз моладзі» нічога агульнага не меў з камсамолам. Гэта была арганізацыя антыкамуністычная, антыпралетарская. Перад яўкамолам паалей-сіяністы ставілі задачу — адарваць яўрэйскую рабочую моладзь ад інтэрнацыянальнай барацьбы ў радах камсамола, атруціць лозунгамі нацыянальнага адзінства. Яўкамолаўцы вылузваліся са скуры, каб выканаць задачу, пастаўленую перад імі паалей-сіяністамі.

«Звезда молодёжи» ў сваіх артыкулах рэзка крытыкавала гэтых прадажных нацыяналістаў. У артыкуле «Мы і нашы ворагі» яна 16 снежня 1920 года пісала: «Камуністычнаму саюзу моладзі ў Беларусі даводзіцца весці барацьбу з рознымі дробнабуржуазнымі групіроўкамі, у прыватнасці з «Югендбундам». «Югендбунд» — арганізацыя нацыяналістычная не можа быць цярпімай». У артыкуле «Яўкамол» газета ў тым жа нумары пісала, што пасля таго, як «з гэтай арганізацыі была сарвана маска, перад усёй моладдзю прадстаў твар сапраўднага паалей-сіяніста. Лозунгі «Маладыя яўрэйскія рабочыя, яднайцеся ў свой яўрэйскі саюз!» і «Юныя яўрэйскія пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» былі выкрыты. Усе ўбачылі, што гэта арганізацыя не інтэрнацыянальная камуністычная, а чыста нацыянал-шавіністычная». У нумары 35 за 1921 год «Звезда молодёжи» змясціла пісьмо аднаго з членаў камітэта яўкамола, якое выкрывае гэтую арганізацыю, паказвае яе мяшчанскую сутнасць. Вось што пісаў былы член камітэта яўкамола: «Паведамляючы аб сваім выхадзе з ЯКСМ, лічу сваім абавязкам адкрыць усю «рэвалюцыйнасць» гэтай маладзёжнай нацыяналістычнай арганізацыі. У канцы мая гэтага года на пасяджэнні мінскага камітэта яўкамола мною была ўнесена прапанова — вылучыць з мінскай арганізацыі 20 таварышаў для барацьбы з бандытызмам. Пасля доўгіх дэбатаў камітэтам быў намечан спіс — 15 чалавек. На агульным сходзе быў зроблены даклад аб бандытызме і аб'яўлены дабравольны запіс. Ніхто не запісаўся. Тады спіс, які быў складзен камітэтам, быў перададзены ў штаб атрада асобага назначэння пры мінскай арганізацыі КПБ для залічэння ў атрад. На другі дзень у камітэт яўкамола пачалі паступаць заявы аб выключэнні са спісу».

Нягледзячы на кароткі час свайго існавання, «Звезда молодёжи» заваявала сімпатыі моладзі Беларусі. «Гэта першая яе газета, — адзначалася ў перадавым артыкуле пяцідзесятага нумара 29 кастрычніка 1921 года,— дзе яна магла дзяліцца радасцямі і нягодамі. «Звезду молодёжи» чакалі з нецярпеннем у кожнай сялянскай і гарадской ячэйцы».

Добра адгукалася аб «Звезде молодёжи» рэдакцыя газеты «Красная молодёжь». У прывітанні з прычыны выхаду 50-га нумара газеты Аляксандр Безыменскі, які працаваў тады ў гэтай газеце, пісаў: «Рэдакцыя «Красной молодёжи» — цэнтральнага органа ЦК Расійскага Камуністычнага саюза моладзі — вітае ў дзень гадавіны і выхаду 50 нумара «Звезду молодёжи». Ваша газета заўсёды адлюстроўвала настрой рабоча-сялянскай моладзі, вызначала яе задачы і з'яўлялася адной з лепшых юнацкіх старонак Расіі».

Маладзёжныя старонкі выходзілі ў «Савецкай Беларусі», «Новой деревне» (Гомель), «Камунісце» (Бабруйск) і іншых газетах. Першы нумар старонкі «Юный пахарь» у газеце «Новая деревня» выйшаў 13 жніўня 1921 года. Яна адкрывалася перадавым артыкулам, у якім моладзь Беларусі заклікалася арганізавана правесці першую продпадатковую кампанію. Крыху раней выйшла старонка «Малады араты» ў газеце «Савецкая Беларусь».

Усе маладзёжныя старонкі актыўна змагаліся за аднаўленне народнай гаспадаркі, за арганізацыйнае афармленне камсамольскіх ячэек Беларусі, выкрывалі нацыяналістычныя маладзёжныя арганізацыі, арганізоўвалі моладзь на барацьбу з бандытызмам, асвятлялі жыццё і барацьбу юнакоў і дзяўчат за рубяжом.

Але шпаркі рост камсамольскіх радоў, задачы ўцягнення юнакоў і дзяўчат у справу сацыялістычнага будаўніцтва патрабавалі стварэння самастойнай газеты для моладзі. ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ прымаюць меры да стварэння такога органа. Першай самастойнай маладзёжнай газетай Беларусі з'явілася «Красная смена» (цяпер «Чырвоная змена»). Першы нумар яе выйшаў 21 красавіка 1921 года. У перадавым артыкуле адзначалася: «Нягледзячы на ўсе неспрыяльныя ўмовы, у якіх знаходзіцца Савецкая рэспубліка, нягледзячы на цяжкае гаспадарчае становішча нашай краіны, моладзь Беларусі мае свой орган. «Красная смена» будзе клікаць моладзь на работу, на барацьбу за ідэалы камунізма».

З вялікім задавальненнем сустрэлі юнакі і дзяўчаты сваю газету. Вось як піша аб гэтым у артыкуле «Як мы прынялі першы нумар» гераіня беларускага народа Вера Харужая: «Гэта было ў час II Усебеларускага з'езда, вясною 1921 года (маецца на ўвазе II з'езд ЛКСМБ — **Р. Б.**). Нашы хлопцы паехалі на з'езд, а мы з нецярпеннем чакалі навін з Мінска, і было ў нас крыху сумнавата. Сядзім гэта мы ў паветгаркоме, аб справах сваіх гаворым, як нечакана: «Пошта!»

— Даёш!

— Ну што там — пісьмы, цыркуляры?

— Не, штосьці новае.

— Ну? Давай сюды!

Мігам абступілі, свідруем вачыма пакет, разгортваем... А гэта што за штука такая? Вялікімі літарамі наверсе светла-шэрага ліста: «Красная смена» і меншымі — «Орган Цэнтральнага Камітэта КСМБ».

— Ды гэта ж наша камсамольская мінская газета!

— Эге-ге-ге! Даёш скарэй!
— А ну, пакажы!
— Мне, мне дай!
— Ды пачакай, я яшчэ і сама не бачыла!
— Хлопцы, давай разам чытаць усе, усе ўголас!
— Але, але, скарэй у сад пойдзем...

Усё перакульваючы на сваім шляху, высока над галавой трымаючы каштоўную навінку, віхурай бяжым у сад. Уселіся, улягліся ўсе як-небудзь, толькі шчыльней у кружок, бліжэй к газеце.

— Ну, чытай скарэй, скарэй!
— Ой, мае ногі, ногі прыціснулі, хлопцы, лягчэй!
— Ды ну цябе к чорту з нагамі, без ног жыў будзеш.
— Цішэй! Маўчыце ж! Чытай, чытай скарэй.

Ды дайце хоць дух перавесці. І хутка, хутка пераводзячы дух ад хвалявання, ад радасці, ад узнятай суматохі, пачынаю чытаць. Але як проста, добра напісана, ну зусім як мы размаўляем! Гэта было самае першае ўражанне.

— Хлопцы, і малюнкі ёсць?
— Ды ну, пакажы, пакажы!
— Кле-шчы!
— Эй хлопцы — клешчы: схапілі буржуйчыка і душаць.
— Ха-ха-ха-ха!
— Лоўка, ну і «Змена»!
— Малайцы, хлопцы!
— Ну чытай, чытай далей. — І зноў упіліся вачыма, навастрылі вушы. Дайшлі ўжо да падвала (тады, бузумоўна, я не знала, што ніжні артыкул так называўся). Чытаем пра нейкіх амерыканскіх і рускіх хлопчыкаў, аб пісьмах, аб Савецкай Расіі. Не помню ўжо цяпер, аб чым там размова ішла, але толькі ўсім нам надзвычай спадабалася. Захапляліся адзінадушна, чыталі, перачытвалі, паўтаралі асобныя выразы.

Праляцелі ўсю газету.

— До-о-бра, рабяткі!
— Яй-богу, добра!
— Ну і газета!
— У-р-ра!!! Няхай жыве наша новая «Чырвоная змена»!
— У-р-ра!!!

І высока ўверх кідалі чытаны і перачытаны ліст шэраватай паперы. Доўга сядзелі на траве пад квітнеючымі дрэвамі, яшчэ і яшчэ раз разглядалі і чыталі газету, гаварылі аб ёй, хвалілі. І адразу яна неяк стала такой блізкай, такой роднай... Беражліва, акуратна складвалі газету, хавалі, спрачаліся, каму захоўваць яе, потым разгортвалі, зноў чыталі і з нецярпеннем чакалі другога нумара».

Першы нумар «Чырвонай змены» выйшаў усяго ў колькасці 200 экземпляраў, а ўжо ў 1923 годзе тыраж яе дасягнуў 4 000 экземпляраў.

З самага пачатку свайго выхаду «Чырвоная змена» разгарнула вялікую работу па тэхнічнаму навучанню моладзі, па ўцягненню яе ў прафтэхшколы, школы фабрычна-заводскага навучання, па палепшанню быту рабочай моладзі. Газета з нумара ў нумар клікала моладзь да вучобы.

«Чырвоная змена», — успамінае К. Т. Мазураў, — сур'ёзна займалася пытаннямі камуністычнай маралі, этыкі, развіцця сацыялістычнай беларускай культуры, на яе старонках часта друкаваліся матэрыялы ў дапамогу маладому пісьменніку. У рабоце газеты актыўны ўдзел прымалі відныя дзеячы беларускай культуры Якуб Колас, Янка Купала, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і іншыя».

Часта на старонках «Чырвонай змены» ў гэты час выступала з яскравымі публіцыстычнымі артыкуламі і нарысамі Вера Харужая, якая ўваходзіла тады ў склад рэдакцыі.

Але газета тады больш пісала аб жыцці і дзейнасці рабочай моладзі, станаўленне ж і рост сельскіх ячэек, задачы ўцягнення ў барацьбу за аднаўленне сельскай гаспадаркі, задачы камуністычнага выхавання сельскай моладзі патрабавалі асобнай газеты для сельскай моладзі. ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ прымаюць неабходныя меры да стварэння такога органа. У кастрычніку 1922 года выйшаў першы нумар «Маладога аратага» (тады «Юный пахарь»). Газета была разлічана на непадрыхтаванага маладога сялянскага чытача. Маленькая па фармату, надрукаваная ўмела падабранымі шрыфтамі, яна ўжо з першага позірку прыцягвала ўвагу чытача, зацікаўлівала яго.

У пераважнай большасці яна складалася з кароценькіх артыкулаў на злобу дня, карэспандэнцый, у якіх адлюстроўвалася жыццё вёскі, сельскай моладзі. У газеце быў спецыяльны аддзел «Жыццё сялянскай моладзі». Гэта быў цэнтральны аддзел газеты. З нумара ў нумар «Малады араты» даваў «Гутаркі аб палітыцы», якія пісаліся адным з членаў рэдакцыі ў выглядзе пісем да сялян з подпісам: «Ваш друг Уладзімір». Гэта былі кароткія зводкі з міжнароднага жыцця, агляды важнейшых падзей унутры краіны. Надзвычай каштоўныя і карысныя ўказанні атрымоўваў сельскі чытач ад «Старонкі сельскагаспадарчых ведаў», якая перыядычна друкавалася «Маладым аратым». Аўтарамі матэрыялаў «Старонкі» з'яўляліся сяляне, аграномы, вучоныя. «Старонка» вучыла сялян, як паляпшаць лугі, правільна апрацоўваць глебу пад пасевы, угнойваць яе, правільна карміць жывёлу і г. д. Рэзка крытыкавала газета розныя непаладкі ў рабоце камсамольскіх ячэек. Для гэтага існаваў спецыяльны аддзел «Пад шкляным каўпаком». У канцы 1922 года ў газеце з'явіліся новыя аддзелы «Рэвалюцыйны каляндар» і «Куток бязбожніка». Газета пачала выдаваць «Літаратурна-ілюстраваны дадатак».

У 1924 годзе газета «Малады араты» павялічыла свой фармат у два разы і пачала выходзіць на беларускай мове. Гэта садзейнічала яшчэ большаму ўмацаванню сувязі газеты з масамі. Асаблівую ўвагу ў гэты час газета надае барацьбе за новы быт і культуру беларускай вёскі. У матэрыялах селькораў крытыкуецца крывадушша, хцівасць, распуста служак рэлігійнага культу. У № 61 «Маладога аратага» за 1924 год было апублікавана пісьмо селькора Паварчука. Ён пісаў: «Адзінаццатая запаведзь — не зявай. Наш старобінскі поп (Слуцкага павету) не зяваў. Вянчалася ў яго раз адна пара. А адна дзяўчына хацела забраць сабе тое палатно, што маладым пад ногі кладуць. Убачыў поп, што два аршыны палатна каля рук праплываюць — не вытрымаў. Як падыме гвалт на дзяўчыну. Тая ледзь ногі вынесла. Помніць наш поп адзінаццатую запаведзь».

У № 68 за 1924 год селькор з вёскі Дамантавічы, які схаваўся пад ініцыяламі П. Г., пісаў: «Ёсць у нашай вёсцы поп Кастусь Чуйко. Як і ўсе папы, ён наконт самагону ласы. Памёр у аднаго хлопца Юстына Рудзіцкага бацька. Пахаваў ён яго. Пасля запрасіў папа на памінкі. Вялікапост. Самагонка — рэч посная, дае, ну, а закусіць падалі посны квас. Моршчыцца поп. Бача, што сяляне не дадуць закусіць сала, устаў, перахрысціўся і дазволіў сёння есці і не поснае. Падалі сала, мяса, — поп з імпэтам вып'е ды закусіць. А старыя сяляне пачалі лічыць яго бязбожнікам...»

Акрамя артыкулаў, невялікіх допісаў, газета змяшчала на сваіх старонках шмат п'есак, вершаў, апавяданняў, частушак, у якіх выкрывала служкаў культу. Сярод гэтых твораў былі і вершы У. Маякоўскага. 31 сакавіка 1923 года напярэдадні вялікадня рэдакцыя «Маладога аратага» выпусціла нумар, цалкам прысвечаны выкрыццю хлусні царкоўнікаў аб гэтым рэлігійным свяце. У нумары былі надрукаваны два вершы Маякоўскага. Першы — «Товарищи крестьяне, вдумайтесь хоть раз — зачем крестьянам справлять пасху» быў змешчаны ў якасці перадавога артыкула. (Упершыню верш быў надрукаваны ў «Бюллетене Пресс-бюро Агитпропа ЦК РКП» у № 20, 23 сакавіка 1923 г.). У вершы, напісаным у форме пытанняў і адказаў, Маякоўскі падвяргае крытыцы рэлігійныя выдумкі аб Хрысце, аб прыстойнасці духавенства. У другім вершы «Строки охальные про вакханалии пасхальные», які рэдакцыя «Маладога аратага» таксама перадрукавала першай, Маякоўскі выкрывае «набажнасць» буржуяў. Многія з надзённых вершаў, накіраваных супраць рэлігіі, былі напісаны памерам шырока вядомых песень. Гэта давала магчымасць калектывам мастацкай самадзейнасці выконваць іх перад слухачамі.

Хабарнікі, п'яніцы пападалі на пяро сатыры Кандрата Крапівы. Безумоўна, не адзін п'яніца пазнаў сябе ў вобразе героя верша «Як Антон стрэў вельканоц». Агнём сатыры газета паліць тых, хто жыве ў гразі і не можа расстацца з ёй. Асабліва прыкметны ў гэтых адносінах сатырычны верш К. Крапівы «Будуйце лазні», надрукаваны ў № 63—64 газеты за 1924 год.

У раздзеле «Па вёсках з кнігаю» газета друкавала матэрыялы, у якіх усебакова асвятляла жыццё школ. «Малады араты» мабілізуе грамадскасць на стварэнне нармальных умоў для працы настаўнікаў. У гэтых адносінах асабліва вылучаецца артыкул Веры Харужай «На сродкі насельніцтва». Повадам для напісання гэтага артыкула з'явілася інфармацыя, змешчаная ў «Правде» 28 снежня 1923 года. У ёй паведамлялася аб тым, што ў Мінскім павеце насельніцтва ўзяло ўсе школы на сваё ўтрыманне. Школы забяспечаны палівам і дапаможнікамі. Інфармацыя гэта была невялікай, складалася з пяці радкоў. Таму Вера Харужая прыводзіць яе цалкам як эпіграф да свайго артыкула. Харужая з уласцівай ёй прынцыповасцю адзначае: «Цяжка спадзявацца на тое, што ўсе школы Беларусі могуць сказаць пра сябе: «Настаўніцтва забяспечана; ёсць паліва і дапаможнікі». І ўсёбачнае вока камсамольскай ячэйкі павінна заглянуць і ў гэты пакуль яшчэ цёмны куток. У нас не павінна быць ні адной школы не атопленай, з галодным настаўнікам. Трэба пусціць усе сродкі ў ход. Агітаваць, пераконваць, растлумачваць, падштурхваць сельсаветы». Далей Вера Харужая заклікае ўсіх камсамольцаў не супакойвацца на заключэнні дагавора аб забеспячэнні школы, таму што пасля заключэння дагавора кулакі адразу ж паклапоцяцца школу да сваіх

рук прыбраць і настаўнікамі камандаваць.

«Нярэдкія ж выпадкі, — пісала далей Вера Харужая, — калі, як гэта было ў Цвярской губерні, кулакі заяўляюць настаўніцы: «Хлеб то ты, мілая, жуеш. Значыцца, нас і слухацца павінна. Хочам, каб ты дзяцей нашых закону божаму вучыла».

«У нас такіх выпадкаў не павінна быць, — рашуча заяўляла Харужая. — Хлеб для школы — кулацкі, а ўплыў камсамольскі! — гаворым мы».

Калектыўным арганізатарам з'яўляліся маладзёжныя газеты і ў барацьбе з непісьменнасцю ў беларускай вёсцы. З нумара ў нумар газеты паказвалі работу камсамольскіх ячэек па ліквідацыі непісьменнасці. «Малады араты» ў допісе «Студэнты ў водпуску» паведамляў, што камсамольцам Нізоцкай ячэйкі аказваюць дапамогу студэнты, асабліва Паўлюк Трус. Сапраўды, Паўлюк Трус быў душой камсамольскай ячэйкі, аб чым сведчыць яго пісьмо Пятру Глебку з роднай вёскі Нізок, куды ён паехаў на канікулы: «Думаў, напішу за гэты час, дык дзе там. Ячэйка на краю гібелі. Трэба не дапусціць гэтага. Вось нядаўна рабіў даклад аб 9 студзеня, а сягоння ладзім вечар. Ставім суд над камсамольцам п'яніцам. Выпускаем вусную газету... А тут яшчэ трэба пазаймацца з дзецьмі, напісаць праект аб паляпшэнні школы...»

Усе маладзёжныя газеты рэспублікі рабіліся рукамі юнакоў і дзяўчат. Некаторыя з актыўных селькораў «Звезды молодёжи», «Маладога аратага», «Чырвонай змены» сталі потым вядомымі пісьменнікамі і савецкімі работнікамі. Платон Галавач, напрыклад, быў актыўным селькорам «Маладога аратага». На старонках газеты ён пісаў аб жыцці камсамольскіх ячэек, аб рабоце клубаў, аб шэфстве гарадскіх камсамольскіх ячэек над сельскімі. Работа Платона Галавача ў «Маладым аратым», якую ён называў роднай газетай, мела выключна важнае значэнне для ўсяго яго далейшага творчага росту.

Прайшло сорак год. Маладзёжны друк рэспублікі вырас у велізарную сілу; значна палепшылася яго якасць. І ва ўсім гэтым выключную ролю адыграў той вопыт, які набывала прэса маладых у першыя гады свайго станаўлення.

**Р. БУЛАЦКІ.**




**Дрысенская камсамольская ячэйка, адным з арганізатараў якой быў Георгі Гінько** (сядзіць трэці злева). **1920 год.**

# З першага пакалення

Гэта было ўлетку 1920 года. Чырвоная Армія рыхтавалася да рашучага наступлення з тым, каб вызваліць Савецкую Беларусь, ачысціць беларускую зямлю ад белапольскіх інтэрвентаў.

Кожны дзень у райкомы і гаркомы заходзілі маладыя камуністы і са словамі «Хачу ісці на фронт» уступалі ў рады добраахвотнікаў, каб са зброяй у руках абараняць вялікія заваёвы Кастрычніка.

З такой просьбай у Дрысенскі павятовы камітэт зайшоў малады чалавек, паклаў перад сакратаром свой партыйны білет і сказаў:

— Мой бацька і брат змагаюцца з ворагам на фронце, пасылайце і мяне!..

«Георгі Міхайлавіч Гінько, — чытаў сакратар парткома, — год нараджэння 1900, у партыю ўступіў у сакавіку 1919 года...»

— Так, — задумліва прагаварыў сакратар і звярнуўся да маладога камуніста: — Таварыш Гінько, а ці ведаеш, што ўчора павятовы камітэт прыняў пастанову аб стварэнні камсамольскіх ячэек у раёнах, якія не заняты інтэрвентамі?..

— Не, не ведаю, — ціха прагаварыў Гінько.

— Тады сядай і слухай.

... Так Георгі Гінько стаў арганізатарам і важаком першай камсамольскай ячэйкі, якая была створана ў Дрысенскім раёне, у мястэчку *Валанцы*, дзе ў тое лета знаходзіліся ўсе савецкія ўстановы, эвакуіраваныя з Дрысы.

8 чэрвеня 1920 года адбыўся першы сход моладзі, на якім было выбрана камсамольскае аргбюро на чале з Георгіем Гінько.

Камсамольцы працавалі ў прыфрантавой паласе. Яны ўсе былі ў мабілізацыйнай гатоўнасці. Многія хлопцы і дзяўчаты, атрымаўшы камсамольскія білеты, адразу ж ішлі на фронт. Тыя ж, што за-



РОССИЙСКИЙ
КОММУНИСТИЧЕСКИЙ СОЮЗ
МОЛОДЕЖИ.

Губерния Витебская
Уезд (город) Дриссенский
ЧЛЕНСКИЙ БИЛЕТ № 7908
Фамилия Гинько
Имя Георгий
Отчество Михайлович
Год рождения 1900
Социальное положение крестьянин состоящий на службе
Образование окончил Народное училище
Родной язык белорусский
На каких еще языках говорит русском
Какие специальности знает письмоводство -секретарство-

Семейное положение холост
Живет-ли в семье нет
Число членов семьи состоящих на иждивении нет
Время вступления в Р.К.С.М. 8 Июня 1920 г.
Член-ли Р.К.П. (б) да, если да, то с какого времени 4 Апреля 1919 г.
Краткие сведения о революционной работе до выдачи билета [illegible]
Личная подпись Г. М. Гинько

Так выглядаў камсамольскі білет Георгія Гінько.

ставаліся на месцы, змагаліся з бандытамі, з кулакамі, спекулянтамі.

Па прыкладу камсамола Віцебска дрысенскія камсамольцы наладжвалі суботнікі, аказвалі дапамогу Чырвонай Арміі, якая ішла ў наступленне. Уся работа моладзі праходзіла пад баявым лозунгам: «За ўладу Саветаў».

Сярод архіўных дакументаў — камсамольскі білет № 7908. Гэта білет Георгія Гінько — першага дрысенскага камсамольца і кіраўніка камітэта РКСМ.

Вядомы імёны і іншых першых камсамольцаў, якія праявілі сябе ў той суровы час,— гэта Ільін, Вілейкін, Качан, Шэрман і многія другія.

З таго часу, як была заснавана першая камсамольская ячэйка ў Дрысенскім раёне, на Віцебшчыне, прайшло сорак год. Шмат каго з тых камсамольцаў ужо няма ў жывых, а тыя, што жывуць, — з'яўляюцца актыўнымі барацьбітамі за нашу камуністычную будучыню. Г. М. Гінько, які некалі паехаў па камсамольскай пуцёўцы на вучобу ў Маскву, — цяпер кандыдат тэхнічных навук, працуе вучоным сакратаром Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.

**А. ДОЛЬНІКАЎ.**

## Мае таварышы

У суровыя гады Айчыннай вайны я, як і многія мае аднагодкі, удзельнічаў у партызанскай барацьбе з фашысцкімі акупантамі на Піншчыне. Камсамольскі атрад імя Міколы Шыша — нашага першага камандзіра, які загінуў у баі на Днепра-Бугскім канале, прайшоў вялікі баявы шлях. Да канца 1942 года ў нас было ўжо звыш двухсот узброеных байцоў. Мы ўдзельнічалі ў буйных аперацыях — разграмілі гітлераўскія гарнізоны на станцыі Сінкевічы і ў мястэчку Леніна, пусцілі пад адхон дзесяткі варожых эшалонаў.

Аднойчы на світанні мы падышлі да вялікай вёскі Святая Воля. Групамі атрад пасоўваўся да яе цэнтра. Камандзір узвода Юры Героеў загадаў:

— Аддзяленню Міколы Галавацкага атакаваць будынак нямецкай казармы!..

Першымі праскочылі вуліцу Мікола Галавацкі, Міхась Салоўскі. За імі — Васіль Сулейман...

У гэты час засакатаў фашысцкі кулямёт, і куля працяла Сулеймана. Не стала нашага героя-кулямётчыка.

Але наступ на гарнізон не спыніўся. Другая група пад камандай Аляксандра Цёмкіна з крыкамі «ўра» акружыла дом, дзе заселі гітлераўцы, і падпаліла яго. Гітлераўцы выскоквалі праз вокны, але іх насцігалі трапныя партызанскія кулі.

Бой зацягнуўся. Ужо звечарэла. Гітлераўцы заселі ў доце, адтуль ніяк не ўдавалася іх выкурыць. Мы падцягнулі сваю гармату. Пятро Паталах і Змітрок Удовінаў паслалі адзін за другім некалькі снарадаў, і дот змоўк. Гарнізон быў разгромлены.

Пасля бою частка атрада засталася ў лесе, на востраве, а другая, дзе быў і я, накіравалася зноў у Ленінскі раён, на ранейшую стаянку. Параненых мы везлі на фурманках. Часта даводзілася выпрагаць коней і ўпрагацца самім, бо дарога ішла па балоце. Крышачы лёд, мы ішлі па пояс у халоднай балотнай вадзе... Добра, боты нашы былі дзіравыя, і вада ў іх не трымалася.

На астраўках раскладалі кастры і сушыліся. Як тут не прыгадаць нашых дзяўчат-партызанак, што ішлі з намі поплеч! Камсамолкі Люба Літвінчук, Роза Гарасімава, Тоня Цёмкіна, Соня Смірнова, Юля Кокшына ваявалі не горш за хлопцаў, ды яшчэ і параненых даглядалі. Тоня Цёмкіна была сцяганосцам атрада.

Нягледзячы на блакаду, наш атрад часта хадзіў у далёкую разведку, удзельнічаў у рэйкавай вайне. Аднойчы група Пятра Паталаха вярталася з задання на базу. Нечакана партызан акружылі карнікі. Завязаўся бой. У час прарыву загінулі Пятро Паталах, Цароў і Пячны. Ноя Яшвілі выратаваў гадзіннік, які ляжаў у кішэні. Куля расплюшчыла гадзіннік, параніла хлопца, але сэрца не закранула...

... На досвітку 30 красавіка 1943 года партызанскі сувязны павёў нас на чыгунку Баранавічы—Лунінец. Мы выбралі



Партызаны атрада імя Міколы Шыша вядуць агонь па ворагу. 1943 год.



Адзін з узводаў партызанскага атрада імя Міколы Шыша. Снежань 1942 года.

ўчастак за паўкіламетра ад станцыі Бастынь. Узвод падзяліўся на дзве часткі, замаскіраваліся з абодвух бакоў насыпу. Мы разлічвалі знішчыць варту, якая павінна была ісці са станцыі да наступнага паста.

Неўзабаве пачулася чужая гаворка. Гітлераўцаў было не дзевяць, як мы думалі, а больш за трыццаць. Напэўна, яны здагадаліся, што на Першае мая ім рыхтуецца «сюрпрыз». Падпусціўшы іх блізка, мы адкрылі агонь. Варожаму кулямётчыку ўдалося саскочыць з насыпу, ён пачаў страляць па нашых байцах.

З другога боку на рэйкі, паміж якімі ляжала некалькі фашыстаў, папоўз Лёня Іпалітаў. Ён заўважыў аўтамат і хацеў яго прыдбаць сабе. Не паспеў Лёня падпаўзці да «забітага», як той стрэліў. Гітлераўца дабілі, а паранены Лёня з трафеем прыпоўз да сваіх.

Давялося адысці. Адыход наш прыкрываў кулямётчык Павел Кашчэўскі. Лёню і другога параненага таварыша — Якава Проня мы неслі на руках. За іх раны паплаціліся жыццём не меней як дваццаць фашыстаў. Партызаны нашага атрада непадалёк ад гэтага месца спусцілі пад адхон варожы эшалон, а крыху пазней зрабілі засаду і разграмілі абоз гітлераўцаў.

Не адзін раз пераходзілі мы рэкі, чыгункі, шасейныя дарогі. Шмат баявых подзвігаў зрабілі мае дарагія сябры-камсамольцы атрада імя Міколы Шыша ў складзе брыгады, якой потым камандаваў наш баявы камсамолец Міша Гарасімаў.

Ніколі не астыне дружба камсамольскага юнацтва, загартаваная ў агні змагання за Радзіму.

**Уладзімір ШАЦМАН,**
**былы партызан.**



Члены сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва ў Геншмары (ГДР) абмяркоўваюць план новай вёскі, які будзе здзейснен праз тры гады.

# МАЛАДЗЁЖНАЯ ВЁСКА НА ОДЭРЫ

### Тут быў пярэдні край

З боку Одэра дзьмуў моцны вецер, калі мы прыехалі ў вёску Геншмар у раёне Зеелаў. Адразу ж накіраваліся ва ўпраўленне бургамістра. Курт Георг, малады, сімпатычны бургамістр тлумачыць нам: «Бачыце, там наперадзе наш жывёлагадоўчы камбінат. Прыкладна за 300 метраў адсюль знаходзіліся пазіцыі савецкіх войск, а тут — фашысты. Амаль восем тыдняў пярэдні край абароны быў у нашай вёсцы».

Размешчаная на заходнім беразе Одэра вёска Геншмар вясной 1945 года была перадмаставым умацаваннем савецкіх узброеных сіл. Адборныя фашысцкія часці няспынна атакавалі савецкіх абаронцаў, спрабуючы адцясніць іх на ўсходні бераг Одэра. Вёска некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Кожны квадратны метр зямлі насычаны тут крывёю. Страшэнную разбуральную сілу барацьбы за Геншмар апісвае савецкі пісьменнік Эмануіл Казакевіч у сваім рамане «Вясна на Одэры»:

«Артылерыйская падрыхтоўка пачалася ў пяць гадзін раніцы. Яна скаланула ўвесь плацдарм. Калі вушы трохі прывыклі да гулу, можна было адрозніць сярод разнастайнасці гарматных галасоў басавітыя, бухаючыя галасы цяжкіх гармат рэзерва Галоўнага Камандавання. Па небе імкліва забегалі заранкі «кацюш». Дваццаць тысяч гармат, гаубіц, мінамётаў ракаталі не спяшаючыся, дзелавіта, упарта. Ваколіцы апрануліся ў барвова-шэрую пеляну.

Салдаты сталі ў траншэях на ўвесь рост і моўчкі прыслухоўваліся да страшэннага гулу. Тут былі ветэраны, якія чулі сталінградскую і курскую кананады, але тое, што яны бачылі і чулі цяпер, нельга было ні з чым параўнаць».

Пасля заканчэння вайны з тысячы жыхароў у вёску вярнулася толькі 85 чалавек. Уся іх маёмасць складалася з адной казы і трох курыц. Цяжкім, невыказна цяжкім быў пачатак. Дамы разбураны, палі замініраваны. Не паспелі яны сабраць частку ўраджаю, як зноў бяда спрабавала накласці сваю руку на вёску. Вясной 1947 года вада прарвала плаціны, і воды Одэра затапілі зямлю. Упарта, з непахіснай воляй да працы людзі зноў пачыналі ўсё з самага пачатку.

### І тады прыйшла моладзь...

Здавалася, што вёска аджыла свой век. У той час тут было ўсяго 16 дзяцей. Ні дома, ні хлева, ні скаціны — ці ж быў яшчэ сэнс аднаўляць вёску ў такіх умовах? Усюды падсцерагала смерць у выглядзе мін і гранат. Кожны год патрабаваў новых ахвяр. Ці можна было захаваць яшчэ гэтую вёску на Одэры?

І тут за справу ўзяўся Саюз свабоднай нямецкай моладзі. У 1957 годзе ён вырашыў абвясціць Геншмар маладзёжнай вёскай і аднавіць яе на сацыялістычных прынцыпах. З усіх частак Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі моладзь прыйшла ў Геншмар. Так, напрыклад, малады бургамістр Курт Георг прыбыў з чыгуначных рамонтных майстэрань у Эберсвальдзе, руплівы старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва Герхард Бернд — з металургічнага камбіната ў Талі, брыгадзір жывёлагадоўчай брыгады Герхард Оберман — з Зангерхаузена, а васемнаццацігадовая Ута Шульц — з Берліна.

За гэтыя гады моладзь прыклала шмат працы і праявіла дух самаадданасці. Цяпер яны ганарацца тым, што створана іх рукамі.

Урадлівую глебу раўніны Одэра апрацоўваюць два сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы: «Свабодная зямля» на 1200 га і «Одэрланд» на 200 га. Абодва кааператывы разам налічваюць 155 членаў. Аднак яны самі не здолелі б адрадзіць Геншмар. Тысячы членаў Саюза свабоднай нямецкай моладзі памагалі аднаўляць вёску, працуючы на будаўніцтве на працягу двух тыдняў. Толькі ў 1958 годзе 6500 маладых сацыялістаў добраахвотна ўдзельнічалі ў стварэнні новай вёскі Геншмар.

### Узнятая з руін...

«Ці ж наша вёска не прыгожая? Усё гэта ўзнялося з руін, — заявіў з гонарам член кааператыва Фрыц Хеншэль, стары жыхар вёскі Геншмар. — Па праўдзе кажучы, мы ў 1945 годзе не спадзяваліся, што наша вёска будзе такой прыгожай. Гэтым мы абавязаны моладзі, якая энергічна памагала нам будаваць». Гэта — простыя словы, але аб якой удзячнасці і глыбокай любві да радзімы сведчаць яны!

Вёска Геншмар жыве. Стройныя рады сучасных дамоў вызначаюць яе аблічча. Светлыя, прыветлівыя дамы з поўным камфортам, вадаправодам і ваннай робяць жыццё прыемным. Будаўніцтва працягваецца: сёлета будуць пабудаваны вялікі дзіцячы сад, сельская бібліятэка, новы універмаг, а таксама вялікае зернясховішча. Дзіцячы сад асабліва не-



Новая вуліца ў Геншмары.

абходны, таму што ў вёсцы 250 дзяцей. Калі-небудзь яны з удзячнасцю будуць успамінаць пра тое, што тут было створана для іх.

У вёсцы Геншмар ёсць што паглядзець! На аснове самых сучасных навукова-тэхнічных дасягненняў тут створаны камбінат жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, птушкагадоўлі і гароднінаводства. Цяпер сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Свабодная зямля» належыць да ліку самых сталых кааператываў нашай рэспублікі. Пагалоўе жывёлы расце з году ў год. У жывёлагадоўчым камбінаце, будаўніцтва якога хутка закончыцца, будзе 1 500 галоў буйнай рагатай жывёлы, у тым ліку 700 кароў, а ў свінагадоўчым камбінаце — 1 400 свіней. У камбінаце па развядзенню качак знаходзіцца 2 000 племянных качак, ён дае штогод 18 000 качанят. Гароднінаводчы камбінат мае сучасныя зашклёныя парнікі ў 10 000 квадратных метраў. На 30 гектарах, якія арашаюцца штучным дажджом, таксама вырошчваецца гародніна.

Будаўніцтва кааператыва набліжаецца да завяршэння. «Калі мы будзем працягваць работу з тым жа ўздымам, як і да гэтага часу, мы дасягнем нашай мэты ў 1963 годзе», — запэўніў нас бургамістр Курт Георг. Мы з ахвотай верым яму, бо тэмпы будаўніцтва пацвярджаюць гэта.

Характэрна перш за ўсё тое натхненне, з якім сялянкі і сяляне сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва ў Геншмары выпускаюць усё больш таварнай прадукцыі. І стары і малы—сярэдні ўзрост жыхароў вёскі 38 гадоў — усе ўдзельнічаюць у спаборніцтве за «Прыгожую сацыялістычную вёску».

Ці багата жывуць у вёсцы Геншмар? О так, можна сказаць вельмі нават. Кожны член кааператыва атрымаў на працадзень, не лічачы прадуктаў, 8,51 маркі. Побач з сучасна абсталяванымі кватэрамі, у вёсцы налічваецца ўжо восем легкавых аўтамашын, больш 100 матацыклаў і мапедаў, а таксама 30 тэлевізараў.

Як праводзіць насельніцтва гэтай вёскі свой вольны час? Побач з кіно, у якім два разы на тыдні дэманструюцца новыя фільмы, у іх распараджэнні—вялікае клубнае памяшканне з двума тэлевізарамі. Адной залы, якая ўмяшчае ўсяго 100 наведвальнікаў, ужо даўно мала. У вёсцы 650 жыхароў, таму на парадку дня стаіць будаўніцтва Дома культуры. Ён будзе пабудаваны яшчэ да 1963 года. Само сабой зразумела, што вялікая ўвага ў вёсцы Геншмар аддаецца і спорту. Спартыўная пляцоўка—любімае месца сустрэч моладзі.

«Мне тут падабаецца, тут зусім не сумна. Праз некалькі гадоў мы ні ў чым не будзем адставаць ад горада», — гаворыць васемнаццацігадовая Інгрыд Эвальд.

Радасныя, шчаслівыя людзі жывуць у гэтай маладзёжнай вёсцы на Одэры. Вёска Геншмар — сімвал новай, прагрэсіўнай Германіі, моладзь якой ненавідзіць вайну. Сваёй натхнёнай працай яны зробяць усё магчымае, каб уберагчы сваю вёску, нашу рэспубліку, сваю айчыну ад новага разбурэння.

**Іёзаф ЦЫРУС.**

## *Размова аб майстэрстве*



Алесю Кучару споўнілася пяцьдзесят год. Ён вядомы ў літаратуры як крытык і драматург.

Яго кніга «Літаратурна-крытычныя артыкулы», у якой разглядаюцца пытанні майстэрства Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы і іншых пісьменнікаў, вядома кожнаму, хто вывучае беларускую літаратуру.

П'есы Алеся Кучара «Заложнікі», «Гэта было ў Мінску», «Неспакойныя сэрцы» ставіліся ў тэатрах рэспублікі. У сааўтарстве з Аркадзем Куляшовым Алесь Кучар напісаў сцэнарый, па якім пастаўлены кінафільм «Чырвонае лісце»; ён — адзін з аўтараў сцэнарыя кінафільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы».

Цяпер Алесь Кучар працуе над кнігай аб сучаснай беларускай прозе. Адзін з раздзелаў гэтай кнігі з некаторымі скарачэннямі мы і друкуем тут.

**Алесь КУЧАР**

# ЯРКІЯ СТАРОНКІ СУЧАСНАСЦІ

Творчасць Янкі Брыля, аднаго з выдатных майстроў беларускай прозы, уяўляе вялікую цікавасць.

Пісьменнік, які ў дваццацігадовым узросце пачаў сваю творчую дзейнасць яшчэ ва ўмовах панскай Польшчы, ужо праз два гады, у 1939 годзе, калі яшчэ не паспела сфармавацца яго творчае і грамадскае аблічча, апынуўся ў пекле вайны. Ён знаходзіўся ў шэрагах польскай арміі. Як баец марской пяхоты абараняў ад фашысцкай армады польскія фарпосты каля Гдыні. Юнак перажыў жах разгрому польскай арміі і апынуўся ў палоне ў нацыстаў. А ў гэты час на ўсходзе яго аднагодкі і браты святкавалі радасць вызвалення з-пад ярма панскай няволі, ладзілі свабоднае савецкае жыццё на прасторах былой Заходняй Беларусі. Не раз падпаўзаў да калючага дроту палонны, не раз намагаўся ўцячы, а калі, нарэшце, гэта яму ўдалося, над Беларуссю распасцёр свае крылы фашысцкі сцярвятнік. Цяжкі быў шлях юнака на радзіму, але тут ён канчаткова знайшоў сваё месца ў шэрагах

народных мсціўцаў. Жыццё ў заходнебеларускай вёсцы да верасня 1939 года, месяц страшэннай вайны, год фашысцкага палону, два з палавай гады партызанскай барацьбы, — такі жыццёвы вопыт Янкі Брыля.

Янка Брыль нарадзіўся і выхаваўся ў сям'і напалову сялянскай, напалову рабочай (бацька яго — адэскі чыгуначнік, які пазней пераехаў на радзіму сваіх бацькоў каля Міра ў Беларусі). У гэтай сям'і карысталася павагай кніга, і гэта мела ўплыў на фармаванне будучага пісьменніка. Калі Янка Брыль пасля Айчыннай вайны ступіў на пачэсны, але нялёгкі шлях пісьменніка, ён неяк зусім натуральна зрабіўся песняром сучаснай тэмы — пачаў пісаць аб вайне, галоўным чынам партызанскай барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў, аб сваіх таварышах — героях партызанах, аб тым, як яны будуюць новае жыццё на вызваленай ад ворагаў зямлі, аб велізарных зменах, што адбыліся ў былой Заходняй Беларусі. Праўда, закранаюцца ў творчасці Янкі Брыля і іншыя тэмы — першая частка яго рамана «Граніца» прысвечана фармаванню рэвалюцыйнага змагара ва ўмовах падполля ў Заходняй Беларусі. Але найбольшыя поспехі пісьменніка звязаны з сучаснай тэмай. Такія яго выдатныя творы, як «У Забалоцці днее», «Галя», «На Быстранцы», значна ўзбагацілі беларускую савецкую літаратуру.

«Творы Я. Брыля вабяць чытача надзвычайнай паэтычнасцю. Проста, усхвалявана піша ён аб сваіх сучасніках, імкнучыся раскрыць перш за ўсё іх унутраны свет, іх пачуцці і думкі, адлюстраваць найбольш істотнае ў жыцці. Эмацыянальнасць, паэтычнасць — самыя характэрныя рысы мастацкага стылю Я. Брыля».

Гэта зусім правільная характарыстыка нашай крытыкай творчасці пісьменніка. Асобныя крытыкі ідуць значна далей, намагаючыся знайсці сувязь эмацыянальнасці, паэтычнасці не толькі з тым выдатным, што стварыў Янка Брыль, але і асобнымі адмоўнымі момантамі ў яго прозе. Крытык Алесь Адамовіч, які ў сваёй кнізе «Культура творчасці» дае даволі трапную характарыстыку прозе Янкі Брыля, схільны бачыць залежнасць паміж лірычнасцю, паэтычнасцю яго твораў і праявамі сентыменталізму ў ёй. Ён піша:

«Праўда, часамі здараецца, што мастацкі малюнак Я. Брыля як бы губляе выразнасць, контуры яго расплываюцца. Чытаеш шчырыя, прачулыя, лірычныя радкі, яны нават кранаюць цябе, але адчуванне такое, як у стэрэакіно, калі згублен «фокус»: малюнак расплываецца. Застаецца лірызм, эмацыянальнасць, але і яны аслабляюцца, бо знікае выразнасць, пластычнасць, шматфарбная яркасць малюнка. Такое здараецца з Я. Брылём не часта і здараецца тады... калі яму не ўдаецца ўтрымацца на мяжы лірызму, калі ён схіляецца да пачуццёвасці і нават сентыментальнасці».

У гэтым сцверджанні правільна выказана трывога з прычыны некаторай сентыментальнасці ў паасобных творах пісьменніка, залішне пачуццёвай экзальтацыі асобных вобразаў. А. Адамовіч лічыць, што гэта з'яўляецца тады, калі знікае «выразнасць, пластычнасць, шматфарбная яркасць малюнка», і калі аўтару не «ўдаецца ўтрымацца на мяжы лірычнасці».

Паспрабуем разабрацца ў абодвух гэтых сцверджаннях.

Што датычыць «выразнасці, пластычнасці і шматфарбнай яркасці малюнка», дык; калі прачытаць усе выдадзеныя творы Я. Брыля, апавяданне за апавяданнем, нарыс за нарысам і артыкул за артыкулам, бадай не знойдзеш у іх пустых мясцін, такіх мясцін, калі «мастацкі малюнак губляе выразнасць», калі «контуры яго расплываюцца». Усюды Янка Брыль застаецца пластычна выразным, больш таго, усюды ён застаецца самім сабой, заўсёды знойдзе і ўбачыць у жыцці рысы непаўторныя і да таго праўдзівыя, што чытач здзіўлены, як ён сам гэта раней не заўважыў.

Для прыкладу можна ўзяць любы твор, нарыс ці артыкул. Ну, хоць бы самы маленькі, можна сказаць, заметку — «Памяці Валянціна Таўлая», напісаную да дзесятай гадавіны з дня смерці паэта. Аказваецца, што і ў гэтай заметцы ўсё пластычна выразна, ярка, вобразна. Пачынаецца яна жалем з прычыны таго, што В. Таўлай памёр, не пачуўшы ад адзінае свае дачкі першага слова і не ўбачыўшы нават у карэктуры першае свае кніжкі. Гэтае тройчы пастаўленае побач: адзіная дачка, першае слова, першая кніга і ствараюць выразнае ўяўленне аб чалавеку, якому няўмольны лёс не даў разгарнуць усе свае творчыя здольнасці. І далей у гэтай заметцы ўсё канкрэтна, па-мастацку выразна і пластычна. Аўтар уяўляе, як В. Таўлай мог бы схіліцца над сваім турэмным фотаздымкам, на якім ён зняты з арыштанцкай дошкай на грудзях. Вельмі добра асацыіруе Янка Брыль гэты здымак, знойдзены нядаўна ў архівах слонімскай дэфензівы, з вершам В. Таўлая «Лістоўка», са смехам яго дзесяцігадовай дачкі, а ганебную турэмную дошку на грудзях прыраўноўвае да баявых ордэнаў, якімі ганарыліся і ганарацца многія паплечнікі паэта па барацьбе.

Такім чынам, мы тут бачым вобразнае мысленне, выключную прадметнасць, канкрэтнасць, шматпланавую асацыятыўнасць вобразаў.

Але можа гэта выпадкова мастацкія вобразы і асацыяцыі трапілі ў невялікі артыкул. Зусім не. Возьмем «Мой родны кут». Гэта ўжо сапраўдны мастацкі твор, прысвечаны памяці Якуба Коласа, з разгорнутымі вобразамі людзей, з выдатнымі — то горкімі, журботнымі, то светлымі, нават гумарыстычнымі фарбамі. Пачынаецца «Мой родны кут» цудоўнымі развагамі аб меры шчасця, аб тым вясковым хлопчыку, для якога даволі было «ўтаропіцца ў дзівосныя ўзоры сівога моху на штакеціне», каб адчуць сябе шчаслівым. Калі ж здараўся выпадак, што на траву звальваўся з гнязда толькі што апераны верабейчык, «шчасце не мела граніц». Далей ідзе разгорнуты паэтычны малюнак, у якім паказваецца, якія асацыяцыі ў душы дзіцяці выклікаў верш Якуба Коласа «У школку». Асаблівай чароўнасцю павявае ад фразы — «бацькі, які тым часам выплятаў бы на калодцы лапаць, ужо не было». Тут маецца на ўвазе словы Якуба Коласа: «Бацька на калодцы лапці выплятае». Сапраўды, усё, аб чым гаворыцца ў вершы Якуба Коласа, здалося такім падобным на тое, чым жыў будучы школьнік з «Майго роднага кута», што міжвольна хлапчук адзначыў гэтае сумнае адрозненне свайго лёсу ад лёсу Ігнаткі з верша «У школку».

Шматгранныя асацыяцыі ў сувязі з творчасцю Якуба Коласа ўзнікаюць у Я. Брыля, калі ён гаворыць пра лагер ваеннапалонных. Неяк натуральна, з вялікай мастацкай пераканаўчасцю ўзнікае тут і стары палонны, для якога Коласава «Новая зямля» была сродкам усведамлення свайёй чалавечай годнасці. Пластычна выразна паказана абыходжанне гэтага пажылога дзядзькі з кнігай. Ён, «чытаючы ўголас па складах, трымаўся, як дзіця за бацькаву руку, парэпаным пальцам за кожны радок». І зноў малюнак, як жывы, паўстае перад вачыма, і ўжо ніколі не забудзеш гэтага дзядзьку, які «парэпаным пальцам» трымаецца за радок кніжкі. І так заўсёды — першы і галоўны клопат пісьменніка, каб у творы не было пустых месц, каб усё было змястоўна, выразна. У гэтых адносінах Я. Брыль надзвычай вынаходлівы, ён умее лаканічнымі сродкамі стварыць жыццёва праўдзівы малюнак, выклікае неадкладную эмацыянальна-пачуццёвую рэакцыю.

Натуральнымі, хоць і надзвычай смелымі, з'яўляюцца і кампазіцыйныя пераходы ў пісьменніка. У тым жа «Маім родным куце» па асацыяцыі з «беларускім дзядзькам», які чытае «Новую зямлю», узнікае і «мараканскі дзядзька» — былы фелах, палонны з французскіх каланіяльных войск. Малюнак з палонным мараканцам мае вялікі ідэйны сэнс: ён сведчыць аб найлепшых пачуццях братэрства, якое жыве ў сэрцах простых людзей. Але і гэты малюнак вырашаны не просталінейна. Тут перш за ўсё знойдзена філасофскае і мастацкае зерне карціны, якое выказана словамі: «чалавек сабе ідзе». Гэты палонны мараканец праходзіў каля кухні, да якой міжвольна імкнуліся згаладалыя і знясіленыя людзі, і ў кожнага з іх было неадольнае жаданне: есці. «Адны называюць яго, — піша аўтар, — словам «есці», другія «манжэ», трэція, нашы карміцелі — «фрэсэн». «Зі волен нур іммер фрэсэн унд фрэсэн!..» так, відаць, лаюцца яны, — дадае Я. Брыль, — множачы ў думках тры чвэрці літра дзікай баланды на прыкрую лічбу — сорак пяць тысяч лыжак».

І вось, каля дроту, якім была абгароджана кухня, праходзіў «мараканскі дзядзька» — палонны, а лупаты здаравіла — ахоўнік «ударыў таго сухарлявага дзядзьку ў цюрбане вялікім кіем па галаве». І раптам забурліў абурэннем велізарны натоўп палонных. Крыўду выказаў адзін з беларусаў:

«— Чалавек сабе ідзе. І за што ты яго? Чалавек сабе ідзе!»

Але на гэтым аўтар не спыняецца. Ён разгортвае малюнак больш шырока. «Араб не зразумеў яго, але, — здалося мне, — пачуўшы іменна гэтыя словы, адняў ён ад твару акрываўленыя рукі, убачыў усё, зноў ухапіўся абедзвюма за вочы і, як дзіця, заплакаў наўзрыд».

А вось дэталізаваць малюнак, надаваць яму поўнае завяршэнне праз плач мараканскага фелаха наўрад ці трэба было.

Пасля гісторыі з «палонным мараканцам» Я. Брыль кампазіцыйна зноў вяртае нас да беларускага дзядзькі.

«Такім чалавекам, які **сабе ідзе** — ціха, сумленна ідзе па зямлі, аплочваючы свае нехітрае шчасце мазольнай працай... — такім бачыцца мне і той заходнебеларускі дзядзька, наш Васіль Курэц».

Ужо цяпер становіцца зразумела, што наўрад ці можна гаварыць аб тым, што адсутнасць «выразнасці, пластычнасці, шматфарбнасці» з'яў-

ляецца небяспекай для Я. Брыля, калі гэтая выразнасць, пластычнасць і шматфарбнасць прысутнічаюць скрозь нават у самых малых формах яго творчасці.

Канкрэтнасць, вобразнасць, змястоўнасць у кожным слове, — вось дэвіз творчасці Я. Брыля. У яго і не знойдзеш слабых, нявобразных мясцін. І заўсёды, бадай, гэты свой, непаўторны вобраз, самім Брылём убачаны малюнак, надзвычай выразны і эмацыянальна дзейсны. Вось і ў «Маім родным куце», калі аўтар пераходзіць да постаці самога Якуба Коласа, на двух старонках аж тры запамінальныя, выразныя дэталі: на двары ў паэта-акадэміка красуе жыта; на канкрэтную просьбу газетнага рэпарцёра, які прыйшоў да Я. Коласа па заданню рэдакцыі, народны паэт знешне як бы недарэчы, а па сутнасці вельмі разумна адказвае:

«— Дажджу каторы час няма... і што гэта, хлопча, будзе?..»

Калі яшчэ сюды дадаць тое, што чуў Я. Брыль, як «гавораць людзі, што Я. Колас хоча прайсці па прасторах Беларусі пехатой»,—дык вобраз паэта паўстае перад намі надзвычай выразна.

У нарысах Янкі Брыля «Сэрца камуніста» і «Партрэт старэйшага таварыша» на першы план выступае новая мастацкая якасць. Не толькі пластычнасць і шматфарбнасць ёсць тут, — іх цэментуе інтанацыя. Абодва героі гэтых нарысаў — Павел Жалезняковіч і Рафаіл Сержант — верныя сыны партыі, кожны дзень свайго жыцця правялі або ў барацьбе за вызваленне народа, або ў арганізатарскай, стваральнай працы на карысць савецкіх людзей. У іх за плячыма больш чым саракагадовы жыццёвы шлях, і як этапы на ім — падпольныя гады юнацтва, жах katаванняў у засценках дэфензівы, жудасна цяжкія і несправядлівыя прысуды (Рафаіл Сержант быў прыгавораны да смерці, а потым — да пажыццёвай катаргі). У 1939 годзе настае не менш бурны перыяд: вызваленне з турмы, першая сустрэча з нямецкімі фашыстамі, удзел у наладжванні савецкага жыцця ў Заходняй Беларусі, вайна, самаадданая праца ў савецкім тыле, затым — для аднаго фронт, для другога — школа мінёраў і партызанская барацьба. А хіба менш значнай з'яўляецца пасляваенная дзейнасць гэтых людзей па арганізацыі калгасаў, па іх умацаванню?

Сапраўды, шмат незабыўнага было на цяжкім шляху, шмат пакут вынесена, а ўсё ж людзі пастарэлі гадамі, а не сэрцам, сэрцы ў іх засталіся маладыя, гарачыя, мэтаімкнёныя. Адсюль і ўзнікае інтанацыя: жыццесцвярджальная і адначасова сумная. Сумная не толькі таму, што пакуты, якім падвяргаліся ў равіцкай турме такія нязломныя камуністы, як Жалезняковіч і Сержант, амаль не ведалі мяжы: іх кідалі ў камеры, дзе яны па году не чулі ніводнага гуку, куды промень сонца ніколі не заглядаў. Сумная таму, што таварышаў, якія без наракання на свой лёс прайшлі гэты шлях, становіцца ўсё менш і менш. Нарыс «Сэрца камуніста» гэта як бы зварот да паміраючага героя, сябра па барацьбе — Валодзі Царука. Але верх бярэ жыццесцвярджальная інтанацыя, бо ў людзей ёсць спакойная ўпэўненасць: жыццё пражыта не дарэмна. Да таго ж, яны поўныя рашучасці аддаць усе астатнія сілы росквіту новага ладу. І яны аддаюць іх: Павел Жалезняковіч на пасту сакратара райкома партыі, Рафаіл Сержант на савецкай рабоце.

І ў гэтых нарысах Янка Брыль вялікую ўвагу аддае пластычнасці і шматфарбнасці.

Рафаіл Сержант успамінае таго плюгаўца — пшадоўніка (дазорцу ў турме), які, будучы на пенсіі, усё ж у дні пакарання смерцю спецыяльна прыходзіў у турму, каб угаварваць ахвяру: «Нічога, сынку, не бойся!.. Гэта не страшна, гэта ў нас робіцца чыста!»

Той жа Сержант расказвае, як малады афіцэрык, які сцярог іх камеру, у ноч перад пакараннем Сержанта і таварышаў смерцю, бледны ўляцеў з тэлеграмай адваката і з прыплачам у голасе крыкнуў:

«— Панове! Жыце! Кахані панове!..»

Знешне, калі ісці ад схемы, усё павінна было быць наадварот. Стары пшадоўнік, які, напэўна, паходзіў не з дваран, павінен быў па крайняй меры прыстойна, а не па-садысцку ставіцца да вязняў, а афіцэр, дваранін, быць больш жорсткім і бязлітасным. Але так можна разважаць толькі пры павярхоўным падыходзе да жыццёвых з'яў. Тут, акрамя класавага паходжання, трэба ўлічваць і іншыя, не менш важныя сацыяльныя акалічнасці. Катэгорыя турэмшчыкаў падбіралася з найбольш адданых пануючаму класу людзей. Гэта правільна. Але яны павінны былі быць яшчэ і прафесіянальнымі катамі. Такім і з'яўляецца стары пшадоўнік. Малады ж афіцэрык — не кадравы турэмшчык, ён яшчэ наогул у жыцці нічога не бачыў. Акрамя таго, яго, напэўна, глыбока ўразіла маральная стойкасць асуджаных. Магчыма, гэты яго парыў, не ўхвалены начальствам, так і застанецца шля-



хетным парывам, а магчыма гэты афіцэр пазней знойдзе дарогу ў рады змагароў. Важна заўважыць адно, што пісьменнік даходзіць да самай глыбіні жыцця, а не абмяжоўваецца павярхоўнай схемай.

Адным з лепшых твораў Янкі Брыля з'яўляецца аповесць «Сірочы хлеб». Кароткая гісторыя аб тым, як дзіця, што пачынала свой шлях свінапасам, ірвалася да навукі, трапіла ў школу, было выгнана адтуль і зноў узяло ў рукі пугу, глыбока хвалюе чытача.

Твор пераканаўча падкрэслівае тую думку, што чым больш раскрывае школа перад парабчуком таямніцы свету, тым больш спее ў яго сэрцы бунт супраць гаспадароў жыцця. Такі Даніла Малец. Вобразы многіх выдатных змагароў і будаўнікоў новага жыцця знойдзем мы ў творчасці Я. Брыля. Гэта і камісар Аржанец з аповесці «На Быстранцы», і Васіль Сурмак з аповесці «У Забалоцці днее». Даніла Малец — гэта як бы яны ў дзяцінстве, кемлівыя, дапытлівыя, ворагі ўсялякай няпраўды і фальшы, крыўджаныя кулакамі і іх нашчадкамі, але нязломныя, настойлівыя і загартаваныя.

Фальклорнай прымаўкай пачынаецца аповесць: «Нехта, кажуць, спытаўся ў такога, як ён, свінапаса: «Хлопец, а колькі штук у чарадзе?» «Колькі? Сем семярэй. сем старых свіней, свінка, свінок, свінчын браток і адно парасятка».

Першае з'яўленне галоўнага героя арыгінальнае: верхам на парсюку сядзіць Данька, празваны некалькімі мянушкамі: «Гусаком» яго звалі таму, што яшчэ пазалетась нагнаў яму страху Міронаў гусак; «Манькай», бо так у іх вёсцы завуць левую руку, а Данік усё страшыў: «вось як дам табе з манькі!..» «Звалі яго яшчэ «Сівым» і, нарэшце, «Жабраком».

Першая крыўда, якую ўчынілі Данілу, была ад кулака Палуянчыка. І тут мы адразу бачым, што вёска падзелена на два лагеры: Мікола Кужалевіч і ўсе іншыя хлопцы аб'яўляюць байкот кулацкаму сынку Васілю Палуяну, які скрыўдзіў сірату. На глыбокай праўдзе грунтуюцца ўсе іншыя дэталі, якія датычацца жыцця Данілы (боцікі, якія купіла яму маці; першая сустрэча з настаўнікам Цабам; пакуты ў школе, дзе вучылі на незнаёмай мове, і г. д.). Школа, калектыў абуджаюць здольнасці, ініцыятыву хлопчыка. І адразу ж выяўляецца, што тое, да чаго ён пачынае імкнуцца, называецца ў ворагаў палітычнай назвай — «камуна».

Мы не будзем спыняцца на цудоўных бытавых падрабязнасцях: пан Цыба любіў свежаваць свінню на школьных партах («асмаленыя і памытыя свіныя ногі і галава з каменем у лычы ляжалі на першай парце»); заікасты фурман Фэлік з пугай у руках часта замяняў настаўніка; дзеці, раздаючы кубкі з кавай сваім таварышам, гаварылі: «на, палучай на чай» і г. д.

Вельмі праўдзіва расказвае аўтар аб драме Данілы, якая прывяла яго за сцены школы. Усё тут напісана рэалістычна пераканальна і мастацкі дасканала.

У «Сірочым хлебе» ёсць выключнае пачуццё меры. Надае аповесці эстэтычную гармонію, усё ўраўнаважвае, выклікаючы слёзы замілавання, настаўніца пані Мар'я. Мы разумеем, якое ідэйнае значэнне мае гэты вобраз у «Сірочым хлебе». Прадстаўніца пануючай нацыі, сама цяжка хворая жанчына, спагадліва паставілася да беднага вясковага хлопчыка. Вобраз пані Мар'і выпісаны тактоўна, і пісьменнік амаль нідзе не ўпадае ў сентыменталізм. І калі пані Мар'я абараняе дзяцей ад сатрапаў-настаўнікаў, дык нідзе яна з прычыны гэтага не гаворыць жаласлівых слоў. Так, напрыклад, пану Дулембу, які хоча расправіцца з Данілам, яна гаворыць: «...я прасіла ўжо даць мне святы спакой».

Праўдзіва паводзіць сябе настаўніца на ўроку рысавання. Здаецца, выяўна чуеш яе спакойны, разважлівы голас:

«— Добжэ, Сурновіч, добжэ, — гаворыць пані Мар'я. Яна ўжо стаіць каля Санькі; схілілася над ім, успёрлася рукой на парту. — Ты толькі, Сурновіч, лягчэй, не так рэзка. І не спяшайся. Дай мне пэндзаль. Падсунься трошкі».

Зусім апраўдана і рэўнасць малога Данілы да настаўніцы і нават дзіўнае яго пытанне: «Чаму яна не мама яго?» А прыход дзяцей у госці да пані Мар'і. Тое, як кожны з іх адзін аднаго падштурхоўвае да дзвярэй і, нарэшце, упіхаюць аднаго Даніка, размова яго з настаўніцай, знаёмства з дзецьмі пані Мар'і, прыход мужа — пана кіроўніка, паспешнае завяршэнне візіту, — ад усяго вее праўдай перажытага, схопленага амаль з натуры.

Але вось мы сутыкаемся з самай майстэрскай у аповесці карцінай, калі Даніла, пакінуты ў школе вучыць урокі, бачыць, што адбываецца насупраць, у паліцэйскім пастарунку. Гэта карціна вельмі важная, бо тут ёсць спроба паказаць, як у хлопчыка абуджаецца вострае класавае пачуццё нянавісці да ўсяго панскага ладу і да ўсіх, хто знаходзіцца на службе ў яго.

Данілу хочацца крыкнуць нават сваёй любімай настаўніцы: «Ідзі ты к чорту! Разам з усімі вамі к чорту!..»

Ды і настаўніца ў вырашальны момант паводзіць сябе не сентыментальна, яна даволі сурова загадвае Даніку:

«— Устань!

Данік унурыў галаву яшчэ ніжэй.

— Устань. Малец, кажу табе!..

Яна ўжо гаворыць без слёз. І ён ужо не плача. Слёзы самі паўзуць па шчоках Сівага. А ён ужо калупае пальцамі сухі, шорсткі мох у пазе, а потым нібы адрывае руку ад сцяны і пальцы самі сціскаюцца ў кулак».

Як вядома, тое, што так уразіла Данілу і выклікала буру ў яго душы, знаходзілася па-за сценамі школы, па той бок вуліцы, на ганку пастарунка. На гразкай плошчы там стаяла цётка Ганна і галасіла па сваім сыне, якога забрала паліцыя. Насустрач ёй выйшаў паліцэйскі, тады яна крыкнула:

«— Ідзі, напіся, крук, і маёй крыві! Бог мілы дасць — захлынешся!..

Данік убачыў толькі, як ён, паліцыянт, замахнуўся... Тады, заплюшчыўшыся ад жаху, малы закрычаў:

— Мам-ма!!

І тут яго схапілі пад пахі нечыя дужыя рукі, знялі — сцягнулі з падаконніка на падлогу. Данік апрытомнеў, убачыў, што гэта яна — кіроўнічыха».

Нашто Брылю спатрэбілася, каб пані Мар'я засланіла ад Даніка сваёй спіной, якая ўздрыгвала ад плачу, тое страшнае, што адбывалася каля ганка пастарунка? Няхай бы лепш хлопец да канца выпіў гэты горкі келіх, напоўнены жыццёвай праўдай; не варта было аўтару наўмысна выбіваць у Даніка з рук гэты келіх. Больш суровым і бязлітасным мусіў быць тут Я. Брыль і не ўкладваць у вусны пані Мар'і такія словы:

«— Што ты робіш, дзіця мае! Што ты крычыш!»

Настаўніца, адчуўшы заўзятую варожасць Данілы, размаўляе далей з ім больш сурова, але:

«...да твару яго дакранаецца цёплая далонь. Пальцы спаўзаюць па шчацэ да падбародка і хочуць знізу прыўзняць хлопцаў твар.

— Не трэба, Данік, злавацца на мяне...»

Каб гэта пісаў не Янка Брыль — вельмі чулы да найменшай праявы мастацкай фальшы, а які-небудзь сентыментальны бард, усё скончылася б прымірэннем. Але прымірэння няма у гэтай карціне.

«Матнуўшы галавой, ён (Данік. — **А. К.**) вызваляе свой падбародак з яе цёплых пальцаў.

— Ну, што ж, ідзі да хаты...»

Усё правільна, лагічна, напісана з тэмпераментам, з пачуццём, як гэта і павінна быць у мастацкай літаратуры. Але ўсё ж непаўторнай своеасаблівасці ўзаемаадносін, якую, зазвычай, дае толькі жыццё, тут няма. Ёсць усё тое, што не абражае мастацкі густ, што, зрэшты, расчульвае сэрца чытача, а не прымушае яго сціснуцца ад болю ці анямець ад здзіўлення. Таму і пані Мар'я, у вобразе якой жыццёвая праўда як бы і не парушана, выглядае ўсё ж добрай феяй з іншай, ужо створанай раней, казкі, яна наш літаратурны знаёмы, хоць мы, мажліва, такую, якой яна намалявана ў аповесці, нідзе раней і не сустракалі. Нават Л. М. Талстой лічыў сваю аповесць «Дзяцінства» некалькі «саладкаватай», а як жа гэтай саладжавасці павінны асцерагацца пісьменнікі, якія пішуць аб дзецях амаль праз сто год пасля «Дзяцінства» Талстога.

Па словах Л. М. Талстога, у жыцці адсутнічае сіметрыя: у ім не ўсё так завершана і закруглена, як гэта бывае ў некаторых творах. Толькі па знешніх адзнаках здаецца, што ўназнейшых творах Л. Талстога «наварочана і нагрувашчана», нават у мове, а па сутнасці ў яго творах усё з'яўляецца вынікам найвышэйшага «парадку», правільным і глыбокім адлюстраваннем той асіметрыі, якая пільным вокам мастака заўважана ў жыцці.

У першых творах Я. Брыля «Марыля», «Праведнікі і зладзеі», «У сям'і» таксама заўважаецца такое парушэнне ўсіх схем і ўсялякай сіметрыі, якое можа з'явіцца толькі ў выніку глыбокага адчування праўды жыцця. Эстэтычная асалода, радасць або слёзы выклікаюцца тут не вобразамі чулліва-замілаваных дабрадзеяў, а ўсведамленнем таго, што гэта і ёсць «яго вялікасць жыццё», перад якім хочацца зняць шапку.

Няма патрэбы тут цытаваць класічны пачатак апавядання «Марыля»: «У багатага дзядзькі Жука, без пары нарадзіўшы малое, памерла нявестка Марыля. Звялі са свету сямейнікі. Свёкар быў звер і скупеча, «зямля ненаеджная»... Гэты пачатак цытуецца ў кнізе А. Адамовіча «Культура творчасці», і яму даецца там правільнае эстэтычнае вытлумачэнне.

Мы ж тут звернем увагу на вобразы людзей. Спынімся на вобразе Марылі, імем якой названа апавяданне. Перш за ўсё трэба адзначыць лаканічнасць, з якой намаляваны гэты вобраз.

«Марыля — сірата з далёкай вёскі... Тата памёр і адпісаў ёй ажно паўтары дзесяціны, бо яна была з ганьбай: на правай руцэ тры крайнія пальцы наўскасяк аджавала трыбай малатарні. Ад залатой рукі першай у вёсцы жняі і праллі засталася толькі кукса. Марыля абкручвала яе хусцінкай, спачатку ад болю, а потым ад сораму. Сваты пачалі абмінаць яе, і маладосць завяла без пары».

Чытач з гэтых радкоў выразна бачыць, што ўжо на пачатку свайго творчага шляху Янка Брыль вельмі добра разумеў тое, што мы намагаемся давесці яму цяпер. Ну, уявіце сабе, што было б, каб ён намаляваў Марылю іншай — прыгожай, жаданай для многіх, але адначасова сіратой з нешчаслівай доляй. Уся верагоднасць, уся непаўторная жыццёвая праўдзівасць вобраза знікла б, была б банальная гісторыя аб «чарнабрывай нешчаслівай». Таксама правільна зрабіў аўтар, што не маляваў падрабязна знешні партрэт Марылі — постаць, твар, колер вачэй, валасоў. Усё роўна ўсё гэта не змагло б сказаць больш, чым гавораць гэтыя лаканічныя словы пра абкручаную хусцінкай пакалечаную руку. Так яна і будзе стаяць у нашых вачах з гэтай рукой, на якой «пальцы наўскасяк аджавала трыбай малатарні».

Ці шмат яшчэ дадае да гэтага вобраза Янка Брыль? Не! Усяго некалькі фраз характарызуюць Марылю.

«На другім годзе пачалася Марыля першым дзіцем». Далей ідуць пакуты ў часе родаў і нарэшце «Марыля заварушылася, павярнула галаву і паглядзела.

—... Мама, сынок?..

— Нежывое, дзеткі, нежывое...

... Назаўтра рана, той самай загуменнай сцяжынкай ішлі на могільнік чатыры мужчыны з рыдлёўкамі: капаць другую, ужо большую магілу...»

З вобразам Марылі звязана ў творы глыбока паэтычная тэма загубленай дзявочай маладосці, пра якую складзены песні. Але расказана аб усім гэтым сурова, як гэта і належыць у сапраўдным мастацкім творы. Затое на фоне гэтай суровасці вельмі вылучаюцца і зіхацяць ласкавыя словы брата Мікіты пра Марылю: «Яна ў мяне не сястра, а сястрычка была...»

Адна-адзіная прачулая фраза ва ўсім творы... А больш і не трэба.

Яшчэ большай стрыманасцю, лаканізмам і суровасцю вызначаюцца старонкі, прысвечаныя родам Марылі, пахаванню дзіцяці. У гэтых карцінах вялікай удачай пісьменніка з'яўляецца вобраз старога Жука і яго жонкі Катрыны.

Якія найважнейшыя мастацкія элементы цэментуюць гэтыя карціны? Перш за ўсё філасофскі і псіхалагічна правільна выяўлены міжвольны трэпет старога Жука, яго жонкі і, нават, сына перад велічнай таямніцай нараджэння жыцця. Усё тут настолькі выразна як у сваіх знешніх формах, так і ў выяўленні ўнутранай псіхалогіі герояў, што хацелася б прывесці пералік учынкаў старога Жука, яго жонкі, сына з таго моманту, як толькі «гэта» пачалося.

Старая загадзя адчувала бяду, таму не пайшла ў лён, а пачала палоць грады. Стары правіў у хаце хамут. Калі ён пачуў першы крык Марылі, дык яшчэ ніжэй згорбіўся над хамутом, а потым не вытрымаў, выйшаў і паклікаў старую. Жонка, Катрына, якая была вельмі «драпежная ў працы», заўсёды спяшалася і, нават едучы на кірмаш, здаецца, «бегла па возе», увайшла ў хату, «абціраючы чорныя рукі падолам». А тым часам стары не знаходзіў сабе месца. Пастаяў каля плоту, уталопіўшыся ў грады, пайшоў пад гумно, вярнуўся пад адрынку, пастаяў пад плотам, тупа гледзячы на бацвінне.

«Што ж гэта? — падумаў ён, — спалохаўся ці што? — і пайшоў у хату.

— А ты, таўкачына, чаго? — закрычала старая, убягаючы з кухні з чыгуном вады ў закасаных руках.

Стары вінавата згорбіўся і замітусіўся: за хамут ды ходу з хаты».

*Але за работу ўзяцца не мог,* усё прыслухоўваўся. Нарэшце, «дрэпдрэп», ідзе Катрына.

« —Ну, пакінь хамут, Сцяпан: трэба трунку зрабіць»...

Вось ён узяў з каморкі сякеру, пілу, жменю цвікоў... рукі ў яго неяк дзіўна дрыжалі. А ўсё ж на труну выбраў паточаную шашалем шалёўку.

А ў гэты час у хаце старая Катрына лаяла сына, таго няўдаліцу; які, як толькі ажаніўся, дык і жонку набіць не мог, а потым, навучыўшыся, біў так, што звёў заўчасна ў магілу.

«— Падла ты, абармот крывалапы!.. Ці раз ужо я казала табе!.. Дарвешся — як да скаціны, каб цябе на скулы збіла, каб цябе! Цяпер вось маеш — шморгай носам, каб цябе пятля зашмаргнула!..

Старая выцягнула са свайго падгалоўя брудную, працёртую на спіне кашулю, адарвала лапіну, угарнула *ў яе нямыты трупік дзіцяці і палажыла ў трунку.* Нялоўка стукаючы малатком і загінаючы старыя цвікі, сама забіла века і, паклікаўшы з сяней Івана, загадала яму несці за ёю труну».

Вось гэта і ёсць вялікая мастацкая праўда. Ніякіх сентыментаў, ніякіх адступленняў. Лаканічна (*толькі* па-

дзеі), сурова і стрымана расказана аб вялікай трагедыі. Калі аналітычна разглядаць гэтую карціну, дык яе трэба было б раскласці на асобныя элементы. Паспрабуем іх назваць. Па-першае, звяртаюць на сябе ўвагу класавыя прадпасылкі сцэны: страшэнны чорны побыт гэтай сям'і, скупасць і прагнасць, што пануюць у ёй. Старая, прымаючы пад увагу важнасць падзеі, не пайшла ў поле лён палоць, але, застаючыся дома, усё ж пайшла ў грады. Тым часам стары таксама не марнаваў час — правіў хамут; няўдаліцу-сына выправілі ў млын. Уварваўшыся ў хату, калі пачуліся першыя стогны Марылі, старая «абцірала чорныя рукі падолам». Гэта ўсё дэталі, якія яскрава характарызуюць забойчую працавітасць сям'і. Ці надзвычай верагодныя праявы скупасці: старая загортвае трупік у брудную, пацёртую на спіне кашулю, заганяе ў труну старыя цвікі, стары Жук выбірае на трунку старую, пабітую шашалем дошку. Але забойчая працавітасць і страшэнная скупасць гэтай сям'і самым непасрэдным чынам звязаны з яе псіхалогіяй. І тут Брыль паказаў сваё выключнае майстэрства. Старая Катрына — раба свайго мужа і гаспадаркі, неяк дзіўна выпростваецца на ўвесь свой невялічкі рост, калі справа датычыць вялікага, таемнага і святога пачуцця нараджэння жыцця. Абуджаецца ў ёй чалавек. З якой бязлітаснасцю дакарае яна свайго сына — біў жонку, але хіба ж можна было так біць, каб забіць дзіця, звесці са свету самую Марылю. У яе словах і чалавечнасць, і драпежнасць уласніка: звёў, маўляў, са свету работніцу, нанёс страту гаспадарцы... Але апошняе ледзьве-ледзьве адчуваецца. Галоўным чынам яна тут чалавек, абаронца святасці пачуцця маці. І тут яна часамі становіцца ўладарнай, спрытнай камандзіркай, чалавекам, які глыбока адчувае, што тут яе стыхія, тут яна гаспадыня і ўсе мусяць падначальвацца ёй. Вось чаму яна так накінулася на свайго старога, калі той вярнуўся ў хату: «А ты, таўкачына, чаго?».

І нідзе ніводнага жаласлівага слоўца («Каб цябе пятля зашмаргнула», — сурова кажа старая сыну), нідзе ніводнай літаратурнай або філасофскай сентэнцыі, а справа ж ідзе аб сапраўды філасофскіх момантах нараджэння жыцця і смерці. Не так, калі прыпомніць, паказана ў рамане Кузьмы Чорнага «Зямля» смерць дзядзькі Тамаша. Я. Брыль больш жорсткі і ўсё ж вельмі блізкі па духу да Кузьмы Чорнага, бо, не губляючы класавай, сацыяльнай ацэнкі фактаў і падзей, ён бачыць яшчэ і чалавека з яго псіхалагічнымі глыбінямі.

На выразнай супярэчнасці — чалавек і раб уласнасці — пабудаваны вобраз старога Жука. Вось стары не знаходзіць сабе прыпынку, відаць, глыбока ўзрушана яго сэрца. «Што ж гэта..., спалохаўся, ці што?», — думае ён. А знешнія праявы гэтага: пастаяў каля плоту, уталопіўшыся ў грады, пайшоў пад гумно, вярнуўся пад адрынку, пастаяў пад плотам, тупа гледзячы на бацвінне. Гэта той самы гаспадар, тая самая «ненаежная зямля», але ўжо і не той. Інстынкт уласніка гоніць яго да таго, з чым звязаны яго гаспадарскі інтарэс. Але ён не здольны цвяроза меркаваць аб гаспадарчых справах, ён тупа глядзіць на ўсё гэта. Пазней, калі ён уцяміў, што дзіця мёртвае, прыйшло іншае. Жук пачаў рабіць трунку, і «рукі ў яго неяк дзіўна дрыжалі». Зноў чалавечае абудзілася ў ім, але ўсё ж перамог уласнік: на трунку выбраў паточаную шашалем дошку. Нешматлікія, скупыя дэталі ствараюць пераканальны вобраз, у якім нявольнік уласнасці і чалавек жывуць побач, пры чым нявольнік уласнасці, урэшце, прыдушвае чалавека.

Карціна нараджэння і смерці дзіцяці, а таксама смерці яго маткі з апавядання «Марыля» напісана сурова, але не нараджае песімізму, безнадзейнасці, бо, забіваючы пагнутымі цвікамі века труны, старая Катрына забівае века і над сабой, і над «зямлёй ненаежнай» — старым Жукам і над усім ладам і парадкам, усталяваным у іх доме. І гэта сцверджанне нельга разумець прасталінейна ў тым сэнсе, што трагедыя смерці нявесткі і дзіцяці так глыбока ўзрушыла старога Жука, Катрыну і Івана, што пасля гэтага яны зрабіліся іншымі. Зусім не. Усе яны засталіся такімі ж, якімі былі раней, можа яшчэ больш прагнымі і ненаежнымі. Але ўсё роўна пахавальны гімн праспявала над імі жыццё ў тым сэнсе, што апошняя, самая найменшая праява чалавечнасці пагасла ў іх сэрцы.

Яшчэ больш складаную ідэйна-мастацкую з'яву ўяўляе твор Янкі Брыля «Праведнікі і зладзеі».

Пазбаўлены грубай тэндэнцыйнасці, ён, аднак, з усёй бязлітаснасцю крышыць подлых і крывадушных шукальнікаў «праўды» і іх хаўруснікаў — ахоўнікаў правапарадку і ўласнасці. У гэтым сэнсе «святы» праведнік, кулак Міша, заўзяты ўласнік Грыб і, — гэта думка можа здацца не зусім звычайнай, — бядняк Лапінка, той, які хацеў бы круціцца паміж праведнікамі і бунтарамі — адна хеўра, і яшчэ невядома, хто з іх больш шкодны.



І па кампазіцыі і па сюжэту твор гэты з'яўляецца вельмі цікавым. У ім ідуць дзве паралельныя лініі (падзеі, звязаныя з імі, адбываюцца ў хаце Грыба і ў хаце Лапінкі). Лініі гэтыя хоць і не перакрыжоўваюцца, але па сутнасці зліваюцца ў адно рэчышча аўтарскай ідэі, якая з аднолькавай, бязлітаснай сілай выкрывае філасофію і гаспадароў, і іх добраахвотных нявольнікаў тыпу Канстанціна Лапінкі. Асаблівасцю сюжэта «Праведнікаў і зладзеяў» з'яўляецца тое, што прадстаўнік найбольш актыўных рэвалюцыйных пластоў народа Мікола тут па сутнасці выключаны з дзеяння. Праследаваны паліцыяй, ён ходзіць пад яе нядрэмным наглядам па Навагрудскім ваяводстве, не маючы права выйсці за яго межы.

Яшчэ цікавей, чым сям'я Жукоў з «Марылі», паказана ў «Праведніках і зладзеях» сям'я Грыбаў. Знешне стары Грыб і яго жонка як бы мусяць выклікаць толькі спачуванне. Старых людзей, у якіх памёр адзіны сын, крыўдзяць сяляне вёскі Балотца, яны высякаюць іх лес. А дасачыць хто — пажыламу чалавеку цяжка. Але не спачуванне ў сэрцы чытача выклікаюць Грыб і яго жонка, а нянавісць, лютую нянавісць. Гэтыя людзі, гэтак сама, як і Жук з апавядання «Марыля», не разумеюць таго, што чым больш дабра яны грабуць пад сябе, тым больш надзейны дол капаюць самі сабе. Сын, якога яны любілі, ненавідзеў іх, праўда, матку ён шкадаваў, бо, паміраючы, сказаў старому Грыбу:

«А-а, гэта ты, бацька... — грошы прыйшоў шукаць».

Грыбы сына страцілі, прыёмную дачку і ўнучку прагналі, адзін да аднаго яны ставяцца па-звярынаму. Старая спазнілася разбудзіць Грыба, калі той збіраўся ў лес лавіць парубшчыкаў, дык ён так яе штурхануў, што яна і ўстаць з падлогі сама не здолела. Што ж гэтыя людзі пакінулі сабе? Прагнасць і нянавісць да ўсіх. Што іх акружае? Адзіноцтва. Гэта ўсё зразумела. І прысуд аўтара над сям'ёй Грыбаў бязлітасны і канчатковы. Вось чаму ён і выступае тут як аптыміст. Такім жа бязлітасным і канчатковым з'яўляецца прысуд і над Канстанцінам Лапінкам, хоць Лапінка куды больш складаная з'ява. Гарбаты вясковы бядняк-кажушнік, ён, не верачы па сутнасці, захапляецца евангельскім божым словам і з'яўляецца актыўным наведвальнікам «малельнага дома». Дасціпны, назіральны, ён бачыць у гэтым доме ўсё: і як Пятрусь з Навасёлак, стары кавалер, рыжы, морду быццам куры падзюбалі, размаўляе з святым духам па-замежнаму: «А-фу-лэ»; і як Раман Дуля — у новым кажушку, сцёгны тоўстыя, шахшалах, халявы блішчаць, — кідаецца на калені: «Госпадзі! Ты благаславіў, о, што б я празрэў і навучаў народ»; і як Марылька Гарцава — баба рабочая, што гадок то сынок, звядзе калені і зойдзецца: «Асаначка, Ісусічак мой залаценькі!»; і як Настуся Кукобіна ў часе малення ўбачыўшы, што гусі ўлезлі ў шкоду, кідаецца на двор: «агы-ляі». Усё бачыць дасціпны хітрун Канстанцін Лапінка, усё разумее, бо кажа «прапаведніку» Мішу: «У цябе і веры больш, і гаспадарка, як шклянка, ты і к госпаду бліжэй... а мне, беднаму, як той сучцы ў карытцы...»

Чацвёрты год ходзіць Лапінка, як сам кажа, «перадойкай»: усё не можа «прыабшчыцца» да «святой веры», аднак малельнага дома не пакідае наведваць. Разумее ўсю сутнасць, увесь фальш прапаведзяў, але не паўстае супраць гэтага. Можна сказаць, што нявольнік, які разумее сваё становішча нявольніка і не спрабуе нават парваць свае ланцугі, двойчы нявольнік. Такі і Лапінка. З аднаго боку, ён правільна ўгрунтоўвае, чаму яго сыны ідуць красці дровы ў лес: «што ж ты, Мішачка, зробіш з каханай бядою. Каб было як, не краў бы, дальбог! А так і тут гару і там агонь вечны... Дзе, кажа, вароне не лятаць, — усюды дзярмо дзяўбаць. Пацягаю смалы, што ж ты зробіш»... А з другога боку, ён вось як разважае: «Тыя ўсё папанску крывяцца, а я па святому пісанню. Гэтак, здаецца, і госпаду прыямней: саладка, мякка».

Канстанцін Лапінка — новая з'ява ў грамадскім жыцці, народжаная вострай класавай барацьбой пачатку дваццатага стагоддзя. Ён усё бачыць і ўсё разумее, але хацеў бы застацца ўбаку ад барацьбы, заняць прамежнае становішча паміж варожымі станамі. Вось як ён сам аб гэтым кажа ў часе заўзятай спрэчкі паміж жонкай — рашучай Мартай і евангелістам Мішам:

«— Каса... на камень. У аднаго — рай... У другога — дзеці... А мне, беднаму... І там і тут...

І ён ад рогату схіліўся на машыну».

Нягледзячы на яго досціп, розум, адразу ў наша сэрца закрадваецца нейкае непрыемнае пачуццё да гэтага гарбатага рагатуна, які ківаецца, як качар. І, наадварот, з вялікай сімпатыяй сочым мы за паводзінамі яго жонкі, нялюднай Марты, а таксама за паводзінамі Алеся Жывіцы — дружбака Лапінкі. Хаця Канстанцін Лапінка і дражніць Марту, называючы «шляхцянкай», але адчуваецца,

што сапраўдны камандзір у хаце яна. Гэта не раскіслы Лапінка пасылае дзяцей у чужы лес па дровы, а Марта. Вось што яна кажа «прапаведніку» Мішу:

«— Чаго ты прыстаў да яго, як смала?!. Добра, што сам ты жывы на неба паляціш, святы... Мы дзень з алеем, а тыдзень — так галеем... Я дзіця паслала, бо маё. Як захачу, так і будзе...

Яна была грозная, страшная са сваім чорным растрэсаным чубам і вялікімі рэдкімі зубамі... Але адступаць было позна. І «брат» Міша паўстаў за «гасподняе слова».

— Неба і зямля знікне, але слова маё не,— сказаў гасподзь,— прароча падняў ён голас.

— Мы самі ведаем! — перапыніла яго Марта,— няма чаго вочы вытрэшчваць. Табе за бацькавай спіной добра «спасацца»... А тут мой сын, мой і адказ. Не баюся!»

І тут зноў, як у лепшых творах Янкі Брыля,— ніякага прыхарошвання, толькі праўда, суровая і глыбокая. Марта не паўстае ў абліччы разумнай, развітай, прывабнай жанчыны. Знешне яна высокая, нясклядная, нават не дужа ахайная. Але верыш, што іменна яна магла так правільна асэнсаваць сваю жыццёвую практыку, зрабіць з яе патрэбныя вывады і суняць уладарнай рукой і нахабна наступальнага «прапаведніка» Мішу і свайго ўхілістага пустабрэха Лапінку. Яе праўда пануе ў апавяданні.

«Праведнікі і зладзеі» — гэта высокамастацкі твор. Да гэтага твора прымыкае і другое ранняе апавяданне Янкі Брыля «У сям'і».

Цікава адзначыць, што ў сваіх творах для дзяцей і пра дзяцей Янка Брыль клапоціцца не толькі аб тым, каб цудоўны і шматфарбны свет быў раскрыты перад дзецьмі. У яго творах мы маем большае: самі дзеці нам, дарослым, глыбей раскрываюць навакольнае. Нельга не прыгадаць тут, як у апавяданні «Зялёная школа» праз успрыняцце маленькай Асі паказаны поўны ўнутранай прыгажосці драматычны вобраз Зосі-ваданоскі, тае Зосі, за якой, дражнячы яе, бегалі некалі дзеці і якая выратавала ад смерці дзяўчынку Асю.

Тая ж атмасфера вялікай праўды, якая раскрываецца перад намі, дарослымі, праз дзяцей, пануе і ў апавяданні «У сям'і». Можна прыгадаць сцэны хваробы Нінкі, якая ледзь не памерла, незвычайны вобраз малога Шурыка, паддынак Толіка з квактухай,— усё гэта навявае не лагодную заспакоенасць, а сапраўдную чалавечую радасць. Пэўна, многа тут узята з натуры, бо выдумаць такое немагчыма. Але і з натуры пісьменнік бярэ толькі тое, што мае значны мастацкі сэнс, што, не перагружаючы твор лішнімі падрабязнасцямі, дае вобразнае ўяўленне аб чалавеку або рэчы. Так, напрыклад, з натуры ўзята сцэна, калі, каштуючы мёд, Нінка прапануе бабцы лізнуць яго. Калі пазней малой ставяць банкі, яна ўпрошвае бабулю:

«— Ах, бабка мая, годзе! Ганулька мая! Сястрычка мілая, годзе!..»

Па-новаму асветлены гуманістычныя праблемы, псіхалагічна глыбокае ўяўленне аб людзях — вось тое багацце, якое атрымлівае дарослы чытач ад дзіцячых вобразаў у творах «У сям'і», «Зялёная школа», «Вожык», «Ветэрынар» і іншыя.

Тое, што даюць дзецям апавяданні Я. Брыля, надзвычай важна ў эстэтычным і маральна-выхаваўчым плане. Яны вучаць дзяцей пазнаваць прыроду, не расчульваючыся ёю, адрозніваць карыснае ад благога, і нават у самых маленькіх дзяцей выхоўваюць пачуццё гумару.

Янка Брыль у сваёй аповесці «Сірочы хлеб» прыгадвае хваравітую дружбу Міхаські і жорава з апавядання Цёткі «Міхаська». Жораў быў пакалечаны і не мог паляцець у вырай. Гэтак сама была скалечана і душа Міхася. Перад смерцю ён просіць: «... Мамачка, жорава дай».

Міхась памірае, і жораў ідзе за яго труной, а потым узнімаецца і ляціць прэч.

Дружба дзяцей з жывёламі паказана Брылём так тонка, што нават самыя маленькія дзеці пры ўсёй замілаванасці да ўсяго жывога, прывучаюцца неяк не па-дзіцячаму цвяроза глядзець на яго. Гэта не хваравіты Міхаська, для якога жораў быў усім у яго страшным жыцці. Не. У Брыля гэта маленькі Лявон, які хоць і палюбіў свайго вожыка Тупчыка, але ўсё ж выпусціў яго на волю. Потым падышоў да мужчын, якія стаялі на вуліцы, і спакойна сказаў:

«— Добры вечар. Хочаце, дык я вам казку скажу?

— Ну, скажы.

... — Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр.

— Што, і ўсё?

— Ну, пэўне ж, усё».

І нас чаруе гэты спакой і паважнасць малога не менш, чым яго замілаванасць да вожыка. А хлопчык з апавядання «Ветэрынар» ужо з сапраўдным гумарам ставіцца да штукарства свайго «ветэрынара» — козліка:

«— Дайце вы яму, дзядзькі, закурыць,— крычыць ён, а мужчыны смяюцца».

Смяецца і хлопчык і не толькі з таго, што козлік убіўся ў грамаду мужчын і мэкае, нібы просіць закурыць. Хлопчык будзе смяяцца і з тых знахарак, якія, каб вылечыць сіўку, раілі: «Узяць чырвонай бульбы з белымі вочкамі, якая завецца вар'яткай, надзерці яе на тарку і мазаць сіўку на нач» або «апоўначы верхам на сіўцы аб'ехаць тры разы вакол могільніка».

Сур'ёзная, але адначасова па-дзіцячаму зусім даступная размова вядзецца ў апавяданнях Я. Брыля. І гэтая сур'ёзная размова прывяла пісьменніка да такіх творчых удач, як апавяданне «Лазунок». Праўдзіва паказан тут юнак каля друкарскіх машын, добра перададзена захопленасць яго сваёй працай, апякунска-камандзірскі тон у дачыненні да сваёй памочніцы Люды, яго наіўная вера ў тое, што прозвішча яго мусіць быць у кнізе побач з прозвішчам Якуба Коласа. Вось на гэтай «чуллівай» ноце мог іншы пісьменнік і завяршыць твор. Але самае цудоўнае тое, што нашчэнт разбівае гэтую ідылічнасць, мы знаходзім у канцы апавядання, калі галоўны рэдактар звяртаецца да тэхнічнага рэдактара з папрокам:

«— Наогул, уражанне даволі прыемнае,— гаварыў ён, гартаючы кнігу.— Чаму, аднак, паважаны Лазар Міронавіч, мы з вамі ніяк не можам поўнасцю пазбавіцца недахопаў? Хоць два, хоць адзін, хоць маленькі,— а ўсё ж такі павінна нешта быць. Вось і тут: *няма чаго іншага, дык хоць* абрэзку сапсавалі. Ну, чаго гэта варта, зірніце.

Ён павярнуў разгорнутую кніжку бокам. На полі, даволі-такі далёка ад краю, стаяла зусім непатрэбнае ў кнізе слова — Лазунок.

— І тут вось, і тут,— гартаў старонкі галоўны рэдактар.

Убачыўшы яшчэ некалькі разоў гэтае лішняе слова, тэхрэдактар, нарэшце, згадзіўся, што гэта хоць і нязначны, але таксама недахоп.

Згадзіцца з гэтым ніяк не змог бы толькі той, чым прозвішчам было гэта «лішняе ў кнізе» слова».

І ўсё ж тэндэнцыя да загладжанасці, да ідылічнасці і сентыменталізму бярэ свой пачатак у творах Я. Брыля аб дзецях. Можна было б і зусім не гаварыць пра гэтыя хібы ў творчасці пісьменніка, каб не апавяданне «Ёй мы не скажам».

У гэтым творы няма выразнай мэтанакіраванасці, вось чаму мы пачынаем адчуваць тут страту пачуцця меры.

Ужо «У сям'і» пасля надзвычай драматычнай сцэны хваробы Ніны, калі яна ад запалення лёгкіх ледзь не памерла, аўтар укладвае ў галаву яе брата такія думы:

«Ніна смяецца. А мне так хочацца ўзяць яе на рукі, прыгарнуць яе, сказаць: «Ах, як добра, што ты будзеш жыць».

А вось пра гэта якраз можна было і змоўчаць. У Я. Брыля — мастака і тут, як заўсёды, пачуццё меры. Брат толькі падумаў аб гэтым, сказаў жа ён іншае: «Ну, ты цяпер пішы, а я, брат, буду рысаваць».

Аднак і раней гэтая схільнасць да залішне «чуллівых» думак была ўласціва не толькі маладому мастаку — брату Ніны, але і дзядзьку — пачынаючаму пісьменніку.

«Хвароба Ніны нібы прабудзіла ва мне, асвяжыла, сабрала ў адно ўсю любоў да дзяцей, да ўсіх, вядома, не толькі нашых... Хочацца мне злавіць на паперу гэты асаблівы чар шчырых, даверлівых і такіх вось мілых, як у Ніны з бабуляй, адносін...»

Альбо возьмем, напрыклад, апавяданне «Зялёная школа», дзе створаны яркі вобраз старой Зосі. Скупая на чулае слова і ласку жанчына робіць высакародны ўчынак. Але аўтар на гэтым не хоча спыняцца. Старая Зося вядзе дыялаг з Асяй, якая пытаецца, ці прыйдзе тата: «І раптам плечы яе (Зосі. — **А. К.**) задрыжалі». Адна фраза гэта псуе цудоўны вобраз. У залішне сентыментальным і лагодным тоне размаўляе з Асяй настаўніца. Але гэта яшчэ можна зразумець, яна аштадкае сірату, хоча, каб тая ў партызанскай школе знайшла сабе спакой.

Плача бацька пры сустрэчы з Асяй. І гэта зразумела — пасля ўсяго, што адбылося, збалела яго душа. Але нават засынаючы на руках у бацькі, які вязе Асю насустрач яшчэ невядомым і грозным падзеям,— ідзе 1941 год, — дзяўчынка, якая столькі перажыла, бачыць лагодна-ціхамірныя сны.

«Смяялася... цёця Тоня. Мілая цёця Тоня!.. Вось і Ася смяецца праз сон. Смяецца і адчувае, што нехта цалуе яе; хто — невядома, але гэта ўсё роўна, — пэўна ж, нехта вельмі добры. А потым чуваць і песня. І Ася прачынаецца...

— Ты спяваеш? — ціха пытаецца яна».

Але вернемся да апавядання «Ёй мы не скажам».

Як і ўсё, што выходзіць з-пад пяра Янкі Брыля, гэты твор насычаны безліччу праўдзівых, яркіх дэталей, ён вызначаецца кампазіцыйнай завершанасцю. Нельга нават сказаць, каб гэты твор быў ідылічны, хутчэй наадварот. У апавяданні «Ёй мы не скажам» раскрываецца трагедыя чалавека, які страціў у вайну жонку і дзіця

і цяпер, ужо маючы новую сям'ю, ніяк не можа на іх забыцца, цішком, каб ніхто не бачыў, плача над іх магілай.

І ўсё ж, хоць у гэтым творы ёсць драматычны змест, дужа лагодна і мірна вырашаецца ў ім тое, што ў жыцці мае такі не лагодны і не мірны характар. І зусім не ў тым сэнсе, што Максім Трацяк пераадолеў у сабе жаль па загінуўшых жонцы і сыне і знайшоў унутраную раўнавагу. Янка Брыль вельмі разумны майстар, каб зводзіць да ідылічнага прымітыву свае творы. Аднак жа ўнутрана гэтая ідылічная ўраўнаважанасць з пэўнай пары пачала праяўляцца ў творах Брыля. Безумоўна, крыху вінаваты ў гэтым і адыход ад той прастаты і суровасці ў стылі, якая была характэрна для твораў Я. Брыля «Марыля», «Праведнікі і зладзеі». У адпаведнасці з гэтым з'явілася закругленасць у кампазіцыі і сюжэце, выразней пачала выступаць напеўнасць фразы. Замест таго, каб у творы бушавалі страсці, каб ён даваў магчымасць для роздуму, сюжэт у пісьменніка часта закругляецца, ствараючы ўражанне лагоднасці і спакою.

Больш падрабязна аналізаваць гэтыя хібы творчасці пісьменніка мы тут не будзем, бо не гэта з'яўляецца галоўным у Янкі Брыля—пісьменніка сучаснай тэмы.

Станаўленне Янкі Брыля як пісьменніка сучаснай тэмы — гэта складаны працэс. У самым пачатку свайго творчага шляху пісьменніку трэба было паказаць зусім іншы, новы воблік Заходняй Беларусі, новы воблік народа. Спакваля, але паслядоўна пачаў ён рыхтавацца да здзяйснення гэтай задачы. І тут незвычайнае значэнне мела асэнсаванне падзей Вялікай Айчыннай вайны. Янка Брыль правільна зразумеў Айчынную вайну, як кузню, у якой выкавалася зусім новае, адменнае пакаленне людзей, якіх раней не бачылі прасторы Заходняй Беларусі. Больш правільна было б сказаць, што ўсё гэта жыло ў патэнцыі ў той частцы беларускага народа, што змагалася за ўз'яднанне са сваімі братамі на ўсходзе, але праявілася з такой сілай толькі ў гадзіну вялікага выпрабавання, якім была вайна.

Янка Брыль зразумеў Айчынную вайну, як вайну ўсенародную. І гэта дало правільны кірунак яго творам аб партызанскай барацьбе. Пісьменнік прасочвае не працэс ператварэння селяніна з ціхага чалавека ў мсціўца (хоць і гэта ёсць у яго творах), а, галоўным чынам, рух самых мас. Яго апавяданні, нарысы густа населены людзьмі — маладымі і пажылымі, жанчынамі і дзецьмі, беларусамі, рускімі, украінцамі, прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей. Усе яны добра ваююць, але ў кожнага з іх свой лёс, кожны сваім шляхам прыйшоў у атрад. Я. Брыль падрабязна прасочвае асобныя біяграфіі: без гэтага цяжка было б зразумець, напрыклад, што прывяло ў атрад Паўлюка з апавядання «Мой зямляк». Ніхто не будзе адмаўляць, што побач з сімпатычнымі рысамі — адсутнасцю ўласніцкай заскарузласці, паэтычнасцю— Паўлюку ўласцівы і рысы, якія збліжаюць яго з Канстанцінам Лапінкам. Мы любуемся Паўлюком, калі ён, ідучы па рацэ з рыбацкай сеткай, раптам спыняецца ў нямым здзіўленні перад хараством прыроды і, паказваючы на *плынь* ракі, гаворыць свайму таварышу:

«— Глядзі, засынае!»

Але што прыкра ў вобразе Паўлюка, дык гэта пустабрэхства, якое збліжае яго з Канстанцінам Лапінкам, і паэтычная лянота, аб якой так удала сказаў аўтар: ячмень жаць — у вачах жоўта, зелена бывае ад касы, шэра ад плуга. Паэтычнасць натуры Паўлюка не перашкаджае яму вельмі цвяроза і практычна прымушаць каго-нікаго працаваць на сябе. Такім вечным пакутнікам за нейкія грахі быў яго цесць. Усё гэта ёсць у абліччы Паўлюка, і аўтар вельмі тонка выкрывае ў ім паразітычныя рысы «праведніка». Але няправільна было б цалкам атаясамліваць Паўлюка з Канстанцінам Лапінкам, бо той быў нявольнік у сваёй душы, а Паўлюк — свабодалюбны чалавек. Ён люта ненавідзеў гаспадароў белапольскай дзяржавы. Гэта і прывяло яго ў партызанскі атрад.

Пісьменнік неяк надзвычай лакаічна змог перадаць знікненне глушыні ў пушчанскіх вёсках Налібоцкага краю і ператварэнне іх у арэну партызанскай дзейнасці. Вось апавяданне «Казачок».

«Самшэлы хутар Батракова Дзіч закінуты ў найбольш глухі куток Налібоцкай пушчы. Начамі дзікія свінні ўзрывалі бульбу амаль пад вокнамі хаты, а днём, калі на хутар заходзіў чужы чалавек, дачка батрачыхі Зіна хавалася ў каморку ці на печ...

...Цяпер жа, на першай зіме партызанскага царства, змянілася ўсё. Старая батрачыха сама ваявала з вясёлымі хлопцамі за кожны ахапак доўгага і жорсткага ляснога сена; сама і мірылася з імі, смакуючы прывезены з дзесятай вёскі самасад. А Зіна настолькі прызвычаілася да чужых людзей, што сама пачала заглядацца на хлопцаў.

Партызаны гасцявалі на хутары праездам, найбольш падрыўнікі, ідучы на жалезку ці ў лагер. Батрачыха пазнала іх за гэты час шмат, што



кожнага незнаёмага лічыла навічком у пушчы, «свежанькім».

Гэты сціслы малюнак як бы гаворыць нам — барацьба ахапіла ўвесь народ, яна дайшла да самых глухіх куткоў пушчы, увабрала ў сваю арбіту людзей рознага становішча і ўзросту, пачынаючы ад старой батрачыхі і канчаючы дзяўчынкай у мужчынскім вайсковым адзенні — Валяй Казачком.

У сваіх пасляваенных творах Янка Брыль вельмі выразна малюе працэс крышталізацыі новага чалавека, яго барацьбу з цяжкай спадчынай мінулага, яго станаўленне як грамадска сталай асобы. І тут не абавязкова разглядаць творы пісьменніка ў храналагічным парадку. Храналагічна раней напісана «У Забалоцці днее», потым «Галя» і, нарэшце, «На Быстранцы». Але ўсе гэтыя творы прысвечаны адной праблеме, і некаторыя з іх, магчыма, з'явіліся з-пад пяра пісьменніка пазней таму, што ён адчуў: з пэўных ідэйна важных аспектаў у напісаных раней творах праблема засталася неасветленай і невырашанай .

У вялікім плане паказу станаўлення новага чалавека, задуманым пісьменнікам, апавяданне "Галя" павінна было заняць асаблівае месца. З першага погляду гэта гісторыя аб паражэнні чалавека, аб памылцы, зробленай ім у жыцці, і аб тым, як гэтая памылка загубіла і маладосць і каханне, пакінуўшы ў сэрцы толькі згрызоты і жаль. А па сутнасці гэта твор аб **сіле** чалавека, аб яго неймаверных намаганнях вярнуць тое, што было страчана, ступіць на новы шлях жыцця.

Кампазіцыйна твор пачаты вельмі смела. Пасля некалькіх слоў, якія даюцца для характарыстыкі хутара Хамёнкаў, мы адразу бачым Галю — нешчаслівую, з разбітымі ўшчэнт марамі. Муж яе — Мікалай Хамёнак сядзіць у турме, а дачка прыстае з пытаннямі:

«— Мамка, чаму?»

Чаму яны не такія, як усе, чаму яны хутаране, чаму іх называюць панамі...

Думаецца, што, пачаўшы прасочваць працэс станаўлення актыўна дзейснай натуры з такога вобраза, як Галя, аўтар зрабіў зусім правільна, бо Галя — вобраз тыповы для былой Заходняй Беларусі. Як цяжкія ланцугі, на ёй вісіць спадчына мінулага. Яна не лепшая і не горшая за дзесяткі іншых людзей. Яна кахала, але не магла зберагчы каханне, яна магла знайсці сваё асабістае шчасце, быць *карыснай людзям*, але не адважылася смела выступіць супраць няўмольных абставін жыцця. І пазней, у савецкі час, у часе партызаншчыны Галя не знайшла ў сабе сілы парваць абрыдлыя ланцугі, *якія* звязвалі *яе* з хутарам Хамёнкаў. Толькі цяпер канчаткова адчула яна, што так далей быць не можа. Як бачым, Галя — натура не гераічная. Гэта падкрэслівае і пісьменнік. Чаму ж тады з яе мы пачынаем аналіз станаўлення вобраза сучаснага героя ў творчасці Янкі Брыля? Таму, што, валочачы вялікі і *страшны* цяжар, трапіўшы ў становішча, якое можна было лічыць безнадзейным, яна — жонка кулака, які сядзіць за спекуляцыю ў турме, маці дваіх яго дзяцей, не скарылася, а смела пайшла насустрач свайму былому каханню, насустрач Сярожку. Няхай гэта марная надзея, што можна вярнуць мінулае, што Сяргей зноў прыедзе да яе, як калісьці прыходзіў... Галі толькі здалося, што трактар Сяргея набліжаецца да яе хутара, гудзенне яго аддаляецца ўсё больш і больш. Ну і што ж, няхай аддаляецца, усё роўна Галя не будзе жыць на гэтым хутары, яна альбо сама падпаліць яго, альбо прыйдзе да старшыні калгаса Івана Чарнагрэбеня і скажа:

«— Дзядзька Іван, я не хачу там жыць, вазьміце вы мяне назад у нашу вёску. Зрабіце мне хатку, а мы з Антосем адробім, за ўсенька адробім. Здыміце з мяне яго прозвішча, дзядзька Іван. То ж вы і самі ведаеце ўсё — хто ён, хто я і хто мае дзеці...»

Вобраз Галі, як вобраз тыповы, звязвае пазнейшыя творы Янкі Брыля з першымі яго апавяданнямі. Тым больш, што ў гэтым апавяданні ёсць старая і добра знаёмая нам гісторыя — гісторыя сям'і кулакоў Хамёнкаў, куды пасля замуства трапіла Галя. Гэта бадай тая самая сям'я Жукоў, якія загубілі Марылю з аднайменнага апавядання, альбо сям'я Грыбаў з «Праведнікаў і зладзеяў».

Свёкар Галі — Данька тры разы быў ласкавы да сваёй нявесткі, — піша аўтар. У першы дзень пасля вяселля, калі старая паставіла на стол чыгун бульбы ў лупінах, ён зняў свой каўпак, прыгроб рукамі валасы, перахрысціўся і сеў за стол.

«— Масла мо' трохі растапі, — сказаў ён жонцы...

Чорнымі кіпцюрамі даўно нямытых рук ён абіраў сваю бульбіну і, прыплюшчыўшы вочы, маўчаў. Пасля пачаў абмачваць яе ў «масла». Штораз апусціць бульбіну, то больш лезе са шчопцямі ў жыжку».

Так быў першы раз ласкавы да сваёй маладой нявесткі Хамёнак. Другі раз ён ласкава размаўляў з ёй, калі ўгаворваў пайсці з ім красці чужую канюшыну. І трэці раз, калі пасля

цяжкіх Галіных родаў ён з вялікай неахвотай згадзіўся на ўгаворы жонкі — «курыцу трэба зарэзаць».

У вобразе Данілы Хамёнка ўсё надзвычай арганічна. Гэты ўласнік жыў дзеля ўласнасці. І як толькі адчуў, што надыходзіць канец уласніцтву, дык ціха сканаў.

«Паны ўцяклі, а Хамёнак застаўся, — *піша Я. Брыль*. — Данька нядоўга патрываў. Не спаў, не разуваўся ўсю зіму, нават хрысціцца пачаў у сваім каўпаку. «Канец... канец свету...» крахтаў ён, лежачы на печы. На прадвесні старога, нарэшце, памылі і вынеслі з хаты ўперад нагамі».

Хаця сын яго, Мікола, і закінуў каўпак старога на гарышча, але застаўся такі самы, як бацька. Калі пад час партызанскай барацьбы Мікола Хамёнак намагаецца адседзецца ў цішы, служыць і нашым і вашым, да яго ў хату ўвальваецца цэлая грамада партызан.

Не, такіх людзей мы раней не сустракалі ў творах Я. Брыля. Гэта адважныя, смелыя, бязлітасныя і насмешлівыя ў дачыненні да дэзерціра Хамёнка байцы. Уласна кажучы, і раней яны былі ў заходнебеларускай вёсцы — падпольшчык Сяргей Юрачка, яго старэйшы таварыш Іван Чарнагрэбень, Мікола Кужалевіч з «Сірочага хлеба». Але раней гэта былі адзінкі, рассеяныя па турмах і канцэнтрацыйных лагерах, а цяпер іх стала шмат. У хаце Хамёнка чуецца і беларуская, і руская, і ўкраінская мова. Вось што хлопцы гавораць Хамёнку:

«— Бачым цябе наскрозь. У нас, брат, дакладна запісана ўся гісторыя тваёй хваробы — і барадатай і безбародай... Віляеш, як сука, і нашым і вашым...»

Гэтая карціна моцная сваёй кантраснасцю. Тое, што аўтар захоўвае украінскую і рускую гаворку, дае яму вялікія мажлівасці паказаць размах партызанскага руху на Беларусі.

Украінец, забіраючы добра ўкормленага хамёнкавага каня і пакідаючы свайго, жартуе:

«— А мого Чалого ты, борода, бэры... він — заслужены кінь. Ну, господы, благословы!»

А рускі партызан дадае:

«— Прощай, борода... Ты, кстати, эту пакость сбрей. Мы как-нибудь зайдем, проверим...»

Людзі, якім на кожным кроку пагражае небяспека, жартуюць, яны поўны аптымізму. А чалавек, якому нічога не пагражае — аброслы барадой Мікола Хамёнак, калоціцца ад страху. А паміж іх Галя, якая нясе перад сабой хамёнкавы валёнкі, каб даўжэй не паказаць людзям, ад каго яна зноў зацяжарала, і думае толькі аб тым, каб Сяргей не асвятліў яе постаць ліхтарыкам.

Янка Брыль валодае выключнай здольнасцю адчуць адзіна верагодную праўду паводзін чалавека ў пэўных канкрэтных абставінах, ці гэта барадаты дэзерцір, ці яго цяжарная жонка, якая ўжо люта ненавідзіць мужа, ці яе былы каханак Сяргей, які з пачуцця павагі да жанчыны-маці не выдае яе становішча.

Характэрны абмен рэплікамі адбываецца паміж Хамёнкам і жонкай тады, калі партызаны зніклі:

«Не плач, ідзі лажыся, чаго ты...— гудзеў Хамёнак з-пад коўдры. — Ты думаеш, што мне яе не шкада, такая, ліха ім, кабыліца!..

— Пайшоў ты к чорту! — сказала яна і палезла на печ».

Яны думалі і плакалі аб розным, толькі Хамёнак адразу не мог здагадацца, аб чым плача Галя, пакуль яна сама выразна не сказала гэтага.

Праўда, і ў вобразе Галі Янка Брыль не ўсцярогся ад тае празмернай чуллівасці, якая выявілася ў некаторых яго творах. Мажліва, тут гэта чуллівасць яшчэ мацней адчуваецца ад прысутнасці дзе-нідзе амаль вершаванага рытму:

«Вярніся ты хоць як-небудзь назад, мая харошая, мая загубленая маладосць! Вярніся, заспявай мне вясёлую песню пра чорную Галку, якая яшчэ ўсё твая, зірні мне ў вочы».

Але справа ў тым, што тут залішняя пачуццёвасць добра нейтралізуецца самімі абставінамі, задужа суровымі і бязлітасна праўдзівымі. А тое, што немаладая жанчына марыць вярнуць сваю маладосць надае вобразу сілу, мэтанакіраванасць. Ды і сама Галя вельмі рэалістычна разумее гэта.

«З ім калісьці цёпла было стаяць і на снезе, а цяпер табе, баба, холадна ўжо і на летняй расе. Ідзі, ідзі, дурніца, у хату, дарэмна стаіш»...

І яшчэ што дарэшты нейтралізуе праявы празмернай пачуццёвасці ў творы, дык гэта тое, што аўтар «усюды, — як гаварыў Л. М. Талстой, — вытрымлівае раз узяты тон». «Калі ёсць ідэалы, дык у імя гэтых ідэалаў ствараюцца творы мастацтва», — казаў далей Л. М. Талстой. А ідэалы Я. Брыля тут выразныя і дужа пянадныя для кожнага сапраўднага пісьменніка: паказаць шлях жанчыны ад нямой пакорнасці да бунту супраць усіх і ўсялякіх абставін жыцця (у класавай, грамадскай і сямейнай сферы), якімі б цяжкімі гэтыя абставіны ні былі.

Найбольш ярка як пісьменнік сучаснасці паўстае Янка Брыль у аповесці «У Забалоцці днее». Аповесць гэта цікавая як вельмі плённая спроба аўтара стварыць вобраз камуніста. Такім з'яўляецца галоўны герой гэтай аповесці Васіль Сурмак. Пры разглядзе аповесці трэба мець на ўвазе, што твор гэты пісаўся ў перыяд разгорнутай калектывізацыі ў Заходняй Беларусі, і зусім зразумела, што класавая барацьба апынулася ў цэнтры ўвагі пісьменніка.

Трэба адзначыць, што аўтар у гэтым вострым канфлікце так выразна малюе станоўчых герояў і ворагаў, што ў нас не ўзнікае наймалейшага сумнення ў праўдзівасці іх паводзін, слоў, учынкаў. Гэта адчуваецца ўжо ў першай сустрэчы Васіля Сурмака з кулаком Бабруком. Што ўспамінаецца Сурмаку? Яму ўспамінаецца, як старая Бабручыха, калі ён, Васіль, упершыню з бацькам прыйшоў парабкаваць да іх на двор, усё гаварыла: «Нямоглы ён у вас...» Што гэта было? Спачуванне? Знешне як быццам так, а па-сутнасці жаданне як найменш заплаціць «нямогламу» парабчуку. І вось прайшло шмат гадоў: іншым стаў Бабрук, іншым стаў і Васіль. Але нянавісць не ўтаймавалася. Праўда, з боку кулака яна выяўляецца ў вельмі скрытай форме, а Васілю няма чаго хаваць, ды ён і не хавае сваёй агіды да гэтага крывасмока.

Вось яны сустрэліся на дарозе. Васіль Сурмак вяртаецца з арміі дадому, Бабрук едзе з мястэчка. Ён запрашае Васіля пад'ехаць на яго возе. Той згаджаецца. І тут паміж імі пачынаецца размова, поўная ўнутранай, затоенай нянавісці.

Васіль пытаецца пра калгас у Клёнаве:

«— Ну, і як там жывуць?

— Жывуць... Казалі — па тры кілаграмы ўзялі. На гэты самы працадзень. А праўда гэта ці не...

— А як па-вашаму, праўда?

— Я не кажу, што няпраўда.

— Дык што — мала гэта ці многа?

— Я не кажу, што мала...

— А што?

— Адзін бог святы ведае, я ж кажу... Вы чалавек бывалы, самі ведаеце, што робіцца на свеце. Кіпіць, як у гаршку. Яшчэ, як той казаў, не ўсё закончана...

— А хто так казаў?

— Ды ніхто... так гаворыцца...

— Ну, а чаму ж так гаворыцца?

— А што я гавару? Што мне казаць. А ну ж, ты, здыхата, пайшоў!..»

Вось той выпадак, калі ўжо не дэталь, не вобразнасць мовы, не апісанні ахарактарызуюць унутраны стан чалавека, а сам рытм гаворкі, яе падтэкст. У гэтым выпадку, тое што несказана, больш важыць, чым сказанае.

На эпізодзе, у якім пісьменнік малюе сялянскі сход, не варта падрабязна спыняцца. Ён запамінаецца, бадай, толькі бязладнымі рэплікамі старой Тарадры і тым, як пакорна становіцца ў чаргу кулак Бабрук, каб яму напісалі заяву аб прыёме ў калгас.

Але вось пачынаецца раскулачванне. Ужо ў самым пачатку мы маем такую вострую сутычку двух лагераў, што становіцца зразумелым сэнс усёй барацьбы, якая адбываецца ў Забалоцці. Нявестка Бабрука — Аксеня раскрыжавала рукі перад гумном і крыкнула быламу партызану інваліду Міколу:

«— Ідзі, ідзі, бязрукі чорт!.. — Адсохла адна — і другая адсохне. Ідзі!

Партызан... збялеў.

— Сыдзі, — сказаў ён, нібы праз зубы. — Сыдзі з дарогі, пакуль я добра кажу...»

Гэта востра, праўдзіва, але важней тут паводзіны самога Бабрука. Ён нехоча выклікаць падазрэння, што хавае сына, і таму іграе ролю пакутніка: «Я ж адзінокі чалавек, стары... я ўвесь век працаваў...»

І вось тут не Васіль, а просты хлопец Мікола паласнуў Бабрука як нажом па сэрцы:

«— А лейцы яшчэ ў цябе?.. Я пытаюся, лейцы яшчэ ў цябе, што Саньку Чыжыка павесілі на іх?..»

І вялікая гордасць тут ахоплівае за пісьменніка, які так проста, выразна, выходзячы з пазіцыі пралетарскага гуманізму, наносіць удар гнязду шалёных уласнікаў і забойцаў. Пра лейцы Мікола ўспомніў нездарма. Гэтыя лейцы, калі фашысты павесілі партызана Чыжыка, дужа прасіў Бабрукоў сын Мітрафан аддаць ім «на шчасце»...

Вырашальны ўдар па «ціхаму», «богабаязнаму» Бабруку нанёс Мікола, але гэта па сутнасці быў удар Васіля і згуртаваных вакол яго беднякоў і серадлякоў вёскі.

Л. М. Талстой гаварыў: «Сапраўды мастацкі паказ жыцця ў пісьменніка выходзіць толькі тады, калі ён зможа сам прыйсці ў становішча, якое апісвае ў людзях. Каб правільна паказаць стан разбойніка, які сядзіць пад мастом на вялікай дарозе і чакае праезджага, каб яго забіць і абрабаваць, трэба самому прыйсці ў яго стан, дрыжаць гэтак сама, як ён дрыжэў, чакаючы сваю здабычу. Тады толькі атрымаецца сапраўдны паказ рэчаіснасці. Без гэтага выйдзе толькі пустое выдумванне, а не мастацкі твор, усе апісанні і характары якога здаюцца

чытачу такімі натуральнымі, што іншымі яны ў рэчаіснасці быць не маглі б...»

Думаецца, што выказванне Л. М. Талстога мае непасрэдныя адносіны да Янкі Брыля.

Асабліва выразна гэта выявілася ў тым месцы аповесці «У Забалоцці днее», дзе Васіля Сурмака напаткалі ў лесе бандыты. Сітуацыя не з прыемных для Васіля — яго перанялі тры ўзброеныя бандыты, ні ўцякаць, ні супраціўляцца няма мажлівасці. Але, падтрыманы сваёй унутранай перакананасцю ў справядлівасць таго, за што змагаецца, не аб смерці думае Васіль, хоць трывожныя думкі і цяжка спыніць. Дарма, вядома, было б чакаць, што Янка Брыль хоць у чым-небудзь тут зменшыць небяспеку, якая пагражае Васілю. Вось як пададзена яго сутычка з бандытам Капейкам:

«Я намагаўся выкруціць з рук наган. Аднак лапы Капейкі былі так моцна сашчэплены, што гэта мне не ўдалося. А тут яшчэ ён, нібы цяпер толькі ўспомніўшы, што побач з ім — сябры, зароў пада мной, як жывёліна... ...Я нагваздаў яму кулаком па вачах, на дадатак яшчэ раз садануў нагою ў жывот і чмыхнуў у гушчар.

Лячу па лесе, як лось. Трашчыць сушняк, шчыміць пад ударамі галля твар, а дух займае ад лёту і шчасця!.. Недзе там, ззаду, чуваць стрэлы і крыкі пагоні. «Паршыўцы!» — думаю я і ў знак поўнай пагарды да іх спыняюся, іду памалу, а потым саджуся на мох».

Я. Брыль змог так адчуць становішча Васіля і бандытаў і так перадаць праўду іх паводзін, што выклікаў поўны давер да таго незвычайнага, што тут адбылося. Паказ займае толькі дзве старонкі, хоць падзея патрабуе падрабязнай матывіроўкі. Васіля, як вядома, затрымала аж трое ўзброеных бандытаў, а сам ён пры гэтым не меў нават звычайнага сцізорыка. І ўсё ж здолеў выбавіцца ад іх.

У гэтае незвычайнае здарэнне верыш таму, што аўтар прыбярог для апраўдання карціны вельмі важныя дэталі і акалічнасці. Першая з гэтых акалічнасцей — гэта прагнасць бандыта Капейкі. Гэта ён, Капейка, абшукваючы Васіля, не забраў партбілет (думаў, што грошы), а таксама гадзіннік. Ён палічыў за лепшае забраць усё гэта потым, калі застанецца сам-насам з Васілём, каб утаіць ад хаўруснікаў. Гэта і загубіла «аперацыю». Немалаважную ролю адыграла тут і тое, што Васіль з'яўляецца салдатам, які прайшоў школу вайны. Кемлівасць Васіля, разлічаная на тое, што бранзалет гадзінніка не так лёгка здымаецца, што гадзіннік можа саслізнуць з рукі, паказана так, нібы сам аўтар быў у яго становішчы. Вось Сурмак празмерна павольна (не паддаецца зашчапка бранзалета) пачынае здымаць гадзіннік. Адна рука Васіля занята бранзалетам, другая, на якой знаходзіцца гадзіннік, не можа падтрымаць яго, і гадзіннік падае ў мох. Усё разлічана правільна. Некаму трэба нагнуцца і падняць яго. Прагнасць Капейкі ўзяла верх над пачуццём асцярожнасці, і ён кінуўся падымаць гадзіннік.

Гэта ўсё напісана з праўдзівым захаваннем усіх акалічнасцей, так, як раіў гэта рабіць Л. М. Талстой.

Застаецца спыніць увагу на апошнім моманце ў паводзінах Васіля. Адбегшыся на добрую адлегласць ад бандытаў, ён сеў на траву і пачаў слухаць спаборніцтва салаўёў. Ці выклікае давер гэты момант, ці не больш правільна было б, з пункту гледжання жыццёвай праўды, каб Сурмак пабег, не азіраючыся, наперад, бо ўсё ж такі ззаду засталіся тры ўзброеныя бандыты. З пункту гледжання жыццёвай праўдападобнасці, відаць, Васіль памчаўся б наперад, як мага далей ад тых, хто яго праследаваў. Выходзячы ж з прынцыпаў мастацкай праўды, можна, бадай, прызнаць лагічным тое, што зрабіў Сурмак — сеў на траву, паступова супакоіўся і пачаў слухаць спаборніцтва салаўёў. Па-першае, у ідэйных адносінах гэты момант вельмі важны ў творы. Васіль знаходзіцца на сваёй зямлі, і калі ў яго хапіла кемлівасці выбавіцца з бяды, якая яго напаткала нечакана, дык цяпер, насцярожаны і чуйны, ён зноў ужо не трапіць у яе.

Але як жа паказаць гэты момант, які з пункту гледжання жыццёвай верагоднасці можа выклікаць недавер, а з пункту гледжання мастацкай праўды з'яўляецца заканамерным і неабходным? А для гэтага ў мастака ёсць такая вялікая зброя, як праўда акалічнасцей, жыццёва праўдзівы паказ абставін, у якіх адбываецца сам па сабе неверагодны ўчынак. Так гэта і зроблена. Праўдзіва паказвае аўтар, што слых Сурмака не адразу ўлавіў музыку ціхага шуму лісця, яму ўсё здавалася, што гэта шуміць у яго ў галаве. Праўда, Васіль пачуў яшчэ стрэл, але, як салдат, які добра разбіраецца ў такіх справах, зразумеў, што стрэл гэты быў не блізкі і не ў тым баку. Значыць, бандыты страцілі яго след. І далей спрэс пайшлі праўдзівыя дэталі акалічнасцей. «У роснай засені цвітуць маленькімі белымі зоркамі кветкі чарніц», побач надламанае дрэўца бярозкі. І зноў на першы план выступае логіка ўчынкаў. Не для таго спыніўся на месцы Сурмак, каб палюбавацца «маленькімі белымі зоркамі кветак», салдацкае чуццё падказала яму, што, бадай, лепш перачакаць, пакуль усё супакоіцца. Вось адгэтуль і з'явіўся цудоўны зварот Сурмака да сваёй каханай Лены:

«— Жыву, дарагая, жыву!..»

І гэта ўпэўненасць, выказаная тут паэтычнай фразай, ёсць адначасна і зусім празаічнае перакананне салдата, які беспамылкова адчуў, што небяспека мінавала.

У цікавым, неяк нечакана завершаным апавяданні «Адзін дзень» Я. Брыль, растлумачваючы, чаму не маглі мець поспеху намаганні ворагаў разграміць шматлікія партызанскія злучэнні ў беларускіх лясах, гаворыць: «Быў свой, вялікі, родны партызанскі свет... І недарэчнай была думка аб тым, што раптоўна мог загінуць гэты свет».

Свой, вялікі, родны калгасны свет паўстае перад намі і ў аповесці Я. Брыля «На Быстранцы». Гэты, на першы погляд, нескладаны паэтычны твор мае своеасаблівую кампазіцыйную будову. У асяродку яго знаходзіцца паэтычная гісторыя светлага кахання Толі і Люды, якія пасябравалі яшчэ пад час партызаншчыны. Вакол гэтага паэтычнага асяродку больш суровымі і рэалістычнымі фарбамі намалявана жыццё з яго штодзённымі клопатамі, працай, цяжкасцямі.

Па-першае, звяртае на сябе ўвагу, як пільна ўглядаецца пісьменнік у тое новае, што ўзнікае ў жыцці вёскі, якая яшчэ нядаўна была аднаасобніцкай.

«Сельмаг цэлы дзень на замку, бо прадаўшчыца таксама пайшла за жняяркай. Праз адчыненае акно калгаснай канторы далёка чуваць дзелавітае лузганне лічыльнікаў і — час ад часу — то дзявочы смех, то ціхая песня».

Прыкметы новага бачыць аўтар у словах таго дзядзькі, які, бязлітасна крытыкуючы дзеянні дырэктара МТС, спасылаецца на свайго хлопца, што працуе ў Мінску на трактарным заводзе «і ганарыцца... за свой завод, за свой, як кажа ён, рабочы клас».

Але гэтыя прыкметы новага часамі выяўляюцца ў зусім нечаканых дэталях, як, напрыклад, у галашэнні цёткі з Цыбулічаў: «А божа ж мой, Манька конкурс не прайшла!..» А ў гэтай цёткі ў хаце ўжо тры студэнты.

У гэтым жа плане новыя прыкметы жыцця савецкай вёскі выяўлены ў цудоўным дыялагу паміж жанчынай завозніцай і млынаром Антосем:

«— Я, дзядзька, з Унукавіч, Пахадзенькава... — пачынае цётка, — дык гэта Сымона Вераб'я Міша маю Нінку бярэ. На чалавека, вунь, на інжынера выйшаў у Мінску.

— І дзякуй богу. Няхай здаровая ідзе. Чаго ж... — усё тым жа суровым басам наступаў дзядзька Антось.

— Дык яно, пэўна, дзядзька, добра, — сказала жанчына, — але падумаеш — шкада. Пачало ты вучыцца, *няхай бы ўжо, як іншыя, таксама.* У інстытут пайшло, хоць бы завочна...

— Вочна... завочна... — прагуў стары.

— Дык гэта ж, дзядзька, добра!

— *А я што кажу — дрэнна? Я* кажу — хай здарова ідзе, калі добрыя людзі бяруць. А там яны ўжо самі разбяруцца — вочна ці завочна».

Гісторыя Анатоля і Люды цесным чынам звязана з шэрагам іншых вобразаў і кампазіцыйных момантаў у аповесці. Гэтае мажорнае, поўнае паэзіі і радасці жыцця каханне адценена згасаннем сіл беларускага волата, партызанскага бацькі Антося Нагорнага. Па-чэхаўску сціпла і тонка, без празмернага падкрэслівання апавядае нам аб гэтым Янка Брыль. Кампазіцыйна дзве стыхіі пануюць у аповесці — рух і тармажэнне. Рух ствараецца прыездам у госці Толіка, імкненнем Максіма хутчэй трапіць у лес да свайго прафесара, з'яўленнем Аржанца, былога камісара партызанскай брыгады. Ролю тармажэння сюжэта выконваюць устаўныя апавяданні з успамінамі аб партызанскіх днях, сцэны ў млыне. Што яшчэ надае адмысловы каларыт аповесці, дык гэта спякотныя дні, калі «на цёплым пяску адзінай вуліцы — сляды грузавікоў, калёсаў і босых ножак, сям-там пацярушаных то сенам, то першым коласам. Як жа добра, — кажа аўтар, — цяпер апусціць у самую глыбіню студні дзюбу старога «жураўля», дастаць з цёмнай страшнаватай бездані цяжкае драўлянае вядро, расплёскаць на босыя ногі сцюдзёную ваду, прыпасці сухімі губамі да мокрай сасновай клёпкі».

Сцэны кахання Анатоля і Люды ў аповесці «На Быстранцы» напісаны Брылём ярка, хоць, праўда, у гэтым жа плане ён паказваў нам і каханне Васіля да Леначкі ў аповесці «У Забалоцці днее». Але ёсць у вобразе Люды тое, што надае ёй асаблівае хараство і грамадскую цікавасць. Яна яшчэ зусім дзяўчынка, але ў яе ўжо сфармаваны характар, ёсць свае пэўныя погляды і ідэалы. Тое, што яна адмаўляецца пакорна ісці ўслед за Анатолем, а шукае сваё месца ў жыцці, — падкрэслівае яе глыбокі розум, грамадскую мужнасць.

Менш пэўныя вобразы Анатоля і Максіма, яны нейкія сузіральныя.

Спроба паказаць у часе партызанчыны дзіцячую парывістасць Анатоля ў духу Пеці Растова не зусім удалася аўтару.

Пэўны налёт ідылічнасці, які мог з'явіцца ад узаемаадносін Анатоля і Люды, цалкам нейтралізуецца цудоўнай, па-сапраўднаму народнай сцэнай у млыне. Калі чытаеш гэтую сцэну, дык адразу прыгадваецца ранні твор Кузьмы Чорнага «Мельнікі», напісаны трыццаць пяць гадоў таму назад. Нельга не паддасца чароўнасці інтанацыі, знойдзенай Кузьмой Чорным для перадачы зрокавага і гукавога ўражання ад млына і таго настрою, які ён навявае.

«Вада дрыжэла пад ветрам, адлівала ад месяца срэбра, білася пад млынам. Млын калаціўся, скрыпеў падлогаю, гуў каменнямі... ...Млын знадворку быў, як палахлівы злодзей: насупіўшыся, пад старою страхою, ён хітра падміргваў адным сваім, скупа асвечаным акенцам, цёмным кустам у вадзе і ўсё баязліва скрыпеў ды стукаў, слабы перад ракою. У сярэдзіне млын быў як пыльная нара. У мучным пыле цёмна гарэлі пры сцяне дзве курныя лямпачкі, аганькі трасліся, ганялі палахлівыя цені з кутка ў куток.

І ад роўнага гулу каменняў, і ад пылу, і ад цёмнага святла хацелася тут легчы ды заснуць усмак, пакуль не сціхнуць гусці каменні і пакуль дзень не патушыць скупога агню».

Варта звярнуць увагу на тое, як выдатна К. Чорны гукавое ўражанне пераводзіць у зрокавае. Спачатку млын паўстае перад намі ў гуках: вада дрыжыць пад ветрам, б'ецца пад млынам. А сам млын калоціцца, скрыпіць падлогаю, гудзіць каменнем. І толькі тады аўтар паступова пачынае «здымаць» гук, каб паказаць тую дрымотную пыльную нару, дзе «хацелася легчы, заснуць усмак». І тады пачынаюць дзейнічаць зрокавыя вобразы. Так па-майстэрску будуе малюнак К. Чорны.

Але яшчэ больш важна тое, што Кузьма Чорны ў гэтай пыльнай, дрымотнай нары ўбачыў жывое, бурнае жыццё —убачыў сутычку характараў, зацятую барацьбу паміж мельнікам і яго сынам. І як хораша гэта знешне дрымотная атмасфера адцяняе вялікі напал пачуццяў, які тут аж шугае полымем.

Янка Брыль падае млын зусім па-іншаму. Няма ні вонкавага, ні ўнутранага яго выгляду. Гэты вонкавы яго выгляд аўтар як бы дазваляе чытачу маляваць самому. Але тое, што тут робіцца, магло адбыцца толькі ў млыне, і ні ў якім іншым месцы.

Карціна млына кантрасная ў дачыненні да той паэтычнай атмасферы, якая пануе паміж Людай і Анатолем. Там спёка, шмат сонца і прастору. Там, схіліўшыся над вадою, Люда можа гаварыць з сваім адбіткам у рэчцы, а потым, паклаўшы на ваду вядро, замуціць яго. Ей, юнай і шчаслівай, можа здацца ў гэты час, што вядро з вадой у руцэ адчуваецца менш і відаць людзям горш, чым Толева пісьмо, схаванае за выразам сукенкі. І ўся яна мае выгляд жывога шчасця.

Тут, у млыне, іншая атмасфера: змрок, прахалода, хоць гаворка таксама ідзе аб шчасці. Пад мірнае гудзенне млына людзі разважаюць пра грамадска важныя пытанні. Хто ўдзельнічае ў гэтай размове? Аўтар скупа, але выразна малюе іх вонкавы выгляд:

«На лаўцы каля дзвярэй сядзела чатырох: старэйшы дзядзька ў саламяным капелюшы, ад каўняра зарослы густой каштанавай атавай барады; другі мужчына, відаць, не шмат маладзейшы за яго, але свяжэйшы, паголены, са шчопцямі рыжых вусікаў пад носам; трэці — малады чалавек, гадоў дваццаці пяці, яшчэ ўсё ў любімай кавалерыйскай шапцы, ссунутай на бок і на патыліцу, і, чацвёрты, цыбаты хлопец-падлетак, які прыкметна стараўся выглядаць дарослым...

... Пятым завознікам была жанчына з выразам суровай стомленасці ў вачах. Цётка сядзела на возе, спусціўшы цераз біла яшчэ не старыя загарэлыя і падрапаныя іржышчам ногі, раз-поразу пацірала імі адна аб адну ад мух, і, кусаючы саломінку, слухала, што гавораць мужчыны».

Такім чынам, іх было пяцёра. Пазней да іх яшчэ далучыўся інвалід, які, едучы ў млын, змяніў кавялу на пратэз.

Тут мы выразна бачым у аўтара стрыманыя суровыя прыёмы, якія адпавядаюць характару карціны. Пісьменнік будуе яе поліфанічна, як музычны твор, дзе галоўныя тэмы адцяняюцца другараднымі і падтрымліваюцца ўсімі шматстайнымі сродкамі аркестра. Галоўная роля ў гэтым аркестры належыць удаве Пахіленкавай, якая прывезла ў млын сшатраваць на вяселле дачцы пазычаную пшаніцу («па зярнятку палічана»), бо калгас іх ніяк не можа ўстаць на ногі. Кіруе ім горкі п'яніца Цівунок — «гірой», які безупынна хваліцца:

«— Я, кажа, зраблю, дык і ў Маскве не паправяць».

Словы гэтай цёткі, муж і сын якой загінулі на вайне, цяжкім каменем кладуцца на Анатолева сэрца. Жанчына не скардзіцца, не... Вунь і дачку яе бярэ добры чалавек, і сама яна здатная да ўсялякай, у тым ліку і да мужчынскай работы. Але Анатолю ад тэтага не лягчэй, бо яго, чалавека «вучонага», тут як бы лічаць вінаватым за такія непарадкі ў калгасе. Калі Анатоль хоча падняць цётчын мех, яна кідаецца да яго:

«— Ды што вы, а божачкі! — запярэчыла цётка. — Пажажыце, мужчыны! Алесь!

Былы кавалерыст усміхнуўся, падышоў і, з фасонам адвёўшы рукі жанчыны, сказаў:

— Пажажы — пажажы, а дачку аддаеш за другога. А ну, схіліся, цешча...»

«Чаму гэта калгасніку пакуль што не ўсюды соладка?» На гэтае пытанне Анатоль шукае адказ на працягу ўсяе аповесці, і аўтар дае гэты адказ сваім творам. Настаді дні верасня 1953 года, калі партыя прыняла дзейсныя захады, каб дапамагчы ўсім калгасам і калгаснікам выйсці на шлях заможнага жыцця.

Кантрасным у дачыненні да асноўных вобразаў карціны ў млыне з'яўляецца вобраз спекулянта Мякіша. Ён не скардзіцца. Яго поўныя, гладкія, як вепрукі, мяшкі ляжаць у млыне і чакаюць свае чаргі.

«— Работаць трэба, — спявае ён. — А не работаеш, дык як жа будзеш добра жыць? А вы ўсё, панебраце, стогнеце. Несправядлова!».

Стары Антось Нагорны загадвае адставіць у бок мяхі спекулянта Мякіша:

«— Людзі робяць, а ён туляецца, круціць».

Праўда бярэ верх.

Але чуюцца ў гэтым аркестры і пабочныя мелодыі, якія падтрымліваюць яго магутнае гучанне. Інвалід Собаль, пры кожным удалым слове, якое асуджае нягоднікаў, паўтарае: «Пра цябе, Мякіш!» Наступная мелодыя ў падтрымку лейт-матыву, гэта думкі Анатоля пра Люду, якія разам са сваімі ўспамінамі выклікае на старонкі аповесці карціны партызаншчыны, карціны першых сустрэч з Людай пасля вайны, калі яна здымала адзін за адным «сіні, нібы пасінелы ад холаду, туфель» і ён вучыў яе, як адагравацьногі. Сваю тэму вядзе і падлетак, які працуе прычэпшчыкам у славутага трактарыста Валодзі. У падлетка вялікая гордасць за свайго сябра, перадавога чалавека калгаса. Іменна ад апавядання падлетка пра тое, як удала ваюе з адсталымі настроямі старшынь калгасаў Валодзя, нараджаецца ў чытача пераконанне ў тым, што пасляваенныя цяжкасці ў калгасным жыцці будуць пераадолены. Слова за слова і выплывае прозвішча старшыні калгаса Хінсвіча, які «і сам не даспіць, і пры ім не задрэмлеш. Сапраўдны гаспадар».

Так пачынае ўладарна гучаць мелодыя пераможнага руху калгаснага жыцця наперад... У гэтым ідэйны сэнс аповесці «На Быстранцы».

Лепшыя якасці сваёй творчасці Янка Брыль выявіў у такіх апавяданнях і аповесцях, як «Марыля», «Праведнікі і зладзеі», «У сям'і», «Зялёная школа». «Лазунок», «Галя», «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Сэрца камуніста», «Партрэт старэйшага таварыша».

Не шмат твораў напісаў Янка Брыль, але не колькасны падлік вызначае каштоўнасць творчасці.

«Як вызначыць, шмат ці мала напісаў літаратар», —пытаўся М. С. Хрушчоў у часе гасцявання ў М. А. Шолахава ў станіцы Вёшанскай. І адказваў: — «Гэта вызначаецца, вядома, не колькасцю старонак кніг, а тым, наколькі глыбока і ярка адлюстроўваецца ў творах пісьменніка шматгграннае жыццё і справа народа, веліч яго барацьбы за камунізм».

У творчасці Янкі Брыля паказана жывая гісторыя народа. У сваіх творах пісьменнік імкнецца, гаворачы словамі М. С. Хрушчова, «глыбока і праўдзіва паказваць нараджэнне подзвігаў, раскрываць духоўны свет нашага сучасніка, яго пачуцці, думы, імкненні».

# ЮБІЛЕЙНЫ КАРАГОД

Хоць і безліч важных спраў,
Хоць і выгляд сонны,
На гармоніку зайграў
Сам Цікоцкі сёння.
Бо музыкаў маладых
Не знайсці са свечкай.
У юнацкія гады
Грэюцца на печках.

Гэй, дружней выходзьце ў кола,
Выхаванцы камсамола!

І пачуўшы звонкі спеў,
Слаўнага музыку,
Быкаў з Гродна прыляцеў
З «Жураўліным крыкам».

Расступіся, карагод! —
Хто рэкорды крые?
Вось бяжыць на поўны ход
Іткіна Марыя.

К камунізму нам ісці,
Зерні шчасця сеючы...
Многа новага ў жыцці
У Алексіевіча...
Фёдар кінуў кліч да ўсіх;
Зорка ззяе золатам,
Ён працуе за дваіх,
Выглядае волатам.

Побач з ім пайшоў наўскач
І Мікола Галавач.
Гэта хлопец з галавой,
З добрай славай дружыць ён
І працуе, і жыве
Па-камуністычнаму .

Прыклад браць
з Дашчынскай Ніны
Усе птушніцы павінны.
Яе справы кожны бачыць:
Разам з ёю качкі скачуць.
Ні праехаць, ні прайсці —
Тысяч каля трыццаці.

Завітала ў круг, дарэчы,
Дзегцярова М. з «Зарэчча».
На руках вядзёркі звоняць
Нават і цяперака.
Наша Маша перагоніць
Хутка і Амерыку.

Проста з шахты, з малатком,
Уварваўся ў кола
І прытупнуў з аганьком
Каранько Мікола.
Кроплі срэбныя ляглі
На спяцоўцы шорсткай.
Здабывае соль з зямлі
Хлопец з Салігорска.

Тры свінаркі, тры сястрыцы
Адмыслова карагодзяць.
Ёсць чаму ў іх павучыцца,
Не абы з кім дружбу водзяць.
Побач з імі справа, злева
Кукуруза-каралева.
Весялей, Антонавы, —
Будзе мяса тонамі!

Хто там скача борзда так —
Аж узмоклі сцелькі.
Камсамольскі важак —
З «Гомсельмаша» Селькін.
Як і ў працы, ў скоках ён
Камсамольскі ўзяў разгон.

Стальмашонак Уладзімір
Паглядае навакол:
— Залаты народ — на дзіва!
Неўгамонны камсамол...
Бачны ўсе не па чынах, —
Наш мастак вагаецца:
І з каго тут пачынаць?
Вочы разбягаюцца.

Лявон ЯВАР.






Мал. А. Волкава.

ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**Лік адкрыт.**
Фотаэцюд А. Дзітлава.